АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1986

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ ПЕСНІ



У шасці кнігах

КНІГА 5

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1986

# РАЗВІТАННЕ МАЛАДОЙ З ДОМАМ. АД'ЕЗД ДА МАЛАДОГА

Пасля абраду яднання маладых (звядзення ў купу, злучэння), які змацоўваў шлюб і звязваў іх «на доўгі (увесь) век», у доме маладой пачыналася вясельная (вясёлая) бяседа, або пір вясёлы, вясельны (вясёлы) стол, вясельнае (вясёлае) застолле. Звычай сумеснай яды меў абшчынны характар, і ў ім прымалі ўдзел не толькі роды маладых, але і суседзі (аднаабшчыннікі) [1]. Паўсюднай традыцыяй з'яўляецца прысутнасць на вяселлі ў якасці гледачоў жыхароў усёй вёскі. Няпрошаныя госці былі жаданымі асобамі. Старажытны звычай патрабаваў, каб на вяселлі прысутнічала як найбольш людзей, каб яно ішло гучна, а застолле было багатым, бо лічылася, што ад гэтага залежалі дабрабыт і шчасце будучага жыцця маладой пары. Таму вяселле было звязана з вялікімі выдаткамі. Але на Беларусі спрадвеку існаваў звычай — усе члены абшчыны ў такіх выпадках аказвалі дапамогу. Дзякуючы таму і бяднейшыя сем'і маглі справіць прыстойнае вяселле. Частавалі ўсіх, нават і тых, хто стаяў «на хаце», а для дзяцей рыхтавалі з цеста спецыяльныя пачастункі: «качачкі», «шышкі», «каравайчыкі», «бочачкі» і г. д. Госці, што сядзелі за сталом, паводзілі сябе ганарліва, з пачуццём уласнай годнасці. Кожны з іх стараўся сказаць удалае, дасціпнае слова, хораша праспяваць і паскакаць пад музыку. Публіка, якая знаходзілася ў парозе, атрымлівала вялікае задавальненне ад такога відовішча і нярэдка пры дапамозе песень каменціравала і выказвала свае адносіны да таго, што адбывалася [2].

Наогул, сумесная яда з даўніх часоў у розных народаў была своеасаблівым актам замацавання якой-небудзь дамоўленасці, пагаднення паміж дзвюма асобамі, а затым з такім жа значэннем перайшла і ў вясельны абрад, дзе зрабілася неабходнай формай яднання маладых і іх родаў, а «з цягам часу яна набыла рэлігійнае асвятленне» [3]. Такое старажытнае ўяўленне аб злучальнай сіле сумеснай яды і піцця знайшло шырокае адлюстраванне ў вясельных песнях. Паколькі большасць песень пра частаванне і гасцей у маладой супадае з аналагічнымі ў час застолля ў маладога, яны будуць зме-

---

[1] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности.— Мн., 1956, с. 46.

[2] Sielicki F. Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino b. gminy Dołginów, pow. wilejskiego.— Acta Universitatis Wratislaviensis.— Wrocław, 1979, nr 472, s. 129.

[3] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи.— Киев, 1909, т. 1, с. 95.

шчаны ў наступным томе. У данай жа кнізе пададзены песні, якія звязаны толькі з маладой, раскрываюць яе ўнутраны стан перад ад'ездам да маладога, расказваюць пра зборы і ад'езд, а таксама пра адносіны прысутных да таго, што яны бачаць.

Адну з найбольш значных груп песень застолля складаюць песні развітання маладой з дзявоцтвам і сяброўкамі. Тут пераважаюць песні элегічнага характару, у якіх малююцца ўспаміны маладой аб вечарынках, кірмашах, прывольным і бестурботным жыцці ў бацькоў, калі яна многа гуляла і мала працавала. У іх гучаць трывожныя думкі, пачуцці, перажыванні маладой, яе бацькоў і сяброўак перад расставаннем, бо назаўсёды мінаецца «дзявоцкае пагуляннейка», «маладое красаваннейка», «хлапецкае жартаваннейка». Прыйшла пара, калі маладая павінна сказаць сваім сяброўкам, з якімі яна «ягадкі збірала», «у адну лубачку ссыпала», «хлопчыкаў звадзіла», «збірала цвяточкі, віла вяночкі»: «Дабранач, дзевачкі, мае кампаначкі, не на адну ночку, а на ўвесь век». На што дзяўчаты з жалем адказваюць:

На дабранач да, Ганначка, сястра наша,
Мы не твае падружкі, ты не наша.
Кідай свае вечарніцы на паліцы,
Кідай свае недапрадкі каля маткі.

Разам з тым маладая не забывае і пра сваю маці, якая яшчэ больш пакутліва перажывае ад'езд дачкі з роднага дома. Маладая, шкадуючы маці, просіць дзяўчат, каб яны, «калі будуць ісці ў лес па ягадкі (кветкі), не пыталі (звалі) яе ў матачкі, а ў свякратачкі».

Я ж буду ў варот стаяць,
Ручкамі да падапруся,
Коскамі да й апушчуся,
Слёзкамі да й абальюся.

Тут скупымі словамі намаляваны глыбокі псіхалагічны вобраз «маладзіцы-чужаземачкі», якая сумным позіркам праважае сваіх былых падружак. Лаканізм і яркая вобразнасць надаюць песні трагічнае гучанне, паглыбляюць выражэнне пачуццяў, узбагачаюць выразнасцю.

Названыя песні вызначаюцца праўдзівасцю, глыбокім рэалізмам падачы карцін жыцця маладой у бацькоў. Перад выданнем дзяўчыну стараліся ахоўваць ад цяжкай працы, песцілі, каб яна і выглядала добра і мела час пайсці на гулянне і г. д. Да таго ж маці шкадавала дачку больш, чым сыноў, ведаючы, што яна ў яе госця і хутка пакіне назаўсёды. Песні гэтай групы найбольш поўна распрацаваны ў псіхалагічным аспекце, дзе паказаны роздум і хваляванне маладой аб яе будучым лёсе. Для перадачы эмацыянальнага стану маладой у песнях выкарыстоўваюцца пераважна два мастацкія прыёмы. Адзін з іх стварае чыста зрокавую вобразнасць знешніх абставін дзеяння, а другі раскрывае ўнутранае жыццё і псіхіку гераіні.

Песні развітання прасякнуты пачуццём вялікага гора і пакут расставан-

ня сяброўак, якія зжыліся з самага маленства. У песнях праглядаюцца рэлікты, што ўзыходзяць да эпохі матрыярхату, калі равесніцы аднаго роду складалі асобныя садружнасці. Шчырасць, чуласць ва ўзаемаадносінах таварышак часта перадаюцца ў песнях пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў (сястрычанька, рутачкі-кветачкі, хлопчычкі і да т. п.), слоў-паўтораў (цяжка-важка, ісці-прайсці, сесці-пасесці, расці-буяць, тужыць-бедаваць, хадзіць-кумпанаваць, гуляць-красавацца, плакаць-жалкаваць, смутна-невясёла, сястрычка-любачка і г. д.) і іншых словаўтваральных, лексічных і мастацкіх сродкаў.

Маладая шкадуе не толькі людзей, сярод якіх яна жыла, але і рэчы, прадметы хатняга ўжытку, пабудовы. Тут заўважаецца адгалосак антрапаморфнага ўспрыняцця старажытным чалавекам рэчаіснасці, калі ён нібыта меў родпасныя сувязі з акаляючымі прадметамі. Таму перад ад'ездам маладая развітваецца са сталом, покуццю, лавамі, парогамі, палісаднікам, як з жывымі істотамі. Пакуль маладая красуецца ў маці, яе кветкі ў гародчыку лялеюць (квітнеюць), а калі яна паедзе да маладога, то

Заўтра твае кветкі завянуць,
На цябе хлопчыкі не глянуць.

Драматызм становішча маладой нярэдка спалучаецца з глыбокай лірычнасцю. Для больш моцнага ўздзеяння на слухачоў у гэтых песнях выкарыстоўваюцца самыя разнастайныя мастацкія прыёмы перадачы перажыванняў і пачуццяў маладой. У адрозненне ад песень папярэдніх этапаў вяселля, дзе пераважна апісваецца і каменціруецца абрад, мастацкая палітра развітальных песень багатая, бо ў іх часцей ужываюцца параўнанні, сімволіка, псіхалагічны паралелізм і г. д., што паўней раскрывае ўнутраны стан маладой і яе блізкіх. Так, пры дапамозе прыёму супрацьпастаўлення становішча дзяўчат і маладзіцы дасягаецца больш выразная карціна яе будучага незайздроснага лёсу.

А дзевачкі пойдуць у шчыра поле гуляці,
А ты ж, маладзенькая, за калысачку люляці.
А дзевачкі пойдуць у шчыра поле вянкі віць,
А ты ж, маладзенька, за калысачку слёзкі ліць.

Песні развітання з сяброўкамі і бацькамі вызначаюцца багатай сімволікай. Так, у адной з іх маладая папракае бацькоў за тое, што аддаюць замуж, не разумеючы, што без яе ім будзе горш, і параўноўвае сябе з залатым кубкам, які яны губляюць:

Да не есціме, мой бацюхна, ягадак,
Бо ўпусціў залаты кубак із ручак,
Да есціме мае свякратка ягадкі,
Бо яно ўзяло залаты кубак у ручкі.

Адносіны паміж маладой і свекрывёй у песнях малююцца ў самых змрочных фарбах, дзе апошняя параўноўваецца з ваўком ці іншымі драпежнымі звярамі. Многія з гэтых песень пабудаваны ў форме лірычнай споведзі маладой, а ўсе падзеі падаюцца праз яе ўспрыманне. Добра паказаны ў гэтых песнях і ўзаемаадносіны паміж рознымі членамі патрыярхальнай сям'і.

У час застолля ў маладой выконваецца вялікая група песень-перажыванняў, выкліканых расставаннем з домам і садочкам. Яна добра разумее, што ёй ужо

У татачкі да не летаваці,
Цвяточкаў не рваці,
Вяночкаў не віці,
Больш дзеўкаю не быці.

Садочак «з ружай чырвонай, з рутай зялёнай і рознымі кветкамі» яна пакідае таварышкам і просіць: «Віце вяночкі штонядзелечкі, спамінайце штогадзіначкі». У адным з варыянтаў адказу сяброўкі абяцаюць выконваць яе наказ, а ў другім гавораць, што дзявочая памяць вельмі кароткая:

Цвяточкі ірвалі, цябе ўспаміналі,
А вяночкі вілі, успамянуць забылі.

У гэтым цыкле значнае месца займаюць песні развітання дзяўчыны з палісаднікам. Вельмі маляўніча падаецца карціна выхаду маладой на ганак, каб сказаць апошняе «бывайце» садочку і яго кветкам, якія вакол яе «ззяюць», «іграюць», «лялеюць», «спеюць», а ў маладой «сэрца», «жываточкі», «ручкі» «вянуць», «уныва́юць», «млеюць». Пры дапамозе ўдала выкарыстанага мастацкага прыёму ўвасаблення даецца апісанне звароту маладой да садочка і кветак як да жывых істот:

Садовыя мае краскі,
Не цвіціце так ярка,
Не будзе вас жалка.

Маладая скардзіцца на тое, што ёй нядоўга давялося пакрасавацца ў бацькоў, таму яна мала нарвала кветак і звіла толькі адзін вянок, ды і таго не знасіла, а паклала «ў новай каморцы» (садочку, у куточку, «на шаўковым шнурочку», «на чырвонай вішаньцы», «у клеці на гваздочку», «на мамкіным (таткіным) хадочку, дзе мой татка ходзя, галоўкай чыркаецца, слёзкамі абліваецца», «на мамкіным паглядзе, дзе маці гляне і слёзнелька заплача, успомніць дачушку, верную служку»).

Тут, як і ў многіх іншых вясельных песнях, часта канкрэтызуецца месца дзеяння, што, відаць, звязана з функцыянальнай роляй вясельных песень і іх цеснай сувяззю з абрадам. Часам у песні апавядаецца, што маладая вяночак вешае «ў святліцы сваёй меншай сястрыцы».

А насі, сястра, насі
Ды за мяне бога прасі.
Пераносіш лета —
Судзі бог і табе гэта.
Пераносіш другое —
Судзі божа і табе тое.

Песня заканчваецца традыцыйнай формулай-заклёнам, у якой выражаецца пажаданне дабра, шчасця сабе, а сястры — выйсці замуж.

Змрочныя думкі ахопліваюць маладую, калі яна хвалюецца за будучае свайго сада: хто яго будзе паліваць, хто яго будзе даглядаць? Маці не без іроніі адказвае: «Калі ўдасца жыццё тваё, прызабудзеш свой зялёны сад, а калі не,

Сама пальеш зялёны сад
То таскою, то бядою,
То гаручаю слязою.

Для паэтычна-вобразнага адлюстравання перажыванняў маладой тут шырока выкарыстоўваюцца эпітэты, якія ўзмацняюць эмацыянальнае ўздзеянне на слухача, выразнасць і вобразнасць паэтычнай мовы песень, узбагачаюць змест выказвання. Так, у адной з песень эпітэт прысутнічае літаральна ў кожным радку, дзе маладая просіць маці ўставаць «раннімі, вячэрнімі зарамі» і «паліваць сад гарачымі слязамі», «крынічнаю вадою, жамчужнаю расою». Сустракаюцца эпітэты ў форме прыдатка. Яны вызначаюцца трапнасцю, змястоўнасцю і паэтычнасцю: вутачка-пераплывачка, дзевачка-перайдзёначка (-вымываначка, -купаваначка), дзяўчына-пяшчотніца (-няжоніца) і інш.

Разам з тым сустракаюцца песні гэтай жа тэматыкі, у якіх глыбіня думкі і пачуццяў заключаецца ў кароткіх, лаканічных выразах. Напрыклад, маці гаворыць, што агародчык і кветкі будуць увесь час напамінаць пра дачку:

Пакуль я руту-мяту абыду,
Усю яе слязамі аблію.

У беларускай вясельнай паэзіі рута з'яўляецца характэрным сімвалам дзявоцкасці, цнатлівасці. Рута расце, зелянее, цвіце да тых пор, пакуль дачка жыве ў бацькоў. Таму памяць, патаптаць, скасіць, выкапаць руту азначае пазбавіцца дзявоцкасці, а для бацькоў — дачкі. Каб маладая захавала сваю дзявоцкасць, маці раіць ёй забраць руту з сабой і пасадзіць у мужа пад акном. Дачка адказвае, што яна і рада зрабіць гэта, ды там, на чужбіне, няма палісадніка, але нават «калі пасадзіць у гародзе, то не будзе расці на пагодзе, а на мяжы — не будзе расці ў дзернажы, а ў ляску — не будзе расці на пяску». У такім выпадку маці раіць прыслаць зяця або дзевера, каб тыя скасілі руту, а залвіцы аграблі і ў вазочку павезлі да сябе.

Яркімі фарбамі малюецца глыбокая роспач і хваляванне маладой, якая не можа зразумець, хто ж сапраўдны віноўнік яе гора. Ці бацькі, якія аддаюць у чужую сям'ю, ці жаніх, які забірае з родных мясцін. Таму дзяўчы-

на задзірыста гаворыць, што спецыяльна пусціць каня (коней вараных, цялят) у агародчык, а сама пойдзе «наўпярод, сядзе ля варот», каб бачыць, як на яе вачах будуць знішчаны кветкі. А коніку яна загадае:

Паеш, паеш, конь, траву,
Паеш, паеш зеляну,
Баравыя васількі,
Што дзевачкам віць вянкі.

У другой песні маладая абвінавачвае ў сваім горы бацькоў, якія нядоўга трымалі пры сабе, мала пахадзіла ў вяночку. Яна лічыць маці вінаватай, нібы тая «вяночак зваліла, пруточак зламіла». У вясельных песнях дзеясловы «зламіць», «зваліць» і т. п. маюць значэнне забраць, выйсці замуж. Маладая ў глыбокім адчаі гаворыць, каб «коні елі зелле зеляное бацьку на жаласць, а свёкру на радасць», «штоб рута-мята пажаўцела, штоб мамачка паскучнела». Нагнятанне тужлівых пачуццяў маладой робіць песню падобнай галашэнню. Эмацыянальны настрой песень гэтага цыкла ўзмацняецца таксама дзякуючы шырокаму ўжыванню ідыяматызмаў (свет завязаць, слёзкі раняць (разліць), касу расплясці, ні роду, ні плоду, як камень у воду).

Дзяўчына наракае і на ўвесь род, які аддае яе «ў чужы край, у чужыя людзі, у сямейку невядомую, на сялібу незнакомую», «за горы высокія, за лозы густыя, рэчкі быстрыя, за гаі зялёныя, за лясы цёмныя» і г. д., да таго ж такую недаспелую, «работкі не навучыўшы і да розуму не давёўшы».

Такія частыя матывы далёкага ад дому замужжа («за лясы, за горы», «у незнакомую, у невядомую, у чужую старану») у вясельных песнях В. Ахрымовіч лічыць адгалоскам мінуўшых часоў, калі «нашы продкі ўжо прытрымліваліся экзагаміі, г. зн. звычая, які забараняў жаніцьбу паміж сваякамі і прымушаў жаніха шукаць жонку ў чужым, староннім, значна аддаленым па месцы родзе» [4].

У даўнія часы лічылася за гонар выдаваць замуж дзяўчыну як мага раней. Таму і зразумела скарга маладой на бацькоў і род:

Невялікую русую косу зрасціла,
Без розуму ў чужыя людзі пусціла.
Я й не ўмею па чужой хаце хадзіці,
Я й не ўмею чужому бацьку гадзіці.

Таму дзяўчына лічыць сваё замужжа раўназначным смерці:

Што ты мяне, мамачка, навек утапіла,
Ні роду, ні плоду, як камень у воду.
. . . . . . . . . . .
Як камень у воду, вада страсянецца,
Як к свёкру на двор, душа захлынецца.

---

[4] Охримович В. Значение малорусских свадебных обрядов и песен в истории эволюции семьи.— Этнографическое обозрение, кн. XI, № 4. М., 1891, с. 19.

Скаргі на бацькоў з'яўляюцца лейтматывам усіх песень развітання і ад'езду маладой. Яна скардзіцца, што дома так многа працавала, даглядала бацькоў, старалася дагадзіць ім, «мыла на сінім моры, на глыбокай кладцы кашульку бяленька, чысценька», «слала мякка пасцельку ў каморы, крутое ўзгалоўе клала», «ваду насіла, кросны ткала, лянок трапала, ніўку ў канец жала», «рвала траву-лебяду, бацьку таткам звала, вадзіцу яму падавала». Дачка здзіўляецца, чым жа бацькам магла не ўгадзіць. «А можа,— пытае яна,—хлеба-солі не стала?», што спяшаюцца замуж аддаць. Маці адказвае: «І хлеба-солі даволі, я ж цябе аддаю па волі». Або: «Сама пайшла на гараванне». Ні ў адной песні не гаворыцца аб тым, што маці хоча аддаць дачку замуж. Як правіла, яе аддаюць «добрыя людзі», «суседзі», «родны татачка» або «род», а то часам і «сама захацела».

Ва ўсіх песнях гэтага цыкла род выступае на першае месца, засланяючы сабой маладую: аддае замуж, клапоціцца, каб на вяселлі ўсё было зроблена найлепшым чынам, як таго патрабуе традыцыя. Не маладая просіць сабе долі, а часцей род, які разам з ёй плача. І калі ў песні маладую папракаюць, што «ўвесь вечар прасядзела, галоўкі не скланіла, слёзкі не ўраніла», то яна адказвае: «Калі ж бы я скланіла, то я б увесь род разжаліла б».

У песнях застолля з боку прысутных выказваецца шчырая спагада, сардэчная цеплыня да маладой: дзяўчаты шкадуюць, што страчваюць сяброўку, а маладухі спачуваюць ёй, бо з уласнага вопыту ведаюць, што чакае яе ў чужой сям'і. Гэтыя песні вельмі чуллівыя, і таму, калі іх выконвалі, усе прысутныя плакалі. Маладая павінна была таксама плакаць, згодна з народным этыкетам, нават і тады, калі ўступала ў шлюб па ўласнай волі, а інакш маглі палічыць, што ёй не вельмі добра жылося дома.

Ці табе, дзевачка, у мамы надаела,
Што ты, маладая, замуж захацела,
Што ў цябе слёзка не паляцела?

У песнях хор просіць маладую заплакаць «радзі совесці, радзі стыду свайго», «радзі гонару», бо «як заплачаш, харашэй глядзець будзе». Калі ж яна не плакала, ёй спецыяльна падносілі «пад вочы» цыбулю, рэдзьку, хрэн:

Ай, дайце ёй памочы —
Горкай цыбулі пад вочы...,
Няхай плачыць, як дзеўка.

Да таго плач маладой на вяселлі вымагаўся павер'ем, якое знайшло адлюстраванне ў прыказцы: «Калі не плача за сталом, будзе плакаць за стаўбом». Калі ж маладая і плакала, але адчувалася, што слёзы ідуць не ад сэрца, то спявалі такія песні, дзе быў папрок, што плача «галосна, а не жалосна». І каб яшчэ глыбей расчуліць, малявалі страшныя карціны будучага замужжа. На што маладая адказвала:

Ой, дзевачкі, мае сястрыцы,
Ды не давайце мне жалю,
Бо я сама ўсё тое знаю.

У большасці песень паўстае трагічны вобраз бездапаможнай у сваім горы дзяўчыны, якой нават і сонца не свеціць, бо, як спяваецца ў песні, «сонца свеціць толькі дзеўкам». І ў застоллі перад ад'ездам да маладога дзяўчына плакала да знямогі, плакала так, што

Камяное сэрдачка як не выб'ецца,
Шаўкова хуста з рук як не вырвецца.

Але ў невялікай групе песень (яны, відаць, больш позняга паходжання) маладая адказвае: «Няхай плача ён, што бярэ ў свой дом».

Калі маладая вельмі моцна плача, то яе суцішаюць тым, што за сталом сядзіць заступнік (муж), які дапаможа гараваць і, калі трэба, пашкадуе. Або спяваюць, што з цягам часу яна да ўсяго там прывыкне: «і горы (парогі) паніжаюць, вядзёркі паменшаюць, яе сілка пабольшае». У іншых песнях маладая сама сябе суцяшае тым, што будзе старацца рабіць, усім гадзіць: пажэніць дзевяроў, заловак замуж пааддае, і сама гаспадыняй стане. А ў некаторых песнях маладая гаворыць: «Пайду замуж ды даведаюся», ці добра будзе, «а калі дрэнна, то назад вярнуся». Але ёй адказваюць, што назад дарогі няма, бо «замужам трэба жыць, а як прыйдзе гора, трэба гараваць».

Паўсюдна на Беларусі маладая і яе маці ў час расставання плачуць, а на паўночным усходзе Віцебскай вобласці — Гарадоцкі, Шумілінскі, усход Полацкага, Лёзненскі, поўнач Верхнядзвінскага і ў некаторых населеных пунктах Лепельскага, Крупскага, Барысаўскага раёнаў — яны галосяць. Маладая і маці галосяць разам, часцей паасобку. Але ў тым і другім выпадку кожная з іх выконвае свой плач.

Сярод песень застолля маюцца і такія, дзе паказана глыбокая, шчырая любоў маці і дачкі. І амаль зусім адсутнічаюць сюжэты пра любоў бацькі да дачкі. Відавочна, тут у аснову пакладзена адна з істотнейшых рыс паўсядзённага жыцця сялянскай сям'і, г. зн. маці і дачка звычайна заняты аднолькавай працай, многа часу бавяць разам.

Вялікую групу складаюць песні аб тым, што чакае нявесту ў чужой сям'і. Пачынаюцца яны з пытання да маладой: чаму так рана спяшаецца выйсці замуж, на каго (каму) сваю мамку кідае, няўжо дома надаела, ці думае, што там лепш будзе?

Далей у песнях малюецца карціна цяжкага жыцця маладой у свекрыві, якая атаясамліваецца са зверам «хужа воўка». Звяртае на сябе ўвагу тое, што ліхая свякроў—адзін з тыповых вобразаў беларускага вяселля. І раскрываецца ён праз успрыняцце маладой параўнанием з роднай маці, дзякуючы чаму яшчэ выразней выдзяляюцца адмоўныя рысы чужога па духу і крыві чалавека.

У некаторых песнях невыносна цяжкі характар свекрыві паказваецца праз яе адносіны да ўсяго таго, што і як робіць нявестка:

А ты станеш — пакłонішся,
Слова скажаш — памылішся...
Дзела зробіш — пераробіць,
Што памыеш — перамыець і г. д.

Акрамя свекрыві над маладой гатовы паздзекавацца «залвіцы, як ваўчыцы» і «дзевяры, як звяры». Да таго ж яшчэ і нелюдзі-суседзі, якія «ходку-работку асмяюць, гультайкай назавуць». Бязрадаснае жыццё, якое выражалася ў заўсёднай варожасці паміж нявесткай і сваякамі яе мужа, тлумачылася сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. Адной з іх было малазямелле, беднасць.

Гэта з'ява «пакінула багата слядоў у многіх песнях і паданнях» [5]. На нявестку глядзелі як на рабочую сілу. Яна павінна была абшываць, абмываць усю сям'ю, выконваць самую цяжкую жаночую работу. Яшчэ горш даводзілася дзяўчыне, калі яна трапляла да беднякоў, дзе ніўка «вузенькая як пераступіць». Скупымі штрыхамі, але ярка і пераканаўча даецца ў песнях апісанне галечы сям'і мужа, дзе, можа, хлеба ніякага не будзе, нават з мякінай. Маладую страшаць, што ў мужа яна будзе «мякіну таўчы, аладзі пячы», «цыбулю смажыць, аладзі мазаць».

Вобраз маладой вымалёўваецца з вялікай пяшчотнасцю, яна найчасцей параўноўваецца з птушкай («перапёлачка, у якой крыльцы кароценькія», «чырачка-невялічка», «цяцерка, зязюля, вутачка шэрая» і інш., якім уласціва слабасць, безабароннасць) або з ружай, калінай, белай бярозай, зялёнай ялушачкай, садовай яблыняй.

Асноўным сродкам высокага мастацкага ўзроўню песень застолля ў маладой з'яўляецца прыём паралелізму. У песнях, пабудаваных на аснове псіхалагічнага паралелізму, ствараецца цэлы рад сімвалаў [6], якія паходзяць пераважна са свету прыроды, найбольш прыдатнага для выражэння ўнутраных перажыванняў чалавека. Першымі на шырокае выкарыстанне паралелізму і створаных з яго дапамогай шматлікіх сімвалаў у беларускай вясельнай паэзіі звярнулі ўвагу З. Я. Даленга-Хадакоўскі і Ян Чачот. Гэту ж асаблівасць адзначаў І. Храпавіцкі. Ён прыкмеціў, што амаль кожная беларуская песня «пачынаецца з якога-небудзь вобраза прыроды, які служыць для выразнага параўнання або напаўскрытага з пачуццём спевака» [7].

У беларускіх застольных вясельных песнях, пабудаваных на псіхалагічным паралелізме, паміж дзвюма часткамі існуе цесная семантычная сувязь. Карціны прыроды і жыцця чалавека вызначаюцца дакладнай адпаведнасцю ўсіх кампанентаў абедзвюх паралельных састаўляючых, але больш развіта

[5] Orzeszkowa E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem.— Wisła, 1890, t. 6, s. 22.
[6] Веселовский А. Н. Историческая поэтика.— Л., 1940, с. 177.
[7] Chrapowicki Jgn. Rzut oka na poezję ludu białoruskiego.— Rubon, 1845, t. 5, s. 52, 54.

другая, дадатковыя радкі якой нярэдка нясуць значную сэнсавую і эмацыянальную нагрузку. Сіметрычнасць захоўваецца і ў так званым апастрафічным паралелізме, дзе спачатку пададзены пытанне да прыроды і адказ, а затым ідуць пытанні да чалавека і яго тлумачэнні. Невялікую колькасць складаюць песні, дзе канцоўка (карціна-вобраз з чалавечага жыцця) пададзена некалькімі радкамі. Рэдка таксама ў песнях застолля сустракаецца адмоўны паралелізм, адзначаны А. Н. Весялоўскім [6].

Песні ж, якія выконвае дружына маладога, адрозніваюцца зместам, мастацкай формай і значна меншай колькасцю ў параўнанні з песнямі дружыны маладой. Ім не быў уласцівы лірызм і эмацыянальнасць. Там пераважна гучаць ноткі загаду: хопіць плакаць, пара развітвацца і ехаць, бо дома іх ужо зачакаліся. Пры такіх напамінаннях маладая пачынала плакаць мацней, а дзяўчаты ад яе імя спявалі песні, у якіх выказвалася просьба да дружыны маладога яшчэ хоць трохі пачакаць, каб яна змагла развітацца з бацькамі і ўсімі прысутнымі. Пасля бацькоўскага благаслаўлення знясіленую ад плачу маладую сяброўкі падводзілі да кожнага з прысутных у хаце для развітання. У асобных вёсках Барысаўшчыны і Лепельшчыны ў час развітання з роднымі і блізкімі яна плакала, прыгаворваючы рэчытатывам, а то і «прыгалашваючы». У гэты момант выконваліся толькі жаласлівыя песні. Усе прысутныя, сярод якіх былі пераважна жанчыны, плачуць, успамінаючы свой ад'езд ад бацькоў. Сцэна «адправунку» маладой са свайго дому вельмі глыбока ўспрымалася гледачамі, многія з якіх спецыяльна прыходзілі на рэдкаснае відовішча. У гэтым рытуале прымалі ўдзел усе прысутныя, кожны з іх выконваў прызначаную яму ролю. У той час як маладая заліваецца слязьмі, а музыкі гучна іграюць ад'ездны марш, дружына маладога выносіць прыданае і заадно стараецца прыхапіць усё, што трапляе ім пад рукі (часам намагаюцца вывесці з хлява жывёліну). Такая ж барацьба ідзе і за саму маладую. Таварышкі спрабуюць яе не аддаць, схаваць. На двары іржуць коні. Іх дугі і грывы ўпрыгожаны кветкамі і рознакаляровымі стужкамі, вышытымі ручнікамі. Чуецца галашэнне маладой, плач яе блізкіх, гучная музыка, мітусня і спрэчкі паміж родамі, іржанне коней. Сцэна ад'езду маладой самая ўражальная і відовішчная ў вясельным абрадзе.

*Л. А. МАЛАШ*

---

[6] Веселовский А. Н. Историческая поэтика. с. 176.

1. Ой, у хлопчыка за гумном
Стаяць стагі ўсе радом:
То па два, то па чатыры,
І ўсе яны пшанічныя.
А ў дзеваньki за сталом
Сядзяць сваты ўсе радом:
То па два, то па чатыры,
І ўсе яны маладыя.

2. Мамачка мая родненька,
Частуй мае госці,
Хоць табе яны не ў любосці.
Каб яны не дакучалі
У вялікай дарозе
Да й на лютым марозе:
— Мы ў тваe мамкі былі,
Да не пілі, не елі,
Толькі так пасядзелі.

3. Мамачка мая родная,
Вынімай пячэню
Ды давай вячэру.
Як я ў цябе гадавалась
Ды цэлы век гаравала.

4. А й дзе тая,
А й дзе тая вясельная маці,
Пахавала ключы ад камнаці,
Ад камнаці,
Да пахавала ключы ад камнаці.
Няхай яна не хаваець,

Не хаваецца.
Няхай яна не хаваецца,
Нам гарэлкі пастараецца,
Пастараецца,
Нам гарэлкі пастараецца.
Ой, не так жа й гарэлкі,
Гарэлкі,
Ой, не так жа й гарэлкі,
А як Манечкі-дзеўкі.

5. Наехалі сватоўейка,
Пазаселі ў застоллейка:
— Гаспадарок, варушыся,
Гарэлачкі не скупіся,
Нясі поўну барылачку,
Бо мы сваты-багатырачкі.
Мы будзем піці-гуляці,
Дачку тваю аглядаці,
Вазьмем яе панаваці.
Сем коп на дзень жыта жаці,
Штодзень прасці па кудзелі,
Есці кашы па нядзелі,
А запіваці саладухай
І будзем зваць маладухай.

6. Заззялі сені,
Як сваты за стол селі:
— Ззяйце, не ззяйце, сені,
Мы ненадоўга селі,
Маладую ўпаўемо,
З сабою забярэмо.

7. Не гневайся, мой татачка, на мяне,
Што гуляець мужняя радня ўся ў цябе.
Не гневайся, мая мамачка, на мяне,
Што гуляець мужняя радня ўся ў цябе.

8. Ішло сонейка да з высоку, з высоку,
Наехалі госці з далёку, з далёку.
Знаць іх па мыслях, што яны пышны,

Гардуюць намі,
Да не п'юць піва з намі.
Да яны не гардуюць,—
Дадому думаюць.
— У роўным полі да пагоды нет,
А ў майго цясцяткі да парады нет.
Да зачула тое да яго дзевачка.
— Ой, не журыся, малады суджанька,
Да ў роўным полі да пагода будзе,
Да ў майго бацюшкі да парадак будзе.
Я твае вазочкі да павымятаю,
А твае конікі да павыпрагаю,
Твае свашачкі да сама ўяднаю.

9. А на рацэ, ды на рацэ,
Ды на гібкай кладцы,
Там наша молада кубачкі мыла,
Кубачкі мыла, на Дунай пусціла:
— Плывіце, мае кубачкі, то ўніз, то ўгору,
То ўніз, то ўгору, к свёкраваму двору.
Я ж вас, кубачкі, пераймаць буду,
Я ж вас пераймý, шоўкамператру,
Шоўкамператру, мёдам паналлю,
Мілага радзіну мёдам напаю.

10. На моры Танечка кубкі мыла.
Вымыўшы кубачкі, уплыў пусціла:
— Плывіце, кубачкі, к свёкру на двор,
Я вас там у панядзелак наліваць буду,
Я ж сваю радзіну частаваць буду.
Ужо ж мае кубачкі паўнюсенькі,
Ужо ж мае госцікі весялюсенькі.
Ужо ж мае кубачкі пахіліліся,
Ужо ж мае госцікі панапіліся.
Ужо ж мае кубачкі чэраз верх льюцца,
Ужо ж мае госцікі дамоў рвуцца.

11. На Халецкім полі яр, яр,
Рана, рана-ранёшанька.*

* Рэфрэн «Рана, рана-ранёшанька» паўтараецца пасля кожнага радка.

На Веткаўскім — дзве вішанькі,
Там Малання чары мыла,
Мыўшы чары, гаварыла:
— Вы плывіце, мае чары,
К свёкру на двор, з вінoм за стол —
Я за вамі скора буду,
Рана, рана-ранёшанька!

12. Пушчу я паву па Дунаёчку,
А сама пайду па беражочку,
Ці не ўвіджу я татавы сенцы.
Ды хоць увіджу — мне там не быць,
Шырокіх двароў не падмятаць,
Цясовых сталоў не засцілаць,
Залатых кубкаў не наліваць.
— А вам, кубачкі, тут пастаяць,
А мне, моладзе, ды ў даль ступаць.
А вам, кубачкі, тут абярнуцца,
А мне, моладзе, к вам не вярнуцца.

13. Сваточкі-паночкі, ешце-паядайце,
Мяне, маладзенькую, успамінайце.
Колькі гуляла, дома была,
Нікому слоўца не перадала.

14. Калацілася дрэва асіна,
Да дзевачка сватоў прасіла:
— Піце, мае сваточкі, і гуляйце,
І белыя лавачкі парайце.
Есць у мяне сястрыца маленька,
Да памые лавачкі бяленька.
Есць у мяне сястрыца з касою,
Да памые лавачкі слязою.

15. Ад піўніцы да святліцы
Чорная сцежка ўбіта.
Хто ж ту сцежку таптаў,
Хто ж ту сцежку ўбіваў?
А ўбівала-таптала
Красная дзевачка,

Мёд-віно носячы,
Гасцей поячы:
— Пейце, мае госці, пейце,
Толькі мяне не бярыце:
Я ў матушкі адна,
Як вішанька ў саду,
Як пчолачка ў мяду.

16. А ў канца стола яворка стаяла,
Што пад той яворкай дзевачка сядзела.
Дзевачка сядзела, сталы засцілала,
Сталы засцілала, гасцей частавала:
— Піце-ешце, мае госцейкі,
Толькі мяне не бярыце.
Я ж у татачкі адна, як рожа ў агародзе,
Як рожа ў агародзе, як вішня ў саду.

17. За сеньмі, сеньмі вінны калодзезь,
Там Матронка віно чарпала,
Віно чарпала і сваты частавала.
— Вы це, сваткове, усе багаты,
Мёд-віно піце, ано мяне не бярыце.
Выпіце віна па поўнай шклянцы,
Ано мяне пакіньце ў баценька ў святліцы.
— Няпраўду кажаш, маладая Матронка,
Мы мёд папімо і цябе ўпаўемо і з сабою павяземо.

18. Ай, гукнуў-крыкнуў баравік,
Пад бярозанькай седзячы,
На белую бялянку гледзячы:
— Сабірайцеся, грыбоўя,
Будзем вайну ваяваць,
Белую бялянку да сябе браць.
Ай, гукнуў-крыкнуў Трахімка,
За столікам седзячы,
На маладую Ганнульку гледзячы:
— Сабірайцеся, сваточкі,
Будзем вайну ваяваць,
Маладую Ганнульку да сябе браць.

19. Хадзілі галубы па гарохвінах,
Вой, усе й галубы і п'юць-ядуць,
Толькі ўсё адзін галубец ўсе й не кушаець,
На сваю галубку паглядаець:
— Будта мая галубка падмечана,
Правае крыло адсечана.
Сядзелі госцікі за сталамі.
Вой, усе й госцікі і п'юць-ядуць,
Толькі адзін Ванечка не кушаець,
На сваю Танечку паглядаець:
— Будта мая Танечка нявесела,
Буйную галоўку павесіла.
Будта мая Танечка спадмечана,
Русая косанька расплецена.

20. Рада вутачка, што скупалася
Ды на беражку села.
Рада Жэнечка, што прыбралася
Ды пры Віцечку села.
Сядзіць Віцечка пад аконейкам,
Усё вятрэц павявае,
Ён з-пад шапачкі з-пад сіненькай
На Жэню паглядае.

21. Прыляцелі коршуны з сакалом,
Пасадзілі коршунаў за сталом.
Частуюць коршунаў, шануюць,
Шэрую вутачку не ратуюць.
— А ты, шэра вутачка, хавайся,
Лютаму сокалу не давайся,
Бо ён цябе, вутачку, прыклюе,
У чужую старану панясе.

22. Шчаслівая наша Валечка ў бога,
Што выбрала сабе друга любога.
Люба жа ёй за столікам сядзеці,
А нам люба са стараны глядзеці.

23. Чаго сядзішь, што думаеш, Манечка?
Міжы хлопцаў не выбрала малайца,

Ды выбрала старусенькага ўдаўца.
Ды ёсць у яго старусенька мамачка,
Яна цябе на парозе пярэйміць,
Яна табе ўсю волечку заберыць.

24. Налінуў сокал із чужых сторан,
Рана-раненька.*
І сеў сабе на ганачку,
Ой, паглядае па ўсіх галаньках.
Ой, усе галанькі чорныя,
Яго галанька найчарнейшая.
Наехаў Івашка із чужых сёл,
Ой, сеў сабе ў цесця за сталом
І паглядае па ўсіх дзеваньках.
Ой, усе дзеванькі весяленькі,
Яго Маруся смутненька сядзіць,
Сядзіць смутненька, плача рэўненька.

25. Ай, раненька, раненька на зары,
Шчабятала ластаўка на моры,
На белым камяньку седзячы,
На быструю рэчачку гледзячы,
Ці не едзець хто, ці не ідзець.
Едзець, едзець татка беражком,
Паганяець коніка рамяшком.
— Сюды, сюды, татка, ля бога,
Знімі мяне з камянька белага.
А ў таткі жаласці нямнога,
Не зняў мяне з камянька белага.

*Далей зноў: «Ай, раненька, раненька...»*
*Пасля:*

Едзець, едзець Іванька беражком,
Паганяець коніка рамяшком.
— Сюды, сюды, Іванька, ля бога,
Знімі мяне з камянька белага.
А ў Іванькі жаласці да многа,
Узяў ён мяне з камянька белага.

---

* Рэфрэн «Рана-раненька» паўтараецца пасля кожнага радка.

26. Казалі на мяне, што я ляніва,*
Пад акном рэчанька — ручак не мыла.
— Дзецюкі з-за ракі, падайце мыла.
Умыюся бела — буду вам міла.
Казалі на мяне — па сялу хаджу,
Я ў свайго татулькі на куце сяджу.
Казалі на мяне — пасялушачка,
Я ў свайго татулькі весялушачка.

27. — Ты, Гэлечка маладая, маладая!
На табе сукня галубая, галубая.
Ды дзе ты яе купляла, купляла?
— У Полацку на рынку, на рынку!
Ды сто рублёў не грошы, не грошы,
Ды тысяча — нямала, нямала!
Па ельніку хадзіла, хадзіла,
Сукеначку змачыла, змачыла,
Будзем лазню тапіць, тапіць,
Сукеначку сушыць, сушыць.

28. А пpыляцелі два галубочкі [illegible] лясочку
Ды селі-палі ў Волечкі за сталом.
А паставілі звонкі гуселькі на стале,
А пасыпалі жалкі песенькі ў прыпале.
— Што не йграеце, звонкі гуселькі, на стале?
Што не пяяцё, жалкі песенькі, ў прыпале?
Што не едзеце, любы госцейкі, ад мяне?
— Як мы зайграем, цябе разжалім, Валечка.
Як мы запяём, так ты заплачаш, Валечка.
А як паедзем — цябе павязём, Валечка.

29. Да на моры, на сіненькім,
На камяні, на беленькім
Купалася два лебядзі.
Купаліся да пабіліся
За белую лябёдку.
Да наляцеў саколік з яснымі сакаламі:
— Не біцеся, два лебядзі,
Гэта вада папіта будзе,
А лябёдка мая будзе.
Да ў новай карчомачцы, там было два малойцы,

Пілі-елі дай пабіліся за красную дзевачку.
Наехаў суджанька з вялікаю дружынаю,
З роднымі сястрыцамі:
— А не біцеся, два малойчыкі,
Гэта піва папіта будзе,
А дзевачка гэта мая будзе.

30. Сягоння я тут,
А заўтра паеду.
А хто будзе пахаджаць
Па майму следу?
А ёсць у мяне ладны хлопец,
Што я любіла.
А ён выйдзе, хадзіць будзе,
Дзе я прахадзіла.
А ён выйдзе, хадзіць будзе,
Мяне ўпамінаці:
— А ўжо ж мае дзяўчыначкі
Нідзе не відаці.
А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся,
А дзе ж тая дзяўчыначка,
З каторай кахаўся?

31. Купалася бабровачка на моры,
Як прыляцеў ейны баброўчык да яе:
— Што ты, баброўка, купаешся, а я не?
— А што табе, мой баброўчык, да мяне?
Ты паляціш у сваю старонку, а я не.
Ты ж там будзеш купаціся, а я не.
Вымывалася млода Светачка ў каморы,
Як прыехаў ейны Пецечка да яе:
— Што ты, Светачка, вымываешся, а я не?
— А што ж табе, мой Пецечка, да мяне?
Ты паедзеш у сваю старонку, а я не.
Ты й там будзеш вымывацiся, а я не.

32. Спіралася выдра з бабром над ракой:*
— Табе добра, выдзерачка, а мне нет:

А ты будзеш купацiся, а я нет.
Спiралася дзяўчоначка э мальчышкам:
— Табе, мальчышка, будзе добра, а мне нет:
А ты будзеш у сваёй мамкi, а я нет.
Мяне будуць ранюсенька пабуджаць,
Цябе будуць белай шляпанькай накрываць.
А выйшаўшы на вулiцу, мяне будуць судзiць.
А скажуць жа: — Наша дзеванька гультайка.
— Хоць жа вы яе таўчы-малоць пашлiце,
Толькi ж вы яе маладзiцай завiце.
Хоць жа вы яе таўчы-малоць застаўце,
А выйшаўшы на вулiцу, не слаўце.

33. Спiралася куна з выдрай над вадой:*
— I лучшы табе, выдзёрачка, нячым мне:
I ты блiзенька для рэчачкi, а я не,
Ты ж, выдзёрачка, пакупаешся, а я не.
Спiралася млада Нiначка з Сяргейкам:
— Й лучшы табе, мой Сяргейка, нячым мне:
Ты ў сваёй хаткi i ў роднай маткi, а я не.
Каля цябе цiхонечка абойдзець,
Мяне, маладзенькую, пабудзiць
I, выйшаўшы на вулiцу, пасудзiць:
— Як я сваю нявестачку будзiла,
Дык тры разы к каравацi падхадзiла.
А як спiць-ляжыць мая малада, не ўстанiць,
А як устанiць, работанькi не знаiць,
I туды-сюды ручкi вымыiць ды за стол.

34. Сядзiць голубя на перарубе, боб клюець,
Каля яго галубачка яго — пшанiцу.
— Як клюй, дак клюй, мая галубка, для мяне,
Прылягаець маё пер'ейка да цябе.
— Лепi табе, мой галубе, нячым мне:
А ты ж будзеш у сваiм гняздзечку, а я не.
Сядзiць Антонька за сталом, мядок п'ець,
А для яго Анэтка — сыцiцу.
— Як пi, дак пi, мая Анэтка, да мяне,
Прылягаець маё сэрданька да цябе.
— Лепi табе, мой Антонька, нячым мне:
А ты ж будзеш у сваёй хатаньцы, а я не.
Цябе пабудзюць, мяне абсудзюць, ахцi мне.

35. Сядзіць голуб на пераплоце, боб клюе,*
А ля яго галубка яго — пшаніцу.
— І лепей табе, мой голубя, чымся мне:
І тваё зярнятка буйнейшае, а маё не.
І сядзіць хлопец за столікам, мядок п'е,
І а ля яго дзяўчына яго — сыціцу.
— І лепей табе, і, мой міленькі, чымся мне:
І ды твой мядок салодзенькі, а мой не.
Ды ты паедзеш да сваёй мамкі, а я не.
І цябе мамачка ранюсенька пабудзіць,
І а каля мяне ціхусенька абойдзе,
А выйшаўшы на вулачку, абсудзіць:
— І ой, добрая і нявестачка, дабрэнька,
І яшчэ сонейка не зайдзе — спаць ляжыць.
А сонейка ўзойдзе — тады ўстане.

36. Завідвала шэра зязюля салаўю:
— Ой, лепей табе, салавейка, чым мне,
Што ты паляціш у свой садочак, а я не.
Цябе пярэймуць пташачкі, а мяне не,
Цябе назавуць мілым салаўём, мяне не.
— Я палячу ў свой садочак і ты са мной,
Мяне пярэймуць дробны пташачкі, а я цябе,
Мяне назавуць мілым салаўём, а я цябе.
Завідвала дзяўчынка малойцу:
— Табе лепей, мой малойчык, як мне,
Што ты пойдзеш да сваёй мамачкі, а я не.
Цябе назаве мілым сыночкам, а мяне не,
Цябе напоіць белым віном, а мяне не.
— Я паеду к сваёй мамачцы і ты са мной,
Мяне назаве мілым сыночкам, а я цябе,
Мяне напоіць белым віном, а я цябе.

37. Сядзіць голуб на пераплотах, боб клюе,
Непадалёка яго галубка крылцам б'е.
— Лепей табе, мой галубок, чымся мне:
Ты ж прыляцеў у сваё гняздзечка, а я не.
А хто ж мяне ў чужым гняздзечку прыхіне,
А хто ж мяне сызай галубкай назаве?
Сядзіць Віцечка за столікам, віно п'е,
Непадалёка яго Ніначка слёзкі лье.
— Лепей табе, мой Віцечка, чымся мне:

Ты ж прыехаў у сваю хатачку, а я не.
А хто ж мяне ў чужой хатачцы прыхіне,
А хто ж мяне родным дзіцяткам назаве?
— А я ж цябе, мая Ніначка, прыхіну,
А я ж цябе роднай жоначкай назаву.

38. Сядзіць галубок ды на макушцы, ён расічаньку п'е,
А непадалёк шызая галубка быстра крыллейкам б'е.
— Перастань, перастань, шызая галубка, быстра крыллейкам біць.
А хадзі ка мне ты на макушку ды расічаньку піць.
А сядзіць хлопчык ды за столікам, салодкі мядок п'е,
Перад ім стаіць красна дзевачка, горка слёзачкі лье.
— Перастань, перастань, красна дзевачка, горкі слёзачкі ліць,
А хадзі ка мне ды за столічак салодкі мядок піць.

39. Сядзіць галубчык на пераплоце, гарох клюець,*
Каля яго галубка яго — пшанічку.
Сядзіць Пецечка за столікам, віно п'ець,
Каля яго Ніначка яго — мядочак.
— Пакінь, пакінь, млоды Пецечка, не ўпівайся,
На мяне млоду, мой Пецечка, не забывайся.
— А як жа я магу цябе да й забыці,
Сяджу ж пры боку, блізюсенька для цябе,
Маю на сэрцы, мілюсенька, я й цябе.

40. Сядзіць голуб над крыніцаю, ваду п'е,*
Кала яго галубка яго крылцам б'е.
— Добра табе, мой ты галубок, а мне не;
У цябе вада ўсё крынічная, а ў мяне не.
Сядзіць Колечка ды за столікам, віно п'е,
Каля яго Манечка яго мёды п'е.
— Добра табе, мой ты Колечка, а мне не:
У цябе мамка, у цябе родная, а ў мяне не.
Будзе цябе памалюсеньку будзіці,
Мяне будзе да з прыгрозамі гразіці:
— Няўдалая, ай, няўдалая нявехна,
Вячэрнюю ўсю порачку праспала,
Пайшла ў каморачку — заснула,
Прыйшоў Коля з работы — не ўстала.

41. Не лятай, зазулька, з кутка сенажаткі —
Не так добра будзе ў чужой маткі.
Сокалы сядзяць, на цябе глядзяць
І возьмуць цябе на крылочка,
Занясуць цябе ад гняздочка.
Не выбягай, маладая Мар'юхна,
Са сваго баценька падвор'ечка,
Бо баяры сядзяць, на цябе глядзяць,
Возьмуць цябе ад баценька
І завязуць да свёкранька.

42. Сядзіць верабей на страсе,
Ён нам яечак нанясе.
Сядзіць Валодзька на куце,
Ён нашу Люсечку ўвязе.

43. Траўка-чарнабылка на гарэ стаяла,
На гарэ стаяла,
На гарэ стаяла, к гарэ прылягала,
К гарэ прылягала.
К гарэ прылягала, у горушкі пытала,
У горушкі пытала:
— Горушка крутая, горушка крутая,
Скажы ўсю праўду.
Скажы ўсю праўду, скажы ўсю праўду,
Якава люта зіма.
— Траўка-чарнабылка, траўка-чарнабылка,
Сама ў зіму пойдзеш.
Сама ў зіму пойдзеш, сама ў зіму пойдзеш,
Усё ўвазнаеш.
Усё ўвазнаеш, сама ўвазнаеш,
Якава люта зіма,
Якава люта зіма, траскучы марозы.
Марыечка малода, Марыечка малода,
За сталом сядзела.
За сталом сядзела, за сталом сядзела,
К матке прылягала,
К матке прылягала, к матке прылягала,
У матушкі пытала:
— Матушка родная, матушка родная,
Скажы мне ўсю праўду,
Скажы мне ўсю праўду, якаво ў чужых людзях,

Якаво ў чужых людзях.
Якаво ў чужых людзях, не ў роднага бацькі,
Не ў роднага бацькі.
Не ў роднага бацькі, не ў родныя маткі,
Не ў родныя маткі.
— Дачушка родная, дачурка родная,
Сама ў людзі пойдзеш,
Сама ў людзі пойдзеш, сама ў людзі пойдзеш,
Усё ўвазнаеш.
Усё ўвазнаеш, усё ўвазнаеш,
Якаво ў чужых людзях.

44. Кацілася заранaчка з сузор'ю,*
Прасілася млода Марыська з-за столу:
— Пусці, пусці, млоды Ванечка, з-за столу,
Ды хоць жа я па дварочку пахаджу,
Ды хоць жа я таткаў дварочак пакрашу.
— Ой, не пушчу, млода Марыська, не пушчу,
Была табе тая нядзелька на гульні,
Было табе па дварочку хадзіці,
Было табе таткаў дварочак красіці.
— Не мела часу, не мела:
У панядзелак белыя хусты я мыла,
А ў аўторак белыя хусты сушыла,
А ў сераду белыя хусты качала,
А ў чацвер у новыя шафы складала,
А ў пятніцу зялёную руту сеяла.
— Расці, расці, зялёная рута, як лянок,
Каб паспела к гэтай субоце на вянок.

45. Кацілася заранaчка з загор'я,
Прасілася дзяўчыначка з застолля
Паглядзець на татулькава падвор'е,
Распытаць пра мамчына здароўе.
— Не пушчу, дзяўчыначка, не пушчу,
Была ўся нядзелька вольная,
Было глядзець на татулькава падвор'е,
Распытаць пра мамчына здароўе.
— Гэта нядзелька ўся ў рабоце была:
У панядзелак бялізну памыла,
А ў аўторак слізюсенька скаціла,
У сераду ў скрыню злажыла,

У чацвер гасцей прасіла,
У пятніцу ў хатцы памыла,
У суботу гасцей садзіла,
У нядзельку да шлюбу ступіла.

46. Каціласе два яблычка з замор'я,*
Прасілася Алёнушка з застолля:
— Пусці, пусці, Іванушка, з застолля
Паглядзець мне на бацькіна надвор'е,
Распытаць мне пра маткіна здароўе.
— Была табе нядзелюшка вольная,
Было хадзіць на бацькіна надвор'е,
Было пытаць пра маткіна здароўе.
— Панядзелак бела бяльё сцірала,
У аўторак у трубачкі катала,
У сераду ўзельчыкі вязала,
У чацвер па радзінушкі хадзіла,
У пятніцу зеляны вянок віла,
У суботу з баярушкамі гуляла,
У васкрасенне з Іванушкам стаяла.

47. Каціласе заранaчка з загор'я,*
Прасілася млада Ніначка з застолля:
— А пусці, пусці мяне, Васечка, з застолля
Да пахадзіць па шырокаму надвор'ю,
Да паслухаць, ды дзе музыкі іграюць,
Да паглядзець, ды дзе дзевачкі гуляюць.
— Ой, быў табе вольны дзянёчак суботка,
Было табе па надвор'ейку хадзіці
Да было слухаць, дзе музыкі гралі,
Да было глядзець, дзе дзевачкі гулялі.
А я цябе ад дзевачак адлучу,
А я ж цябе да жаночак прылучу.

48. Каціласе ігрушачка із загор'я,
Прасілася Куліна із застолля
Паглядзець таткавага панадвор'я.
— Учора была суботачка, да будні дзень,
Было хадзіць па падвор'ю табе ўвесь дзень,
А сягоння нядзелечка, дай святая,
Твая галовачка забітая.

Ужо мядзведзь уеўца, на сцэну дзярэўца,
За крук рукамі, аб сценку зубамі.

49. Кацілася яснае сонца са зор'я,
Прасілася млода Марыська з застолля:
— Пусці, пусці, Стасічак, з застолля,
Пара сабраць маёй мамачкі падвор'е.
— А быў табе панядзелачак дзень вольны,
Было збіраць тваёй мамачкі падвор'е.
— У панядзелачак баярачак прасіла,
А ў аўторак надкоснічак прасіла,
А ў сераду прыданачак прасіла,
А ў чацвер бела хатачку памыла,
А ў пятніцу ў куфар адзежку зложыла,
А ў суботу да споведзі хадзіла,
А ў нядзельку разам з табой ступіла.

50. — А вумныя і разумныя сваўечкі,
А вы сумелі па нашым кутам паязджаць,
Ці сумееце сем загадак адгадаць:
А што гарыць без полымя, сваўечка?
І а што бяжыць без повада, сваўечка?
І а хто белы, не белены, сваўечка?
І а хто чорны, не чэрнены, сваўечка?
І а хто рабы, не раблёны, сваўечка?
І а што ж расцець вышэй тыну, сваўечка?
І а што цвіцець — ніхто не відзіць, сваўечка?
— Зара гарыць без полымя, сваўечка,
Вада бяжыць без повада, сваўечка,
Лебедзь белы не белены, сваўечка,
Воран чорны не чэрнены, сваўечка,
Дзяцел рабы не раблёны, сваўечка,
А хмель расцець вышэй тыну, сваўечка,
Папараць цвіцець — ніхто не відзіць, сваўечка.

51. — Ах вы, сваўіцы нашы,
Вы ж, галубачкі нашы,
Загадаім мы вам загадку,
Ці будзеце ўмець адгадаць,

Харашэнька адспяваць:
Што чарнее, ды не чэрнячы?
Што сівее, ды не сівячы?
Што бялее, ды не белячы?
Што расце без кораня?
Што бяжыць без повада?
Што гарыць без полымя?
— Ах вы, свацішы нашы,
Вы ж, галубачкі нашы,
Ці мы не матчыны дзеткі,
Ці мы не ўмеем адгадаці,
Адгадаці, адказаці.
Харашэнька заспяваці?
Воран чорны, ды не чэрнячы, 2
Голуб сівы, ды не сівячы, 2
Лебедзь белы, ды не белячы, 2
Камень расце без кораня, 3
Вада бяжыць без повада, 2
Крэмень гарыць без полымя. 2

52. — Загану сваньцы сем загадак:
Ой, каб сванечка ўмна была,
Каб загаданькі адгадала,
Каб нам праўданьку сказала:
Ой, што ж у моры найшварнейша?
Ой, што ж то жыва найчарнейша?
Ой, што то бела не белячы?
Ой, што то плача без слёзанькі?
Ой, што то гарыць без полымя?
Ой, што то расце без кораня?
Ой, што то цвіце без цветаньку?
— Што ж бы я была за сваначка,
Каб загаданькі не адгадала,
Каб вам праўданькі не сказала:
Ў моры рыбка найшварнейша,
Ў полі галанька найчарнейша,
Лябедка бела найбялейша,
Скрыпанька плача без слёзанькі,
Свечанька гарыць без полымя,
А камень расце без кораня,
Папарадь цвіце без цветаньку.

53. — А сваціцы-галубіцы, вы мае,
Загадаем вам сем загадак, згадайце:
А што расце без кораня, скажыце,
А што ідзець без повада, скажыце,
А што стаіць без рук, без ног, скажыце,
А што раба не друкуючы, скажыце,
А што міла не гадуючы, скажыце,
А што плача, слёзак нету, скажыце.
— А, сваціцы-галубіцы, вы мае,
А мы ж вашы ўсе песенькі ўмеем,
А ў чужом баку, ў чужой старане атвеціць сумеем:
Камень расцець без кораня, скажу вам,
Вада ідзець без повада, скажу вам,
Слуп на небе без рук, без ног, скажу вам,
Скрыпка плачаць, слёзак нету, скажу вам,
Зязюля раба не друкуючы, скажу вам,
Нявестка міла не гадуючы, скажу вам.

54. — Вы, сваціцы-галубіцы, галубіцы, просім вас,
Адгадайце, адгадайце гэту загадку, гэту загадку тут у нас.
Адгадаеце, адгадаеце — добра будзе, добра будзе,
Не адгадаеце, не адгадаеце — сто рублёў заплаціце,
заплаціце.
Да што ідзе, да што ідзе без повада, без повада?
Да што гарыць, да што гарыць без полымя, без полымя?
Да што расце, да што расце ўгару камлём, у гару камлём?
Да што чорна, да што чорна, не чэрнена, не чэрнена?
Да што бела, да што бела, не белена, не белена?
— А, сваціцы, а, сваціцы-галубіцы, галубіцы,
Адгадаем, адгадаем вам загадку, вам загадку:
Вада ідзе, вада ідзе без повада, без повада,
Сонца гарыць, сонца гарыць без полымя, без полымя,
Мядзяк расце, мядзяк расце ўгару камлём, угару камлём,
Воран чоран, воран чоран, не чэрнены, не чэрнены,
Лебедзь белы, лебедзь белы, не белены, не белены.

55. — Сваціца-галубіца, загадаем вам загадку,
Ці будзеш умець адгадаць?
Што расцець вышэй лесу?
Што цвіцець пустацветам?
Што бяжыць без повада?
Што расцець без кораня?

Што бела не белячы?
Што чорна не чэрнячы?
Што раба не пішучы?
Што даражэй за золата?
Што саладзей за мёд?
— Хмель расцець вышэй лесу,
Папар цвіцець пустацветам,
Вада бяжыць без поваду,
Камень расцець без кораня,
Лебедзь бел не белячы,
Воран чоран не чэрнячы,
А дзяцел раб не пішучы,
Дзіця даражэй за золата,
А сон саладзей за мёд.

56. А ў бару, а ў бару сцежкі-дарожкі,*
Як на тэй сцежачцы стрэча была.
Сустрэўся Іванька да з Ніначкай,
Селі яны, селі яны на купінку,
Сталі яны загадкі загадваць:
— Разгадай, Іванька, што я загадаю:
Аб святым, аб Пятрэ Дунай замёрз.
— Ай, праўда, Ніначка, і я там быў,
Я там быў, я там быў — каня паіў,
Конь ваду піў, конь ваду піў, капытом лёд біў.
Разгадай, Ніначка, што я загадаю:
Аб святым аб ражстве рожа цвіла.
— Ай, праўда, Іванька, я там была,
Я там была, я там была, цвяты рвала,
Цвяты рвала, цвяты рвала — вянок віла,
А ў тым жа і вянку вянчалася,
Я й табе, Іванька, дасталася.

57. Што й па бару, па верасу раненька *
Ляжаць брусы цёсаныя.
Па тым брусу малады Іванька,
За ім ззаду малада Дар'ечка.
— Ты стой-пастой, малады Іванька,
Скажу табе дзіву дзіўнeньку:
Каля Пятра вазёры сталі.

---

* Рэфрэн «раненька» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

— Праўда, праўда, малада Дар'ечка,
Я сам там быў, лядочак прабіў — коніка паіў.
— Ты стой-пастой, маладая Дар'ечка,
Скажу табе дзіву дзіўненьку:
Каля раства рожы расцвілі.
— Праўда, праўда, малады Іванька,
Я сама там была, цвяточкі ірвала — вяночак віла.

58. Загадаў мальчышка дзеваньке тры загадкі:
Адна загаданька — нанасіць вады ключавой,
Другая загаданька — зелен сад паліць,
А трэцяя загаданька — мяне, маладога, любіць.
Пайшла дзяўчына за вадой ключавой — Дунай замёрз,
Прыйшла дзяўчына да саду — й саду не знайшла,
Улюбілася ў красаўца — і дасада ей была.

59. Узыйду на горачку,
Пакачу іголачку.
— Каціся, мая іголачка,
Свякратку пад вакенца.
Паслухай, іголачка,
Што свякратка гаворыць:
Ці аб цябе, залатую,
Ці аб мяне, маладую?
— Не аб мяне, залатую,
А аб цябе, маладую.
А свякратка гаворыць:
— Пад вуглом пасцелечка,
Пад кустом вячэрачка.

60. Калі б знала да ведала,
Дзе мне замужам бываць,
Памагла б сваёй свякрусе
Хоць капусту паліваць.

61. — Баравая зязюлечка,
Ці ўсе бары аблятала?
— Толькі ў адным кукавала.
— Маладая Валечка,
Ці ўсе сталы засцілала?

— Толькі за адным пасядзела,
На мамульку паглядзела.

62. А мы ў свата цэлыя суткі сядзелі,
Мы на сватнія ўсе шуткі глядзелі.
Вучыць мяне сват па церамочку хадзіць,
Каб я ўмела яго дзіцяці гадзіць.
Да паляцела па церамочку пчолачка,
Да прыгадзіцца твайму дзіцяці слёзачка.

63. — Ой, бацька-бацюхна,
Пі да мяне шкляніцаю, 3
Пі да мяне поўненькаю, 2
І з доляю добранькаю.
— Ой, п'ю да й упіваю,
Табе долі не ўгадаю.
Альбо будзе п'яніца,
Вялікая нядбаніца.
Альбо будзе расчос-косы,
Альбо будзе разліў-слёзы.
Можа будзе яго конік
На дарозе стаяці,
Снегам прыпадаці,
А ты будзеш, малада,
За вароты выбягаці
Да п'яніцу дажыдаці.

64. Выйшла Марыся за варотачкі,
Пад калінаю стала.
Каліну ломіць, слёзанькі роніць —
Доленька няшчасная.
Прыйшоў да яе бацэнька яе:
— Чаго, Марыся, плачаш?
Я табе даю, што ў хаце маю,
Доленькі не ўгадаю.
Выйшла да яе матанька яе:
— Чаго, Марыся, плачаш?
Я табе даю, што ў скрыні маю,
Доленькі не ўгадаю.
Выйшаў да яе старшы брат яе:
— Чаго, сястронька, плачаш?

Я табе даю, што ў хляве маю,
Доленькі не ўгадаю.

65. — Сінія мае вы галубочкі, жаласна забуркуйце,
Падайце тугу зялёнаму лугу й майму татку жалю,
Ён мяне дае і не ведае, якая доля будзе.
— Дачушка мая, мілае дзіця, я табе тое даю,
Я табе тое даю, што ў хаце маю,
А пра долю не ўгадаю.
— Сінія мае два галубочкі, жаласна забрукуйце,
Падайце тугу зялёнаму лугу і маёй мамцы жалю,
Яна ж мяне дае і не ведае, якая доля будзе.
— Дачушка мая, мілае дзіця, я ж табе гэта даю,
Я ж табе гэта даю, што ў скрыні маю,
А пра долю не ўгадаю.

66. — Мая мамачка родная,
Чаму ж мяне замуж аддаеш,
А долечкі не даеш?
— Што ў куфры маю, тое даю,
А аб долі не ўгадаю.
— Мае хустачкі, як бель бяленькі,
Яны ж мне не міленькі.
Шыла шубачку аж да долачку,
Ды я ж яе не знасіла.
Русая каса аж да пояса,
Ды я ж яе не ўкрасіла.
Насіла і красавалася,
Пакуль у ей не звянчалася.

67. Выйшла Мар'ечка за вароцечка,
Кала Дунаю стала.**
У Дунай зірнула, важка ўздыхнула,
Сільненька заплакала.
Прыйшоў да яе татачка яе:
— У Дунай, донечка, утонеш.
— Ой, лучшай буду ў Дунай тануці,
Як горку долю маці.
— Дарую, доню, што ў доме маю,
А долі не ўгадаю.

68. Ой, нікога мне так не жалка,
Як роднага й баценьку.
Ён мяне аддае, сам не ведае,
Што за доля ў мяне будзе. 2
Завязаў мне свет божы
Да й на цэлы век чорнай цясёмкаю.
Чорнай цясёмкаю завяжу вочы ў чорныя ночы
Дай пайду ўтаплюся.
Ох, хто мне паможа
Не бачыць свет божы.

69. Ой, калі б я знала,
Калі б я ведала
Сваю горку долю,
Не пайшла б замуж
Дзеўкай маладою.
Не сама я іду,
Не сваёю воляю.
Татачка аддае,
Што ў доме мае,
Долечкі не ўгадае.
— Ідзі, донечка,
Твая долечка
У бога за дзвярамі.

70. Цякла рэчанька, цякла рэчанька
З крыніцы да язёра,
Заплакала млода дзяўчынанька
Зрана да вячора.
За ёй, за ёй родная матуля,
У яе пытаючы,
Цяжанька ўздыхаючы:
— Чаго, дачушка, чаго, родная,
Так жалосна плачаш
І цяжка ўздыхаеш?
— Як мне не плакаць,
Як мне не ўздыхаць:
Бог дае долю, не знаю, якую.
Ежэлі дрэнную, сцеражы, божа,
Ежэлі добрую, то дай, божа.

71. Ой, казаў жа ты, кляноў лістаньку,
Не будзешь ападацi,
А цяпер падзеш,
Ой, i ападзеш,
Зямліцу прыкрываеш.
Ой, казаў жа ты,
Мой ты бацельку,
Што ты дзіцяця
Не аддасі,
А цяпер даеш
І аддаеш,
Доленькі не ўгадаеш.
Ой, сеш якая
Доля ліхая.
Ох, мой ты моцны божа,
Ой, сеш якая
Доля добрая,
То хадзі ты са мною,
А сеш якая
Доля ліхая,
То плыві сабе з вадою.

72. За варотамі, за цясовымі,
Золата рассыпана.
Выйшла Зiначка за вароцейкі,
Золата не сабрала.
А за слёзкамі, за дробнымі,
Мамулькі не спазнала.
— Чаго, дачушка, чаго, родная,
Гэтак сільненька плачаш?
— Мамулька мая, родная мая,
Як жа мне да не плакаць?
Аддаеш мяне да не ведаеш,
Што бог за долю дае.
— Дачушка мая, родная мая,
Я ж цябе бласлаўляю,
Я ж табе даю, што сама маю,
А долі не згадаю.

73. Выйшла княгінька за новы варотки,
Жалабна заплакала,
У ей матухна, у ей родная

Выпыталася:
— Дачушка мая, родная мая,
Чаго ж ты заплакала?
— Матухна мая, родная мая,
Як жа мне не плакаці?
Ты мяне замуж даеш,
Пра долю не ведаеш.
Як дасць бог долю,
Як дасць бог шчасце —
Хула табе, божа.
Не дасць бог долі,
Не дасць бог шчасця —
Ой, божа мой, божа,
Ніхто мне не паможыць
І ручак не падложыць.
— Паможыць — не поможыць —
Ранняе ўставаннейка,
Позняе ўкладаннейка.

74. Мамка мая ізрадніца.
Нашто ж мяне ізрадзіла,
Чаму рана не будзіла?
Таварышкі рана ўсталі,
Добрую долю разабралі,
А я, малада, спазнілася,
Горкая доля случылася.
Не так горка, як няшчасна,
Прапаў той век — да й не за што,
Прапаў мой век, як макаў цвет,
Ноччу зацвіў, а днём апаў.

75. Схілілася ляшчыначка на захадзе сонца,
Заплакала дзяўчыначка, глядзя праз ваконца:
— Чаму ж мяне, матуленька, раней не будзіла,
Як першая кумпанійка з зарой выхадзіла.
— Маё ж ты дзіцятачка, жалела будзіці.
— Не жалей, матуленька, рана будзіці,
А жалей, матуленька, як я буду жыці.

76. Ай, слава, слава маёй мамухне,*
Што ўстала сягоння ранюсенька,

Заслала столікі бялюсенька,
Сабрала дружынку маладзеньку.
Уся радня скачаць да й пляшаць,
А мамулечка толькі плачаць.

77. Белая ўдалая церамшынка
Усе лугі-берагі забяліла
Сваёю белаю белатою.
Маладая ўдалая Ніначка
Усю сваю радзіну пакрасіла
Сваёю красівай красатою,
Сваёю нежнай паходкаю,
Сваёю прыятнай гаворкаю.

78. Чырвона каліна 2
Увесь луг украсіла.
Ой, чым яна й украсіла? 2
Калінамі да малінамі.
Калінамі да малінамі, 2
Чырвонымі журавінамі.
Маладая Олечка 2
Увесь род развесяліла.
Ой, чым яна развесяліла? 2
Харошымі абыходамі,
Харошымі абыходамі, 2
Нізкімі да й паклонамі.

79. Ой, каліна, ой, маліна
Усе лугі пабяліла,
Усе берагі пакрасіла.
Ой, маладая дзеванька
Усю радню звесяліла,
А матульку аслязіла.
Уся радня скачаць, пляшаць,
А матулька тужыць, плачаць.

80. Што ж ты, дзевачка малада, зрабіла,
Што ты чужую сямейку развесяліла,
Чужая сямейка п'е да гуляе,
Твая родная матачка слёзкі раняе.

81. Мала чырачка, невялічка,
Села сабе на ракіту.
Ай, падумала, ай, пагадала
Ракіту паламаці.
А яна ракіту не паламіла,
Толькі горш яе пахіліла.
Мала дзевачка, невялічка,
Села сабе за столікам,
За столікам, за цясовенькім.
Ай, яна падумала, ай, пагадала
Татульку ўзвесяліці,
А яна татачку не ўзвесяліла,
Толькі болей аслязіла.

82. — Ты зара мая, заранaчка,
Чаго рана спатухаць стала?
— Ой, дзяўчына, ты дзяўчыначка,
Чаго рана сумаваць стала?
— Як я, малада, ў чужы дом пайшла,—
Засталіся мае гулі не дагуляныя,
Засталіся мае скокі не даскаканыя,
Засталіся мае ігры не даіграныя,
Засталіся мае песні не дапетыя.

83. Маладая дзевачка,
Да пасунься на лаўцы,
Паглядзі ў ваконца,
Стаяць дзевачкі, як сонца.
Яны ручачкі ломяць,
Што цябе, маладую, замуж аддаюць.

84. Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Вазьмі праз аконца пагдядзі,
Як твае кветачкі лялеюць,
Як цябе хлопчыкі жалеюць.
Заўтра твае кветачкі завянуць,
На цябе хлопчыкі не глянуць.

85. Ужо ты, Манечка,
Не галёкай з намі.

Ужо ты галёкай
Са старымі бабамі.
Табе не хадзіці
З намі ў гарохі,
Табе мінуліся
Дзявоцкія смехі.
Табе не хадзіці
З намі ў ягады,
Бо та́бе мінуліся
Дзявоцкія гады.

86. Хадзілі дзевушкі гарою,
Звалі падружку з сабою.
— Пойдзем, падружка, з намі,
Саўём вяночак з цвятамі.
— Не пайду я, дзевушкі, з вамі,
Прыехаў мой мілы са званкамі,
З убранай дугой, з залатою звяздою.
Прыехаў мой мілы са званкамі,
Прывёз вянок мне з цвятамі.

87. — Ой, ці табе, дзевачка, не жаль будзе
Што ўсе дзевачкі вуліцаю іці будуць?
Будуць к табе пад акенца падбягаці,
Будуць цябе на вячоркі з сабой зваці.
— Хадзем, хадзем, да дзевачка, хадзем з намі,
Сарвём табе па цвяточку хоць мы самі.
Саўём табе да вяночка із цвятамі.
— Да ўжо ж мае вечарніцы на паліцы,
До ўжо ж мае пачыначкі ў куточку,
Цяжка-важна на сэрдачку і жываточку.

88. Дзевачка дзевачак хараша просіць:
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Як ісцімеце ў лес па ягады,
Не захадзіце к маей мамачцы,
Бо мяне ў мамкі не будзе,
Маёй мамачцы горшы жаль будзе.
Як ісцімеце з лесу дадому,
Да зайдзеце к маей мамачцы,
Кіньце ёй хоць па ягадцы,
Сыпнеце ёй хоць па жменечцы.

89. Зашчабятаў ціхі салавейка ў садочку лятучы,
Раннюю расу абганяючы.
Заплакала маладая дзявочка,
Ад маткі ад'язджаючы:
— Матка мая родная,
Як жа мне да дзевак прасіць?
— Дзявочке, мае сястрыцы,
Будзеце іці да па ягодкі,
Не пытайце да мяне ў маткі,
Вырвеце да па кветачцы,
Прынясеце мне чужаземачцы.

90. Ой, дзевачкі мае, сястрыцы,
Будзеце ісці ў лес па ягады,
Не завіце мяне ў мамачкі,
Пазавіце мяне ў свякрухі.
Кіньце мне да па бубачцы,
А маёй мамцы ды па жменечцы,
Каб жа яна не журылася,
Барздзенька ды забылася.

91. Дзевачкі да мае, сястрыцы,
Як ідзеце вы ў красачкі,
Не завеце вы мяне ў татачкі.
Да пазавеце вы мяне да ў свякратачкі.
Я ж буду да ў варот стаяць,
Ручкаю да падапруся,
Коскаю да й апушчуся,
Слёзкамі да й аблююся.

92. Як мы цябе, наша Маруська, аддадзём,*
Тады мы болей на гэты дварок не пайдзём.
Не будзем болей на гэтым дварэ хадзіці,
Не будзем болей тваё мамачкі смуціці.

93. Цёмна ў лесе, цёмна,
Зарадзіла да ягад поўна.
Пайшлі дзеўкі да ягад брацъ,
Забыліся Таню пазваць.
Вернемося да пазавемо,

Усе ягадкі да пабярэмо.
Набралі жменечку, 2
Прасыпалі на талерачку.
Дай ідучы да й збіраем, 2
Дзе спеленька, да то бацюхну,
Зялёнушку — то свёкратку,
Штоб свёкратка да й удавіўся,
На мяне не сварыўся.

94. Дык пайду я дарогаю,
Збіраючы ягады,
Спелыя ў лубачку,
Зялёныя ў кузачку.
Спелыя — маёй мамке,
Зялёныя — свякрухе.
Еш, мамка, спажывіся,
А ты, свякроў, удавісь.

95. Ой, у бару, на баравіне,
Там, на новай навіне,
Там Наташка ягадкі брала
І з німі гаварыла:
— Ягадкі мае вы салодкія,
Я вас на выбор бяру,
Я вас перабіраю,
Я вас на выбор бяру.
А спелыя — мамульцы,
Зялёныя — свякроўцы.
Еш, мамка, пажывіся,
А свякроўка не дзівіся,
Мамка ж мяне гадавала,
Свякроўка гадавалую брала.

96. Ой, пад лесам, пад высокім — ягадкі.
Ой, там дзеванька многа ягадак набярэ,
Міма бацькаў двор на свякраткаў панясе.
Да не'сціме мой бацюхна ягадак,
Бо ўпусціў залаты кубак із ручак.
Да есціме мае свякратка ягадкі,
Бо яно ўзяло залаты кубак у ручкі.

97. Ай, гуркала галубачка, гуркала,*
Гуркаючы, па садзіку тужыла:
— А як жа мне ад садзіка адвыкаць,
А як жа мне к голубу прывыкаць?
То так, то сяк ад садзіка адвыкну,
То так, то сяк я к голубу прывыкну.
Ай, плакала Рыпіначка, плакала,
Ай, плачучы, па дзевачкам тужыла:
— А як жа мне ад дзевачак адвыкаць,
А як жа мне к Архіпачку прывыкаць?
То так, то сяк ад дзевачак адвыкну,
То так, то сяк к Архіпку прывыкну.

98. Прасі, мамачка, свайго зяціка ўдаму,
Каб ён мяне не біў, не глуміў маладу,
Бо будуць мае бедны косы атвячаць,
І я буду вечна слёзы праліваць.
Каб не была паветачка — хатачка,
Каб не была суседачка — матачка,
Паветачка — няцёплая хатачка,
Суседачка — няродная мамачка.
Паветачку вецер моцны падмяце,
Суседачка ўсе слоўцы разнясе.

99. Горкае дзерава асіна,
Цешча зяця прасіла:
— Прашу цябе, зяцейка, пакорна,
Жыві з маёй дачушкай спакойна:
Каб не стаяла пад акном,
Не ўцірала слёзы рукавом,
Каб не была суседка за мамку,
Каб не была паветка за хатку.

100. Ой, сыру ж мой белы,
Ой, зяцю ж мой мілы,
Да глядзі ж да маю дочку, 2
Як голуб да галубочку.
Да не бі ж яе дубцом, 2
Пакарай да яе ж слаўцом.
Бі ж яе дубінкаю, 2
Штобы была гаспадынькаю,

Бі ж яе і валокаю, 2
Штоб не была прывалокаю. 2

101. Ой, у сенях, за дзвярыма,
Цешча з зяцем гаварыла:
— Ой ты, зяцё, ты, мой зяцё,
Дай не бі ж майго дзіцяці.
Не траць яе маладосці,
Прыязджайце ка мне ў госці.
Буду зяця частаваці
Усё вінам зеляненькім, 2
Да ўсё мёдам саладзенькім.
— Ой, я твае мёд-віно пап'ю,
Такі ж тваю дачку паб'ю.

102. На дварэ дожджык росіць,**
А цешча зяця просіць:
— А зяцю, мой зяцю,
А не бі маёй дочкі.
А не бі маёй дочкі,
Дам табе я два бычкі.
Дам табе цялушку,
А не бі дачушку.
— Я тваю дачку наб'ю
І твае бычкі прап'ю.
Кароўку на вяроўку,
Дачушцы ў галоўку.

103. Лятала ластаўка,
Да нідзе гнездзейка не склала.
Прыляцела ў гумянцо новенька
Да злажыла гнездзейка шчыльненька,
Да вывела дзетанькі міленька.
Ездзіла дзявонька, да нідзе абеду не з'ела,
Да сваe рандаркі прыспела.
— Арандарачка мая зорачка,
Ці парожная да стадолачка?
Нашым коням пастаяць,
А нам, маладзенькім, пагуляць.

104. Радуйся, рандарачка,
Несямо табе падарачка
Тонкага і беленькага,
Ад слёзак макрэнькага.
На варстатах вытканы,
На Дунаю белены,
Золатам аснованы,
А срэбрам патыканы.
Марысьчыныя ручкі
Каля яго рабілі,
Залатыя персцянцы
Ей за святло служылі.
Ой, нямала, нямала
Галоўку стурбавала,
Пукі яна на свадзьбу
Падаркаў утаргавала.
Нямала, нямала
Белых ручак змучыла,
Пукі яна на свадзьбу
Павязкоў угатавала.
А русеньку коску
То ўсю ночку часала
І румянаму лічку
Усё яе меркавала.
І з русаю касою
Шчыранька размаўляла:
— Каса мая русенькая,
Каму ж ты дастанешся?
Краса мая дзявоцкая,
Каму ж ты дастанешся?
Ці старому барадатаму,
Ці хітраму зухватаму,
Ці добраму, ці верненькаму,
Ці Ясеві маладзенькаму?
Ані старому барадатаму,
Ані хітраму зухватаму,
Ані добраму і верненькаму,
Толькі Ясю маладзенькаму.

105. Ой, пане, паночку,
Вязем табе падданочку
У тоненькім серпаночку.

106. Свіснула два сокалы,
Селі-ўпалі да й на ганачку
І далі пану знаці,
Што ідуць падданачкі
І нясуць падарачкі:
Сто локцяў кітаечкі
Ад панскае падданачкі.
Сто локцяў палаценца
Ад князя маладзенца.

107. Мы ідземо з куніцу,
І [illegible] ярою пшаніцу
Ад свога гаспадара
Да пана дзядзіча.
Едзьце, сватове, у двор,
Тапчыце зялёны мармур
Коркамі, падкоўкамі,
Жоўтымі чаботкамі.
Падзякуймо богу і пану,
І ксяндзові сваёму,
Жэ нас звянчаў,
А пан нямножка ўзяў:
Ліцарскую копу
За Ганнуліну косу.
Падзякуймо богу і пану,
І ксяндзові сваёму,
Жэ нас звянчаў,
А пан нямножка ўзяў:
За мяне, маладую,
Чырвонца чырвонага
Ад Лукашка маладога.

108. Ой, шумен, шумен да зялён бор,
Славен, славен да панскі двор,
Ніхто ў яго не ўедзе, не ўбяжыць,
Анно ціхі салавейка ўлятае
Да панскага двара разглядае.

109. Да былі ж мы ў пана,
Да елі ж мы барана
Тоўстага да рагатага,

Да ў пана багатага.
З богам, з богам, да мілыя госці,
Да па старай знаямосці.

110. Да ў нашага пана 2
Святліца — не хата,
Покуце ўсе ў золаце,
А запечак у аксаміце.
Печ яго да кахляная, 2
Чэсць яго да каханая.

111. — Дагадайся, Валечка,
Чаго твая мамачка плача,
За плячамі стоячы,
Кубак мёду дзержачы,
На красачкі пазіраючы:
— Краскі мае зеляненькія,
Дзіця маё маладзенькае.
І сеяла, і палівала,
Нямножка сашчыпала.
Толькі адзін да вянок звіла,
Да й таго не знасіла,
Да дзевачкам палажыла:
— Да, дзевачкі, мае сёстрачкі,
Да насіце штонядзелечкі.
Успамінайце шточасіначкі.

112. Рута мая зялёная,
У тры рады саджоная.
Я садзіла, палівала
І вяночка не звівала.
У адзін была звіла,
Ды і таго не знасіла, 2
У скрыначку палажыла:
— Ляжы, ляжы, мой вяночак,
Аж да русай касіцы,
Аж да меншай сястрыцы,
Меншая сястра зносіць,
Па кірмашы паходзячы,
Ранчыкі разводзячы.

113. Ой, выйду я да на ганачак,
Зірну-гляну да на красачкі,
Да на красачкі.
Зірну-гляну да на красачкі.
Ззяюць краскі,
Краскі.
Ззяюць краскі.
— Хоць ззяйце, не ззяйце,
Не ззяйце.
Хоць ззяйце, не ззяйце,
Мне ж вас да не шчыпаці,
Да не шчыпаці.
Мне вас да не шчыпаці
І вяночка не віці,
Не віці.
І вяночка не віці.
Я ж была адзін звіла,
Звіла.
Я ж была адзін звіла,
Да і той не знасіла,
Не знасіла.
Да і той не знасіла,
Павесіла да на цераме,
На цераме.
Павесіла да на цераме.
А з церама да на дзераве,
Да на дзераве.
А з церама да на дзераве,
На жалезны кручочак,
Кручочак.
На жалезны кручочак.
— Вісі, вісі, мой вяночак,
Мой вяночак.
Вісі, вісі, мой вяночак,
Я ж прыеду да паадведаю,
Паадведаю.
Я ж прыеду да паадведаю.
Добра будзе, то насіць буду,
Буду.
Добра будзе, то насіць буду,
Ліха будзе — галасіць буду.

114. А ўчора я думала *
І сягоння думаю:

Мне з мамкай не жыці,
У садок не хадзіці,
У садок не хадзіці,
Цвяточкі не рваці,
Цвяточкі не рваці,
Вяночкі не віці.
Адзін была звіла,
Я й той не знасіла,
Я й той не знасіла,
Сястрыцы падарыла:
— Сястрыца радная,
Да насі вяночак,
Да насі вяночак,
Нонешні гадочак.

115. Выйду я на ганачак,
Зірну-гляну ў садочак,
Што ў садочку краскі ззяюць,
Мае жываточкі ўвянуць,
Што дзевачкі гуляюць,
Да цвяточкі зрываюць,
Да вяночкі звіваюць,
А мяне не прымаюць.
Я ж сабе адзін звіла,
Я і таго не насіла,
Да зняла вяночак
І занесла ў садочак.
Да й павешу ў садочку
На шаўковым шнурочку,
На чырвонай вішанцы.
Да там мая матка ходзіць,
З вішнямі гаворыць:
— Вішні, да вы мае, вішні,
Да бяруць да мяне мыслі,
Адно дзіця маю
Да й тое аддаю.

116. Да ў нядзельку рана
Выйшла Валя за вароцейка,
Глянула на балоцейка.
На балоце краскі ззяюць,
Аж мае ручкі вянуць.
— Вот вы ззяйце, не ззяйце,

Мне ж вас не рваці, не шчыпаці,
Вяночкаў не звіваці.
Да звіла вянок, звіла
Ні з руты, ні з мяты,
Да з рознага цвету,
Што ходзіць па ўсяму свету.

117. Служка была, служка
Мар'ютачка ў свае мамухны:
Яна верна служыла,
Са церама ды не выхадзіла.
Толькі раз была выйшла,
На ганачках пастаяла.
На ганачках пастаяла,
На красачкі паглядзела.
Як выйду я ды на ганачкі,
Як гляну ды на красачкі:
Як тыя краскі йграюць,
Жываточкі ўнываюць.
— Грайце вы, краскі, йграйце,
Жываточкі ўнывайце.
Мне ж вас не шчыпаці
І ў вяночкі не ўвіваці...
Ах, адзін была звіла
І таго не знасіла.
Павесіла ў святліцы
Сваёй меньшай сястрыцы:
— А насі, сястра, насі,
Ды за мяне бога прасі.
Пераносіш ты лета,
Пераносіш ты лета —
Судзі божа і табе ета!
Пераносіш другое,
Пераносіш другое —
Судзі божа і табе тое!

118. Клён-ліпа, ці не дзерава,
Смародзіна, ці не ягада,
Каліначка, ці не ветачка,
Матруначка, ці не дзевачка,
У бацькі была, ці не верніца?
Яна верненька служыла,

З церама да не выхадзіла,
Толькі было выйшла
З церама да на ганачкі,
Глянула яна да на красачкі,
Яе красачкі іграюць:
— Йграйце вы, красачкі, да не йграйце,
А мне ў бацькі не жыці
І вянкоў не віці.
Толькі было звіла
І таго не знасіла,
Павесіла яго ў цераме,
У цераме да за дзвярамі,
У цераме ў куточку,
На шаўковым паясочку.
І дзе мой татухна ходзе,
Ён галоўкаю чыркаецца,
Слёзкамі і абліваецца.

119. Пайшла Манечка ў Дунай па ваду,
Спусціла вядзёркі на чысту ваду,
А сама пайшла ў сад па руту:
— Ой, рута, рута, дробнае зелле,
Дробнае зелле, чорна насенне,
Мне з цябе, рута, вянкоў не віці,
Мне ў сваго баценька нямнога быці:
Адну вячэру звячэраці,
Адну ночаньку значаваці,
З сваім браценькам разабраці.
— Мне, браценьку, скрыня, пярына і карова,
А табе, браценьку, поўная абора.

120. Устану я ранюсенька,
Утруся я чысцюсенька,
А выйду я на ганачак,
А гляну я ў садочак.
А ў садзе краскі спеюць,
Аж мае ручачкі млеюць.
— А спейце, красачкі, спейце,
А вы, ручачкі, не млейце,
Мне ж вас не шчыпаці,
А вяночка не віці,
Дзевачкай не быці.

121. А ў нядзельку раненька,
Да ўсходу сонейка
Выйшла Марыська на ганачак,
Глянула ў садочак.
Аж там рута ляле́іць,
Аж яе сэрца мле́іць.
Нямнога дзеўкай была,
Нямнога вянкоў звіла,
Адзін звіла — не знасіла,
На той дзевак прасіла.

122. Каралеўна Анютка
Па садочку хадзіла,
З цвятамі гаварыла:
— Садовыя мае краскі,
Не цвіціця так ярка —
Не будзець вас жалка,
Не буду на воле хадзіць,
Цвяты сарываць,
Вянкі завіваць.
Я адзін вянок спляла
І той не знасіла,
Павесіла ў клеці на гваздочку,
На маткіным хадочку.
Матка ў клець пойдзець,
На вяночак паглядзіць,
Пра дачушку ўспомніць:
— Як была ў мяне дачушка —
То верная служка.

123. Ды ці дзень, ці зарыца па загор'ю хадзіла,
Малада дзяўчынка па садочку гуляла,
Па садочку гуляла, з зеллямі размаўляла:
— Зелле маё зялёнае, садзіла, палівала,
Я і кветак нашчыпала і вянкоў назвівала,
Толькі адзін вянок звіла я і таго не знасіла,
Павешала ў куточак на зялезны пруточак.
На зялезны пруточак, на шаўковы шнурочак.
Там мой мілёнак знойдзець, на мой вянок узглянець,
На мой вянок узглянець, дык на сэрданька звянець.

124. Княгінька па гароду хадзіла,
З краскам гаварыла:
— А мілыя мае краскі,
Мне вас не шчыпаці,
Вяночкі не звіваці.
Адзін была звіла
І таго не знасіла.
Павешала ў новай клеці,
На жалезным прабоі,
На таткіным паходзі,
На мамкіным паглядзі.
А мой татка пойдзіць,
На мой венчык гляніць,
Пра мяне ўспамянець,
Мая мамка гляніць,
Слёзнінька заплачыць:
— Ай, божа мой, божа,
Гдзе ж маё дзіцятка?
Ці ў бору ў брусніцах,
Ці ў лузе ў каліні?
Калі ў бору ў брусніцах,
Дык бы барочкі шумелі,
А ў лузе у каліні,
Дык бы лясочкі звінелі.

125. За сеньмі, сеньмі, у зялёненькім зеллі
Мы ж данімалі, што ўтанька грача,
Ажно ж наша дзеванька па кветачкам плача:
— От вам, дзевачкі, усе мае кветачкі
Да рута-мята, шаўковая трава,
Чырвоная рожа да дзевачкам згожа.
Да вейце вяночкі да штосуботанькі,
Спамінайце ж мяне да штогадзіначкі!

126. Зялёна дуброва разлягаецца,
Маладой сэрданька разрываецца,
Што з дзевачкамі расстаецца.
— Кідаю вам, дзевачкі, два садочкі.
У адным садочку ружа чырвоная,
У другім садочку рута зялёная.
Війце вяночкі штонядзелечкі,
Спамінайце мяне штогадзіначкі.

127. Ой, хадзіла дзевачка
Да па сенажаці,
Да капала лозу,
Да сеяла ружу:
— Тут табе, мая ружа,
Зімаваці гожа,
А мне ў татачкі
Да не летаваці,
Цвяточкаў не рваці.
Вяночкаў не віці,
Больш дзеўкаю не быці.
— Вот вам, дзевачкі,
Усе мае цвяточкі,
Да веце вяночкі
Штонядзелечкі.
Цвяточкі ірвеце,
Мяне ўспамінайце,
Вяночкі веце,
Мяне не забывайце.
— Цвяточкі ірвалі,
Цябе ўспаміналі,
А вяночкі вілі,
Успамянуць забылі.

128. Не тужыце, дзеўкі, па мне:
Астаюцца краскі мае.
Рвіце краскі штосуботанькі,
Успамінайце штоработанькі.
Рвіце краскі штонядзеленькі,
Успамінайце штогадзінанькі.
Рвіце краскі штопанядзелка,
Успамінайце, што была дзеўка.

129. Пушчу каня ў агарод,
Сама сяду ля варот.
Я коніка прывяжу,
Я й коніку прыкажу:
— Не еш, кося, травіцу,
А еш, кося, красачкі,
Баравыя васількі.
Мне дзеўкаю не быці
І вяночкаў не віці.

Адзін вянок савіла
І той сястры аддала.
Дзеўкі пойдуць на вулку,
Я, молада, за люльку,
Дзеўкі будуць вянкі віць,
Я, молада, чапцы шыць.
Дзеўкі будуць пяяці,
Я, млода, плакаці.

130. Пушчу каня ў агарод,*
Сама пайду наўпярод.
— Паеш, паеш, конь, траву.
Паеш, паеш зеляну,
Баравыя васількі,
Што дзевачкам віць вянкі.
А я, малада, не буду —
Адзін была савіла,
Павесіла ў каморы,
У цёмненькім куточку,
На залатым пруточку.
Там мамулька хадзіла,
Вяночак зваліла,
Пруточак зламіла.

131. Чэраз гулочку ў асялочку
Гнала Матрона вараное стада:
— Ой, стада жа маё вараное,
Тапчыце зелле зяляное,
Майму бацаньку на жаласці,
Майму свёкарку на радасці.
Майму бацаньку, то жаль будзе,
А майму свёкарку, то рад будзе.

132. Штоб я знала, што ў бацькі не быці,
Я б не сеяла зялёнай руты,
Я пералазы б разгарадзіла,
У зялёну руту конічкаў пусціла:
— Ешце, конікі, зялёну руту,
Ужо мне ў бацанькі нядоўга быці:
Адзін дзянёк перагаравалі,
Адну ночаньку пераначавалі.

133. Кагда б та я знала,
Што за братам не жыці,
Я б тын праламала, 2
Кароў напускала: 2
— Тапчыце, каровы, 2
Што ёсць у гародзе. 2
І хрэн, і капусту,
Кучараву мяту, 2
Штоб не асталося брату,
Нявесткі панюхаць, 2
Гаворак паслухаць.

134. Каб я знала-ведала
Сваю горкую долю,
Растварыла б я, расчыніла б
У зялёны сад вароты,
Напускала б я, нагаміла б я
Усё й вароненькіх коней,
Што б пасарвалі, што б пастапталі
Маю рутую-мяту,
Штоб рута-мята не зеляніла,
Мамачкі не весяліла.
Штоб рута-мята пажаўцела,
Штоб мамачка паскучнела.

135. Каб я ведала, што мне ў бацэнька не быці,
То не сеяла б не пановікі, не руты.
Адчыніла б да новенькія варота,
Упусціла б да маленькія цялятка.
Няхай гэту ярую рутку з'ядаюць,
Пановейку ножкамі змінаюць.

136. Калі б я знала дый ведала сваю горкую долю,
Не арала б, не бараніла бацькава поле,
Не сеяла б, не палола зялёную руту.
Выпусціла б свайго варанога каня.
Няхай мой конь вараны ў садзе пагуляець,
Няхай маю зялёну руту паб'ець-паламаець.
Няхай рута зялёнай болей не лялеець,
Мяне мамка, мяне родная болей не жалеець.

137. Каб я знала, каб я ведала,
Што ў свайго татка не буду,
Я б агарод разгарадзіла,
Стада коней пусціла:
— Стада ж мая вараная,
Тапчы зелле зяляненькае,
Тапчы руту, тапчы мяту,
Тапчы ўсякае насеннейка
На дзявочае вяселлейка.
Ой, сама ж я мяту садзіла,
Ой, сама ж я да палівала,
Ой, сама ж я вянкі віла,
Усім дзевачкам падзяліла:
— Вы, дзяўчаткі, мае сястрыцы,
Надзявайце штонядзелечку,
Успамінайце штогадзіначку,
Надзявайце штодзянёчак,
Успамінайце шточасочак.

138. Каб я знала, каб я ведала,
Што мне ў бацькі не быці,
Па садочку не хадзіці,
З руты вяночкі не віці,
А звіўшы да не насіці.
Аднаго вяночка звіла,
І таго не знасіла,
На калочку павесіла.
— Дзівіцеся, людзі,
Каго мне жалка будзе.
Ой, жалка мне, жалка,
Да не бацькі свайго,
Што мяне, маладую,
Замуж аддае,
Свет мне завязвае,
Слёзы мае разлівае
Па беламу лічку,
Па сіняму нагрудiнчку.

139. А як будзеш, млода Ганечка, ад'язджаці,
Не забывайся сваёй руты пакапаці.
Не забывайся па дарожцы рассадзіці,
Ды каб не была гэта дарожка шырока,
Ды каб не жыла родна мамачка, далёка.

140. Чырвоная ружа пры дарозе.
Чыя там ружа пры дарозе?
Марысіна ружа пры дарозе.
— Уставай, Марыська, раненька,
Палівай ружу часценька,
За яснымі зорамі,
За светлымі свечкамі.

141. Пайшла Кастулька ў гарод,
Стаіць рутачка ў варот.
— Выйдзі, татулька, з касою,
Скасі рутачку з расою.
Ужо мне ў татулькі не быці,
З руты вяночкаў не віці.
Ужо я ў татулькі адбыла,
З руты вяночкі адвіла.
Пайшла Кастулька ў гарод,
Стаіць рутачка ў варот.
— Выйдзі, матулька, з сярпочкам,
Сажні рутачку з лісточкам.
Ужо мне ў матулькі не быці,
З руты вяночкаў не віці.
Ужо я ў матулькі адбыла,
З руты вяночкі адвіла.

142. — Гнеў, мая маці, гнеў на цябе,
Астаецца рута ўся ў цябе.
— Не гневайся, дзіцятка, на мяне,
Бяры сабе руту да сябе.
Прышлі дзевяратке з касою.
Няхай скосяць руту з расою,
Прышлі залувіцы з граблямі,
Няхай зграбуць руту з карнямі.
Пасадзі яе пад акном,
Палівай яе рана і позненька,
За яснымі свячамі,
З дробнымі слязамі.

143. Ходзіць дзеванька ў саду, па саду,
Да па зеллечку плачыць:
— Ой, зелле, зелле, дробнае насенне,
Жаль цябе кідаці.
Сядзіць бацюхна да ў вакошачку

Да ўсе тое чуе:
— Прышлі, прышлі свога мілага з касою,
Няхай косіць да ўсю рутаньку з расою.
Прышлі, прышлі свога мілага з граблямі,
Няхай заграбе ўсю рутаньку з каранямі.

144. — Прыедзь, мая матачка, з пірагамі,
Выкапай рутаньку з каранямі.
— Не паеду, дзіцятка, з пірагамі,
Не выкапаю рутаньку з каранямі.
Прыедзь, мае дзіцятка, з касою
Ды выкась рутаньку з расою.
— Не паеду, матачка, з касою,
Не выкашу рутачкі з расою.
Уставай, мая матачка, раненька,
Палівай рутачку часценька,
Ды не стане вадзіцы ў крыніцы,
Ды палівай віном із шкляніцы.
— Дый не аднае ночанькі не даспала,
Зялёную рутачку палівала,
Ды ўжо ж твая рутачка даўна звяла.

145. Нядаўна Томачка зялёну руту саджала,
Ды мала ў роднай мамкі гуляла.
— Бяры, Томачка, зялёну руту з сабой,
Пастаў яе ў мілага пад акном
Ды палівай вячэрняю зарой,
А заўтра рана гарачаю слязой.
Ад халоднай вады рута-лялея ссыхае,
Ад гарачых слёзак рута-лялея буяе.

146. — Ой, жаль, жаль мне не на каго на чужога,
Ой, жаль, жаль мне на сваю матульку, на свой род, 2
Што не далі пакрасавацца яшчэ з год,
Што не далі зялёнай руце расцвісці,
Што не далі мне, маладзенькай, падрасці.
— Ой, не жалься, маё ты дзіцятка, на мяне,
Бяры сваю зялёну руту да сябе.
Прыязджай жа ты, маё дзіцятка, з вазочкам,
Забяры сабе зялёную руту з пясочкам.
Пасадзі ж ты, маё дзіцятка, на дварэ,

Пазірай праз акенечка на яе,
Сама не спі позненька, ды ўставай,
Зялёную рутачку палівай.
Палівай яе то ранняю, то вячэрняю зарою,
Яшчэ к таму — дробненькаю слязою.

147. — Ой, жаль, жаль, мой браценька, на цябе,
Застаецца зялёная рута уся ў цябе.
— А не жалься, сястрыца, на мяне,
Забірай сваю руту да сябе.
Да прыедзь, прыедзь, сястрыца, з пірагамі,
Забірай сваю руту з каранямі,
А прыедзь, сястрыца, з вазочкам,
Забірай сваю руту з пясочкам.

148. — Ой, жаль жа мне, мая матанька, на цябе,
Што застаецца зялёненька рута у цябе.
— З богам, з богам, маё дзіцятка, ад мяне,
Забірай сваю зялёну руту ад мяне!
— Ой, як жа мне, мая матанька, зялёну руту забраці,
Ды я не маю, дзе зялёну руту саджаці.
Ой, пасадзіла б я зялёну руту ў гародзе,
Ой, не будзе расці зялёна рута на пагодзе!
Ой, пасадзіла б я зялёну руту на мяжы,
Ой, не будзе расці зялёна рута ў дзернажы!
Ой, пасадзіла б я зялёну руту ў ляску,
Ой, не будзе расці зялёна рута на пяску!

149. Ой, жаль, жаль мне, мамачка, на цябе,
Астаецца мая рутачка ў цябе.
Хаця ўставай, мая мамачка, раненька,
Палівай маю рутачку часценька.
Не палівай мае рутачкі вадою,
А палівай маю рутачку слязою.
Бо ад вады мая рутачка завяне.
Ад слязы мая рутачка паўстане.
Прышлю майго мілага з касою,
Няхай косіць маю рутачку з расою.
Прышлю майго мілага з граблямі,
Няхай пагрáбе маю рутачку пластамі.
Прышлю майго мілага з вазочкам,
Няхай забярэ рутачку з пясочкам.

150. — Куды ад'язджаеш, куды ад'язджаеш, малада?
А каму кідаеш сваю родную мамульку?
— А ці будзеш, мамулька, рана ўставаці?
А ці будзеш мае цвяточкі палівацi?
— Буду ўставаці, мая дачушка, зарою,
Буду паліваці твае цвяточкі слязою.

151. Ай, жалка мне, мая мамачка, на цябе, на цябе.
Засталася рута-мята ўся ў цябе, уся ў цябе.
Рута-мята, чырвоная рожа ў гародзе, у гародзе.
Уставай, уставай, мая мамачка, раненька, раненька,
Палівай, палівай руту-мяту часценька, часценька,
Усё раннімі, вячэрнімі зарамі, зарамі,
Усё сваімі гаручымі слязамі, слязамі.
Слёз не станець — крынічнаю вадою, вадою,
Вады не станець — жамчужнаю расою, расою.

152. — Ой, бывай, бывай, мая матушка, здарова,
Да астаецца мая рутанька зялёна.
Будзеш уставаць, мая матуля, раненька,
Будзеш паліваць маю рутаньку часценька.
То ранічнымі, то вячэрнімі зарамі,
А я, малада, усё драбненькімі слязамі.
— Ой, з богам, з богам, мая дзіцятка, ад мяне,
Да забірай сваю рутаньку да сябе.
— Ой, прышлём, прышлём свайго Яначка з касою,
Няхай пакосіць маю рутаньку з расою.
Ой, прышлём, прышлём свайго Яначку з граблямі,
Няхай паграбе маю рутаньку з кашлямі.

153. Ішла княгіня гарой, гарой,
Логам сад садзіла,
З роднай мамкай гаварыла:
— А мамухна мая, родная,
Палівай мой зялёны сад,
Не палівай сад вадой,
Палівай мой сад сытой.
Ад вадзіцы сад бляднеець,
Ад сыціцы — зелянеець.
— Дзіця маё, княгінька,
Калі ўдасца жыллё тваё

Прызабудзеш на зялёны сад,
А не ўдасца жыллё тваё,
Сама паллеш зялёны сад,
То таскою, то бядою,
То гаручым слязам.

154. На гарэ Ганутка сад садзіла,
Садзіўшы садочак, гаварыла:
— Прыжывай, садочак, у адзін часочак,
Хто цябе, садзе мой, палівацъ будзіць,
Ад цёмнай ночанькі ўкрывацъ будзіць?
Прыкажу зелен саду свайму бацюшку:
— Уставай, бацюшка, ранёшанька,
Палівай зелен сад часценька,
То раннімі, то вячэрнімі зарамі,
Потам таго гаручымі слязамі.

155. — Куды, куды, млода Манечка, ад'язджаеш,
Каму, каму сваю рутачку кідаеш?
— Ой, паеду, паеду, мая мамачка, ад цябе,
Пакідаю сваю рутачку я табе.
Уставай, мая мамачка, раненька
Да палівай маю рутачку часценька.
Не палівай маю рутачку слязою,
А палівай халоднаю вадою.
Ад слёзак мая рутачка завянець,
Ад вадзіцы мая рутачка буявець.
Ад слёзачак мая рутачка сцямнеець,
Ад вадзіцы мая рутачка зелянеець.

156. — Ад'язджаю, мая мамачка, ад цябе,
Пакідаю руту-мяту ўсю табе.
Уставай, уставай, мая мамачка, раненька,
Палівай руту-мятачку часценька.
— Пакуль я руту-мятачку абыйду —
Усю яе слёзкамі абаллю.
— Прыязджай жа, мой зяцюхна, з касою,
Скасі ўсю руту-мятачку з расою.
Прыязджай жа, мой зяцюхна, з граблямі
Ды выграбі руту-мятачку з камлямі.
Прыязджай жа, мой зяцюхна, з вазочкам
Ды абяры руту-мятачку з пясочкам.

157. Хадзіла Волечка па гумну
Да зганяла пташачкі з гумна:
— Ды ляціце, пташачкі, у шчыры бор,
Не клюйце мае пшаніцы,
Да клюйце ў бару брусніцы.
Не ў тыя брусніцы не хадзіце,
Хоць калі пайду, не ў той бор,
Хоць калі прынясу, не ў той двор.

158. — Што ж то за пташачка
Чорная як галачка?
Усё поле злятала,
Крыльцам не ўзмахнула,
Перца не ўраніла.
— Калі б ураніла,
Усё бы поле ўкрыла.
— Што ж то за дзевачка?
Увесь вечар сядзела,
Галоўкі не скланіла,
Слёзачкі не ўраніла.
— А калі б жа скланіла,
А калі б жа ўраніла,
Увесь бы род разжаліла:
І старога, і малога,
І атца роднага.

159. — Што ж то за пташачка
Сіняя як галачка?
Пераз мора пераплыла,
Галоўкі не скланіла,
Пёрычка не ўраніла.
— Да ўранню, уранню,
Да з мора сплываючы.
— Што то за паненка
З двору з'язджала?
Галоўкі не скланіла,
Слёзак не раніла.
— Скланю галовачку,
Да на воз сядаючы,
Паліюцца слёзкі,
З двору выязджаючы.

160. — Ды што, што за пташачка,
Ды што, што за шэрая?
Усё поле пераляцела,
Скрылкам не махнула,
Пярынкі не ўраніла,
Травінкі не зламіла.
— Ды што, што за Валечка,
Ды што за дзіцяці?
Увесь вечар на пасадзе,
З сонейкам на пасадзе.
Слязінкі не ўраніла,
Галоўкі не скланіла,
Матулькі не разжаліла.
— Ой, разжалю, разжалю,
З двора выязджаючы,
Дабранач даваючы.
— Дабранач, мая матулька,
Дабранач, мая родная.
Прасці мне, што я
Табе надакучыла,
Як па лаўцы хадзіла,
Піці-есці прасіла.

161. Залатая яблынька
Паміж яблыняк стаіць
І лісточкаў не роніць,
І яблычкаў не плодзіць.
— Не вялелі мне сады
Ні лісточкаў раніці, 2
Ні яблычкаў пладзіці.
Маладая дзевачка
Паміж дзевачак стаіць, 2
У руках хустачку дзяржыць,
Ні галовачкі не клоніць,
Ні слёзачку не роніць.
— Не вялеў мне малойчык
Ні галоўкі кланіці, 2
Ні слёзачкаў раніці,
Ды вялеў мне малойчык
Весялюсенькай быці
У тым двары, дзе я расла,
І ў другім, куды пайшла.

162. Камяная печачка, 2
Вечар гарыш да не выгарыш 3
І каменя не распаліш.
— Маладая Галачка, 2
Вечар сядзіш да й не плачаш 3
І матачку не разжаліш.
— Ой, разжалю сваю матачку,
Па застоллейку пайду, 3
Да дабранач даючы.
Ой, дабранач, дабранач 2
А мой добры дзень, 2
Да не вернецца тыждень.

163. — Ой ты, рэчанька, ой ты, быстрая,
Каменістая, ды і вірыстая,
Ціханька стаіш, чаму не шуміш,
Белых камяней да не размыеш,
Жоўтага пяску да і не разнясеш?
— Я і так шумлю, я і так шумлю,
Белых камяней да і не размыю,
Жоўтага пяску да і не разнясу.
— Чаму, Янінка, чаму, малода,
Ціханька сядзіш ды не заплачаш,
Сваей мамачкі не разжаліш?
— Я і сяк плачу, я і так плачу,
Сваей мамачкі я не разжалю.
Мая мамачка не жалосная,
Аддаець мяне недарослую,
Недарослую, недаўмелую,
Як ягадачку недаспелую.

164. — Ты, рэчанька, ты, быстрая,
Што нябыстра цякёш?
— Я і так цяку, я і сяк цяку,
Да беражка не размыю,
Да крутога не размыю.
Я і размыю, не размыю
На вясеннюю ваду.
— Ты, Грыпінушка, ты, маладая,
Што не жалка ты плачаш?
— Я і так плачу, я і сяк плачу,
Да бацюшкі не разжалю.

Я разжалю, я разжалаблю
У панядзелак раненька,
Раненька ўстанець,
Мяне не застанець,
Сільна заплачыць.

165. Ты, рэчачка-крынічанька, рано, рано, рано.*
Рэкі цякуць — ты не цячэш,
Беражочку не падмыеш,
Вярбы кусту не падрыеш.
Ты, Марылька маладая,
Дзеўкі пяюць — ты не плачаш,
Матцы сэрца не разжаліш.
Маткі сэрца жалоснае,
А Марылькі камяное.

166. — Чаго не цячэш, быстрая рэчка, з-пад гары *
І чаго не размыеш ты сваіх крутых беражкоў?
— Чаго сядзіш, што думаеш, Манечка,
Чаго не разжаліш сваю мамульку ў гэты час?
— Адляцела русая каса па паяс,
Аджалела мяне мамулька за адзін час.

167. Цякла рэчка-крамянечка.
Крамяное сэрца ў Манечкі.
Манечцы дзеўкі спяваюць, яна не плача
Да не разжаліць свайго бацюхна.
— Разжаліцца мой бацюхна на другі дзень раненька,
Што ні ложачкі, ні талерачкі,
Ні таго кубка, што віно піці.
Няма маго дзіцяці, што пагаварыці.

168. — Маніш, Манечка, не плачаш,
У руках хустачка сухая,
Будзе твая свякроўка ліхая.
— А я сваймy гору прыгадаю,
Ячмень-шасцярэнь прапалаю,
Сырую пшоначку падсушу,
Я сваёй свякроўцы угаджу.

---

* Рэфрэн «рано, рано, рано» паўтараецца пасля кожнага радка.

169. Маніш, дзевачка, не плачаш.
Была твая мамачка ліхая —
У руках хустачка сухая.
Будзе твая свякроўка добрая —
У руках хустачка мокрая.

170. Не мусілі разжалабіці маладую дзеваньку,
Разжалабіць яе да чужая старонка.
Да чужая старонка, да чужая матанька:
Да чужая старонка без ветрыку вее,
Да чужая старонка без сонейка грэе,
Да чужая матанька без крыўданькі сварыць,
Да чужая матанька няпраўданьку гаворыць,
Як пакорыць славамі, абальешся слязамі.

171. — Не жарка гарыш, лучынка,
Не жалка плачаш, дзяўчынка,
Не разжаліла нікога,
Ні роднага татачкі,
Ні роднай мамачкі.
— Калі захачу — разжалю:
А выплету ўплёт з русенькіх кос,
Выплету, павешу ўплёт на прыклёт,
А руцмяны вянок павешу на тынок,
Куды татачку ў клець хадзіць,
А мамачцы след лажыць.
На вянок заглянець — цяжка ўздыхнець,
На ўплёты заглянець — горка заплачаць,
Мяне маладзенькую ўспамянець
І не адзін раз са слязьмі скажаць:
— То маёй дачушкі качаецца ўплёт,
То мая дачушка ў дзеўках насіла,
У дзеўках насіла, падвор'е красіла,
Падвор'е красіла, сям'ю весяліла.

172. Не жарка гарыць лучына,*
Не жалка плачаць Рыпіна.
Не разжаліла нікога:
Ні свайго роду, ні чужога.
— Калі захачу — разжалю:
Выплету выплёт з русых кос,

Павешу выплёт на прыклёт,
Куды мой бацюхна ў клець ходзіць.
Ён і ў клець ідзець — заглянець,
Ён із клеці ідзець — заплачаць:
— Во маёй дачушкі выплёты,
Павесіла мне на слёзы.
Бывала яна насіла,
Падвор'е маё красіла.
Бывала яна ўплятала,
Падвор'е маё дзяржала.
Цяпер шнурочкі дось насіць,
Падвор'е маё дось красіць.
Цяпер косачку дось плятаць,
Падвор'е маё дось дзяржаць.

173. — Не жаласліва Танечка,*
Не разжаліла мамачку.
— Калі захачу — разжалю.
Выплету ўплёты з русых кос,
Павешу ўплёты ў клеці.
У клеці, у клеці, у куточку,
На сярэбраным пруточку.
Як мая маманька ў клець пойдзець,
На тыя ўплёты ўзглянець,
Яе сэрцайка завянець:
— Не дачушка была — украса,
Падвор'е маё красіла,
Сямейку маю весяліла.
— Ай, туж, не тужы, маманька,
Ёсць у мяне сястрыца маленька,
Яна тыя ўплёты даносіць,
Сямейку тваю ўзвесяліць,
Падвор'е тваё ўкрасіць.

174. Не жарка гарыць лучына,
Не жаласліва плачаць дзяўчына.
Ай, дайце ёй помачы,*
Горкія цыбулі пад вочы.
Няхай жа яна грызець як белка,

---

* Трэці з чацвёртым радком паўтараюцца.

Няхай жа яна плачаць, як дзеўка.
— Няхай жа плачаць ён, ды не я,
Што бярэць мяне з таткавага двара.

175. Не жарка гарыць каліна,
А не жарка гарыць каліна,
Не жалка плача радзіна,
Да не жалка плача радзіна.
Не жалее маці дзіцяці, 2
Да наўпроць ночкі вон гоніць 2
Перавознічка не дае,
Да перавознічка не дае.
Да за яе грошы не бярэ. 2
— Перавознічак-галубок,
Перавязі дачку на той бок, 2
А там маладога даўно ждуць, 2
За мяне грошы аддадуць,
Да за мяне грошы аддадуць.

176. — І да чаму, зязюлька, не куеш,
У бога расы не просіш?
— І да ці вы, пташачкі, не чулі,
Як я рана кавала,
У бога расы прасіла.
І да за пташачкамі не відна,
За салавейкамі не чутна.
— І да чаму, дзеванька, не плачаш,
У бога долі не просіш?
— І да ці вы, дзявочкі, не чулі,
Як я й рана плакала,
У бога ж долі прасіла.
І да за дружачкамі не відна,
Да за сванечкамі не чутна.

177. — А ты, зязюля рабая,
Чаму ў бару не кукуеш, 2
Чаго ў мой сад прылятаеш?
— Як мне ў бару кукаваці?
За сасонкамі не відаці, 2
За салаўямі не чуваць.
— А маладая Валечка,

Чаму не плачаш у мамы,
Чаго да нас прыязджаеш?
— Як мне плакаць у мамы,
За дзевачкамі не чуваць, 2
За хлопчыкамі не відаць.

178. — Ой, зязюля-кукуля,
Чаму не відаць, дзе ты лятаеш?
Чаму не чуваць, як ты кукуеш?
— Мяне не відаць да за лясамі,
Мяне не чуваць да за салаўямі.
— Маладая дзевачка,
Чаму не відаць, дзе ты ходзіш,
Чаму не чуваць, як ты плачаш?
— Мяне не відаць да за дзеўкамі,
Мяне не чуваць да за музыкамі.

179. — Зазулька, зазулька, да не галосна,
Кукуеш галосна, да не жалосна.
Не чутна за ельнічкам,
За белым бярэзнічкам.
— Красная Анелька, да не галосна,
Плачаш галосна, да не жалосна.
Не чутна за дружкамі,
За галаснымі скрыпцамі.
— Я па бары не хадзіла,
Голасу не збірала, плакаць не вучылася,
Да Якубку згадзілася.
На ручнічку стаяла, за белую ручку дзяржала
Да Якубку прысягала.

180. Маладая дзеванька,
Чаму па лугох не хадзіла,
Плакаці не вучылася?
На дварака спадзявалася,
Мешчаніну засталася.
Мешчаніну не такому —
Дзяцінку маладому.

181. — Баравая зязюленька,
Што не гулка кукуеш?
— Хоць я гулка кукую,

Ды не чуць за гарамі,
За цёмнымі лясамі,
За шэрымі салаўямі.
— Маладая Ганначка,
Што не жаласна плачаш?
— Хоць я жаласна плачу,
Ды не чуць за іграннем,
За жаноцкім пяяннем.

182. Кукавала зязюленька ў садочку,*
Прылажыла галовачку к лісточку.
За лісточкам зязюленькі не відаць,
Зы лясочкам гыласочка не слыхаць.
А плакала наша Леначка ў святліцы,
Прылажыла галовачку к сястрыцы.
Зы вяночкам нашай Леначкі не відаць,
А за музыкай гыласочка не слыхаць.

183. — Ой, крыніца, крыніца,
Да ты халодная вадзіца.
Дажджы ідуць, ветры веюць —
Чаму цябе ды не нагрэюць?
— Ой, маладая дзевачка,
Ды ты сядзіш не жалосная.
Дзеўкі пяюць, музыкі граюць —
Чаму цябе ды не разжалюць?
— Ой, дзевачкі, мае сястрыцы,
Ды не давайце мне жалю,
Бо я сама ўсё тое знаю.

184. Кукавала зязюлька на ябланькі седзячы,
На Пятрунельку гледзючы.
— Чаго ж, Пятрунелька, не плачаш?
Да таго ж, мусіць, ты не знаеш,
Што апошні дзянёк ты ў вяночку гуляеш?
А заўтра раненька знімуць з цябе вяночак,
Накладуць чорну шапухну,
Не ўбачыш больш яснага сонейка,
Хоць і будзе сонейка, але толькі дзеванькам, не бабанькам.

185. Чаму, Манечка, не плачаш,
Ці ты жалосці не маеш,
Ці ты замужжа не знаеш?
А будзеш плакаць ды не ў нас,
А будуць слёзкі ды не ў час.
Пагоніш свінак у хлявец,
А сама станеш за хляўцом
Выцірань слёзкі рукаўцом.
Знаць табе, Манечка, замуж хочацца,
Што ў цябе слёзачкі ды не коцяцца,
Ці твае вочкі пазлачоныя,
Ці твае слёзкі пазычоныя?

186. Калі не плачаш, млода Анечка, пры скрыпцы,*
Наплачашся, млода, Анечка, пры зыбцы.
Калі не плачаш, млода Анечка, за сталом,
Наплачашся, млода Анечка, за вуглом.
А ў Тадзіка гора-бяды даволі,
Наядзішся, млода Анечка, без солі,
А ў Тадзіка гора-бяды як трэба,
Наядзішся, млода Анечка, без хлеба.

187. Да чаму ты, Валечка, не плачаш,*
Ці ты гэта, млода, не знаеш?
Гэта ж цябе ад мамачкі адвязуць,
Гэта ж цябе к свякроўцы прывязуць.
А свякроўка мамачкай не будзіць,
Яна ж цябе раненька пабудзіць,
А вышаўшы на вулку, абсудзіць:
— А лянівa нявестка, лянівa,
А мне яе работка няміла.
Ці яшчэ не зайдзіць — спаць ляжыць,
Ўжо сонейка ўзыйдзе — яшчэ спіць,
А ўстаўшы, галоўку нажурыць.

188. — Ці табе, дзевачка, у мамы надаела,
Што ты, маладая, замуж захацела,
Што ў цябе слёзка не паляцела?
— Дзевачкі, сястрыцы, няпраўда ваша,
Па ліцу слёзкі, як боб буйненькі,

Па плячах коскі, як лён бяленькі.
Па ліцу слёзкі разліваюцца,
Па плячах коскі развіваюцца.

189. Ці табе, Томачка, замуж хочацца,*
Што ў цябе слёзачкі да й не коцяцца?
Дайце ёй, дзевачкі, горкай рэдзькі,
Ці не пацякуць слёзачкі як із рэчкі.
Дайце ёй, дзевачкі, горкай цыбулі,
Нацерці вочачкі палужоныя,
Ці не пацякуць слёзачкі заручоныя.

190. Няўдала дзевачка, няўдала —
На пасадзе сядзіць і не плача.
Дайце дзевачцы помачы —
Горкай цыбулі пад вочы,
Ды не так цыбулі, як рэдзькі,
Каб каціліся слёзкі, як з рэчкі.

191. — Знаць табе, Томачка, замуж хочацца,*
Што ў цябе слёзачкі ды не коцяцца.
— І дзевачкі-падружачкі вы няверныя,
Відзіце-бачыце, ды не кажаце,
Што ў мяне слёзачкі, як ракой льюцца,
Камяное сэрдзечка як не выб'ецца,
Шаўкова хуста з рук як не вырвецца.

192. — Знаць табе, Настачка, замуж хочацца,
Што ў цябе слёзухны ды не коцяцца.
— Адна была, адна была накацілася,
Тая назад, тая назад варацілася.
— Ай, ідзі, Настачка, у зялёны сад,
Ай, сарві-сашчыпні горку цыбульку,
Ты патры, ты патры карыя вочкі,
Каб паліліся, каб паліліся жалкія слёзкі.
— Я ж усю цыбульку сажвала,
З карых вочак горкіх слёзак не дастала.

193. Задуйце, ветрыкі, радзі дожджыку,
Радзі дожджыку, радзі ветрыку.
Ты паплач, Зянутка, радзі совесці,

Радзі совесці, радзі стыду свайго.
Ці ў цябе вочанькі палужоныя?
Ці ў цябе слёзанькі накуплёныя?

194. А ўзыйдзі, сонейка, угрэй зямлю,*
Ай, заплач, Наташка, разжаль радню.
А ўзышло сонейка, ды трава не вяла,
Наташка плакаці ды не думала.

195. Рассыпся, крэменю,
Па гарэ, па даліне.
Расплачся, дзеванька,
Па роду, па племенню,
Па сваему роднаму бацюхну.

196. — Маладая Марынька,
А ці ты ў поле не ганята,
На камяні не садзілася,
А ці ты плакаць не вучылася.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Я й на камяні сядзела
І плакаць умела,
А іду замуж і плакаць не захацела.

197. — Знаць цябе, дзевачка, на камні радзілі,
Што тваё сэрданька закрамянела.
Да закуй, зязюлька, хоць сакочучы,
Заплач, дзевачка, хоць не хочучы.
— Да не буду плакаць, далі бог не буду.
Бо [illegible] вельмі рада, што замуж іду.

198. Табе, Юлечка, замуж хочацца,
Чаму ў цябе слёзкі не пакоцяцца?
Ці ў цябе вочкі пазамазаныя?
Ці ў цябе слёзкі пазачыненыя?
Павей, ветрык, халадней будзе,
Заплач, Юлечка, харашэй будзе.
Павей, ветрык, дзеля холаду,
Заплач, Юлечка, дзеля гонару.

199. А ў полю жыта зазелянела,
А ў Марысі сэрца закамянела.
Музыка грае, вона не скача,
Дзеўкі спяваюць, вона не плача.
Дайце цыбулі нацерці вочы,
Няхай паплача хоць да паўночы.

200. Хадзіла дзевачка па ночы,
Шукала цыбулькі пад вочы.
Чы не будзець цыбулька шчасліва,
Каб з вочаў слёзачкі кацілa.
Вялікая цыбулька, як калясо,
Як плачыць дзевачка, глядзець харашо.

201. Трэба даці цыбулі ў вочы,
Каб заплакала ад маценкі ідучы.
Што мелі — перапелі,
Надзечку не разжалілі.
Хіба ж яе разжаліць
Ды чужая старонка,
Ды няродная маценка.
Не б'е, не карае,
Хораша называе.
Пакарае словамі —
Абальешся слёзамі.
Пакарае вернымі —
Абальешся дробнымі.

202. Знаць табе, Мар'ечка,
Замуж хочыцца,
Што ў цябе слёзачкі
Ды не коцяцца.
Хоць бы ты, Мар'ечка,
Па гораду прайшла,
Хоць бы ты, Мар'ечка,
Ды цыбульку з'ела.
Цыбулька, як зоб,
Слёзачкі, як боб.
Цыбулька храп-храп,
Слёзачкі кап-кап.

203. Хадзіла Ганначка па ночы,
Шукала цыбульку пад вочы.

Не найшла цыбулькі — часнычок,
Заплач, Ганначка, на часок.

Найшла цыбульку не ў час,
Будзеш плакаць не ў нас,

Будзеш плакаць пад хляўцом,
Выціраць слёзкі рукаўцом.

Будзе паветка за хатку,
Будзе суседка за матку.

Паветка за хатку — не цёпла,
Суседка за матку — не добра.

204. Хадзіла Ганначка паўночы
Да прасіла ў дзевачак помачы:
— Помачы, дзевачкі, помачы.
Горкай цыбулі пад вочы,
Каб мае вочачкі плакалі,
Гарачыя слёзкі капалі.

205. Чом ты, дачуньку, не заплачаш,
Сваей матанькі не оазжаліш?
— Ой, як жа мне заплакаці,
Калі слёзанькі не коцяць,
Дайце цыбулі пад вочанькі,
Буду плакала да ночанькі.

206. Будзем мы Галечку кулачыць,
Чаго яна не плачыць,
Дадзім солі пад вочы,
Горкія цыбулі ў вочы,
А белыя рэдзечкі ў рукі,
Няхай жа грызець, як белка,
Няхай плачыць, як дзеўка.

207. А і ў лазінцы пад палком
Сядзяць курачкі ўсе радком,
Між тых курачак — пятушок.

Дайце пятуху канапель,
А няхай жа клюець, як верабей,
А няхай жа пяець, як салавей.
А ў Лявонькі за сталом
Сядзяць дзевачкі ўсе радком,
Паміж тых дзевачак — Мар'ечка.
Дайце ж Мар'ечцы памоцы,
Горкія цыбулі пад вочы,
Няхай жа грызець, як белка,
А няхай жа плачаць, як дзеўка.

208. А маніш, дзевачка, не плачаш,
Трэба табе памагчы.
Пад вочы горкай цыбулі натаўчы,
Ці не будзе цыбуля шчасліва,
Ці не будзе дзевачка плаксіва:
Шчасліва цыбуля, шчасліва,
Плаксіва дзевачка, плаксіва.

209. Недзе дзеванька той цыбуленькі не ела,
Што па лічаньку дробна слёзка не бегла.
Дайце дзеваньцы цыбуленькі, часночку,
Штоб пабегла дробна слёзка па лічку.

210. Напяем, напяем мы дзень да вечара,
Мы сваю Гапульку не разжалім.
Ты вырві, Гапулька, горку цыбульку,
Ты натры, Гапулька, сабе вочухны,
Ці не пойдуць тагды слёзухны?
Гапулька цыбульку сапсавала,
Дробных слёз нам не паказала.

211. Да заплач, заплач, млода Надзечка, хаця раз *,
Не будзе табе такой выгоды, як у нас.
А ў нас была — куды хацела, ляцела,
У Алёшкі будзеш, куды захочаш, не пойдзеш.
А ў нас была, былі ручанькі бяленькі,
Былі на ручках у цябе кольцы ясненькі,
У Алёшкі будзеш — твае ручкі счарнеюць,
А на ручачках твае калечкі сцямнеюць.

А будзеш, будзеш родную мамку ўспамінаць,
Не будзець цябе нідзе на вулцы відаць.

212. Заплач, заплач, наша сястрыца, хаця раз,
Не будзе табе такой волі, як у нас.
У нас была — куды хацела, ляцела,
А замужам, куды захочаш, не пойдзеш.
У нас ты была работніца скорая,
У свякрухі будзеш лянівая, хворая.
У нас былі парожачкі нізкія
Ды былі тваё паходачкі блізкія,
А там будуць парожанькі высокія
І будуць тваё паходанькі далёкія.

213. А заплач, заплач, мая Манечка, хоць ты раз.
А нідзе табе не будзець, як у нас.
А ў нас жа была — куды хацела, ляцела,
А цяпер жа табе гэтага не будзець.
А ў нас жа былі табе дарожачкі блізкія,
А ў нас жа былі табе суседачкі знакомы.
А ў свякроўкі будзеш, куды захочаш, не пойдзеш,
Там будуць табе дарожачкі даўгія,
Там будуць табе суседачкі незнакомы.

214. Закукуй, зязюлька,
Праз садок летучы.**
Заплач, Надзечка, замуж ідучы.
Свякроўка — не матка, будзіць не будзе.
Выйдзе на вулку — судзіць будзе.
Будзеш уставаці рана да сонца,
Будзеш аглядаці ў сваю старонку.
— Ці праз рэчачку, ці праз лясочак
Падай, мамачка, хлеба кусочак.
Ці праз рэчачку, ручаіначку,
Падай, мамачка, хоць скарыначку.
Хлеба скарынку, цыбулькі былінку.

215. Плач, плач, Манечка, не ўнімайся,
Не ў мамы будзеш, не спадзявайся.
Свякроўка не маці, будзіці не будзе,

А выйдзе на вулку — цябе асудзе:
— А мая нявестка — санліва-драмліва:
Красёнцы снавала — перамоты клала,
Красёнцы ткала — на прыседзе спала,
Кароўку даіці — галоўка баліці,
А малачко есці — дык каб бліжэй сесці.

216. Плач, плач, дзевачка, хоць не ўнімайся,
Не да маткі едзеш — не спадзявайся,
Усякую работку — сама здагадайся.
Позненька легчы, раненька ўстаці,
Раненька ўстаці, печку адчыняці,
Печку адчыняці, каструльку шараваці,
Бульбачку абразаці, абед гатаваці,
Абед гатаваці, на стол падаваці,
На стол падаваці, сямейку сазываці.
Сама будзеш з-пад печкі пазіраці.

217. Стой, стой, калінка, стой, не згібайся,
Плач, плач, Анютка, сама унімайся,
На мамчыну роскаш ты забывайся.
У мамкі была — нічога не знала:
Петухоў не чула, расы не знала.
А к свякроўцы пойдзеш — усё пазнаеш:
Петухоў пачуеш, на ток ідучы,
А ножкі памочыш, ваду беручы.

218. Заплач, дзеванька, у бацькавай хаце,
То будзе бацька лепш шкадаваці:
Паставіць на воз залатую скрыню,
Палажыць у воз залатую пярыну.

219. — Прыехаў ружовы цвет, божа, божа,*
Завязаў Манечцы свет.
Прыехаў, развіў коскі,
Манечцы разліў слёзкі.
— Мы можам коскі савіць,
Мы можам слёзкі сабраць,
Мы можам Манечку забраць.

---

* Кожны радок з рэфрэнам у канцы «божа, божа» паўтараецца.

220. Стаіць, стаіць ціхі Дунайчык і скалыхне,
Плача, плача млода Чэсечка і ўздыхне.
Яна плача па матулі, па раскошы. 2
У матулі была, як ружа цвіла ў садочку,
А замуж пайшла, як ружа звяла ў вяночку.
У матулі была найвярнейшая ўпраўка,
А замуж пайшла — стала горшая гультайка.
У матулі была найвярнейшая ўслужка,
А замуж пайшла — стала горшая пастушка.

221. Расцець і расцець кляновы лісточак ды ўстраснецць.
Плачаць, плачаць млода дзевачка ды ўздыхнецць.
Яна плачаць па матчынай раскошы.
Не будзець хадзіць па кірмашыку да ночы.
Не будзець сядзець із дзевачкамі ў радочку,
Не будзець піць ад хлопчыкаў мядочку.
Ты думала — гарэлачка, аж — піва,
Ты думала, што з хлопчыка сакпіла.

222. Плача дзевачка прылягаючы,
Мамчыну роскаш успамінаючы,
А свякроўчыну праклінаючы.
Матчына роскаш, як мёд салодка,
А свякроўчына, як палын горка.

223. У Антолькі да тры садочкі.
У першым садзе зязюля кукуець,
У другім садзе салавей шчабечаць,
А ў трэцім садзе Ганначка плачыць.
Зязюля кукуець, у бор ляцець не хочыць,
Салавей шчабечыць, у луг ляцець не хочыць,
Ганначка плачыць — замуж не хочыць.
У бор паляцеўшы — на кукаванне,
У луг паляцеўшы — на жыраванне,
А замуж пайшоўшы — на гараванне.
Мы не жадалі цябе замуж аддаваць,
Ты сама, Ганначка, пайшла на гараванне.
Гаруй, гаруй — не кайся,
Дзе ўвідзеўшыся, спаткаўшыся — не жалься.

224. Плакала Манечка, плакала,
Як з дрэва расіца капала.
Не знала свякроўкі — трэба знаць,
Не звала мамачкай — трэба зваць.

225. Кукавала зязюля,
Па бару лятаючы, 2
К дзераву прылягаючы:
— Дзерава маё, дзерава,
Не ўсыхай ты скоранька,
Я к табе прылятаць буду,
Я на цябе кукаваць буду.
Плакала дзевіца,
Ад мамкі ад'язджаючы:
— Мамачка мая родная,
Не ўмірай ты скоранька.
Я к табе прыязджаць буду,
Я ў цябе начаваць буду.
Я ў цябе паснедаю,
Я цябе адведаю.

226. Цякла рэчанька, цякла быстрая,
З крыніцы ды ў азёра,
Плачаць Гэлечка, плачаць маладая,
Ад рання да вячора,
А за ёй, за ёй радзона матуля,
Плачачы, галосячы:
— Чаго, Гэлечка, чаго, малада,
Так жалосненька плачаш,
Да стала прылягаеш?
Чы ты, Гэлечка, чы ты, млода,
Ліхую свякроў чуеш?
— А чы ліхую, чы не ліхую,
Не будзе над родную, над матулю.
У матулі была — як ружа цвіла
На спевах, на музыках,
А замуж пайшла — як трава звяла
На плётках, на языках.

227. Кавала зазулька, кавала,
Дай на гардочку стоячы:
— Я цябе, гардочку, пакіну,

Дай на чужыну палену.
Там я гардочка не маю,
Там я пташачак не знаю,
Аднаго саколя пазнала,
То я да ёго прыстала.
Плакала Манечка, плакала,
У сваго баценька жывучы:
— Я цябе, баценьку, пакіну,
Дай на чужыну паеду,
Там я родачку не маю,
Там я нікога не знаю,
Аднаго Колечку пазнала
Дай да ёго прыстала.

228. — Не плач, Зіначка, свякроўкі не бойся,
Калі будзеш раненька ўставаць,
Калі будзеш яе мамачкай называць,
Будзе цябе і свякроўка шанаваць.
— А я плачу, не свякроўкі баюся,
А што з вамі, падружкі, расстаюся,
Што не буду я ўжо вольнай пташачкай,
Што ніхто не назаве дачушачкай.
Назавуць мяне цяпер нявесткаю,
Што ніхто не назавець сястрыцаю,
Назавуць мяне цяпер залоўкаю.

229. Да не плач, мая ягадка,
Да не сам я цябе злюбіў,
Да мне бог цябе судзіў,
Прачыстая маці
Да вялела мне цябе ўзяці.

230. — Не плач, Мар'ечка, не рыдай,
Павязём цябе за Дунай.
— Я ж таго Дунаю не знаю.
— Ціхенькі Дунай — Іванька,
Быстрая рэчушка — Мар'ечка.

231. — Не плач, дзяўчына, мы не будзем браці,
Трэба было ў пагоню валоў не гняці.

— Я ў пагоню валоў не ганіла,
Маладога хлопца даўно палюбіла.

232. Не плач, дзевачка, не плач,
Свайго лічыка не траць,
Сама замуж захацела,
Бацькава роскаш надаела.
Бацькаў хлеб чамяром здаўся,
Мамачцын — чамярыцаю,
Захацела быць маладзіцаю. 2

233. Дзевачкі мае, сястрыцы,
Не шкадуйце Марылькі,
Сама замуж захацела,
Мамчына роскаш надаела.
Мамчын хлеб палыном здаўся,
Свякроўчын — медавіцаю,
Абернецца чамярыцаю.

234. Маладзенька Марыля,
Не кажы ні на кога —
Сама замуж захацела,
Бо бацькава роскаш даела,
Бацькаў хлеб палыном горкі,
А маткін — гарчыцай,
Васількаў — сітніцай.

235. Не плач, не плач, наша сястрыца, ты пры нас,
Наплачашся, наша родная, ты без нас.
А як пойдзеш у чужое поле жыта жаць,
А я буду ў крынічанькі ваду браць.
Я запяю, а ты заплачаш слязою,
Ці сойдуцца нашы галаскі з табою.

236. Стаіць яблынька раскінуўшысь — некаму падвязаці,
Ляжаць яблычкі раскатаўшысь — некаму падабраці,
Стаіць Адарка расплакаўшысь — некаму сунімаці.
Каля яе Іван стаіць, ён яе сунімае.
— Адыдзі ад мяне, не сунімеш мяне.

Е ў бярозкі тонкія розгі, тыя мяне сунімаць будуць,
Свёкарка няродны татка, свякрухна няродная маці,
я іх не баюся,
Пайду і к свайму таткі — слязьмі абальюся.

237. Серая зязюлька лятала, кукавала,
Як села ў сенажаці, стала горы кукаваці.
А гдзе браўся саколе, стаў яе ўнімаці:
— Не кукуй, мая зязюлька, не кукуй, мая серая,
Да не будзе так, як ў лецечку было:
Да штодзень пры крыніцы, пры студзёнай вадзіцы.
Маладая Марылька хадзіла, усё плакала.
Як села на пасадзе, стала горы плакаці,
А дзе браўся Пятрочка, стаў яе ўнімаці:
— Не плач, мая Марылька, не плач, маладая,
Да не будзе так, як у матульки было:
Да штодзень у вяночку, ў дзявоцкім станочку,
У дзявоцкім карагодзе і як мак на пагодзе.

238. — Не стой, каліна, блізка дарогі,
Нападуць на цябе снегі, марозы.
— Няхай нападаюць, я й не баюся,
Сухэ голля маю да й атрасуся.
— Не плач, дзеванька, у баценька свога,
Шчэ наплачашся ў свёкра чужога.

239. Не куй, зазюлька, у чыстым полі,
Накуешся сабе ў зялёнай дубраве,
На голлечку паскакаючы,
Дробну расіцу атрасаючы.
Не плач, Домінка, у сваго баценька,
Наплачашся сабе яшчэ ў чужога,
На яго возік насядаючы,
На яго падвор'е наязжаючы,
На яго парогі наступаючы,
На яго застолле засядаючы,
Яго хлеба і солі зажываючы.

240. Не куй, зазулька, ў чысценькім полі,
Накуешся сабе ў зялёнай дуброве.
На зялёну дуброву налятаючы,

К травіцы зялёнай галоўку прыкладаючы.
Не плач, Матронка, у сваго бащенька,
Наплачашся да чужога ідучы,
На яго парогі наступаючы
І яго нравы пераніма ючы.
Чужому бацэньку ні ў чом не ўгодзіш,
Ні ў работанькі, ні ў паходанькі.
Пойдзеш хуценька — скажуць, хвастліва,
Пойдзеш памалу — скажуць, ляніва,
Спусціш вачыма — скажуць, драмліва.

241. У вішнёвым садочку
Там зязюлька кукуе.
Салавей тое чуе,
Зязюльку жалуе.
— Зязюлька прэкрасная,
Не кукуй напраснае.
Тады будзеш кукаваці,
Як будуць дзеткі браці.
Да ў новай святліцы,
За цясовенькім столікам
Маруська сільна плача.
Ванечка тое чуе,
Маруську жалуе.
— Марусечка няшчасная,
Ды не плач напраснае,
Тады будзеш сільна плакаць,
З падвор'я з'язджаючы.
З падвор'я з'язджаючы,
Мамачку пакідаючы.
— Усе мае сястрыцы маленькія,
Мамачка старэнькая.
Хто ж яе будзе шанаваці,
З вадою сустракаці,
З вадою пад гарою,
З дрывамі на парозе?
Дай ёй пажыць, мілы божа.

242. — Не плач, дзеванька,
За мяне ідучы,
Наплачашся, маладзенька,
Са мною жывучы.

У мяне сені, хата
Да пілованая,
Будзеш слязьмі палівацi,
Па ёй ходзячы.
Будзе нагайка да ўгары лятацi,
Шаўкова кашуля к целу прылiпацi,
Буду твае русыя косы вырывацi.
— Каб мая доля добрая была б,
То б нагайка пад акном ляжала б,
Шаўкова кашуля к целу не ўліпала б.

243. Не плач, Гэлечка, замуж ідучы,
Вой напплачашся, замужам жывучы.
У яго каморы лапці, аборы,
У яго засекі да кіяў насеклі.
Усе ж тыя кія дубовенькія,
Да на твае плечы здаровенькія.

244. Не плач, Ганначка, замуж ідучы,
Будзеш плакаць, Ганначка, за ім жывучы,
Пад лаўкай наседзішся,
На мілага наглядзішся.
Дробных слёзак наронішся,
У бога смерці напросішся.

245. Не плач, не плач, млода Валечка, за сталом,
Бо наплачашся яшчэ за вуглом.
Ён жа табе вядзёрца вады прынясець,
Ён жа табе вадзіцай вочы заліець.
Ён жа табе бярэмца дроў прынясець,
Ён жа табе паленам грудзі адтрасець.

246. Зарыкала да кароўка
Ад стадачкі ідучы,
Заплакала Ганначка,
Ад мамачкі ідучы,
Зачуў-пачуў да Якаўка,
У лузе каней пасучы.
— Не плач, не плач да, Ганначка,

У журбу не ўкідайся,
Ужо тваё лічанька беленька,
Ад слёзак мокранька.

247. Не плач, Анька, ты мая,
За мной будзеш панаваць,
А я буду свінней пасвіць,
А ты будзеш заганяць.
А я буду лапці плесці,
Твае ножкі абуваць.
Будзеш спаць ты на пярыне
І накрыўшысь кажухом,
На дубовай кравіці,
На куце пад абразом.
Не плач, Анька, ты мая.

248. Не плач, нябога,
Што йдзеш за ёга.
Няхай плача ён,
Што бярэ ліха ў двор.
У хату разор, на качэргі разбой.
Ложкі, талеркі перамытыя будуць,
І твая яда, і твая хада
Перасуджаны будуць.
А ўжо ж твае вечарніцы
У свякрухі на паліцы.

249. — Ці не ты Праксэда?
— Няўжо ж хто.*
— Да чаму не плачаш?
— Ужо чаго?
Да няхай той плача,
Хто мяне бярэ.
Да няхай той скача,
Хто мяне аддаець.
Да няхай той плача,
Да не я.
Хто ж мяне бярэ,
Гультая.
Хто ж мяне бярэ.

* Кожныя два радкі, акрамя апошняга, паўтараюцца.

250. А не плач, Манечка, ні па чом,*
Будзе біць свякроўка таўкачом.
А ты ёй нічога не кажы —
Жалезную качаргу пакажы.

251. Не плач, не плач, наша Галінка, ні па чом,*
Сядзіць у цябе жаласнічак над плячом:
Ён за цябе ранюсенька ўстанець,
Ён за цябе лучынаньку запаліць.
Ён за цябе сені, хату падмяцець,
Ён за цябе дроў, вадзіцы наносіць,
Ён жа табе ў мамкі снедання папросіць.

252. Не плач, не плач, дзевачка, ні па чом,
Ёсцека зашчытнічак за плячом.
Ён табе дроўцаў насячэ,
Ён табе ў хатачку прынясе.
Ён за цябе вадзіцы прынясе,
Пад нос кулаком патрасе.
Ён маладзенькую жалее,
Ён цябе нагаечкай пагрэе.

253. Не плач, дзевачка, да не тужы,
Перабудзь дзянёчак, к нам прыбяжы,
Хаця наша падвор'е да патапчы,
Хаця нашу сямейку да развесялі,
Бо наша падвор'е скрамянела,
Наша сямейка смурнела.

254. Не шчабячы, гаголь,
Не люта зіма.
А хоць яна не люта —
Не будзець, як лета.
Не плач, Грыпіна,
Не ліха свякроў.
А хоць яна не ліха —
Не будзець, як матка:
Матушка паб'ець
Ды пажалеець,
Свякрова паб'ець,
На работу пашлець.

255. Не люта зіманька, не люта,*
Хоць яна не люта — не лета.
Не ліха свякруха, не ліха,
Хоць яна не ліха — не матка:
Яна раненька век збудзіць,
Выйшаўшы на вулку, абсудзіць.
— Негадзяй, нявеста, негадзяй,
За вадой яе не паслаць,
А з вадой яе не даждаць.
Там яна часочак прастаіць,
На мамкін дварок паглядзіць.
Там яна слёзкамі абаліецца,
Тонкім рукавом ўтрэцца,
Прыйшоўшы дамоў, смяецца.

256. Не люта зіма, не люта,
Але не будзець такая, як лета,
Хоць лялеець, да не грэець.
А няліха свякроў, няліха,
Да не будзець такая, як мамка,
Не будзець рана будзіці
Да пойдзець у людзі судзіці:
— Мая нявестка негадзяй,
Бел кужаль прала — драмала,
Красёнцы ткала — ірвала,
Па ваду пайшла — аблілася,
Па цяпло пайшла — абажглася,
А хлеб мясіла — увязла,
А ты, мая нявестка, не звязна.
Хату мяла кастрыва,
Ты, мая нявестка, пастыла.
А хлеб саджала — раняла,
Первую букатку пад лаўку,
А другую — пад загнет,
А трэцюю ўжо ў печ.

257. — Не гігай-ка, гусачок,
Невысока ж падляцеў!
— Хоць жа невысокенька,
Да спушчуся, разаб'юся!
— Не плач-ка, Кулінка,
Недалёка ідзеш ад маці!

— Хоць жа недалёчка,
Да не к сваёй мамцы!

258. Шэры гусь ляціць, крычыць.
— Не крычы, шэры гусь, недалёка ўляціш,
На чужое возера к чужым лябёдкам.
Чужыя лябёдкі — яны і б'юць і клююць,
Вады піць не даюць, з возера вон гоняць.
— Ай, не плач, княгінька, недалёка ідзеш,
К чужому бацюшке, і чужой матушке.
Чужы бацюшка не жалеець,
Чужая матушка неміласліва.

259. Не плач, не плач, Светачка, недалёка будзеш.
Увідзіш мамачку ў печы топячы,
Увідзіш татульку каня поячы,
Увідзіш братульку дровы рэжучы,
Увідзіш сястрыцу ваду носячы.

260. — Чаму, зязюлька, не кукавала,
Як сады расцвіталі?
Чаму, дзеванька, не плакала,
Як цябе заручалі?
— Каб я знала, каб я ведала,
Калі тыя заручыны.
Я ж думала: у скрыпкі йграюць,
Аж мяне заручаюць, 2
З матулькаю разлучаюць.
Я ж думала: вадзіцу п'юць,
Аж маю гарэлачку, 2
За мяне, паненачку.

261. — Чаму, зязюля, не кукавала,
Як цвяты расцвіталі?
Тады зязюля закукавала,
Як цвяты ападалі.
— Чаму, дзяўчыначка, ты не плакала
Як цябе заручалі?
Тады, дзяўчына, ты заплакала,
Як цябе абвянчалі.

— А я думала маладзенька,
Што са мной жартавалі,
А ж гэтыя жарты выйшлі напраўду
І праўда павянчалі.
Пашыла я плаццейка,
Я то не знасіла.
Тады насіла, красавалася,
Як у ім вянчалася.
Ад вянца дамоў, плаццейка далоў,
Злажыла-палажыла.
Ай, ляжы, ляжы
Мне цябе не насіць,
Мне ўжо дзевачкай не быць.

262. Ой, у гародзе ды па пагодзе
Канапелька стаяла.
А на канапельцы, на зялёненькай
Зязюля кукавала.
— Чаму, зязюля, не кукавала,
Як сады зацвіталі?
Тады зязюля закукавала,
Як цвісці перасталі.
— Чаму, Манечка, не плакала,
Як цябе заручалі?
— Як заручалі, то казалі,
Што будзем шанаваці.
А як заручалі, то й пабудзілі
У поле валы гнаці.

263. — Чаму, салаўі, не зашчабяталі,
Як сады зацвіталі?
— Мы думалі сівенькія,
Што сняжкі бяленькія.
— Чаму, дзеванька, не плакала,
Як цябе запівалі?
— А я думала маладзенькая,
Што з мяне жартавалі.
Аж тыя жарты дайшлі да праўды,
У нядзеленьку рана, у нядзелю рана
Да ручанькі звязалі,
Ды ўсю праўду сказалі.
— Ой, вяжы, вяжы, родны ойчанька,

Да з кім воленьку маеш.
— Ой, скажы, скажы, родна дзіцятка,
Каго верна кахаеш.
— Ой, яшчэ, яшчэ, родны ойчанька,
Нікога не любіла.
Каб яшчэ гадок, каб яшчэ другі,
Дзеўкаю пахадзіла.
Дзеўкаю быўшы, дзеўкаю быўшы,
Людская размованька,
Замуж пашэдшы, замуж пашэдшы,
Бедная галованька.

264. Аддайце, не бойцеся, каяцца не будзеце.
У вас была — пястушачка,
У нас будзе — пастушачка,
У вас была — чытаць, пісаць,
У нас будзе — свінням мяшаць.

265. Аддавайце, не бойцеся,
У нас маладухам добра:
У печы свінні рыюць, 2
Кошкі лыжкі мыюць,
Дзевяраткі таўкуць, мелюць, 2
Заловіцы прадуць, беляць.
Аддавайце, не бойцеся,
У нас маладухам добра.

266. — А не плач, братовачка,
Забаліць галовачка.
Табе ў нас добра будзе,
Табе ў нас палепшае, 2
Работкі паменшае:
А ветры хату мятуць,
А дажджы лаўкі мыюць,
А снягі сталы крыюць.
— А заловачка мая,
А няпраўдачка твая:
Не памяці — не мяцёна,
Не памый — не памыта,
Не накрый — не накрыта.

267. Ой ты, Оленька, не плач, не плач,*
У нас паншчыны нямаш, нямаш.
У нас з-пад печы вада цячэ,
А ў нас ступа сама таўчэ,
А ў нас жорна самі мелюць,
А ў нас кошка лыжкі мые,
А ў нас певень хату мяце.

268. Не плач, братовая,
У нас усё гатовае:
Кошка лыжкі намые,
Сняжок хатку пакрые,
Сучка дроў прынясе,
А мамка ў печ пакладзе.

269. Не плач, чужаземачка,
У нас табе лепей будзе,
У нас работкі не будзе.
У нас месяц дзяжу месіць,
Зорачка ў дзяжу свеціць,
Слонейка пірагі пячэ,
Дробны дожджык лаўкі мые,
Буйны ветрык сені мяце,
Павары есці вараць,
Кухцікі паліваюць,
Салавей на стол носіць,
Вутачка гасцей просіць,
Чарачка на стале скача,
Чужаземачка па касе плача.

270. Ды не бядуй, дзевачка,
У нас табе добра будзе:
Праз сцяну вада цячэ,
Ліcіца бліны пячэ, 2
А зайчык дровы сячэ, 2
А ветрык хату мяце, 2
А дожджык лыжкі мые,
Вароны есці вараць,
Сарокі наліваюць,
Сініцы на стол носяць,
Перапёлкі гасцей просяць.

271. Ты не плач, чужаземачка,
У нас табе добра будзе.
У нас мядзведзь на хлеб меле,
А лісіца расчыняе,
Месячык да дзяжу месіць,
Сонейка пірагі пячэ,
З Дунаю да вада цячэ,
З Дунаю да з возера,
З віннага да калодзежа.

272. Не плач, Галечка маладая, не плач,
У нас добра.
А ў нас месяц дзяжу месіць,
І ўсё добра.*
А ў нас вецер хату мяцець,
А ў нас сонца хату грэець,
А ў нас вароны мыюць балоны,
А ў нас галачкі мыюць лавачкі,
А ў нас кошкі мыюць ложкі.

273. У каморы за дзвярмі **
Плача дзеванька вельмі.
Ой, пайдзіце, прывядзіце,
Каля нас пасадзіце.
Мы ж яе развважымо,
Мы ж ёй раскажымо,
Каб яна не плакала,
Усё ж была адзінакава.
Каб яна не тужыла,
А сэрца не сушыла.

274. Не плач, дзевачка,
У нас добра будзе,
Мы ж не чужыя,
Усе свае людзі.
Калодзеж на дварэ,
А вядро на ключы,
Да будзеш спяваці,

---

* Рэфрэн «І ўсё добра» паўтараецца пасля кожнага наступнага радка.

Па вадзіцу ідучы.
Ты возьмеш за ключку,
Я вазьму за ручку,
Адгарнем вадзіцы ў два вядзерцы,
Штоб было мамцы чым абед варыці.

275. Да не плач, Аленачка, не тужы,
Не папала ў хлеб, да ў каржы.
У нас дзела не робяць,
Да харашэнька ходзяць.
Свінні ў сарафане
Ходзяць, як пані,
Кошка па палічках
Скача ў рукавічках,
А сучка ў панчошках
Ходзіць па начосках.

276. Не журыся, Анечка,
У нас табе будзе добра: 2
Буйны вецер сені мяце,
А сонейка пірагі пячэ,
А свякроўка абеду наварыць,
Цябе маладзеньку пасадзіць.
Ты молада да й сядзецімеш,
На тэ дзіва да й глядзецімеш.
На тэ дзіва-дзівавайненька,
Да й на гэта спадзявайненька.

277. Сабірайся, Анечка, 2
У нас табе добра будзе: 3
Вецер хату мяце, 3
Сонейка піражкі пячэ,
А свякруха да й абед варыць 2
Да нявехначку хваліць:
— Ой, што ў мяне за нявехна, 2
Ой, ручая і рабочая 3
І к дзелу ахвочая.
Сонца не зойдзе — ляжа, 2
Сонца ўзойдзе — устала.

278. Не журыся, Леначка,
У нас табе добра будзе.
У нас дзела да не рабіці,
Да па полі хадзіці, 2
Верабейкі ганіці.
Шугі, шугі, верабеюшкі,
Свякрушыны канапелюшкі.

279. Ці плач, Ганначка, ці не плач —
Мы ж цябе бяром не гуляць:
На лецечко — жыцейко жаць,
На зімачку — плацечко праць.

280. За новаю святліцаю
Братавая з залвіцаю.
Братавая сільна плача,
Залоўка разважае:
— Не плач, мая братавачка,
Будзе балець галовачка.
Мая мамка неліхая:
Раненька ўставае,
Куры пяюць — печы пале,
А зарэ — абедае.
Сонца ўсходзе — на поле ідзе,
Па сем коп нажынае.

281. Залвіца па сенях ходзіць,
Братавую хораша просіць:
— Не плач, не плач, мая братавая,
Мая матачка да неліхая:
Ой, рана не будзе будзіці,
А ў суседа не будзе судзіці.
Позненька пабуджаць будзе,
Што не ўмецімеш навучаць будзе.

282. Не плач, братовачка,
Будзець балець галовачка.*
Было табе тады плакаць,
Як ішлі цябе сватаць.

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Было плакаць у нядзелечку,
Як пілі гарэлачку,
Як пяялі барэлачку.

283. — Пакінь, пакінь, братовачка, жалеці,
Будзець табе галовачка балеці.
Было табе па кірмашыках не хадзіць,
Было табе майго брацеткі не звадзіць.
Было табе віна-мёду не піці,
Было табе з майго брацеткі не кпіці.
Было не есці абараначкаў, што ў мяду,
Было не казаці брацетку, што пайду.
— Я ж хадзіла па кірмашыках не з-за яго,
Я звадзіла другіх хлопчыкаў, не яго.
Я ж ад яго абараначкаў не ела,
Я ж ад яго заметачак не мела.

284. За новаю святліцаю
Братавая з залвіцаю.
— Не хацела ж бы я ні піць, ні есці,
Пусціце мяне із залавіцаю сесці.
Із залавіцаю сесці дай пагаварыці,
Братніх нораваў у яе спрасіці.
— Братавая мая, родная мая,
Братнія норавы сцеражы голавы.
Як брат за пруточак,
Дык ты ў куточак.
Як брат за вяроўку,
Дык ты ў каморку.
Як брат за розачкі,
Дык ты ў слёзачкі.

285. З намі, з намі, Людачка,
Бо ў нас дзела само робіцца:
Мяцель хату сама мяце,
А мядзведзь воду нясе,
Месяц пірагі месіць,
Ранняя зара ў печ саджае,
А позняя — выбірае.

286. З намі, дзевачка, з намі,
З намі — сватамі.
У нас дзело не робяць,
Ды харашэнько ходзяць.
У нас дзело котка паробіць:
Хвосцікам хатку мяце,
А лапкамі дроўцы нясе.
А вадзіца сама цячэ,
А каваня яйцо знясе,
А памяло закудахтае,
Ну, а ступа ажарэбіцца,
Калі проса нацярэбіцца.

287. Да нас, дзеўкі, да нас,
У нас паншчыны няма, 2
Не рабіцімем штодня.
У нас вецер да муку меле,
А сонейка пірагі пячэ.
А вадзіца да сама цячэ.
У нас мука да пшанічная,
А вадзіца да крынічная.

288. З намі, дзеўкі, з намі,
У маляваныя сані,
Сані нашы маляваныя,
Коні нашы гадаваныя,
Малойчыкі выбіраныя.
Коні нашы стаеныя,
Збруюнька раменная,
Малойчыкі пісьменныя.

289. Запяяў салавейка пры бару, пры даліне,
Пры вялікай крушыне.
— Дам жа табе, салавейку, клетачку новую,
Дам жа табе, салавейку, жану маладую.
— Не нада ж мне, салавейку, клетачкі новай,
Не нада ж мне, салавейку, жаны маладой.
Лепей мне, салавейку, па волі лятаць.
Палячу я, салавейка, у зялёныя лугі,
Да сяду, салавейка, ў калінавым кусце,

Да саўю, салавейка, цёплае гняздзечка,
Да знясу, салавейка, сабе тры яечка,
Высяджу, салавейка, маленькіх дзетак,
Палячу, салавейка, шчырымі барамі,
Шчырымі барамі, цёмнымі лясамі.
Заплакала дзевачка гарачымі слязамі.

290. Маладая дзеванька
Па садочку хадзіла,
Цвет з каліны ламала
Да лічанька румнала,
З бацейькам размаўляла:
— Ой, мой бацейька родны,
Чы я буду такая,
Як каліначка гэта?
— Ой, будзеш, дзіце, будзеш,
Пакуль ты ў мяне будзеш,
Як пойдзеш да свёкарка,
То спадзе з лічка краса,
Як ад сонейка раса,
Збялее тваё лічка,
Як у саду яблычка.
Абсядуць цябе дзеці,
Як каліначку кветі.
Высушаць галаваньку,
Як вецер дуброваньку,
А мароз далінаньку,
А дзеткі галаваньку.

291. Там, пад лесам, сцежачка,
Цераз бор дарожанька.
Там Манечка хадзіла,
Цвет каліны ламала, 2
Ў пучочкі вязала,
Перад бацечкам клала,
У бацечкі пытала:
— Ці буду я такая,
Як каліна сухая.
— Ой, будзеш, Манечка, будзеш,
Як ад мяне адойдзеш.
Як ліпанька завянеш
І спадзе з лічка краса,

Як ад сонейка раса.
Паліюцца слёзачкі,
Як вясной сок бярозачкі.

292. Чырвоная каліна
За куст пахілёна,
Дзе дзяўчына гуляла,
Цвет каліны ламала,
У пучочкі вязала,
К сабе маманьку звала:
— Маці мая старая,
Ці буду я такая,
Як каліна жаркая?
— Будзеш, донечка, будзеш,
Покуль у мяне будзеш,
А як пойдзеш ад мяне,
Спадзе красанька з цябе.
Спадзе з каліны раса,
З цябе, донечка, краса.
Мінецца гулянейка,
Ранняе сняданейка,
Вячэранька ціхая,
Свякрованька ліхая.
Свякроў нявехну лае,
Па ваду пасылае:
— Ідзі, нявехна, па ваду
Да халоднага броду.
На камяні стаяла,
Няпоўнае вядро брала,
Слёзкамі далівала
Да й прынесла дадому,
Паставіла на долу:
— На табе, маці, вада
З халоднага брада,
Ворагам сухота!

293. Пайшла дзеўка хусця мыці
І з яварам гаварыці:
— Цяпер, явар, ты зялёны,
Цяпер, явар, ты харош.
А як прыйдзе на цябе мароз,
Буйны вецер, дробны дождж,

Тваё лісцейка абарве.
Тваё лісцейка пажане.
— Цяпер, дзеўка, малада,
Цяпер, дзеўка, хараша.
А як пойдзеш ты замуж,
Будзе ліхі ды твой муж,
Тваю коску абарве,
Твае слёзанькі разальe.
— Каб ты, явар, не даждаў,
Як усю праўду расказаў.
А я маю два браця,
Вялю явар рубаці,
Будзем скрыпку спраўляці.
Як скрыпачка зайграе,
Та ўсё гора пазнае.

294. Ды стаяў явор зялёны,*
Ды стаяў явор бахматы,
Каля явора сцежачкі,
Ды там хадзілі дзевачкі,
Ды да явора гукалі:
— Ды цяпер явор зялёны,
Ды цяпер явор бахматы,
Ды як настануць марозы,
Ды як настануць лютыя,
Тваё лісцейка размяцець,
Тваё веццейка паломіць.
Ды явор дзеўкам адказаў:
— Ды цяпер дзеўкі прыгожы,
Ды як будзеце мужаў мець,
Прападзець ваша красата,
Нападзець на вас сухата.

295. Ой, жарка, жарка, калінка ў лузе.*
Няхай марозік, няхай марозік ночку пабудзе,
Палавіну яе жаркасці адбудзе.
Харошая дзевачка Маруся ў сваёй мамачкі,
Хай гадочак, хай гадочак замужам пабудзе,
Палавіну яе красаты адбудзе.
Ліцо пабялее, коска патанее,
Ручкам пацяжэе, ручкам пацяжэе, ножкі пацішэюць.
Там Марусі таго не будзе,

Чужая мамачка, чужая мамачка шкадавацъ не будзе.
Не будзе шкадаваці, не будзе шкадаваці чужая маці,
Будзе да работы, будзе да работы рана пабуджаці.

296. А зелен кудраў дубочак.
Чаго яму зеляному не быць?
Яшчэ марозы не былі.
Няхай-ка марозы пабудуць,
Палова лісту адбудзець,
Больш хворасту прыбудзець.
Красна-хараша Варутка,
Яшчэ ў людзёх не была.
Няхай-ка ў людзёх пабудзіць,
Палова красы адбудзіць,
Больш клопатаў прыбудзіць:
Першыя клопаты — штаны шыць,
Другія клопаты — пасцелю слаць,
А трэція клопаты — з мужам спаць.

297. А чорна, чорна смародзіна, рана, рана,*
Яна б яшчэ чарней была,
Каб болі ў полі пастаяла.
А красна, красна Настачка,
Яна б яшчэ красней была,
Каб болі ў таткі пагуляла.

298. Шалвею пад вішанькаю,
Шалвею пад чорнаю.
Вішанька ад сонца красна,
Дзеванька ад бацькі слаўна.
Слаўна была, як ў бацькі была,
Слаўнейша ў свёкаркі будзе:
Бацькавай раскошы забудзе,
Свякроўкавай бяды зажые.

299. А што лучына, а што кручына не ярка гарэла?
Печы не бывала, агня не відала.
Печы пабудзіць, жарчэй гарэць будзець.

---

* Рэфрэн «рана, рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Дзевунька Ганна ў людзёх не бывала,
У людзёх не бывала, дзіва не відала.
Большы пабудзець, большы чаго ўвідзіць.

300. Знаці-пазнаці каліну ў саду.
Расце нізенька, а цвіце бяленька.
Цвіце бяленька — ягадкі чырвоны,
Знаці-пазнаці маладую ў хаце.
Па плячах косы, па лічыку слёзы.
На руцэ ручнічок тонкі-бяленькі,
Тонкі-бяленькі — слёзак паўненькі.
А як яшчэ пойдзе тай да чужога,
Да свёкра строгага і немілога,
То яшчэ будзе тоньшы-бялейшы,
Тоньшы-бялейшы — слёзак паўнейшы.

301. Есць у мяне косачка па пяту,
Я ў яе касьнічок запляту.
Прадам яе з касьнічком за шастак,
Бела маё лічайка пайшло й так.
Бела маё лічайка ў атца,
Ці такое будзе ў малайца.
Часта па ваду ходзячы,
Цяжкае дзела робячы.
Прынясу вадзічкі — пастаўлю,
А памыю лыжачкі — палажу,
Дый лютай свякроўцы не ўгаджу.

302. На моры вутачка купалася,*
Пер'ю свайму беламу дзівавалася:
— Пер'е маё белае, бяленькае.
Ці будзеш такое, як на моры было?
Пераляціш на азёры — пераменішся,
Пер'е маё белае зачарнеецца.
У каморы Лёлечка вымывалася.
Ліцу свайму беламу дзівавалася:
— Ліцо маё белае, бяленькае,
Ці будзеш такое, як у мамкі было?
Пераедзеш к свякроўцы — пераменішся,
Ліцо маё белае зачарнеецца.

303. Да хадзіла дзевачка паміж гор,
Выбірала дружачкі на выбор.
Пасадзіла дружачкі высока,
Сама села маладзенька вышай іх,
Думала, гадала болей за іх:
— Белы мае ручанькі да ў маткі,
Да ці будуць белыя ў свякраткі?
Белы ж мае ручанькі і ў войца,
Да ці ж будуць белыя і ў малойца?
Да будуць рэчанькі лялеці,
Да будуць мае ручанькі бялеці.

304. Сядзела Раечка за сталом,*
Паклаўшы ручачкі на стале:
— Белыя ручачкі ў мамулькі,
Ці будуць такія ў свякроўкі,
Ячмень-шасцярэнь таўкучы,
Сырую пшоначку мелючы,
З узгор'я вадзіцу носячы,
Ліхой свякроўцы годзячы?
Я к свайму гору прагадаю,
Ячмень-шасцярэнь прапалю,
Сырую пшоначку падсушу,
З узгор'я вадзіцы прынясу,
Ліхой свякроўцы ўгаджу.

305. Села дзевачка за сталом,
Паклала ручачкі на стале:
— Ручачкі мае белыя,
Ці будзеце такія ў свякроўкі,
Як у родненькай мамачкі,
Ячмень-шасцярэнь таўкучы,
Сырую пшанічку мелючы,
Пад гару вадзічку носячы,
Па разоры волікі пасучы?
Як пачуў да гэта малойчык:
— Не бядуй, дзевачка, не бядуй,
Ячмень-шасцярэнь сам стаўку,
Сырую пшанічку сам змялю,
Пад гару вадзічкі прынясу,
Па разоры волікі напасу.

306. Сядзела Ганначка, сядзела,
На белыя ручкі глядзела:
— Белыя ручкі ў мамачкі,
Ці будзеце такія ў свякроўкі,
Чорную нявею веючы,
Сырую пшанічку мелючы?
Адазваўся міленькі малады:
— Не турбуй, Ганначка, галавы,
Чорную нявею перавею,
Сырую пшанічку падсушу
І ў млынок зважу,
Я табе работанькі надмяньшу,
На вулку гуляці не пушчу.

307. Ой, малада дзевачка, малада,
Да сядзіць за сталом, не плача.
Як села ўчора з вечара,
Паклала ручачкі ў прыполі, 2
Спусціла косачкі да зямлі:
— Белы мае ручачкі ў мамачкі,
Да ці будуць белыя ў свякроўкі,
Да пуховы ячмень таўкучы,
Сыру пшаніцу мелючы.
Ой, зачуў дзяцінка едучы:
— Не гаруйся, дзевачка малада,
Я пуховы ячмень сам стаўку,
Я сыру пшаніцу сам змялю, 2
Белы тває ручачкі адмяню.

308. — Як табе, мамачка, не цяжка,
Ці тваё сэрданька не кроіць,
Што тваё дзіцятка не гаворыць.
— Да ўчора звечара гаварыла,
А сягодня раненька схмурнела
І спусціла вочачкі да долу,
Палажыла ручанькі к прыполу:
— Белы мае ручачкі ў таткі,
Да ці будуць белыя ў свякраткі?
— Калі сама будзеш добрая,
Будуць тває ручанькі белыя,
А калі будзеш якава,
Будуць тває ручанькі, як ралля.

309. Як табе, мая матка, жаль не жаль,
Як тваё сэрца ні кане,
Што тваё дзіцятка ні згляне.
Як села ўчора звячора,
Сядзіць сягоння да тае пары,
Спусціўшы вочкі да зямлі,
Палажыўшы ручкі на скам'і:
— Беленькія мае ручкі, беленькія,
Ці будзеце вы беленькія ў свякроўкі?
Як я ў маткі была, то я час мела
Беленька ручкі вымываці,
Засталася да свякроўкі,
Стала слёзкамі паліваці.

310. Кукавала зязюлечка ў садочку,
Прылажыўшы галовачку к лісточку:
— Садочак мой зялёненькі, як я тут,
А ці будзеш зялёненькі, як я палячу?
Плакала мая дзевачка ў святліцы,
Прылажыўшы галовачку к стальніцы,
На свае белыя ручкі гледзячы:
— Ручкі мае беленькія ў матулькі,
Ці будзеце такія беленькія ў свякроўкі?
Свякроўчына вадзічка не бела,
Яна ж мае белыя ручкі паела,
Залатыя пярсцёначкі паржавелі.

311. Закукавала шэра зязюля ў садочку,
Прыклаўшы буйну галоўку к лісточку:
— Ты, лісточак, ты зялёны да ты мой!
Ці будзеш зімой зялёны, як у леце?
— Хоць я буду на ўслонейку стаяці —
Я ж не буду зімой зялёны, як у леце:
Будуць мяне буйныя ветры збіваці,
Будуць мяне злыя марозы з'ядаці!
Тады заплакала малада Мальвінка за сталом,
Прыклаўшы беленькія рукі к століку:
— Вы, ручанькі, вы, белыя, вы мае,
Ці будзеце ў свякроўкі белыя, як цяпер?
Хоць я буду ранюсенька ўставаці —
Некалі будзе гладка галоўкі ўчасаці,
Некалі будзе беленькіх ручак умываці,

Будуць мяне бліжнія суседкі гудзіць:
— Лянівая, драмлівая Мальвінка!

312. Зашчабятала ластачка
На тычынцы седзячы, 2
На сваё крыллё гледзячы:
— Крыллё маё чарненькае,
Ці будзеш ты гарненькае?
Заплакала Волечка,
За столікам седзячы, 2
На свае ручкі гледзячы:
— Ручкі мае бяленькія,
Ці будзеце ў свякратка такенькія?
— Як будзеш нявестка дабрэнькая,
Будуць тване ручкі бяленькія.
Як будзеш нявестка якава,
Будуць тване ручкі, як зямля.

313. Зборная нядзеля настала,
Верачка падружкі сабрала.
І пасадавіла радамі па-за цясовымі сталамі,
А сама села межы іх,
Паклала ручанькі на стол:
— Ой, ручкі мае бяленькі,
Чы будзеце ў свякарка такенькі?
Пачуў усё гэта свёкарка.
— Уставай, нявеста, раненька,
Бяжы па вадзіцу хуценька,
Мый свае ручанькі бяленька,
Ідзі не да цяжкай работы:
Сырую пшаніцу малоці.

314. Прыехала дзевачка з-пад вянца
Да выняла ручанькі з рукаўца:
— Белы мае ручанькі ў пана айца,
Ці будуць так белы ў малайца?
— Як будзе ён ручанькі лялеці,
Будуць тване ручанькі бялеці.
Да будзе ён ручанькі лелявaці
Да тване ручанькі вымываці.

2

315. Ой, сы гор на падол да ручэй цякець,
У тым ручаі Хадоска ручкі мыла,
Мыючы ручанькі, прыгаварвала:
— Ці будзеце, ручанькі, ўсягда бяленькі,
Залатыя пярсцёнкі, ўсягда ясненькі?
— Калі будзеш, Хадосачка, ўсягда дабрэнька,
Будзем мы, ручанькі, ўсягда бяленькі,
Залатыя пярсцёнкі, ўсягда ясненькі.

316. З гары на гару руччы льюцца,
Там наша Ганначка рукі мыла,
Мыўшы ручанькі, гаварыла:
— Мыйцеся, ручанькі, бялёшанька,
Ясніціся, пярсцёшанькі, яснёшанька,
Пойдзеце, ручанькі, у чужыя людзінькі,
Будзеце, ручанькі, талоч, малоць, ваду насіць.
Белыя ручанькі замыюцца,
Ясныя пярснёшанькі пагбаюцца.

317. Ох, за гарою, за камяною,
Калодзеж з вадою.
Там дзевачка ручачкі мыла,
З мамкай гаварыла:
— Твае, мамка, ручкі белыя,
А мае яшчэ бялейшыя,
Твае, мамка, слёзы дробныя,
А мае яшчэ драбнейшыя.

318. —Міжы гор-горушак
Ты выйдзі, Рыпінка, памый ручкі.
— Мае так ручанькі бялёшанькі,
А ці будуць белы ў свякрованькі.
Як чорнага парабляю, як сырой пшаніцы памяляю?
— Не клапаціcь аб нашай рабоце,
На чорну работу людзей наймём,
Сырую пшаніцу на пруд звязём.

319. Палажыла белу руку на заруку:
— Ручка мая бяленька ў баценька,
Не будзе така ў свёкарка.

Свёкарка да не баценька, да не пабудзіць,
Толькі пойдзе да суседак та й асудзіць,
Што ў мяне нявехна не донечка,
Спіць яна малада да сонечка.
Свякруха чарэдачку праганяе,
А нявехна камораньку прачыняе.

320. Сядзела дзевачка за сталом,
Паклаўшы ручанькі на стале.
— Белы мае ручанькі, бяленькі,
А каму вы будзеце міленькі?
Старому-малому, бронь, божа,
А Колечку дай, божа,
Старому-малому піць падаць,
А Колечку пасцель слаць.

321. Я й над ракою стаяла
Белы й ручанькі ўмывала:
— Ручанькі мае белыя,
Каму ж вы будзеце верныя?
Калі старому, бронь, божа,
Калі малому, крый, божа,
Калі параўні, дай, божа!
За старым дзедам — жабраваці,
А за малым — гараваці,
А за параўні — панаваці.

322. У нядзелю раненька слонейка іграла,
Млода Анечка вадзіцу брала,
Над ёй зязюля закукавала,
Закукавала, праўду сказала:
— Не ідзі, Анечка, у чужыя людзі,
Там табе, Аня, добра не будзе.
Чужая маці будзіць не будзе,
Выйдзе на вулку, судзіць будзе:
— Мая нявестка вельмі ляніва,
Раненька ляжа, позненька ўстане.

323. Будзе табе, дзевачка, вялікае гора,
Вялікае гора *.
Будзе цябе свякроўка раненька будзіці,
Ты раненька ўстанеш, на соўнейка глянеш,

* Другая частка кожнага радка паўтараецца.

Возьмеш вядзерца, пойдзеш за вадою,
А твой жа суджанька пойдзе за табою,
Ён вядзерца зніме, цябе абніме,
Як ты будзеш плакаць — ён цябе суніме.

324. На возеры, ды на гібкай кладцы
Будзеш мыць кашулю ды няроднай маці.
Мыла, мыла ды перамыла,
Няродная матачка ды абгаварыла.
Сушыла, сушыла ды перасушыла,
Нямродная мамачка ўсё перасудзіла.
Качала, качала ды перакачала,
Нямродная мамачка ўсё перавурчала.
Будзеш варыць вячэру — не будзе смачненька,
Будзеш слаць пасцельку — не будзе мякненька.
Пасцелеш пасцельку, а яна не ляжа,
Будзеш пытаць работы, а яна не скажа.

325. Маладая дзевачка,
Падумай сама сябе,
Ці добра будзе табе?
Свякруха маладая
Уначы печы пале,
За зарой абедае,
Усю работу ведае.

326. А не спяшыся, не варашыся, Валечка,
Там цябе не мамачка пярэйміць,
А пярэйміць чужая мамка, не свая.
Яна цябе ранюсенька ўзбудзіць,
А выйдзіць на вулку, суседачкам абсудзіць.

327. Думай, думай, млода Гэлечка, што будзе,
Гэтак табе, як у мамачкі, не будзе.
У мамачкі сонца ў ваконцы — ты яшчэ спіш,
А ў свякроўкі трэба рана ўстаці, прыгадзіць.
У мамачкі скрыпкі зайграюць — ты бяжыш,
А ў свякроўкі толькі ў акенца паглядзіш,
Будзеш старацца, каб свякроўцы прыгадзіць.

Свякроўка няродная мамачка,
За цябе ўсю работачку не паробіць,
З вілкамі каля печы не пастаіць.

328. Чаго сядзіш, што думаеш, Верачка?
Гэта ж цябе ад мамачкі павязуць,
Гэта ж цябе да свякроўкі прывязуць.
А свякроўка роднай мамачкай не будзе,
Яна ж цябе раненька не пабудзе,
А выйшаўшы на вулачку, абсудзе:
— А нічога з маёй нявесткі не будзе:
Сонца не зойдзе — мая нявестка спаць ляжа,
Сонца ўзойдзе, а мая нявестка яшчэ спіць.
Пастыр трубе — мая нявестка не чуе,
У поле гоняць — мая нявестка яшчэ спіць.

329. Як я ў свайго бацюшкі гуляю, гуляю,
Як я ў свайго радзімага гуляць не ўнімаю.
Цяпер мяне сунімае чужая дзяціна,
Бадай яго сунімала ліхая гадзіна.
Цяпер мене не хадзіці, куды я хадзіла,
Цяпер мене не любіці, каго я любіла,
Цяпер трэба таго любіць і з кім ручачкі звяжуць,
Цяпер трэба туды хадзіць, куды людзі скажуць.

330. Падумай, Дунечка, ты сама сабе,*
Ці будзіць табе так, як дзеўкаю,
Ці пусцюць на вулку пагуляці.
Хоць пусцюць — не пусцюць, дык прыкажуць:
— Ай, йдзі, йдзі, Дунечка, а не забаўляйся,
На харошых-прыгожых а не заглядайся.
З харошым-прыгожым — час пастаяці,
З маладым Колечкам — век векаваці.
З харошым-прыгожым — час гаварыці,
З маладым Колечкам — век дажыці.

331. Падумай, Уленка, сама сабе,*
Ці будзець волінка, як у таткі была,
Ці будзець неганька, як у мамкі была,
Ці пусціць Васенька пагуляць?

Хоць пусціць, не пусціць ды не раненька.
— Ты ж ідзі, Уленка, не забаўляйся,
На маладых, красівых не заглядайся,
Пра мяне, малайца, не забывайся.
Прыхадзі, Уленка, пасцельку слаць,
Прыхадзі, Уленка, са мною спаць.

332. Падумай, Танечка, сама сабе,
Ці будуць гулюшкі як у мамулькі,
Ці будзець Іванька гуляць пускаць?
Хоць пусціць, дык позненька,
Карагод дзевачак разойдзецца,
Таўбунок мальчыкаў сабіраецца,
Іванька Танечцы наругаецца:
— А хоць стой, ці не стой,
Ні адзін не твой,
А хоць люб, ці нялюб,
Не брала шлюб.
А хоць міл, ці няміл,
А не жыць із ім.
Быць табе, моладзе,
Да са мною.

333. Падумай, Анечка, сама сабе,*
Ці будуць гулюшкі, як у маманькі,
Ці пойдзеш на вулку без спросу гуляць.
Хоць пойдзеш — не пойдзеш, папросішся,
Прыйшоўшы з вулачкі, паклонішся:
— Спасіба табе, Ванечка, што гуляць пусціў.
Я ж, малада, я ж, малада, нагулялася,
Напярод карагод праваджывала,
Шаўковай хустаю памахавала,
Залатым пярсцёнкам пабрязгавала.

334. Ты падумай сабе, ці не жаль табе, Марынка?*
Як была ў мамкі, куды хацела хадзіла,
А як станеш ў мілога свайго,
То ты тады, куды захочаш — не пойдзеш.
Дзевачкі пойдуць у чыста поле пяяці,
А ты ж будзеш калысачку люляці,
Дзевачкі пойдуць у чыста поле вянкі віць,
А ты ж будзеш за калысачкай слёзкі ліць.

335. Ці ты, дзяўчынка, замуж захацела?
Што ты замужам будзеш рабіці?
Ніўка вузкая — шаг праступіці,
Пойдзеш па вадзіцу ў чужую крыніцу,
Пусціш галасок на чужы лясок:
— Падай, мамачка, хоць хлеба кусок.
— Было табе, дзіцятка, бліжэй выбіраці,
А цяпер далёка хлеб падаваці.

336. Не спадзявайся, дзевачка, 2
Там табе добра не будзе.
Пойдзеш да скрыні,
Возьмеш мякіну,
Будзеш мякіну таўчы
Ды аладкі пячы,
А цыбулю смажыць
Ды аладкі мазаць.

337. Маладая наша дзеванька,
Да не тое да табе будзе,
Як у тваё роднай маткі.
Каморачку замыкаць будуць,
Хлеб табе выдзяляць будуць,
Ключыкі да хаваць будуць,
Ключыкі да на паліцы
Ад цябе да маладзіцы.

338. — Ах ты, вутачка-пераплывачка,
Ты цяпер на Дунаі,
Як будзеш плысці праз сіняе мора,
Там цябе невад зловя.
— Ах ты, дзевачка маладзенькая,
Ты цяпер у мамачкі,
А як пойдзеш да свякроўкі,
Там цябе гора знойдзе:
А ні шчэпачкі, ні лучыначкі,
Нечага запаліці,
А ні брацеткі, ні сястрыцы,
Няма з кім гаварыці.
— Пярсцёнкі мае залаценькія
Дарожку свяціць будуць,

Замочкі мае нутраненькія
Са мной гаварыць будуць.

339. — Вымываначка-купаваначка вутачка,
Вымывалася-купавалася на рацэ,
Не будзе табе такой выгоды на моры.
Буйныя ветры твае пер'ейкі разадзьмуць,
Буйныя волны твае крыллейкі абаб'юць.
Пяшчонніца-няжонніца Галечка,
Песцілася-няжнілася ў мамулькі,
Не будзе табе такой выгоды ў свякроўкі.
А там тваю хадку-работку асмяюць,
А там цябе гультаечкай назавуць.
Пойдзеш памалу — скажуць ляніва на цябе.
Пойдзеш пашыбчэй — скажуць хвасліва на цябе.

340. Ты, Ганначка, з гадоў выйшла, з сваіх лет,
Ты ідзеш да Васілька ў чорны хлеб.
А тое будзе, што і чорнага не будзе,
А тое стане, што і ніякага не стане.
Ты будзеш бегчы к роднай мамачцы вечарком,
Ды пальюцца дробныя слёзкі ручайком.
Мамка на ганку будзе ў цябе пытацца:
— А я казала: нечага замуж хватацца.

341. Думай, не думай, Манечка,
Табе тут добра не будзе, 3
Чорнага хлеба не будзе,
Ніякага хлеба не будзе.
А калі будзе — не ўрэжаш.
То свякроўка табе запячэ, 3
Манечка з хаты ўцячэ.
Свякроўка няродная маці, 2
Яна вас рана пабудзе, 2
Выйдзе на вулачку,
Судзіць будзе. 3

342. Не думай, мая Олечка,
Што ў нас добра будзе.*
Табе ў нас добра не будзе,

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Снедання ранняга не будзе.
Снеданне ў абеданне,
Абеданне ў вячэрачку,
А вячэрачка каля поўначы,
Як дзень белы да зълавіці.

343. — Куды, Ніначка, выбіраешся,
Так беленька вымываешся?
— Ой, мамачка, да ў чужыя людзі,
Ой, мамачка, там мне гора будзе:
Ой, там горы крамяністыя,
Ой, там свякроўкі наравістыя,
Бо яны мне норавы пакажуць,
Бо яны мне праўданькі не скажуць.
Самі селі да й вячэраці,
А мяне шлюць да й па воду ісці,
Ой, пакуль жа я вады прынясла,
То ўся мая вячэра прайшла.
Я пабрала ложкі-місачкі,
Я памыла і папратала,
Сама села да й заплакала:
— Ой, каб мая родна мамка знала,
То яна б мне естачкі прыслала.
Не месяцам, то зарніцаю,
Не брацейкам, то сястрыцаю.
А сястрыцы то й дома няма,
А брацейку то й убіла вайна.

344. Куды, Маня, сабіраешся,
Чаго бела адзяваешся?
Завязуць цябе ў чужыя людзі,
Там табе ўсё горачка будзе.
А там поле камяністае,
Там свякроўка наравістая.
Яна табе норавы пакажа,
Яна табе праўданькі не скажа.
Яна стане — не пахіліцца,
Слова скажа — не памыліцца.
А ты станеш — да й пахілішся,
Слова скажаш — да й памылішся.
Хлеба ўкроіш — яна скоса гляне,
Есці хочаш — аж сэрданька вяне.

Ах, каб твая мамка ведала,
Што ты сёння не абедала,
Што не можаш ты за стол сесці,
Прыслала б яна табе есці
Не месяцам, то зарніцаю,
Не браточкам, то сястрыцаю.

345. Сястра ў сястры дапытваецца:*
— Куды, сястра, сабіраешся,
Ці за горы камяністыя,
Ці да свякрові наравістай?
Я свякрові ўжо ўсе норавы знаю:
Што не скажаш, яна перакажаць.
Што не зробіш, яна пераробіць.
Як снедалі — я ў печы паліла,
Абедалі — па ваду хадзіла,
Вячэралі — карову даіла.
— Годзе табе карову даіць,
Ідзі ўжо да ложачкі мыць.
Я й памыла і папратала,
Адвярнулася да й заплакала.
Есці хачу, аж сэрданька вяне,
Вазьму хлеба — скоса гляне.
А каб мая родна маці ведала,
Што [redacted] яшчэ не абедала,
Яна б мне вячэрку прыслала,
Хоць месяцам, хоць зарніцаю,
Хоць брацікам, хоць сястрыцаю.
А брацікa ў доме нямае,
А сястрыца дарожку не знае.

346. — Маладая дзевачка,
Як ты там прывыкаць будзеш?
Там сям'я наравістая,
Там зямля каранiстая.
— Дзевачкі мае, сёстры,
Я сям'і наравіць буду,
Я зямлю караніць буду.
— Благой зямлі не ўкароніш,
Благой сям'і не ўнаровіш.
З кім сыдзешся — разыдзешся,
Слёзкамі аблiешся.

347. Маладая Анютка,
Куды ты ідзеш
Ды не ведаеш.
Там зямля камяніста
І сям'я наравіста.
Ты зямлі не ўкароніш
І сям'і не ўнаровіш.
Там дзевяры, як звяры,
Залвіцы, як ваўчыцы,
А свякроўка хужа воўка.

348. — Маладая Любачка,
А што ж табе здавалася,
Што ў наш бачок жадалася?
У нас поле гарыстае,
А суседзі наравістыя.
— Па полі хадзіці буду,
Суседзям наравіці буду.
— Па полі не находзішся,
А суседзям не нагодзішся.

349. — Маладая дзевачка,
Як ты ў нас прывыкаць будзеш?
У нас горы гарыстыя,
А нівачкі камяністыя,
Свякроўка ганарыстая.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Я поле капаць буду,
Каменне збіраць буду,
Свякроўцы гадзіць буду.

350. Ой, пойдзеш, пойдзеш, маё дзіцятка,
У чужыя людзі, там табе ліха будзе,
Там сцежачкі невядомыя,
Там ты блудзіць будзеш,
Там суседачкі незнакомыя,
Яны цябе судзіць будуць.
Ты выйдзеш бяленькая,
Яны скажуць — куслівая,
Ты выйдзеш хмурненькая,
Яны скажуць — санлівая,

Ты выйдзеш чарненькая,
Яны скажуць — лянівая.

351. Думай, думай, мая Ганначка, седзячы,
Табе трэба ў чужыя людзі ехаці.
Цябе там маладую будуць біць-караць,
Прыглядайся, ў каторы бок уцякаць.
Пускай галасок па зялёнай дуброве,
Каб пачула твая мамачка ў доме.
Будзе цябе сярод ночкі пераймаць,
Будзе табе вароцечкі адкрываць.

352. Сядзіць Манечка па застоллейку,
Слаўная баярачка. 2
А ў яе, а ў яе з правага боку
Чужое дзіцятачка. 2
Ой, будзе, будзе слаўнай баярцы
Ад чужой дзіцяці. 2
Вісяць у клеці раменны плеці
На баярчыны плечы. 2
Ой, будуць, будуць раменныя плеці
К плечыкам прыпадаць, 2
Ой, будзе, будзе кашулька тонка
Папалам разлятаць. 2
Ой, будзе, будзе малада Манечка
Сваю долю праклінаць.

353. — Ой, пусці, пусці, мая маці,
У садочак пагуляці,
Бо як зрасту, замуж пайду,
Гулянне пазабуду.
— Ой, будзе, будзе, мая доня, гулянне з бядою:
Да вісіць, вісіць да нагаечка роўненька з галавою.
Нагаечка драцяная з кручка не злязае,
Белае лічка, сінія очкі
Ад слёзак не ўсыхаюць.

354. — Чаму ж ты, Ганначка, не абедаеш,*
Ой, ці свайго горачка не ведаеш?
У (назва вёскі) вуліца камяністая,

А твая свякроўка ганарыстая.
Па гэтай вуліцы хадзіць нада,
А сваёй свякроўцы гадзіць нада.
Па гэтай вуліцы не сходзішся,
Ты сваёй свякроўцы не нагодзішся.
— Па гэтай вуліцы хадзіць буду,
Я ж сваёй свякроўкі гадзіць буду.

355. — Не ідзі, Манечка, у чужое сяло:
Там будзе невесяло.
Там гуланькі непатрапныя,
Там ты будзеш блудзіці.
Там суседачкі незнакомыя,
Цябе будуць судзіці.
Там свёкарка — нinformationародны бацька,
Цябе будзе сварыці.
А свякроўка — няродна маці,
Цябе будзе караці.
— Я гуланькі паразведваю,
(Я па гуланькам персцень пакачу)
Да й не буду блудзіці.
З суседачкамі абазнаюся,
То не будуць судзіці.
А свёкаркаві пакорна буду,
То не будзе сварыці,
А свякроўкі буду пытаці,
То не будзе караці.

356. — Ай, куды, ігруша, пахілілася
Чэраз тын, чэраз тын на вуліцу?
Хто ж цябе, ігруша, калаціць будзець,
Хто ж твае ігрушкі сабіраць будзець?
Будуць калаціць ігрушу буйныя ветры,
Сабіраць ігрушы малыя дзеткі.
— А куды ты, Танечка, надумалася
Чэраз бор, чэраз бор, к свёкру на двор,
Чэраз лукі к свякрове ў рукі?
Хто ж цябе раненька разбуджаць будзець,
Хто ж цябе работкі навучаць будзець?
— У мяне братунька у караля служыць,
Ён мяне раненька разбуджаць будзець.
— Уставай, сястрыца, ужо зара ўзышла,

Ужо твая свякруха па ваду пайшла.
— Братунька родненькі, чаму рана не будзіў?
— Таму рана не будзіў, табе наравіў,
Табе наравіў, свякроў гнявіў.

357. Куды ты, ігрушка, нахілілася
Праз тын ды на вуліцу?
Там цябе, ігрушка, калаціць будуць,
Малыя рабяты збіраць будуць,
То таму, то сяму даваць будуць.
А куды ты, Ганначка, надумалася,
Ад таткі і мамкі ды к свякроўцы?
Там цябе ранейька пабуджаць будуць,
Далёка, позненька пасылаць будуць:
— А ідзі, Ганначка, не забаўляйся,
На харошых, на прыгожых не заглядайся,
На свайго Ванечку не забывайся.

358. — Куды ж ты, ігрушка, пахілілася *
Чэраз тын, чэраз тын ды на вуліцу?
Там жа цябе, ігрушка, атрасаць будуць,
Суччайка-веццейка ламаць будуць.
— Хай бы мяне, ігрушу, атрасалі,
Суччайка-веццейка не ламалі.
— Куды ж ты, Іначка, пераехала
Чэраз бор, чэраз бор ■ свякру на двор?
Там жа цябе, маладу, журыць будуць,
Выйшаўшы на вулку, судзіць будуць.
— Хай бы мяне, маладу, пажурылі,
Выйшаўшы на вулку, не судзілі.

359. Куды, яблыня, нахілілася:
Ці ў зялёны сад, ці на вуліцу?
У зялёным садзе — нашугаешся,
А на вуліцы — наламаешся.
Куды, дзевачка, ты задумала:
Ці ў мамачкі жыць, ці к свякроўцы йці?
У мамачкі жывучы — напануешся,
У свякроўкі жывучы — нагаруешся.

360. — Куды, вішанька, нахінулась
Чэраз тын на вуліцу?
— Не сама я нахінулась,
Нахінулі вішаньку
Буйныя вятры,
Дробныя дожджы.
— Куды, молада, задумала
Із сваей старонушкі?
— Не сама я задумала,
Задумаў мой бацюшка,
Загадалі людзі,
Добрыя суседзі.

361. — Ой ты, зялёна дуброванька,
Чаго так рана вылягаеш,
Гора-даліну пакрываеш?
— Ой, не сама ж я вылягаю,
Кладоўляць мяне буйны ветры,
Буйныя ветры, дробныя дожджы.
— Ой, ты, Верачка маладая,
Чаго так рана замуж ідзеш?
— Ой, не сама ж я замуж іду,
Аддае мяне мой баценька
Яшчэ за свае галованькі,
І ля люцкай памованькі.

362. Коціцца-валіцца зорачка з неба,
Хочацца, хочацца свёкрава хлеба.
Пакуль зорачка адкацілася,
Свёкрава хлеба адхацелася.
Коціцца-валіцца зорачка з горкі,
Пайду я к татачку, свёкраў хлеб горкі.

363. Ай, божа ж мой, божа,
Слёзы коцяцца, 2
Мне ад мамкі ісці не хочацца.
У мае мамкі хлеб з чарнушкаю,
Называе ўсё дачушкаю,
А ў чужой — з чамярыцай,
Называе чужаніцай.

364. Падумай, Надзечка, падумай,
Як завязуць цябе дадому,
Як за тыя горы высокія,
Як за тыя гаі зялёныя.
Як ты да баценька захочаш,
То ты тыя гаі высячэш,
То ты тыя горы растопчаш,
То ты тыя рэкі загаціш,
Тады ты баценька забачыш.

365. — Маладая дзевачка,
Як ты там прывыкаць будзеш?
Там горы ды высокія,
Калодзежы ды глыбокія,
Вядзерца ды вялікія.
Твая сілка ды маленькая,
Свякроўка ды ліхенькая.
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Як я там астануся,
Там горы ды паніжаюць,
Калодзежы пабліжаюць,
Вядзерца палягчаюць,
Мая сілка ды пабольшае,
А свякроўка ды палепшае.

366. Ты думаеш, дзевачка,
Замуж паедзеш, замуж паедзеш.
Ты ж замуж пойдзеш —
Багацце знойдзеш, багацце знойдзеш.
Там поўны засекі
Кіёў насеклі, кіёў насеклі.
Ой, стаяць кіі
Усе дубовыя, усе дубовыя.
На твае плечыкі
Усе гатовыя, усе гатовыя.
Будзеш ты да мамкі
У госці хадзіці, у госці хадзіці.
Да будзеш ты мамцы
Крыўду гаварыці, крыўду гаварыці.
— Парадзь, мая мамка,
Як мне там жыці, як мне там жыці?
— Да жыві, дзіцятка,

Жыві, нябога, жыві, нябога.
Да не так для людзей,
Як дзеля бога, як дзеля бога.
Да насі кашульку,
Не тулі да грудзей, не тулі да грудзей.
Да жыві, дзіцятка,
Не смяшы людзей, не смяшы людзей.

367. Цячэ рэчка з возера ў мора,
Едзе дзевачка з роскашы ў гора.
Цячы, рэчка, і не супыняйся,
Едзь, дзевачка, і не азірайся,
Аб сваю роскаш забывайся,
Не да маткі едзеш, не спадзявайся.

368. Цячэ вадзіца з возера ў мора,
Пойдзеш, Верачка, з роскашы ў гора.
Будзеш, Верачка, гора гараваці,
Будзеш мамачку сваю ўспамінаці.
— Я там не буду — да мамачкі пайду
І буду служыці за кусок хлеба, 2
А мамачка скажа: — Мне цябе не трэба.

369. Цячэ вадзіца з ручайка ў мора,
Ідзе дзяўчыначка з роскашы ў гора.
Ці табе, дзяўчына, роскаш надаела,
Што ты, дзяўчына, замуж захацела?
Бо чужая маці будзіці не будзе,
Выйдзе на вулачку судзіці будзе.
— Мая нявестка рабіці не ўмее. 2
Рабіць не ўмее, спытаць не сумее.
Як свет світае, яна не ўстане.
Як пятух спявае, яна не чуе.

370. Цякла рэчачка з возера ў мора,
Ішла дзевачка з роскашы ў гора.
Ой, гора, гора ўсё незбытое,
Каму будзе цяжка, табе будзе лёгка,
Каму будзе блага, табе будзе добра,
Каму будзе зімна, табе будзе цёпла.

371. Пайду я к Дунаю,
Стану я, падумаю.
У Дунаі відна дно,
Мне ў таткі добра было.
Я ў дзень выгуляюся,
На пярыне высплюся,
Віна-мёду нап'юся,
На вуліцы насмяюся.
Пайду я к Дунаю,
Стану я, падумаю.
А ў Дунаі і дна няма,
Мне ў свякроўкі дабра няма.
Ля постаці пераднюю,
Ля жарэнцаў заначую.
Палыночку нап'юся,
На камяні высплюся.
Мамчына ніўка
І вузенька і блізенька.
Дык я ідучы наскачуся,
Жнучы ў бакі нагляджуся.
А свякроўчына ніўка
І шырока і далёка,
Дык я ідучы натамлюся,
Жнучы потам і слязамі абальюся.

372. Не думай, дзевачка,
Што замужам добра будзе.
Ты ў сваёй мамачкі
Да палудня спала, 2
Работкі не знала.
Замужам трэба знаць,
Позна легчы, рана ўстаць.

373. — Пазнаеш, дзеванька, у чужое мацеры,
Заставіць цябе пірагі мясіць,
Чым табе, маладзенькай, на дзяжу накрыць?
— Паздароў, божа, да маю матаньку,
Да пайду да новае клеці,
Да стукну-бразну ў залатую скрыню,
Да ўкрою-ўрэжу тонкага кужалю,
Да ўжо я сваей свякроўцы дзяжу накрыю.

374. Тонкая сасонка ў бары зашумела,
Маладая дзяўчына замуж захацела.
— Можа, ты падумай, каб не ашукацца.
Будзе табе гора, як не ў роднай хатцы.
Будзе табе гора, будзе спрацаваўшы,
Будзеш ты галодная, твар будзе запаўшы.
А ў маці дачушка, як у гаі птушка,
Куды захацела, туды паляцела.
Прыбрана, як лялька, і часана гладка.
А на ёй сукенка ляжыць харашэнька.
Успомніш ты хатку і родную матку.
Свайго ойца, брата і сваю сястрыцу.
Слязьмі абліешся, назад не вярнешся.

375. — Чаго ж ты, Галечка, дужа радзенька,*
Думаеш, замужам дужа ладненька?
Абсмяець свякроўка, печ топлячы,
Абсмяець залоўка, хату мятучы.
— Абсмяець свякроўка — ёй грэх будзець,
Абсмяець залоўка — гэта ёй будзець.

376. Куды ты, Манечка, ад'язджаеш,
Да каму ж ты сваю хатачку кідаеш?
Да кідаеш хатачку святліцу,
Да паедзеш к Іваньку ў цямніцу.
Да кідаеш хатачку, як звон,
Да паедзеш да Іванькі ў той дом.
А ў татачкі лакерачкі ты носіш,
А ў Іванькі лазовы лапці папросіш,
У татачкі лакерачкі аж блішчаць,
У Іванькі лазовы лапці аж трашчаць.
У татачкі чэшаш галоўку пазорна,
А ў Іванькі лубку ячменю — ды ў жорны.

377. Быстрая рэчка жоўтыя пяскі змывае.
Наша мамачка сваё дзіцятка збывае.
— Да й пайдзі, дзіцятка, чужому бацьку гадзіць.
Да й калі ж угодзіш, дык будзе павага,
А калі не ўгодзіш, дык будзе знявага.
— Да й угаджу, мамачка, угаджу,

Дзевяць ключыкаў пад поясам панашу,
А дзесяты — ад новай каморы,
Дзе ляжаць мае прыборы.

378. Ой, гора, гора-гараванейка ў цябе, мой татачка.
Я ў цябе жыву — дзела не раблю, нікога не баюся.
Ой, негі мае, пацехі мае ў цябе, мой свёкарка,
У цябе жыву — дзелачка раблю, усякага баюся.
Гуляць я іду, гуляць я іду, ва ўсіх папрашаюся,
З гульні прыду, з гульні прыду, усім укланяюся.

379. Цяжка і траве, цяжка мураве
Ад дзярна адрастаці.**
Цяжка Янечцы, цяжка маладой
Ад радні ад'язджаці.
Не так ад травы, не так ад муравы,
Як ад роднай матулечкі.
Матуля мая, матуля родна
Мяне выгадавала.
Выгадаваўшы, выпеставаўшы,
У людзі выправіла.

380. Два валы, два валы раку бралі, *
Перабраўшы рэчаньку, і ўзрыкнулі.
Цяжка было двум валам раку браці,
Цяжэлі моладзі ад мамкі йці.
Жаль таткі, жаль таткі, жальчэй мамкі:
Маманька ночаньку не ўсыпала,
Яркія свечанькі не ўгашала,
З калысак ножанькі не вынімала,
Як мяне маленьку гадавала.

381. Ах, быстрая рэчанька,
Да як табе да няцяжанька,
І з лукі ў луку йдучы,
Шаўковую траву мнучы,
Жоўты пясок прашываючы,
Белы камень прабіваючы?
Дзіця маё маладое,
Да як табе да няцяжанька,
Ад свае маткі ідучы,

Ды к чужой прыходзячы,
Норавы да наровячы,
Цяжкае дзела робячы,
Рана па ваду ходзячы.
Раннюю расу гонючы
І ціхага салавейку будзячы?

382. Садавая наша яблынька,
Адсадзім цябе ад саду.
А ў тыя горы крутыя,
А ў тыя пяскі жоўтыя.
Маладая наша Анечка,
Аддадзім цябе ад сябе,
А ў тое сяло чужое,
А ў тыя мужыкі-дуракі,
Дзе прадаюць конікаў без цаны,
Б'юць сваіх жоначак без віны.
— Ты гэтаму, Пеценька, не вучыся,
Прадавай свайго коніка з цаною,
Бі сваю жоначку з віною.
А не бі ж ты яе вяроўкай,
Навучай маладу гаворкай,
А не бі ж ты яе дубцамі,
Навучай маладу слаўцамі.

383. Ды паедзем жа мы за горы,*
За тыя горы крутыя,
Ды ў тыя ў людзі чужыя,
Дзе мяняюць коні без цаны,
Дзе б'юць жоначак без жалі,
Без ніякія прычыны,
Што няма на печы лучыны.
Без ніякія прычэпкі,
Што няма на печы ні шчэпкі.
Найдуць правінку з лучынку,
Найдуць прычэпку за шчэпку.

384. Ой, думай, Ганначка, думай,
Завязуць цябе за Дунай,
Да між горы крутыя,
Да між людзі ліхія,

Дзе п'юць гарэлку кружкамі,
Дзе б'юць жонак дручкамі.

385. Болакі на Дунай йдуць,
Кулінаčка на думах сядзіць.
Да яна думы думае:
— Як жа й мне ў чужы людзі іціць,
Як жа й мне свёкру наравіць?
Як пачуў-зачуў Іванька:
— Не журысь ты, Кулінка:
Есць у мяне тры чалядачкі.
Адна будзе раненька будзіці,
Другая дзелячка рабіці,
Трэцяя свёкру наравіці.

386. — Да не думай, дзевачка, не думай,
Перавязём рэчаньку шчэ й Дунай
Да к той свякрусе-сакатусе,
Да к тым залвіцам-такавіцам,
Да [redacted] тым дзевяром-яваром.
— Да дзевяць дзевяроў — красата мая,
Адна залвіца — сухата мая,
А я з залвіцаю не сваруся,
Да са смерцю ў вочы не гляджуся.
Я [redacted] дзевярамі пасваруся,
Да па ваду ідучы — паміруся.

387. — Цяпер жа ты, дзевачка, думай і гадай,
Плысці табе дзве рэчачкі і трэці Дунай.
— А я тыя дзве рэчачкі пяшком перайду,
Бацькавага раскошшайка павек не найду,
Маткінага гуляннійка не забуду,
Дзявоцкага красаваннейка ўсё прыплачу.

388. Ой, не думай, малада дзяціна, не думай,
Аддамо цябе за быстру рэчку, за Дунай.
Ой, будзеш ты пад тым Дунаем стаяці
І будзеш ты сваей мацюнкі ждаці.
— Ой, будзь, мая мацюнка, прыбудзь тут да мяне:
Скланюся табе да белых ножак, да зямлі.

389. Што я табе, мая мамачка, зрабіла,
Што я стала супроць лецечка няміла?
Ці я ў цябе тонкіх красёнцаў не ткала?
Ці я табе белай кашулькі не мыла?
Ці я ў канец нівачкі не зжала?
Ці я мякка пасцелькі не слала?
Ці я цябе роднай мамачкай не звала?
Калі не ткала тонкіх красёнцаў — буду ткаць,
Калі не мыла белай кашулькі — буду мыць,
Калі не зжала ў канец нівачкі — буду жаць,
Калі не слала мякка пасцелькі — буду слаць,
Калі не звала роднай мамачкай — назаву.

390. — Чаму я табе, родна матулька, няміла,*
Ці я табе бела кашулькі не мыла?
Ці я табе мякка пасцелькі не слала?
Ці я табе ў канец ніўкі не зжала?
Чаму я табе супроць зімачкі не трэба?
— Не я цябе, маё дзіцятка, аддаю,
Аддаюць цябе добрыя людзі, суседзі,
Да за тваю за ціхую паходку,
Да за тваю за скорую работку,
Што найцішэй за ўсіх дзевачак хадзіла,
Што найскарэй за ўсіх дзевачак рабіла.

391. Субота, нядзелька, як адзін дзянёчак,
Разаслала маладзенькая свой белы ляночак.
Слала, слала, дый гаварыла:
— Чым я табе, мамка, ды не ўнаравіла?
Ці я табе кашулькі бела не мыла?
Ці я табе пасцелькі мякка не слала?
Мыла табе кашульку на сінім моры,
Слала табе пасцельку ў новай каморы.
Мыла табе кашульку на гібкай кладцы,
Слала табе пасцельку, сваёй роднай мамцы.

392. — Кацілася качаннейка ды з гары,
Прыйшлі табе, малада Ганначка, каляды,
Прап'е цябе твой татачка на гады.
Што, малада Ганначка, татачку зрабіла,
Прап'е цябе твой татачка на гады.

Што стала проць лецейка няміла?
— Мае дзевачкі, сястрыцы, я й сама не знаю,
Што я татачку зрабіла,
Стала проці лецейка няміла.
Ні раз, ні два белу пасцельку сцяліла,
Ні раз, ні два вадзіцы падавала.

393. Сягоння ў нас, да мой татачка, каляды,*
Пашчытаемся з табой, татачка, за гады.
Ці я ў цябе адзін гадочак рабіла,
Што я табе напроць вясёнкі няміла?
Ці я табе, татачка, пасцелькі не слала?
Ці я цябе родным татачкам не звала?
Ці ў цябе для мяне хаткі замала?
Ці ў цябе для мяне хлеба не стала?
Калі хатачка маленькая — прырубі,
Калі не стала для мяне хлеба — прысадзі.
Мяне, маладой, напроць лецечка не губі.

394. Мамачка мая, родная мая,
Нашто ты мяне аддаеш
У чужы край, у чужыя людзі?
У сямеечку невядомую,
На сялібачку незнакомую?
Ці ж я табе работку не рабіла?
Ці ж я табе кросны не паткала?
Ці ж я табе лянок не патрапала?
Ці ж я табе ніўку не абжала?

395. Ой, казаў есь, кляновы лісце,
Не будзеш ападаці.
Ой, казаў есь, родны баценьку,
Не будзеш аддаваці.
А цяпер даеш і не жалуеш,
Так далека ад сябе,
Работанькі не навучыўшы
І да розуманьку не давёўшы.
Навучаць мяне добрыя людзі.
Табе, баценьку, за жаль будзе,
А мне, маладой, за жарт войдзе.

396. Няславу, мамачка, зрабіла,
Што моладу замуж пусціла.
Чужыя дзеўкі на лаўку,
А я, маладая, ў каморку.
Чужыя паненкі — на гулі,
А я, маладая,— да люлі.

397. Ой, мая мама
Мяне рана падняла.
Ой да, ой да, рана падняла.
Красату маю згубіла,
Рана замуж аддала.
Ой да, ой да, рана замуж аддала.

398. А я маю жаль на зязюльку,
Што рана кукавала, 2
А я маю жаль на сваю мамачку,
Я ў яе не гуляла. 2
Ні я піла, ні я гуляла,
Хораша ні схадзіла,
Звіла вяночак з руты зялёнай,
Я ж яго не знасіла.
Толькі я ў ім красавалася,
Покі я вянчалася.
Прыехала дамоў, скінула далоў,
Ручачкі заламала.
Ні я ў вяночку, ні я ў кветачках,
Ані я за дзевачку.
Дзевачкі стаяць, кветачкі дзяржаць,
Яны ж мяне не прымаюць,
Малодкі стаяць, па сынку дзяржаць,
Яны ж мяне паджыдаюць.
У дзевачак ручкі, у дзевачак ручкі
Ад кветак сінюсенькі,
У малодак вочкі, у малодак вочкі
Слёзачак паўнюсенькі.

399. — Жаль табе, мамулька, мне й горшы,
Што ты мяне аддала, не ўзросшы.
Ці хлеба-солі не стала,
Што ты мяне аддала — я й мала?

Я хлеба-солі здабуду,
Я ў цябе гадочак пабуду.
Я хлеба-солі дастану,
Я ў цябе хоць гадок пагуляю.
— А хлеба-солі даволі,
Я ж цябе аддаю па волі.

400. Шкада табе, мамачка, а мне горш,
Што аддаеш мяне няўзросшай.
Ці ў цябе хлеба-солі не стае,
Што ты мяне, моладу, аддаеш?
Ці табе хлеба-солі прыбудзе,
Як мяне ў цябе не будзе?
Ці ж я табе, мамачка, вады не насіла,
Што ты мяне аддаеш, каб я галасіла?
Ці ж я табе, мамачка, пасцелі не слала,
Што ты мяне аддала, каб я гаравала?

401. — Жалка мне, мая мамачка, на цябе,
Нямножачка я й пагуляла ў цябе,
Невялікую русую косу зрасціла,
Без розуму ў чужыя людзі пусціла.
Я й не ўмею па чужой хаце хадзіці,
Я й не ўмею чужому бацьку гадзіці.
— Угодзіш, маё дзіцятка, угодзіш,
Як у свёкаркі ты каля печы паходзіш,
Свякровачка-залатушачка ў клець па муку,
Ты ж, маладушачка, за вядзерачка і па ваду.
Уся ж ваша работачка у ладу.

402. Мамачка родная, не шкадуеш мяне,
Не шкадуеш мяне — выпраўляеш мяне,
Выпраўляеш мяне ў чужыя людзі.
Па чужых парогах я хадзіці не ўмею,
Чужой мамцы гадзіці не ўмею.
Як пайду я ціха — скажуць негадзяй,
Як пайду я быстра — скажуць прахаджай.

403. Ой, жаль жа мне, мая мамачка, на цябе,
Што не вырасла русая каса ў мяне.

Што ты мяне, маладую, замуж аддала,
Я ж не здалею цяжка дзела рабіці,
Я ж не ўмею чужому бацьку гадзіці,
Я за ложачку, ён за пужачку — мяне біць.
Я за талерку, ён за гарэлку — да яе піць.
— Не гневайся ж ты, мая нявехна, на мяне,
Бо ё ж каму сварыціся на цябе,
А некаму ўступіціся за цябе.

404. Хадзіла Ганначка па полі,
Савіла вяночак з гуголі.
Савіўшы вянок, пакаціла,
Пакаціўшы вянок, плакала.
Прыляцела кукуля, стала кукаваць,
Стала ў Ганначкі праўды пытаць:
— Скажы, Ганначка, праўду мне,
На каго, малада, жаль маеш?
— А я жаль маю на мамку,
Што далёка замуж аддае,
У госці хадзіць не вяліць.
А я ў свёкаркі тыдня не была,
Як мне мамачка лісты шле:
— Прыйдзі, маё дзіцятка, ў госці ка мне.
Стала мая сямейка скучна без цябе,
Сталі парогі высокі, стала вадзіца далёка.
— Хоць я, мамачка, на час прыду,
Я тваёй сямейкі не развесялю,
Я тваіх парогаў не ўніжу,
Я тваёй вадзіцы не ўбліжу.

405. Ой, на рэчцы, на рацэ кладкі дзве,
Маладая Ганначка вянкі ўе,
А павіўшы вяночкі, лягла спаць,
Прыляцела зязюлька, стала кукаваць:
— Да ці ты, Ганначка, заснула,
Што сівае зязюлькі не чула?
— Ой, сіва зязюлька, я не сплю,
Ды з жалю галовачкі не падыму.
— На каго ж ты, Ганначка, жалішся,
На каго ж ты, маладзенька, жаль маеш?
— Ой, жалюся, жалюся я на ўвесь род,
На родную мамачку наўпярод,

2

Што не дала пагуляць яшчэ з год.
Да ўсё ж маё падвор'е схмурнела,
Да ўся ж мая сямейка здрабнела,
Да рамонам сцежачкі зараслі,
Да ўжо ка мне таварышкі не пайшлі.

406. Кукавала зязюлька раненька на зары,
Заплакала малоданька ў новай каморы.
— Нашто мяне выдаеце, маманька і тату,
Хто ж вам будзе весяліці ў святліцы хату?
Ой, бывайце шчаслівенькі, мае родны сёстры,
Хто ж вам будзе ў хацінцы парадачкі весці?
Нашто мяне выдаеце, мае родны браце,
Ці я так вам надаела ды ў роднай хаце?

407. Кукавала зязюлька ў садочку,
Прылажыўшы галовачку к лісточку:
— Ці я табе, салавейка, дадзела,
Што ў тваім садочку пасядзела?
Ці я тваё галлё зламала?
Ці я тваё яблычка склявала?
Ды вісіць галлё цэлае,
І вісіць яблычка спелае.
Ды сядзела Верачка ў таткі за сталом:
— Ці я табе, татачка, дадзела,
Што за тваім столікам пасядзела?
Ці [redacted] тваё віно папіла?
Ці я твае піражкі паела?
Да стаіць віно ў збанках,
Да ляжаць піражкі ў бумажках.

408. Кукавала зязюля верх неба:
— Ці я табе, мамка, не трэба?
Кукавала зязюля верх грушы:
— Ці я табе, мамка, не да душы?
Кукувала зязюля верх дуба:
— Ці я табе, мамка, нялюба?
Ці я табе пасцельку не слала,
Крутога ўзгалоўя не клала?
Слала пасцелю мякkенька,
Клала ўзгалоўе круценька,

Ірвала траву-лебяду.
Калі мая лебяда павянець,
Тады мяне мамка ўспамянець.
Павяла лебяда за 'дзін дзень,
Памінаець мамка ўсякі дзень .

409. Закукавала шэра зязюлька ў садочку,
Заплакала наша Манечка ў вяночку.
Да й прыбралі яе, дзевачку, ў вяночак,
Пасадзілі з чужымі людзьмі ў радочак
І сказалі, што ўжо паследні дзянёчак.
Пала яна свайму татачку на ножкі:
— Прашу цябе, мой ты татачка, не аддай,
Хоць яшчэ гэты гадочак патрымай.
— Як жа мне, маё дзіцятка, не аддаць,
Наехала повен двор сватоў цябе ўзяць.
Пала яна сваёй мамачцы на ножкі:
— Прашу цябе, мая мамачка, не аддай.
— Як жа маю, маё дзіцятка, не аддаць,
Наехала повен двор сватоў цябе ўзяць.
— А што ж я вам, мая мамачка, зрабіла,
Што я стала гэты гадочак няміла.

410. Кукавала зязюлька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку, ой, к лісточку.
Тудым ляцеў салавейка, мінае,
Да й зязюльку з ігрушкі, ой, зганяе.
— Ці я табе, салавейка, не з душы,
Што ты мяне зганяеш з ігрушы?
Ці я табе гняздзечка не звіла?
Ці я табе яечка, ой, не знясла?
Звіла табе гняздзечка цёпленьке,
Знесла табе яечка, ой, рабеньке.
Заплакала Валечка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку, ой, к скамейцы.
Тудою ішоў бацюхна, мінае,
Да дзевачку з святліцы, ой, выганяе.
— Ці я табе, бацюхна, не з душы,
Што ты мяне рад аддаеш ані ўзросшы?
Ці я табе пасцелькі не слала?
Ці я табе кашулькі, ой, не мыла?
Слала табе пасцельку мякkенькую,
Мыла табе кашульку, ой, чысценькую.

411. — Татачка мой родненькі,
Нашто мяне замуж аддаеш?
Чым я табе убрыдала —
Ці мне хатачка мала.
Ці мне хлеба не стала?
Калі хатачка мала —
Прырабі, мой татачка.
Калі хлеба не стала —
Прыкупі, мой татачка.
Ты даеш, да й не ведаеш.
Якая мая доля.
— Я даю, што ў хляве маю,
А долечкі не згадаю.

412. Мамачка мая родная,
Ці я табе, мамачка, дзела не рабіла,
Што ты мяне, мамачка, навек утапіла. 2
Ні роду, ні плоду, як камень у воду. 2
Як камень у воду, вада страсянецца.
Як я свёкру на двор, душа захлынецца.

413. Кукавала зязюля ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку:
— Чым я табе, салавейка, дадзела,
Што я ў тваім садочку сядзела?
Ці я твае ягадкі паела?
Ці я тваю вадзіцу папіла?
Сядзяць твае ягадкі на кусту,
Стаіць твая вадзіца на лісту.
Плакала дзевачка ў святліцы,
Прысланіўшы галоўку к скам'іцы:
— Чым я табе, мамачка, дадзела?
Што я ў тваёй святліцы сядзела?
Ці я табе кашульку не мыла?
Ці я табе пасцельку не слала?
Мыла табе кашульку беленька,
Слала табе пасцельку мякkенька.
Мыла табе кашульку на моры,
Слала табе пасцельку ў каморы.

414. Засвісталі два салавейкі на вакне,
Да й закракала шэрая вутка на моры,
Заплакала маладая дзевачка ў каморы,

Пакланілася й свайму татачку й у ногі:
— Ох, жаль жа мне, мой жа татачка, на цябе,
Не так на цябе, мой жа родненькі, на твой род,
Чаму не дзяржаў мяне, маладой, яшчэ з год. 2
Я ж бы тваё ўсё падвор'ейка красіла,
Я ж бы свой руцмяны вянок усё знасіла.
— З богам, з богам, маё дзіцятка, ад мяне,
Да ёсць у мяне меншае дзіця за цябе.
Яно ж твой руцмяны вянок даносе,
Да яно ж маё ўсё падвор'ейка закрасе.

415. Ой, жаль мне, жаль, мая мамачка, на цябе,*
Не так на цябе, як на твой род,
Да не дала пагуляць яшчэ з год.
Да ў лузе каліна з расою,
Да не доля пагуляць з касою.
Да ў лузе каліна з дубцамі,
Да не доля пагуляць з хлапцамі.
Да ў лузе каліна з кветкамі,
Да не доля пагуляць з дзеўкамі.

416. — Жаль-пражаль, мой татулечка, на цябе,
Што ты аддаеш гэты гадочак ад сябе.
Няхай бы я год і два пабыла,
Хай бы я руцвяны вянок завіла,
Няхай бы я руцвяны вянок насіла,
Няхай бы я татулечку дварок красіла.
— А не бядуй, мая дачушка, па гэтым,
А даносіць руцвяны вянок сястрыца,
А пакрасіць татульку дварок сонейка.

417. Папытаюся, мой татачка, я ў цябе,
Скажы, скажы, мой татачка, праўду мне,
Ці пагуляць яшчэ дзянёчак мне ў цябе?
Я ж у цябе не гадок, не два рабіла.
Ці я ж бы цябе гэтым дзянёчкам згубіла?

418. Жалкаваначка Рыпіна,*
Жалкавалася на свой род:
Не далі пагуляць яшчэ год.

Русыя косы паплятаць,
Белага ліца памываць.
Русая каса — уся краса.
Белае ліцо — уся хвала,
Нашай Рыпіне — уся пара.

419. Жалуйся, дзевачка, на свой род,
Што не дзяржаў цябе яшчэ з год.
Хоць не з год, хаця б лецечка —
Наўчылась бы ты дзелачку.
Хоць не лецечка, хаця б зімачку —
Сабрала б ты сабе сілачку
На свякрову нівачку.

420. — Чаго ў цябе, дзевачка, не жаласлівы род,
Чаго ж цябе не прадзяржалі хаця яшчэ з год?
— Рада мяне радзіначка падзяржаць,
Ды не хоча родны татка гадаваць,
За сваёй худобай упраўляць.

421. Як табе, перапёлачка, па гарох лятаць,*
Што ў цябе крыллейка карацюсенька,
Што ў цябе пер'ейка бялюсенька?
— Я й на гару, я й на гару лётма лячу,
Я й з гары, я й з гары котма качу.
— Як табе, Танечка, свякроўцы гадзіць,
Што ў цябе ручанькі бялюсенькі,
Што ў цябе пальчыкі карацюсенькі?
— Я ж сабе, молада, ліха не буду,
Я ж сабе, молада, дабра дабуду.
А ўстану раненька-ранюсенька,
Вымыю бяленька-бялюсенька.
Падмяту чысценька-чысцюсенька.
Я ж сабе, молада, ліха не буду,
Я ж сабе, молада, дабра дабуду.

422. — Як табе, цяцерка, па бору лятаці,
У цябе, цяцерка, ножкі кароткі?
— Буду лятаці, буду ўладжываці;
Я з гары скокам, а на гару ўзлётам.

— Як табе, Ануська, у чужой мамкі жыць,
Як табе ўладжываці?
— Буду жыць, буду жыць, буду ўладжываці,
Пасцялю пасцельку мякчэй сваёй,
Палажу ўзгалоўя круцей свайго.

423. Перапёлка, карнаты ногі.
Як ёй хадзіці па пажарніцы?
У нашай Галенкі розум пустэнькі.
Як ёй гадзіці чужому баценьку?
— Не што рабіці, буду гадзіці,
Буду часценька ваду насіці,
Буду бяленька сям'іцу вадзіці.

424. — Як табе, цяцерка, па пажар'ю скакаць,
А ў цябе, цяцерка, ножкі караценькі?
— А я пень пераскачу, калоду паралячу,
Я сваім ножанькам наравіць буду.
— Як табе, Таццянка, свякрові наравіць?
— Раненька ўстану, позненька ляжу,
Тым я свякрові наравіць буду.

425. — Як будзеш, зязюля, із бору ляцеці?
Із бору ляцеці.*
— Так буду ляцеці, як буду ўмеці.
Пад гару падыду, із гары паляту.
— Як будзеш, Валечка, свякроўцы гадзіці?
— Пазненька лягу, раненька ўстану.
Раненька ўстану, па вадзіцу пайду.
Прынясу вадзіцы, ціхенька пастаўлю.
А выйду на вулку, сільненька заплачу.
Ці не пачуе мая там матуля.
А як пачуе, дык і пашкадуе:
— Чудныя людзі, што дня не ждалі.
Маё дзіцятка па ваду паслалі.

426. — А ці будзець пагодачка на дварэ,
А ці ўгодзіш, наша Танечка, свякроўцы?

* Другая частка кожнага радка паўтараецца.

— А угаджу, мае жоначкі, угаджу,
Як ля печы з палойнічкам пахаджу.
А я сваёй свякроўцы ўгаджу.
— А ці будзець пагодачка на дварэ,
А ці ўгодзіш, наша Танечка, свёкарку?
— А угаджу, мае мужчынкі, угаджу,
А як па таку з малацілачкаю пахаджу.
А я свайму свёкарку ўгаджу.

427. Як пайду я ўдоль па вуліцы
Два двары мінуючы,
А ў трэцім паслухаю,
А што людзі гавораць,
Майго татачку хваляць,
А свёкарку ганяць.
— Злыя людзі, чаму ж вы мне не казалі,
Як мяне заручалі,
А цяпер мне сказалі,
Як вяселле згулялі.
Цяпер мне не гаварыце,
Майго сэрца не рвіце,
Маё сэрца ўзарвана,
Мая галованька ўстурбавана.

428. Як пайду па вуліцы,
Два двары мінуючы,
А на трэцім дварочку
Я стану, паслухаю,
А што людзі судзяць,
Суседзі гавораць.
А што людзі судзяць —
Майго свёкра гудзяць, 2
Свякрову не хваляць.
— Ах вы, людзі, людзі,
Добрыя суседзі,
Што вы не казалі,
Як мяне не вянчалі?
А цяпер няхай так будзець,
Як бог судзіць.

429. Мы паедзем, Лідачка, у чужыя людзі,
А хто ж цябе, Лідачка, а жалець будзе?
Папала ў дзевяры — цыганы,
Мяняюць коні без цаны,

П'юць гарэлку без меры,
А б'юць жонак без веры.
Папала ў залоўкі — калатоўкі.
Будзь хітра, разумна, Лідачка,
Бо яны твае замочкі паадмыкаюць,
Яны твае трубачкі паўразаюць.

430. — Паедзеш, дзевачка,
У чужыя людзі,**
Будзь жа ты, дзевачка,
Вумна-разумна,
Каб цябе суседзі
Не асмяялі,
Каб цябе залвіцы
Не абгаварылі,
Каб цябе дзевяры
Не ашукалі.
— Абгаворацць залвіцы —
Ім тое будзе,
Ашукаюць дзевяры —
Няслава будзе,
Усе суседкі
Маюць свае дзеткі.
Дзеткі маюць,
Па іх жа знаюць.
— Сядзеш ты есці —
Будуць глядзеці,
З'ясі ты многа —
Скажуць, карова,
З'ясі ты мала —
Скажуць, не здарова.
Умыешся бела —
Скажуць, хвастліва,
Не умыешся бела —
Скажуць, лянівa.

431. Будзь ты, Манечка, вумна-разумна,
Каб цябе свякроўка ні ў чом не ашукала.
Каб твае кудзелькі да не падскубала,
Каб тваіх клубочкаў да не адвівала,
Будзь вумная да разумная.

432. І лятала пава па полю,*
Спушчала крылле дадолу:
— Сучыся, пер'е, сучыся,
Вучыся, Танечка, вучыся,
Як каля печы хадзіці,
Як чужой мамцы гадзіці.
Чужая мамка — не свая,
Выдзерыць вочкі, як сава.
Чужая мамка — лятушка,
Выдзерыць вочы, як птушка.

433. — Сучыся, ясна свечачка, сучыся,*
Вучыся, наша Насценька, вучыся,
Як табе па новых хатках хадзіць,
Як табе свякровачцы гадзіць.
— Угаджу, мае цётачкі, угаджу,
За свякроўку я ля печачкі пастаю,
За свёкарку суды вадзіцы прынясу,
За дзеверку бела кашулю вымыю,
За заловачку хатку, сенькі падмяту,
А Іваньку мякка пасцельку пасцялю.

434. — Сучыся, пер'е, сучыся,
Вучыся, дзевачка, вучыся,
Як па новых сенях хадзіць,
Як сваёй свякроўцы гадзіць.
— Гаджу я, гаджу — не ўгаджу:
Сцялю пасцельку — не ляжа,
Пытаю работкі — не кажа,
Бяру хатку месці — не дае,
Падаю вадзіцы — не бярэ.
Яна ж мяне дзіцяткам не заве.
Божа мой мілы, цяжка мне,
Ніхто мяне дзіцяткам не заве.

435. Лятаў галубец па сталу,*
Памачыў крылышкі у піўцо.
— Сушыся, галубец, сушыся.
Вучысь, наша Леначка, вучыся,
Як свайму свякратку ўгадзіць.

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

— Я свайму свякратку ўгаджу,
З мятлой па двару пахаджу.
Лятаў галубец па сталу,
Памачыў крылышкі у піўцо.
— Сушыся, галубец, сушыся,
Вучысь, наша Леначка, вучыся,
Як сваёй свякроўцы ўгадзіць.
— Я сваей свякроўцы ўгаджу,
Каля печы з віламі пахаджу.
Лятаў галубец па сталу,
Памачыў крылышкі у піўцо.
— Сушыся, галубец, сушыся,
Вучысь, наша Леначка, вучыся,
Як свайму мужаньку ўгадзіць.
— Я свайму мужаньку ўгаджу,
Пасцелю мякkенька пасцялю,
Галоўку к яму прылажу,
Крэпенька яго абніму,
Сладзенька яго пацалую.

436. — Ах ці мне, божа мой, горкая доля мая,
Што у мяне, маладой, дзевяроў многа.
— А будзь жа ты сама, дзеванька, хараша,
Будуць дзевяры, як родныя браты,
Будзець табе свякроўка, як родная матка,
Будуць табе залоўкі, як родныя сястрыцы,
Будзець табе свякратка, як родны татка.
— Угаджу свякратку, угаджу, з снапамі на таку пахаджу.
Угаджу свякроўцы, угаджу, з вілкамі каля печы пахаджу.
Угаджу дзевярам, угаджу, манішкі-рубашкі пагладжу.
Угаджу залоўкам, угаджу, русу косу зачашу,
Русу косу зачашу, шаўкову ленту ўпляту.

437. — Ты ведала, наша Насцечка, прекрасна, 2
Папалася ў вялікае няшчасце. 2
У дзевяр'ё, як у звяр'ё, 2
А залоўкі вялікія чачокі. 2
— Ой, угаджу, мае дзевачкі, угаджу:
Я дзевяру белую кашулю пашыю, 2
Я свякроўцы вады, дроўцаў прынясу, 2
Я свёкарку мякка пасцельку пасцялю, 2
Я залоўкам русыя косы папляту. 2
Ой, угаджу, мае дзевачкі, угаджу.

438. — Бывай, бывай, мая мамачка здарова, 2
Прыйшла па мяне з Украіначкі дарога.
Ці будзеш па мне, мая мамачка, тужыці,
Што аддаеш на цэлы век служыці?
Ці будзеш па мне, мая мамачка, бедаваць,
Што аддаеш на цэлы век гараваць?
— Ой, буду, буду, маё дзіцятка, тужыці,
Што аддаю на цэлы век служыці.
Ой, буду, буду, маё дзіцятка, бедаваць,
Што аддаю на цэлы век гараваць.
Ой, пайду я ў роднае поле жыта жаць,
Займу постаць шырокую не з кім гнаць,
Пагляджу па ўсе бакі, кіну жаць,
Нідзе майго дзіцятка не відаць.

439. — Ай, аставайся, мая мамулька, здарова,*
А мне падпала далёкая дарога.
А ці будзеш, мая мамулька, тужыці,
Як я буду чужое мамке служыці?
А ці будзеш, мая мамулька, бедаваці,
Як я буду ў чужое мамкі гараваці?
— А не буду, мая дачушка, не буду,
Пераначую цёмную ночку — забуду.
Тады цябе, маё дзіцятка, успамяну,
Як памарожу белыя ручкі на ляду.
Пранічкам махну, цяжэнька ўздыхну, божа ж мой,
Гадавала сабе дзіцятка не гадок,
А прагуляла сваё дзіцятка за дзянёк,
За адзін дзянёчак, за салодзенькі мядочак,
За адну нядзельку, за горкую гарэлку.

440. — Аставайся, мая матулька, здарова,
Прыйшла мне з Украіны дарога.
Гдзе мы з табой, мая матулька, сойдземся?
— Да сойдземся, маё дзіцятка, сойдземся
Да цёмнаю вячэрняю зарою,
Да сойдуцца нашы галасочкі з табою.
— Ці будзеш, мая матулька, тужыць,
Як я буду чужому татку служыць.
Ці будзеш, мая матулька, бедаваць,
Як я буду ў чужога таткі гараваць.
— Да не буду, маё дзіцятка, не буду,

У панядзелак ранюсенька забуду.
— Да ўспомніш, мая родная матулька,
Як пойдзеш на ціхі Дунай хусты праць,
Як застынуць белыя ручкі на ляду,
Тады ўспомніш, мая матуля, мяне маладу.

441. — Бывай, бывай, мая мамачка, здарова,*
Да не плач, не плач, мая мамачка, ты па мне.
— Дый не буду, мая дачушка, не буду.
Ну як засну, тады забудуся,
А як прачнуся, горкімі слязьмі ўмыюся.
Ды як гляну да ў вакеначка, ды ўжо дзень,
Да і выйду я за вароцечкі, гляну, толькі след.
Да й на тым слядку пацярушка трушона,
Да й тудой, тудой маё дзіцятка звязёна.
— Да й садзіцеся, мае сыночкі, на коні,
Да й даганяйце сваю сястрычку ў полі.
Да й не дзелайце паўдарожачкі разбою,
Разбярыцеся й па харошаму разбору.
Да й скажуць, што й разумнага татачкі,
Да й скажуць, што й разумнае мамачкі.

442. Да бывай, бывай, мая мамачка, здарова,
Прыйшла да мяне з Украіначкі дарога.
Ці будзеш па мне, мая мамачка, бедаваць,
Аддасі мяне на цэлы век гараваць.
Прыйдзецца мне, маладзенькай,
Чужую цётку мамачкай называць.
Ой, цяжка, цяжка будзе мне прывыкаць,
Трэба ж мне будзе ўсей сямейцы патураць,
Выправяць мяне па новых сенцах пахадзіць,
Чы буду я ўмець свайму мужу ўгадзіць.

443. Ой, бывай, бывай, мамачка, здарова,
Прыйшла па мяне здалёку дарога.
А ці будзеш па мне, мамачка, бедаваць,
Што я паеду ў чужыя людзі гараваць?
А ці будзеш па мяне, мамачка, тужыць,

Што я паеду на цэлы свой век служыць?
Можа дзе буду па цёмным лесе хадзіць,
Можа дзе буду дробных пташак будзіць.
— Ой вы, дробныя пташкі-стрынаткі,
Пакажыце дарожачку да маткі.
Ой, вы, дробныя пташачкі-сініцы,
Пакажыце дарожку да сястрыцы.
Ой, вы, дробныя пташкі-салаўі,
Пакажыце дарожачку да радні.

444. Ды бывай, мая матулька, здарова,
Выпала з Украіны дарога.
Ды ці будзеш, мая матулька, бедаваць,
Як я буду на Украіне гараваць?
Дый ці будзеш, мая матулька, тужыці,
Як я буду на Украіне служыці?
Дзевачкі пойдуць, сястрыцы пойдуць жыта жаць,
Я ж буду, маладзенькая, дзіця калыхаць.
Дзевачкі пойдуць, сястрыцы пойдуць гуляці,
А я, маладзюсенька, дзіця люляці.
Дзевачкі пойдуць, сястрыцы пойдуць
У зялёны сад вянкі віць,
Я ж, маладзенька, за калысачкай слёзкі ліць.

445. — Бывай, бывай, мая матулька, здарова,
Падпала мне на Украіначку дарога.
А я ж буду на Украіначцы служыці,
Ой, ці будзеш па мне, матулька, тужыць?
— Ой, буду, маё дзіцятка, буду,
Як засну, тады на цябе забуду.
Як прачнуся, тады слёзкамі зальюся.
— Не плач, не плач, мая мамачка, ты па мне,
Ой, я буду недалёчанька ад цябе.
Цераз поле, цераз шырокае — сцежачка,
Цераз мора, цераз сіняе — кладачка,
А ты будзеш на сінім моры плацце праць,
А я буду ў чыстым полі жыта жаць.
А як сыйдуцца нашы галасы з табой,
Не будзем, мамулька, разлучаны з табой.

446. — Бывай, бывай, мая мамачка, здарова,
Падпала мне на Украіначку дарога.
Ці будзеш ты па мне, мамачка, тужыці,
Як я пайду на Украіначку служыці?
— Я ж не буду, маё дзіцятка, не буду,
Я ж на цябе за адно ранейка забуду.
Я, здаецца, маё дзіцятка, не плачу,
За слёзкамі божага свету не бачу.
Я ж не буду, маё дзіцятка, не буду,
Я ж на цябе за адно ранейка забуду.
Я ж, здаецца, маё дзіцятка, не журусь,
Выйду на вулку, я ад ветрыку валюсь.
— Добра было, мая мамачка, да гарэлачку піць,
Ці добра будзе, мая родная, ды адной малаціць.
Цапочкам гоп-гоп, слёзачкі як боб:
— Дзе ж маё дзіцятачка?

447. — Бывай, бывай, мая мамачка, здарова,
Па мяне прыйшла з Украіначкі дарога.
Пакінь, пакінь, мамачка, бедаваць,
Я паеду на ўвесь век гараваць.
Пакінь, мая родненька, тужыці,
Я паеду на цэлы век служыць.
А хто ж мяне на чужой старане прыхіне,
А хто ж мяне сваёй назаве?
Як пачуў малады малойчык:
— Не плач, мая мілая, не плач,
Я ж цябе прыхіну,
Сваёй родненькай назаву.

448. Бывай здарова, мацюнька мая,
Калі я табе няміла, 2
Калі я табе, маладзенькая,
Ні ў чом не ўгадзіла:
Ні ў паходаньцы, ні ў работаньцы,
Ні ў ціхай размованьцы.
Як ты пойдзеш, мая мацюнька,
Дзе я ў лета хадзіла,
Спамянеш, мая мацюнька,

Што я верна рабіла.
А як ты пойдзеш, мацюнька мая,
Маімі сцяжынкамі,
Успамянеш мяне, мацюнька мая,
Дробнымі слёзанькамі.

449. Бывай, бывай, мая мамачка, здарова,
А каб была хатачка вясёла,
Мне ж выпала дарожанька даўгая,
Цераз бор чужы, [redacted] свякратку на двор.
Я ж буду к табе, мая мамачка, прыязджаць,
Я ж буду цябе навяшчаць,
З табой верненька буду гаварыць.

450. Ужо табе бацька заплаты:
І ложачка, і талерачка,
Яшчэ і хлеба буханачка,
Драбочак солі
Ды бывайце здаровы.

451. Мая мамачка, заставайся здарова,
Жыві багата,
Не забывайся на мяне маладую,
Калі буду жабраваці,
Варотцы адчыняй,
Хоць па кусочку хлеба давай.

452. Пасадзілі явара ў добры час на пагодзе,
А ні ад сонца не вянець,
Толькі ад ветру буяець.
Пасадзілі Ксенечку ў добры час за сталом,
Ні галоўкі не склоніць,
Ні слёзкі не роніць.
— Ксенечка маладая,
Падымі чорны броўкі,
Паглядзі на матульку,

Як твая матулька плачаць,
Як зязюлька кукуець,
Як салавейка шчабечаць.

453. Маладая Марыська
Села сабе за столікам,
Папускала коскі,
Параняла слёзкі,
Задавала жаласці
Сваёй роднай матачцы:
— Матачка мая родная,
Сягоння мяне даеш,
Заўтра ўспамянеш.
Увойдзеш у рыдзельку,
Рыдзелька не мяцёна,
Сямейка невясёла.

454. А ці чуеш, наша Валечка, ці чуеш,
Як па табе родная мамка бядуець.
Па сенях ходзіць, ручкі ломіць па табе,
А ты сядзіш і не глядзіш на яе.
Ці лепей табе ля мілага сядзець,
Нячымся табе на родную мамку глядзець?
Яна ж цябе маленькую расціла,
Напроціў ночкі ў чужыя людзі пусціла.

455. Да агляніся, наша Леначка, на сябе,*
Да як жа плачаць родная мамка па тебе.
Цяжка ж ёй было вас, маленькіх, гадаваць,
Да яшчэ цяжэй у чужыя людзі аддаваць.
Асталася твая мамачка ўдоўка,
Да была яе ў заботах галоўка.
Яна па полю, як пташачка лятала,
Сваім дзетачкам долю-шчасцейка шукала.

456. Агляніся, дзевачка,
Як па табе мамка плача,
За плячыма стоячы,
На тваю касу гледзячы.
— Коска мая да русенькая,

Дзіця маё маладзенькае,
Ты ж у мяне красавалася,
Да нікога не баялася.
Застанешся ў свякроўкі,
Слёзкамі вымывацьмешся,
Будзе падпаветачка хаткаю,
А суседачка маткаю.

457. Паслухай, галубка, *
Як голуб гуркуець,
Як голуб гуркуець,
На галубнічку седзя,
На галубнічку седзя,
На галубку гледзя.
Паслухай, Валенька,
Як твая мамка плачаць,
Як твая мамка плачаць,
За столікам седзя,
За столікам седзя,
На дочаньку гледзя.

458. Маладая дзевачка,
Паглядзі сюды-туды 2
Ды на сваю мамачку.
Твая мамачка плача,
Як зязюлька кукуе, 2
З садочка вылятаючы,
Так твая мамачка плача,
Цябе выпраўляючы.

459. А ў гародзе мая рутачка пад тынком,
Цяклі слёзачкі з маей мамачкі ручайком.
А ў гародзе мая рутачка градою,
Цяклі слёзачкі з маей мамачкі ракою.

460. Даўно ўжо ў садзе засохла вішня,
Млода Нiначка з дзевачак выйшла
І сёння многа людзей сабрала.
Людзей сабрала, ля столу стала,
Ля столу стала, як рута звяла,

За сталом села, як мак збялела,
Як мак збялела, на маць глядзела.
Мамачка ходзіць, ручачкі ломіць:
— Ай, божа мілы, не то я зрабіла,
Млоду дачушку ў людзі пусціла.
У людзі пусціла, не завясціла,
Каб добра людзям яна гадзіла.

461. Сядзіць Марыля за сталом,
Цякуць слёзачкі ручаём. *
Сястрыца яе ля яе,
Цякуць слёзачкі ў яе.
Да на іх мамачка пазірае,
Як боб слёзачкі раняе:
— Да, дзіцятка маё, мілае,
Я ж цябе расціла-гадавала,
Гэткай жаласці не знала,
А цяпер жа цябе аддаю,
З жалю ручак не ўзніму,
За слязьмі сцежачкі не бачу,
Я ж цябе, дзіцятка, утрачу.

462. Да сядзіць Марыська за сталом,
Да цякуць слёзкі ручаём.
Да яе войчэнька ўймае,
Хустачкаю слёзанькі ўціpae.
— Ці ўваймай, войчанька, не ўваймай,
Хусткаю слёзанькаў не ўватрэш.
— Я цябе, дзіцятка, гадаваў,
Я тваіх слёзанькаў не відаў.
Я цябе, дзіцятка, аддаю,
Я табе слёзак не ўвайму.

463. Да сядзіць дзевачка за сталом,
Да льюцца слёзачкі ручаём.
Да на яе матухна й пазірае,
Рукавом слёзачкі ўціpae:
— Не плач, дзіцятка, у мяне,
Яшчэ наплачашся без мяне.

---

* Кожны радок, акрамя першага і пятага, паўтараецца.

Як ты ж у мяне й сядзела,
Усё маё падвор'е звінела.
Як ты ад мяне й адышла,
Усё маё падвор'е заціхла.

464. А ходзіць Аўгінька па хатачцы,*
Сама сабе, сама сабе прыгаварваіць:
— Тады маё сердзечка радавалася,
Як мая дачушка гадавалася.
Цяпер маё сердзечка ва мне млееця,
Як мая дачушка ад мяне едзець.
Цяпер маё сердзечка улякаецца,
Як мая дачушка разлучаецца.

465. А плавала шэра вутачка па рацэ.
А плывець, плывець шэра вутачка, панырнець,
А плакала родная мамка па дачцэ.
І плачаць, плачаць родная мамка, уздыхнець:
— А калі ж ты, мая дачушка, бывала,
Дак тады ж я цяжкай работкі не знала,
А як пайду я, старэнькая, па ваду,
А змёрзнуць мае ручачкі на ляду,
Тады я сваю дачушачку спамяну.

466. Плавала вутачка па рацэ, *
Плакала мамачка па дачцэ.
Плаваець, плаваець ды нырнець,
Ой, плачаць, плачаць ды ўздыхнець:
— Дачушка мая мілая,
Работка твая сціпная,
Гадавала цябе не гадок,
Прагуляла цябе за дзянёк.
Калыхала цябе не ночку,
Прагуляла цябе ў вяночку.

467. Плавала вутанька па рацэ,*
Плакала Матронка па дачцэ:
— Дачушка мая нежная,
Ты ж у мяне на палатках лежвала,
Як сталі людзі пытаці,

Сталі мае палаці гуляці
І пухавыя падушкі,
І бялёвыя дзяружкі.

468. Кукавала зязюля на страсе,
Плакала мамачка па дачцэ:
— А дачушка ж мая мілая,
Я ж цябе радзіла, гадавала,
Ад цябе спасіба не брала.
— Прыедзь, прыедзь, мамачка, ў госці,
Набярэш спасіба ў прыгоршчы,
А будзе дзякаваць уся сям'я.
Не так уся сям'я, як твой зяць,
Не забудзь, мамачка, мяшка ўзяць.

469. У полі схілілась голле,
Ніхто мяне не жалуе, як мамачка мая.
Татка замуж аддае, мамка жалуе:
— Няхай мая дзетка да й пагуляе,
Няхай яе русая каса да па плечках мае.
Няхай яе русая каса па калена,
Што б яе галовачка не балела.

470. Чыя гэта мамачка
У канцы стала стаіць?
У канцы стала стаіць,
На сваё дзіця глядзіць:
— Была ў мяне дачушка,
Дарагое дзіцятка.
Яна позненька ляжа,
Яна раненька ўстане.
Сені-хату падмяце,
Мне вадзіцы прынясе.
Мне вадзіцы прынясе,
Мне кароўкі напасе.

471. Верціна мамачка
Па падвор'і ходзіць 2
Да ўсё ручкі ломіць:
— Хто па маім падвор'і

Да хадзіць будзе,
А хто маё падвор'е
Да красіць будзе?
— Закрасіць падвор'е
Зялёна травіца,
Унізіць парогі
Меншая сястрыца. 2
А развесяліць сямейку
Да большы брацетка.

472. Нінчына матачка па двару ходзіць,
Па двару ходзіць, ручачкі ломіць.
Ручачкі ломіць, слёзачкі роніць:
— Алёшка мілы, што мы зрабілі,
Мілае дзіця ў людзі пусцілі?
Алёшка мілы, што гэта будзець,
Мілай дачушкі ў нас не будзець.

473. Да чыя ж там лілея
Сярод столу расцвіла?
Да чыя ж то мамухна
Па сенях ходзя самлела?
Каценькіна лілея
Сярод столу расцвіла,
Каценькіна мамухна
Па сенях ходзя самлела.
— Вазьмі, сястрычка, гэту лілею,
Пускай мамухна не млее.

474. Па дарожцы бела пташачка ляцела, 2
Глядзі, Манечка, твая матуля самлела. 2
Як не будзець па ёй матулечка млеці,
Калі не будзе каму матулю глядзеці.

475. Знаць, Манечка, цябе татка жалеець,
Ходзіць жа ён па хатачках, аж млеець.
Позненька ляжаць, раненька ўстанець, заплачыць,
А дзе ж ён сваё дзіцятка забачыць?

476. Будзеш ведаць, мая мамка, дачку аддаўшы,
Дачку аддаўшы, нявестку ўзяўшы.
Стукнеш вядзерцам, вады не будзе,
Тады табе, мая мамка, жаль дачкі будзе.
Будзе табе ўжо, мамка, прастора ў хаце.
Будзе маё месцечка за сталом гуляці,
Будзе мой кусочак за сталом ляжаці,
Будзе ж мая ложка на стале брасчаці,
Тады табе, мая мамка, будзе жаль дзіцяці.

477. Паглядзіся, матанька, да мяне аддаўшы,
Да нявестку ўзяўшы.
Да ўстанеш раненька, да няма каго будзіці,
Возьмеш вядзёрка, няма вадзіцы.
Ты ж будзеш думаць, што валы пагнала,
Да твае валы стаяць у хляве,
Да тваё дзіця ў чужой старане.
Пастушкі ідуць, ты будзеш пытаці.
Яны табе, мая матанька, не будуць казаці.
Да волікі прыйдуць, да мяне не будзе,
Да табе, мая матанька, горшы жаль будзе.

478. Пазнаеш, маці, дачку аддаўшы,
Стукнеш вядром, вады не мае,
Да будзеш уставаці рана па вадзіцу,
Да будзеш ты будзіці ўсю сваю сямейку.
Да будзеш будзіці, да не адзавецца,
Спамянеш дачушку, слязьмі абальешся.

479. Пазнаеш, маманька,
Як мяне аддаўшы. 2
Да не замяняўшы.
Пойдзеш да вядзерца,
Вадзіцы не будзе.
Пойдзеш па вадзіцу,
Слядонькі пазнаеш:
— Гэта маго дзіцяці
Два слядочкі знаці,
Кудою хадзіла,
Вадзіцу насіла.

480. Пазнаеш, матка,
Дачку аддаўшы,
А чужую ўзяўшы.
Ды будзеш хадзіці
Рана па вадзіцу,
Ды будзеш трусіці
Раннюю расіцу,
Ды будзеш трусіці,
Не натрусішся,
Ды будзеш прасіці,
Не напросішся.

481. Паглядзіш, татанька, мяне аддаўшы,
Мяне аддаўшы, сам рана ўстаўшы,
Пажанеш волікі ў зялёну дуброву.
Покі каго ўпросіш, ножкі памочыш,
Па маіх слядках слёзкі пароніш.

482. — Паглядзіш, бацэнька, без мяне,
Чы найдзеш такую, як мяне?
Хто табе волікі папасе,
Хто табе травіцы прынясе?
— Е ў мяне менша за цябе,
Тая мне волікі папасе,
Тая мне травіцы прынясе.

483. Ой, заплачаш, мая мамка, заплачаш,
Як ты ж мяне каля сябе не забачыш.
Пазарастаюць сцежачкі і дарожкі,
Кудою хадзілі мае белы ножкі.
Кудою хадзілі, да не будуць хадзіць,
Каго я любіла, то не будуць любіць.
Каго я любіла, таго загубіла,
Каго не знала, з тым да шлюбу стала.

484. Нашто аддаеш, мамачка, маладу?
Пойдзеш сама, старэнькая, па ваду,
Павалішся з вядзёркамі на ляду,
Памарозіш белы ручкі на снягу.

Будзеш ісці — будуць дзевачкі гуляць,
Цябе будзе, старэнькую, жаль браць,
Што не будзе твайго дзіцятка відаць.

485. — Ой, заплачаш, мой татачка, ой, заплачаш,
Што ты мяне ў сваім доме, ой, не пабачыш.
Як будуць дзеўкі гуляць ісці,
От то будуць пад аконца падбягаці,
Аба мне, маладой, будуць пытаці,
Чы сумееш, мой татачка, ой, адказаці?
— Ой, сумею, дзіця мае, ой, да сумею:
— Не шукайце вы Марфачкі, ой, між дзевачак,
Прыглядайце вы Марфачкі між маладзічак.

486. Ой, пій, матка, пій салодкі да мядок,
Да прап'еш дачку, як маліначку,
Да за адну вечарыначку.
Чаму не гуляла, маладая дзеванька,
З русаю да галоўкаю?
Прызабудзеш гуляці маладою да малодкаю.
Будуць таньчыкі ісці міма вароцечак,
Да не пойдзеш да пагуляці.
Да малойцы ісцімуць каля аконейка,
Да не будуць паклікаці.
За варота выйдзеш да на таньчыкі глянеш,
Мыслямі схорнешся:
— Майго бацюшкі крутыя горы,
Пагуляці мне даволі,
А ў свякратка ўсюды роўненька,
Пагуляці мне не вольненька.

487. Ай, што й гэта за зеллечка,
Што макава і насеннечка.
І што гэта за матачка,
Што прадала і дзіцятачка.
За горкаю й водачку
Прапіла малодачку.
Лёгка было і прапіваці,
Цяжка будзе і забываці.

488. Прапіла мамка дачку 2
На саладку мядочку.
Напілася — скача, 2
Праспалася — плача.
Аглядзелася маці —
Няма дачкі ў хаце.
Мамачка ў прыклець — дачкі нет.
Мамка за вароты — толькі след...
Ой, плач, мамка, хоць не плач,
Пойдзеш на рэчку плацце прач,
Падпяражыся трапячом,
Вымаеш сарочку ты з плачом.

489. Прапіла маці дочку,
Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку,
На горкай гарэлцы.
— Маеш, маці,— па дзеўцы.
— Не сама я прапівала,
Не сама я прапівала,
Радзіна памагала.
Ой, было добра, ой, было добра
Мёд-гарэлку піці.
Прыйшоў панядзелак,
Прыйшоў панядзелак —
Няма каго будзіці.
Аглядзелася маці,
Аглядзелася маці,
Што няма дочкі ў хаце:
Ні скрыні, ні пярыны,
Ні роднае дзяціны.

490. Прапітная мамачка
Прапіла дзіця сваё
У Слуцку на рыначку,
П'ючы мёд і гарэлачку.
А праспаўшыся, спужалася
Ды дзіцяці ісшукалася.
Ішла яна ды дарогаю,
Дарогаю ды шырокаю,
Там тудэю талака ідзе,
Там тудэю і дзіця ідзе —

З торбачкаю за плячыма,
З слёзкаю пад вачыма.
Каб свая мамка клала,
Палажыла б хлеб і сала,
А чужая мамка клала,
Палажыла хлеба мала.

491. Ой, добра было, мая мамачка,
Мёд-гарэлачку піці,
Ці добра цяпер, мая мамачка,
Што некага будзіці.
Тарчаць лыжачкі пад паліцаю,
Заросшы макрыцаю.
Стаяць місачкі ды пад лаўкаю,
Заросшы мураўкаю.
Ляжыць венічак ды пад зэдлічкам,
Заросшы бярэзнічкам.

492. Прапіла матка дачушку **
За адну вечарушку,
За гарэлкі чарачку,
Ды за мёду шкляначку.
Добра было прапіваці,
Каго будзеш пасылаці,
А хто будзе пасцель слаці,
А хто будзе разуваці,
А хто будзе піць падаці?

493. Ой, добра, добра табе, татулька, да гарэлачку піці,
Дагадаешся, а мой татулька, як без мяне жыці.
Ой, як пойдзеш ты, а мой татулька, да на ток малаціці,
Цапочкам махнеш, цяжанька ўздыхнеш, сільненька заплачаш:
— Ой, няма, няма майго дзіцяці, няма яе работачкі.
Ні работкі яе, ні паходкі яе, ні самае, маладое.
Ой, добра, добра табе, мамулька, да гарэлачку піці.
Дагадаешся, мая мамулька, а як без мяне жыці.
Ой, як пойдзеш ты, мая мамулька, на падол плацце праці,

Пранічкам махнеш, цяжанька ўздыхнеш, сільненька
заплачаш:
— Ой, няма, няма майго дзіцяткі, няма яе работачкі.
Ні работкі яе, ні паходкі яе, ні самае, маладое.

494. Добра было, мая мамачка, салодак мядок піці,
Прыйдзе лецечка, ды рабочы час, з кім будзеш рабіці?
Пойдзеш у поле ды далёкае ядраное жыта жаці,
Займеш постаць ды шырокую, з кім будзеш падганяць.
А нажнеш, мамачка, сноп вялікі, да некаму і завязаць,
І сюды глянеш, і туды глянеш — няма майго дзіцяці,
Сядзеш ты падвячоркаваць — не з кім размаўляці.
Сонца нізка да вечар блізка, да некаму копкі скласць.

495. Ці добра было, мая мамачка, мёд-гарэлачку піці?
Ой, угадаеш, мая родная, як без мяне пражыці,
Як прыйдзе зіма, пазоліш плацце, некаму плацце праці.
Пранічкам махнеш, цяжанька ўздыхаеш, слёзкамі
абальешся.
Як прыйдзе вясна, паставім кросны, некаму красён ткаці.
Чоўнічкам махнеш, цяжанька ўздыхнеш, слёзкамі
абальешся.
Як прыйдзе лета, паспее жыта, некаму жыта жаці.
Сярпочкам махнеш, цяжанька ўздыхнеш, слёзкамі
абальешся.
Ой, як прыйдзеш ты ды да домачку, некаму загадаці.
— Вы, суседачкі, вы, галубачкі, ці не бачылі дзіцяці?
Калі б жа ж яно па ваду пайшло, то б вядзерцы набрала,
Калі б жа ж яно гуляці пайшло, то б дамоў прыбягала.

496. Ото ж табе, мая мамачка, жаль будзе,
Як ты пойдзеш у поле жыта жаць.
Займеш постаць шырокую,
Да не с кім гнаць.
Будзеш з-пад ручачкі паглядаць,
Ці не прыйдзе маё дзіцятка памагаць.
Не сыйдзецца гара з гарою,
Не будзем жыць, мая мамачка, з табою.

497. Кавала зязюля, кавала.
Што яна куючы казала?
Паглядзішся, салавейка, без мяне,

Хто табе гняздзейко саўе,
Хто табе дзетанькі выведзе?
Плакала дзявонька, плакала.
Што яна плачучы казала?
Паглядзішся, матунька, без мяне,
Хто табе вячэраньку згатуе,
Хто табе пасцеленьку пасцеле,
Хто табе кашуленьку вымые?

498. Ой ці я табе, матка, няміла,
Што я ў цябе цэла лецейка рабіла?
Не хадзіла я ні к ерматку, ні к святу,
Прыпадаць будзеш, мая матка, да к майму слядку.
А як ты выйдзеш за вароцейка — слядок знаць,
Да нідзе ж маго мілага дзіцяці не відаць,
Як той слядок да расіцаю западзе,
Ой, так маё мілае дзіця марне прападзе.

499. Закракала шэра вутачка на рацэ,*
Заплакала родна матулька па дачцэ.
— Не плач, не плач, родная мамачка, ты па мне,
Да я ж буду недалёчанька ад цябе.
А ты ж будзеш на сінім моры ваду браць,
А я ж буду ды ў чыстым полі жыта жаць,
А будзем жа мы адна адной галаскі падаваць.
Да ранняю, да ўсё вячэрняю парою,
Да як сойдуцца нашы галаскі з табою.
Як сойдуцца — нагаворацца верненька,
Разойдуцца дай наплачуцца сілненька.

500. Не плач, не плач,
Ты мой брацейка, па мне.
А я буду недалечка ад цябе.
А ты будзеш на сенакосе сена браць,
Я ж буду на роўным полі жыта жаць.
Ты запяеш ды за ранняю зарою,
А я ж заплачу ды гарачаю слязою,
А ці не сойдуцца нашы галасы з табою?

501. Не плачце, сёстры, па сястрэ,*
Не ў туркі сястру аддаяцё,
А ў такія людзі, як бы і мы,
Такая работа, як у нас,
Такая адзежа, як на нас.

502. Не плач, мамачка, ты пры мне,*
Вой, наплачашся без мяне,
Без русы касы без маёй,
Без духмянага вяночка,
Без залатога персцянёчка.
А ў клець ўвайдзеш — кубла нет,
А ў сень увайдзеш — пярыны нет,
А ў хату ўвайдзеш — дачкі нет,
За вароты выйдзеш — толькі след.
Куда гэта дарожка пратарона,
Туда маё дзіцятка завязёна.
Пратарона дарожка ў шчыры бор,
Завязёна дзіцятка ў свёкру ў двор.

503. У лузе калінка стаяла,
Танечка [redacted] мамкай гукала:
— Не плач, мамачка, ты па мне,
Ды наплачашся, мамка, без мяне,
Па новай хатцы ходзючы,
Маю работку робячы.
Паходзіш па хатцы — мяне нет,
Выйдзеш у сенкі — куфра нет,
За вароцікі — толькі след.
— Сыночкі мае мілыя,
Да садзіцеся на коні,
Даганіце у полі.
— Рады б мы яе дагнаці,
Па чым яе нам пазнаці.
Ды ў свякратка на дварэ
Крычыць галасок, як яе.
Шэрыя гусі ганяець,
Дробныя слёзкі раняець.

504. Стукнула-грукнула на дварэ.
— Ці не прыехалі, ці па мяне?
Выйдзі, мамачка, паглядзі.

— Па цябе, дачушка, па цябе. 2
Сталі маю косачку часаці,
Стала мая мамачка плакаці.
— Не плач, мамачка, па касе,
А скора заплачаш па дачцэ.
Увайшла ў клетку — кубла нет,
Увайшла ў хатку — дачкі нет.
За сталом месцечка гуляе,
На стале ложачка сухая.
— А сядлайце, братцы, вы коні,
Даганяйце сястру вы ў полі.
Браты сястрыцы не дагналі,
Толькі пачулі галасок, як яе,
У свякраткавым двара.

505. А з начы, з начы, з паўначы
Прыехала к дзеўцы два панічы,
Сталі яе косачку часаці,
Стала яе мамачка плакаці.
— Не плач, мамачка, па касе,
Заплачаш заўтра па дачцэ.
Пойдзеш у клетку — кубла нет,
Прыйдзеш у хатку — дачкі нет.
За сталом месцейка гуляе,
На стале ложачка сухая.
— Як маё дзіцятка адбыло,
Дык маё падвор'е заўныла.
Дзе ж маё дзіцятка жыць будзе,
Падвор'ечка весела будзе.

506. Ай, не плач, мамачка, у панядзелак,*
Заплачаш, мамачка, ты ў аўторак,
Як сядзіць сямейка ўся за столік.
А ці ўсе ложачкі паразбяруць?
Наташкіна ложачка астанецца,
Мамачка слёзкамі абальецца:
— Дзе ж мая дачушка падзелася,
Ці з сакалом, ці з лебядзём у поле паляцела,
Ці з маладым Колечкам паехала?
Ні з сакалом, ні з лебядзём у поле паляцела,
З маладым Колечкам паехала.

507. Да не плач, татка, па мне, 2
Стог табе жыта ў гумне.
Пажала, павязала, 2
У скірданькі паклала.
Як будзеш начынаці, 2
Будзеш мяне ўспамінаці.
Як будзеш малаціці, 2
Будзеш па мне галасіці:
— Гэта же да маё дзіця жала, 2
У снапочкі вязала
Ручкамі да бяленькімі, 2
Пярсцёнкамі залаценькімі.

508. — Выйду за варотачкі — коні іржуць,
Куды маю маладую Надзечку павязуць?
— Не плач, маценька, не думай,
Павязуць мяне за Дунай,
За тыя лозанькі густыя,
За тыя рэчанькі быстрыя.
А я, маценька, лозанькі пасяку,
Да цябе, родненька, у госці ўцяку.

509. Пакінь, пакінь, мая мамачка, тужыці,
Я пайду не за наймітку служыці.
Мяне будуць паціхоньку зважаці,
А я буду ім у хатачку спрыяці.

510. Пакінь, пакінь, мая мамачка, бедаваць,
Было табе паследняй дачкі не аддаваць.
А як пойдзеш, старэнькая, па ваду,
А як павалішся з вядзёркамі на ляду,
А як пакоцяцца твае вядзёркі пааднаму.
Не будзіць каму твае вядзеркі падымаць,
Не будзіць каму тваёй старасці шанаваць.

511. Ой, зрабіла я табе, мамачка, бяду,*
Будзеш хадзіць, старэнькая, па ваду,
Павалішся, старэнькая, на ляду.
Не будзе ў цябе твайго мілага дзіцяці,
Не будзе каму старэнькую падняці,
Доўга будзеш на халодным ляду ляжаці.

512. Хоць ты, мамачка, плач, не плач,
Усё раўно будзеш плацце праць.
Пакуль рубашку папярэш,
Не раз дачушку памянеш,
Пакуль другую папярэш,
Не раз любую памянеш.

513. Ох, плач, мамачка, хоць не плач,
Пойдзеш на рэчку плацце праць,
Падпярэжашся трапкачом,
Прыйдзеш дадому з плачом.
Да захочаш папраць беленька,
Да памерзнуць ручанькі скоранька.
А хоць беленька папярэш,
Такі мяне, маладу,, спамянеш.

514. Успамянеш, успамянеш мяне, мамачка, маладу,
А як пойдзеш ты раненька па ваду,
Як прымёрзнуць тваё ножанькі на ляду:
— А што ў мяне за дзіця было Танечка,
Яна раненька, яна позненька па ваду.
І не мёрзлі тваё ножанькі на ляду.

515. Успамянеш, мая мамачка,
Мяне, маладзенькую, аддаўшы,
Заўтра раненька ўстаўшы,
Па сенячках пахаджаючы,
Сваю сям'ю абуджаючы:
— Уся ж мая сям'я дома,
Аднае дачкі няма.
Сені, хата немяцёная,
Сям'я мая невясёлая,
Ложачкі да пад прыпечкам
Пазарастаюць ракітнічкам,
Тарэлачкі да пад лаўкаю
Пазарастаюць мураўкаю.

516. Ой, ці не жаль табе ды, мой ойчанька, будзе,
Ой, як я ў бары сівыя валы напасу,
Ой, ды не ў тваё вароцейка паганю?

Чужы ойчанька будзе волікаў упрагаць,
А мой родненькі будзе слёзкі раняць.
Ой, ці не жаль табе ды, мой брацейка, будзе,
Ой, як я ў лузе сівага каня напасу,
Ой, ды не ў твае вароцейка павяду?
Чужы брацейка будзе коніка сядлаць,
А мой родненькі будзе слёзкі раняць.
Ой, ці не жаль табе ды, мая матанька, будзе,
Ой, як я ў лесе чорных ягад набяру,
Ды чужой матаньцы чорныя ягады панясу?
Чужая матанька будзе ягадкі прымаць,
А мая родная будзе слёзкі раняць.
Ой, ды ці не жаль табе, мая сястронка, будзе,
Ой, як я ў саду чырвоных кветак набяру,
Ды чужой сястронцы чырвоны кветкі панясу?
Чужая сястрыца будзе кветачкі прымаць,
А мая родная — дробны слёзкі раняць.

517. Узялі ў маткі дачку людзі,
Некаму ў яе рабіць будзе,
Жаль матцы, жаль.
Закалолі матцы шышкі ў пяткі,
Некаму будзе месці хаткі,
Жаль матцы, жаль.
Узялі ў маткі дачку чэрці,
Некаму будзе канапель церці,
Жаль матцы, жаль.

518. А ўкалола ж мамцы ў пяткі,
Што некаму будзе месці хаткі.
А ўкалола ж мамцы ў ножку,
Што некаму будзе засцілаць ложку.
А ўкалола ж мамцы ў другую,
Што некаму будзе мыць падлогу.
А ўкалола ж мамцы ў галоўку,
Што некаму будзе даіць кароўку.

519. Ліха бацьку ў грудзі,
Што 'ддаў дачку ў людзі.
Шышкі матцы ў пяты,
Што некаму падмесць хаты.

А брат воўкам выць,
Што сам ложкі мыць.
Сястрын жывот баліць,
Што некаму палацён бяліць.
У нявесткі галава баліць,
Што некаму кароў даіць.

520. Кальнула матку ў пяткі, *
Што некаму замесць хаткі.
А брат воўкам выець,
Што сам ложкі мыець.
Бацька з ума сходзіць,
Што дачку ўвозюць.
— Родная дачушка,
Каму будзеш служка?
Родная дачушка,
Ване будзеш служка.

521. Зялёны садочак красуе,
Дзевеччын брацейка бядуе:
— Аддаю сястру, аддаю,
Хто маю кароўку напасе, 2
А хто мне вадзіцы прынясе?
— Не парой садочак красуеш,
Запозна, брацейка, бядуеш:
Як была я дзеўкай у цябе,
Называў, брацейка, гультайкай,
А як сталі людзі мяне браць,
Стаў мяне, брацейка, шанаваць, 2
Усю маю работу ўспамінаць.

522. Не ведала зязюля, колькі ў садзе быці,*
Не ведала мамачка, як дачушку збыці.
— Збудзеш мяне, мамачка, аб адзін дзянёчак,
Не забудзеш, мамачка, за цэлы гадочак.
Сядзеш за столік — месцейка гуляе,
На стале ложачка ляжыць сухая,
У куточку краватка стаіць пустая.
Пойдзеш на рэчку — кладачка сухая,
Прыйдзеш у хатку — хатачка пустая,
Сядзеш за столік — мясціна гуляе.

Будзе мая ложачка на стале валяцца,
Будзе табе, мамка, цяжка ўздыхацца.
На дварэ сцежачка зарасцёна,
Куды ж маё дзіцятка павязёна.

523. Не ўмела зязюлька ў садзе быць,*
Не знала мамка, як дачушку збыць.
Збыла дачушку за адзін дзянёчак,
За адзін дзянёчак, за вечарочак.
— Ці ў цябе, мамка, жалі не будзець,
У цябе дачушкі болей не будзець.
Выйдзеш на вулку — вулка глухая,
Увойдзеш у хатку — хатка пустая,
Пойдзеш на рэчку — кладка сухая.
Твая пасцелька не пасцеленая,
Твая вячэрка не едзеная.
Твая ложачка ляжыць сухая,
Твая мамка засмучоная.

524. Да сказала маці — не збуду дзіцяці.
А ж маё дзіцятка ды само збылося.
Да пагнала валы ў шчыры бары,
Валы пагубіла, дамоў заблудзіла.
Прыблудзіла ж яна да к сіняму мору:
— Ой, сіняе мора, да скажы мне праўду.
Ці валоў шукаці, ці дамоў ступаці?
— Да, дурная дзеўка, розуму не маеш,
На чужой старонцы ды валоў шукаеш.
Палавы ж валы ў бацькі на дварэ,
А ты, маладая, на чужой старане.

525. Да казала маці, што не збыць дзіцяці,
А маё дзіцятка да само збылося.
А пагнала валы ў шчырыя бары,
Валы пагубіла, сама заблудзіла.
Прыблудзіла да к сіняму мору,
Да к бітай дарозе.
К бітай дарозе, к белай бярозе.
А на той дарозе чорны воран грача,
А пад той бярозай дзяўчыначка плача:

— Ой, ты, чоран воран, ты сядзіш высока.
Ты сядзіш высока, ты бачыш далёка,
А ці бачыш, воран, маю мамку дома?
— А твая мамка па падвор'ю ходзіць,
Яна ручкі ломіць, белы ручкі ломіць:
— Вы ж мае валы, вы ж палавыя,
Будуць і другія,
А майго дзіцяці навек не відаці.
Валы мае, валы, валы палавыя.

526. Казала маці — не збыць дзіцяці.
Аж тое дзіцятка само збылося.
Пагнала валы ў шчырыя бары,
Ці яна заснула, ці яна не чула?
Сама заблудзіла, валы пагубіла.
Валы прыйшлі, а дзіцяці няма.
Выйшла маці валы заганяці,
Валы заганяла ды ў валоў пытала:
— Ой, валы, валы, валы палавыя,
Валы палавыя, дзе дзіця дзелі?
— Тваё дзіцятка ў свякрухі на дварэ.
Па двару ходзіць, дзела пытае.
Пытае ў свякроўкі, ці даіць кароўкі.
— Даі не век, на што поўны хлеў нагнала.
— Ці табе я, мамачка, у варотах стаяла,
Што ты мне так горда сказала.

527. Думала маці, не збудзе дзіцяці.
У пятніцу рана не дала снядання,
У суботу ў абедзе не дала абеду,
А збыла ў нядзельку за адну вячэрку,
А ў панядзелак рана дзіця ўспаміналa:
— Дзе мая дачушка ночку начавала?
Дзе яна сядзела — месцечка гуляла.
А што яна ела — лыжачка сухая.

528. Думала маці — ды не збудзе дзіцяці,
Ажно ж тое дзіцятка ды само збылося.
Ды само збылося дый адраклося.
У нядзелю рана яно не абедала,
У панядзелак увечары села ды паехала.

Абдумалася маці, што няма дзіцяці.
Ды яго ложачка ляжыць сухая,
А яго месцечка ўсюды гуляе.
Ды на яе месці некаму сесці,
Яе ложачкай некаму есці.

529. А сказала ж маці — ды не збыць дзіцяці.
Аж тое дзіцятка ды само збылося.
Пагнала валы ў шчырыя бары,
Валы пагубіла, сама заблудзіла.
Волікі прыйшлі, а дзіцяці няма.
Аж выйшла маці валы заганяці,
Валоў заганяе і ў валоў пытае:
— Ой, валы ж мае, валы палавыя,
Дзе ж вы падзелі дзіця маладое?
— Ды тваё дзіцятка ў свякрухі ў хаце,
Сярод хаты стаіць ды ўсё пытае:
— Божа ж мой, божа, што ж мне рабіці?
Што ж мне рабіці, каго слухаці:
Ці мне свёкаркі, ці мне свякроўкі?
Ці мне дзевярка, ці мне залоўкі?
Ці ж мне міленькага, суджонага?
Свякруха кажа — у печы паліць,
Свёкарка кажа — ложачкі памыць,
Залоўка кажа — хатачку месці,
Дзеверка кажа — конейкі весці,
Міленькі кажа — спаці лажыцца,
Спаці лажыцца, каб не спазніцца.

530. Бедавала маці, бедавала,
Што не збыць дзіцяці.
Ой, збыла, збыла ды за тры дзянёчкі.
Не забудзець цяпер ды за тры гадочкі.
Будзе і месцечка за сталом гуляці,
Будзе і місачка сухая ляжаці.
Будуць валы і кароўкі ў хлеве рыкаці,
Будуць вашы конікі на стайне іржаці,
Будзе цябе, маладую, мамачка ўспамінаці.

531. Думала маці, не збудзе дзіцяці, не збудзе дзіцяці.
Збыла дзіцятка за адну нядзельку, за адну нядзельку.

За адну нядзельку, за адну вячэрку, за адну вячэрку.
Садзіцца вячэраці — ложачка гуляе, ложачка гуляе,
Лажыцца спаці — пасцелька нямая, пасцелька нямая.
Дзе ж маё дзіцятка заначавала, заначавала?
Можа, ў роўным полі пад калінаю, пад калінаю?
Калінку ламала, пад галоўку клала, пад галоўку клала.
Кляновым лісточкам пакрывалася, пакрывалася.

532. Думала маці, не збудзе дзіцяці,
А ну ж дзіцятка само збылося
За адну гадзіну, за адну вечарыну,
За адзін дзянёчак, за вечарочак.
Думала маці, што пайшла ў поле,
Прыйшла да хлева — кароўка ў хлеве.
Думала маці — пайшла гуляці,
Выйшла на вулку — яе не відаці.
Думала маці — сядзіць на лаўцы,
Прыйшла да лаўкі — лаўка пустая,
Села абедаць — лыжачка сухая.

533. Думала маці, не збудзе дзіцяці, не збудзе дзіцяці.
Гэта дзіцятка само збылося, само збылося,
За адну гадзінку, за вечарынку, за вечарынку.
Думала маці, што кароўкі доя, што кароўкі доя.
Пайшла ў сенцы — стаіць вядзёрца, стаіць вядзёрца.
Села абедаць — месца гуляе, месца гуляе,
Ляжыць ложачка яе сухая, яе сухая.
І патраўка не памачона, не памачона,
Маё дзіцятка ад мяне адлучона, ад мяне адлучона.
Гляну на ложка — няма падушкі, няма падушкі.

534. Казала маці — не збуду дзіцяці.
Аж маё дзіцятка ды само збылося,
Ды само збылося і не азвалося.
Ды казалі мала, ды валы нагнала,
Аж мае валы ды стаяць у хляве,
А маё дзіцятка ў свёкра на дварэ.
Ды казалі мала, ды кароўкі доіць,
Аж маё дзіцятка з свёкрам гаворыць:
— Усё ўмею рабіці, усё ўмею рабіці,
Але не ўмею свайму свякру ўнаравіці.

— Унаровіш, нявехначка, унаровіш,
Калі па майму падвор'ейку паходзіш,
Дзесяцёры ключыкі паносіш,
А адзінаццатыя вароцейкі адчыніш
Ды ўсё й добрае ўчыніш.

535. Бедавала маці, што не збыць дзіцяці.
А як збыці — збудзе, забыць — не забудзе.
А як збыці — збудзе за адзін дзянёчак,
Забыць — не забудзе за цэлы гадочак.
Думала мамачка, што кароўкі пасе,
Ажно кароўкі ў хляве рыкаюць.
Думала мамачка: па вадзіцу пайшла,
Ажно вядзерца стаіць сухое.
Думала мамачка: на вулцы гуляе,
Ажно вулачка наша ціхая.
А божа, мой божа, што гэта будзе,
Наша вулачка ціхая будзе.
Наша вулачка ціхая не будзе:
Валечка пойдзе — Ніначка будзе.

536. Задумала маці, што не збыць дзіцяці.
А тое дзіцятка ды само збылося,
У чужыя рукі служыць асталося.
Ні роду, ні плоду, як камень у воду.
Як камень у воду, вада збаўтанецца,
Ужо тваё гулянне ды навек мінецца.

537. Казала есь, мая мацюнка,— не магу цябе збудзіці,
Напасі цяпер свае каровы на маей ярай руце,
А цяпер кажаць мая мацюнка—не магу на цябе паглядзеці,
Як у садоньку, у вішнёваму на чырвоныя квеці.

538. Ой, казаў жа ты, мой брацейку,
Што ты мяне не збудзеш.
Ото я табе таго слоўца
Па весь век не забуду.
Ой, як жа пойдзеш,
Ой, мой брацейку,
На шырокую ніву,

Ой, то спамянеш
Сваю сястронку
Сто разы на гадзіну.

539. — Ты казала, мамка,
Што не збудзеш мяне.
Прыступісь да стала,
Падзівісь на мяне.
— Хоць прыступлюся,
Не надзіўлюся,
Дачка мая міла.
— Хоць міла, хоць не міла,
Я табе не ўгадзіла:
Ні у полі, ні на волі.

540. Да й казала мамка,
Да й казала любка,
Што я дочкі не збуду.
Як свет будзе, возьмуць людзі,
Ці не жаль да табе будзе.
Да й казала мамка,
Да й казала любка,
Пайшла ж дочка на вечарочкі.
Яе ж мучочкі ў кашолачцы,
Сярпаньчык на галовачцы.

541. Ой жа, думала, мая мацюнка, што не збудзеш век мяне,
А цяперачка, мая родная, нажывешся без мяне.
Ой, як прыйдзеш, мая мацюнка, маімі сцежанькамі,
Заліешся ты, мая родная, горкімі слёзанькамі.
Ой, як пойдзеш ты, мая мацюнка, зелена жыта жаці,
Займеш шырока, глянеш далёка — некаму успамагаці.
Як зажнешся ты, мая мацюнка, з гары ў даліну,
Успамянеш мяне, мая родная, сем раз на гадзіначку.

542. — Да паглядзішся, мая матанька, без дачкі,
Пазарастаюць па-за лаванькай казлячкі.
Некаму будзе да ў лес па грыбы хадзіці,
Да будуць, будуць каля лавачкі радзіці.
— Сякаво-такаво, маё дзіцятка, прабуду,
Каля лавачкі тыя казлячкі апрачу.

Ды як я выйду на вулачку, усё плачу,
Што я свайго мілага дзіцяці нігдзе не бачу.

543. Астаешся, мая мамулька, без дачкі,
Ай, парастуць пад лавачкаю казлячкі.
І некаму будзець падлаўейка вымятаць,
Некаму будзець казелечкі пазбіраць.
А не бядуй, мая мамулька, не бядуй,
А ты сабе меньшанькую падгадуй.
А будзець каму,падлаўечка вымятаць,
А будзець каму казелечкі пазбіраць.

544. Дрэнна будзе, мая сваціца, без дачкі,
Ды як парастуць па залаўейку казлячкі,
Не нада будзець у шчырыя бары хадзіці,
Ды яны будуць па залаўейку расці.
Усе пойдуць у шчырыя бары грыбы браць,
А ты, сваціца, па залаўейку выбіраць.

545. Вот табе, мамка, без дачкі,
Пазарасталі за лаўкай казлячкі.
Будуць людзі па бярэзнічку хадзіці.
А ў мае мамкі па залаўечку радзіці.
Будуць людзі па бярэзнічку шукаці,
А ў мае мамкі па залаўечку тарчаці.

546. Астанецца мая матка без дачкі,
Пазароствающь па-за лавачкай казлячкі.
Ды не будзе каму зараненька ўставаці
Да казлячочкі сабіраці.
Агледзелася маці,
Што не ўся сям'я ў хаце.
Есць лыжачкі, ёсць талерачкі,
Няма тут мае дзевачкі.

547. Да пазнаеш, маманька, без дачкі,
Як парастуць па залаўю казлячкі.
Будзе яна казлячкі вымятаці,
Будзе яна дочачку ўспамінаці:

— Была ў мяне дочачка не лянiва,
Штосуботы лаванькi памыла,
Штонядзелi ў цэркаўку хадзiла.

548. — Агледзiшся, мая мамачка, без дачкi,
Як парастуць пад лаўкаю казлячкi.
Будзеш ты да па вулiцы хадзiцi
Да будзеш ты суседачак прасiцi,
Каб памаглi казлячкоў з хаты насiцi.
— Агледзiшся, мая дзiцятка, без маткi,
Як парастуць ў галовачцы стрынаткi.

549. Бывай, бывай, мая мамачка, здарова,
Прыйшла да мяне далёкая дарога.
Ой, цi ж добра, мая мамачка, без мяне,
Пазарасталi сураежкi на стале.
Ой, цi ж добра, мая мамачка, без дачкi,
Пазарасталi па-за лаўкамi казлячкi.
А ў нядзельку ўсёй параненька, людзi да iдуць грыбы
збiрацi,
А мая мамка, мая родная, па-за лаўку ламацi.

550. Да пабачыш, мая матка, без дачкi
Пазарастаюць усе сцежачкi.
Засвяцi, мацi, свечку,
Цi хораша ў хаце
Без твайго дзiцяцi?
Лыжачкi пад лаўкаю
Зараслi мураўкаю.
Мiсачкi пад парогам
Зараслi мурогам.

551. Вот табе, мамка, без дачкi,
Пазарастаюць па залаваччу казлячкi,
А пад лаўкаю ды мураўкаю сметнiчкi.
Вот табе, мамка, зяць малады.
Да не пiць табе было той гарэлкi, як вады.
Да тая гарэлачка з падманачкай,
Спадманула i тваё дзiцятка адманула.

552. Паспрабуеш, мая мамачка, без мяне,*
Парастуць грыбы пад лаваю ў цябе.
Не гразі ж ты, дачушка, не гразі,
Устаў, паўбраў, наварыў, пад'еў, як бы даў.

553. Будзе ж табе, мая мамачка,
Ды прасторна ў хаце.
Будзе мой кусочак на стале ляжаці,
Будзе мая лыжачка па стале брашчаці,
Тады табе, мая мамка, стане жаль дзіцяці.

554. Астаецца маці
Да чатыры вуглы ў хаце,
А пятая — паліца,
Няма дачкі да памачніцы.
А шостая — столя,
Аставайся здарова.
А сёмы — куточкі,
Разабралі да людзі дочкі.

555. Агледзелася маці,
Што чатыры вуглы ў хаце.
Чатыры вуглы ў хаце,
А пяты ў запечку.
Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
А прапіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача.
— Было ж, цешча, не хваліцися,
Пасадзіці да дзівіцися,
Пасадзіці да на ганачку,
Дзівіцися да штораначку.

556. Разганяйся, маці,
Па вялікай хаце,
То ў куток, то ў запечак,
Галавою аб прыпечак.
Кладзі серпа на парозе,
Бо ўжо жніца ў дарозе.
Ручаёчкі на паліцы,

Няма дачкі-памачніцы.
Стаяць міскі да пад лаўкаю
Да зарастаюць мураўкаю.

557. Да павярніся, маці,**
Да па вялікай хаце.
То ў куток, то ў запечак,
Галавою аб прыпечак.
Ці вяліка шчэрбіна
Без свайго сем'яніна?
Была хата, як святліца,
А цяпер, як цямніца.
Да жук на печы скача,
Брат па сястры плача.
Сястра брата не ўважае,
На вазок сядае.
Пайшла маці канапель дзерці,
Да ўхапілі дачку чэрці.
Ухапілі да й паперлі,
Канапель не пацерлі.

558. Ой, родная мая мацёнка,
Ой, было цесна са мною,
А цяпер, мая мацёнка,
Таўчысь да галавою
То ў печ, то ў запечак,
Галавою аб прыпечак.

559. Разганяйся, маці,
Па вялікай хаце.
Ад кута да кута
Будзе табе пакута.
Аб печ галавою.
Аб запечак нагою.

560. Разганяйся ж, маці, 2
Да па вялікай хаце.
Да мая ж маці.
Гэта табе, да мая ж маці,
Да чатыры да вугла ў хаце.

Абалонечка,
А пятая абалонечка.
Павязёна твая донечка.
Столя,
А шостая столя,
Ой, я ж донька не твая.
Да ручанькамі,
Возьмамо да ручанькамі,
Павяземо да канючанькамі.
Да бяленькімі,
Возьмамо да бяленькімі,
Павяземо вараненькімі.

561. Запалі, мамка, свечы**
Да й абыдзі кругом печы.
Ці вяліка шчарбіна,
Што няма сем'яніна?
Ці вяліка дзірка стала,
Дзе ж твая донька спала?

562. Раскашай, маці, сама сабе ў хаце,
То ў куток, то ў запечак,
Аб печ галавою, аб запечак барадою,
Аб лайку спінаю,
Штоб спіна не балела
І дочкі не жалела.

563. Во табе, маці, галавата,
Апусцеець твая хата,—
Duньку мы вазьмём
І песеньку запяём.
Не кукобіць табе дзеўку.
Прашчай, матка,
Ой, гэй, пейце, бабкі, пейце, дзеўкі.

564. Маша ад'язджаець,
Матульку пакідаець
Старую, нядужую
З дзеткамі дробненькімі,
З служкамі верненькімі.

565. А куды ж ты, дачушка, ад'язджаеш?
А пры кім ты сваю мамку кідаеш?
Яна ж пойдзе старэнькая па ваду,
А прымерэнуць старыя ножкі на ляду.
А як стане старыя ножкі адрываць,
Яна ж будзе сваю дачушку ўспамінаць:
— Як у мяне дачушка бывала,
Я ж тады гэтай работкі не знала.

566. Што ты, Ніначка, задумала,
Пры кім сваю матульку кінула?
Яна ж пойдзе, старэнькая, па ваду,
Замарозіць ручкі, ножкі на ляду,
Тады ўспомніць сваю дачушку маладу:
Як з табой гаварыла,
Як цябе гадавала.
Колькі ночак не даспала,
Будзеш свякроўцы служыць,
Кожны дзянёк вадзіцу насіць,
Свякроўка ж будзе вечна журыць.

567. — Ой, што жа ж ты, млода дзяўчына, думаеш,—
Сваю матулю, як зазуленьку, кідаеш? 2
— Ой, думаю, мае дзеванькі, думаю —
Сваю матуленьку, як зазуленьку, кідаю. 2

568. Ці ты, Анечка, не знаеш,*
Што мамачку кідаеш?
І хто ёй вадзіцы прынясець,
І хто ёй у хатцы прыбярэць?
Прынясеш вадзіцы, да не ў час,
Прыбярэш у хатцы, да не ў нас.

569. — Падумай сабе, ці не жаль табе, дзевачка,
Пры кім ты сваю родну мамку кідаеш?
Хто яе, старэньку, дагледзіць?
Хто яе старэнькія ножкі заменіць?
Хто для яе мякку пасцельку пасцеліць?
Хто яе, старэнькую, накрыець?
Як жа яна пярэйдзець старэнькая на ваду,

Як прымерзнуць яе ножкі на ляду.
— Я кідаю малодшу сястрыцу для яе,
Яна ж яе старэнькую дагледзіць,
Яна ж ейныя старэнькія ножкі заменіць,
Яна ж для яе мякку пасцельку пасцеліць,
Яна ж яе старэнькую накрыець.

570. — Як табе, дзеванька, ды паехаці,
Родную матаньку ды пакінуці?
— Паеду, малада, з залвіцамі,
Пакіну мамачку з сястрыцамі.
Паеду, малада, з дзевяркамі,
Пакіну мамачку з братнейкамі.

571. — Што ў полі жыта папахана з травою,
Жалка расставацца, мамачка, з табою.
— Жалка, доню, жалка і сярдзенька вяне,
А хто ж мяне, доню, да смерці дагляне?
Да смерці дагляне.
— Пакідаю, маці, на меншага брата,
Будзе ў цябе, маці, невясёла хата.
Невясёла хата.
Не будуць хадзіці хлопцы і дзяўчаты.
Едзе поезд лясамі і палямі,
А я абліваюсь дробнымі слязамі.

572. Ой ты, дзевачка маладзенькая, гордыя мыслі маеш,
Ой, ёсць у цябе маманька старэнька, ты яе пакідаеш.
Дзе яна не ідзе, як галубка гудзе, як табе не жаль будзе?
З кім не стрэнецца, не размінецца — слёзкамі абальецца:
— Ой, было ў мяне любае дзіця, дзе яно дзелася?
Ці яно пайшло к броду па воду, то б вядзерца брала б.
А калі б пайшло ў сад вяночак плесці, то дружачак
пазвала.

573. — Куды, куды, мая дачушка, ад'язджаеш,
Ля каго мяне, старэнькую, кідаеш?
Бяры мяне, мая дачушка, з сабою.
— Сама не знаю, дзе буду ночку начаваць,
Можа, я буду ў цёмным лясочку начаваць,
Сама буду з дробнай пташачкай шчабятаць.

574. — А паедзеш, млода Манечка, паедзеш,
Чаму не бярэш сваёй мамачкі з сабою?
— А як жа я да яе буду браць,
Бог ведае, дзе буду ночку начаваць.
Можа, заставяць па цёмным лесе хадзіць,
Можа, заставяць салавейчыкі будзіці?
— Салавейчыкі, дробныя пташачкі, струнаткі,
Укажыце дарожку да маткі.
— А мы табе дарожкі не ўкажам,
А мы табе дробнага жалю зададзім.
Было табе позна звячора не хадзіць,
Было табе свайго Мішачку не любіць.

575. А сцякаліся ды дзве рэчачкі ды ў Дунай,
Прыехала наша дзевачка ў чужы край.
— Чаму ж, чаму мамачкі не брала?
— Куды ж, куды мамачку буду браць,
А хто знае, дзе буду ночку начаваць?
Можа, буду па цёмным лесе хадзіць,
Можа, буду дробны пташачкі будзіць?
— Дробны пташачкі, салавеечкі, стрынаткі,
Пакажыце мне дарожаньку да маткі.
Падняліся дробны пташачкі да неба,
Паказалі мне дарожачку дзе трэба.
— Ужо твая мамачка за морам,
Не даедзеш, мая дзевачка, за горам.

576. А ў моры вутачка купалася, 2
Выйшаўшы на бераг, вытрасалася,
А ў яе вутачкі ды пыталіся:
— Вутачка шэрая, ці зябнуць лапкі?
— Што ж бы я, што ж бы я ды за вуць была,
Каб мае ножачкі ў вадзе зяблі?
Галечка ў каморы прыбіралася, 2
Выйшаўшы з каморы, выглядалася,
А ў яе дзевачкі ды пыталіся:
— Галечка-сястрыца, ці жаль мамкі?
— Што ж бы я, што ж бы я ды за доч была,
Каб жа мне матулькі ды не жаль было?
Яна ж мяне маленькую гадавала,
Яна ж і са мною гаравала.

577. — Падумай-ка, пагадай-ка, Кацечка,
Ці не жаль табе свайго бацюшку кідаці.
— Я ж думала, я ж гадала, што не жаль,
Раздумалась, разгадалась, ажно жаль.

*Тое ж паўтараецца да матушкі, сястрыцы, дзяўчат*

578. — Пасеяла жыта — паніз асакою,
Ай, жалка мне, мамка, расстацца з табою.
— Ай, жалка і мне, жалка, аж сэрца завяне,
Ах, хто ж мне на старасць у галоўку загляне.

579. А палётала сізая пава па чыстаму полю,
А параніла сізае пер'е ў зялёнай дубраве.
А не жаль жа мне сізага пер'я, што параніла,
А жаль жа мне маленькіх дзетак, што я іх пакінула.
Што я іх пакінула маленькіх, нядужанькіх,
Некаму будзець гняздзечка віці, жырочкі паднасіці.
А пахадзіла маладая дзевачка па новенькіх сенцах,
А распусціла русу косачку па беленькіх плечках.
А не жаль жа мне русай косачкі, што я распусціла,
А жаль жа мне жаль роднай мамулькі, што я пакінула,
Што яе пакінула старую, нядужаю,
Некаму будзець пасцелькі слаці, пітачкі падаваці.

580. — Што табе, дзеванька, гаршэ жаль,
Чы зялёнага вяночка,
Чы дзявоцкага таночка?
— Не жаль мне, дзевачкі, нічога,
Жаль мне бацењка старога
Кідаці ўдома самога.
Хто ёму волікі напасе?
Хто ёму вадзіцы прынясе?
Хто ёму пасцельку пасцеле?
Хто ёму кашулю абмые?
Ганіла волікі раненька,
Хадзіла па ваду хуценька,
Слала пасцельку мякенька,
Мыла кашулю беленька.

581. Ой, цяжка траве, цяжка мураве,
Як па ёй ветрык веіць.
Цяжка Ганначцы, цяжка маладзе,
Як па ёй мамка млеіць.
Ой, цяжка траве, цяжка мураве,
Як па ёй конікі скачуць.
Цяжка Ганначцы, цяжка маладзе,
Як па ёй мамка плачыць.
Ой, цяжка траве, цяжка мураве
Ды на бітай дарожцы.
Цяжка Ганначцы, цяжка маладзе
Ды на чужой старонцы.

582. Два валы, два валы рэчанькай плылі,
Пераплыўшы рэчку, яны рыкнулі,
А маладая Галя вадзіцу брала,
Яна к тым валочкам ды загукала:
— Лепі вам, валочкі, рэчаньку плысці,
Не чым мне, маладзенькай, ад матулькіісці.

583. Рачная рыбанька, чы не жаль табе будзе,
Як то гаворацъ добрыя людзі,
З ракі ў азеры ідучы,
Зялёну траву мнучы?
Маладая Мар'юхна, чы не жаль табе будзе,
Як а табе твая радзіна забудзе?
Чы не жаль табе будзе ад баценька ідучы,
Дабранач даючы?

584. Вячэрняя зорачка
Неба, зоры перайшла, 2
Аж да месяца прыйшла:
— Месячык мой ясненькі,
Як мы з табой расстанемся,
А з сонейкам пазнаемся?
Месячык мой ясненькі,
Абвярніся цёмнай хмаркай,
Абліся дробным дожджычкам,
Тады са мной расстанешся.
Маладая Манечка сені-хату перайшла,
Аж да мамачкі прыйшла:

— Мамачка, мая родная,
Як мы з табой расстанемся,
А са свякроўкай пазнаемся?
— Манечка, дзіця маё,
Апусціся русай коскай
Ды абліся дробнай слёзкай,
Тады са мной расстанешся,
А са свякроўкай пазнаешся.

585. Белая лябёдачка
Аб лёд крыльцамі б'ецца, 2
З вадзіцай расстаецца,
На бераг не ўзбярэцца.
Маладая дзевачка
Аб стол ручкамі б'ецца, 2
З мамачкай расстаецца, 2
Да мілага хілецца.

586. — Як табе, ды жаркае сонца,
З месячкам разысціся?
— Як пайду я па захмар'ейку,
Хмаркамі абгараджуся,
Дождҗыкам адальюся —
З месячкам разайдуся.
— Як табе, красная дзевачка,
З мамачкай разысціся?
— Як пайду я па застоллейку,
Коскамі абвешуся,
Слёзкамі абальюся,—
З мамачкай разайдуся.

587. — Маладая Танечка, як табе не цяжанька*
З матулькай расстаціся,
З свякроўкай пазнаціся?
— Як жа я расстануся,
Так жа я пазнаюся.
Коскамі апушчуся
І з мамкай расстануся.
Слёзкамі аблюся,
З свякроўкай пазнаюся.

588. Шэра зязюля кукавала ў садочку,
Прылажыўшы буйну галоўку к лісточку:
— Лісцікі зялёненькія мае,
Як мы з вамі разлучымся?
— Мароз змарозіць, вецер павееиць,
Вось мы з табой і разлучымся.
Гаварыла малада Маруська з мамкай:
— Як мы з табой разлучымся?
— Прыедзе Ігнатка, цябе павязе,
Вось мы з табой і разлучымся.

589. А як мне з мамкай расстацца?
Як жа мне з свякроўкай пазнацца?
З мамкай расстацца на канцы стала,
З свякроўкай пазнацца пасярод двара.
Як жа мне да іх у хатку ўвайсці?
Там мае ножкі завянуць,
Там мае ручкі змярцвеюць,
Там мае вочкі зацмеюць.

590. Ой, там, пад кусточкам,
Пад арэшнічкам,
Там сонейка купалася,
А дзевачка цалавалася
Да з маткаю прашчалася,
Са свякроўкаю віталася:
— Да ці жывы, ці здаровы
Вашы дзеці гарбузовы?

591. Быстрая рэчка разліваецца,
Млода дзяўчынка з мамкай растаецца,
Лепей мне, моладзе, не радзіцца,
Чым з табой, мамка, разлучыцца.
Быстрая рэчанька на луках стаіць,
Млода дзяўчына на думах сядзіць.
Лепей мне, моладзе, не радзіціся,
Чым з табой, мамка, разлучыціся.

592. Зара з зарой раздзіраецца,
Марыська з матулькаю раздзяляецца.

Каб я, малада, не радзілася,
Што я з матулькаю разлучылася.
Каб я, малада, не кахалася,
Што я з матулькаю разлучалася.

593. Бяроза з лісцем, бяроза з лісцем
Усю восень шумела.*
— Лісцейка маё да зялёнае,
Ты ж мяне кідаць будзеш.
— Цяпер пакіну, вясной зноў буду,
Шумела й шумець буду.
Шумела й шумець буду,
Веццямі махаць буду.
Млада Алачка з мамкаю
Усю ноч гаварыла.
— Дачушка мая, мілая мая,
Ты ж мяне кідаць будзеш.
— Мамачка мая, родная мая,
Я ж цябе не пакіну.
Цяпер пакіну, у госці зноў буду,
Гукала й гукаць буду.
Гукала й гукаць буду,
Памагала і памагаць буду.
Ад свёкаркі ад'еду, к мамцы прыеду,
Гукала й гукаць буду.

594. А ліпачка кудравая ўсю восень шумела.
Ой, яна шумела, шумела,
З лістком гаварыла:
— Лісточак зялёненькі, шыроканькі,
Будзе нам разлука.
Разлучаць нас з табой снягі ды марозы.
Снягі ды марозы, усё буйныя ветры
Ды дробныя дожджы.
А Тонечка маладзенькая ўсю ночку не спала.
Ой, усю ночку не спала,
З мамачкай гаварыла:
— Мамачка мая, родненькая, будзе нам разлука.
Разлучаць нас з табой князі ды баяры.
Князі ды баяры, усё добрыя людзі
Ды малады Іванька.

---

* Кожны другі радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

595. А ліпачка кудравая ўсю восень гаварыла:
— Лісточак мой, да зялёненькі, ты мяне пакідаеш.
— А ліпачка кудравая, рад бы я не пакінуць:
Мароз марозіць, вецер павеець,
Лісточак адпадаець.
А дзевачка да й з маткаю ўвесь вечар гаварыла:
— А дачушка, да дзевачка, ты мяне пакідаеш.
— А мамачка, мая родная,
Рада б я не пакінуць:
Сваты неадхожыя, баяры няз'езджыя,
Не даюць мне жыці.
Павязуць мяне далёка ад цябе —
У чужую старонку.

596. Зялёная ліпка з сваім лісточкам
Усю восень гаварыла:
— Лісточак ты мой, зялёненькі мой,
Разлука наша з табой.
Ой, як павеюць буйныя вятры
З паўночнай старonачкі.
Яны цябе задмуць, мяне пакінуць —
Мы з табой разлучымся.
Красна Аленка з сваім татулькам
Усю нядзельку гаварыла:
— Татулька ты мой, родненькі ты мой,
Разлука наша з табой.
Ой, як наедуць чужыя людзі
З чужое старонaчкі.
Яны мяне возьмуць, цябе пакінуць —
Мы з табой разлучымся.

597. — Як ты, бярозка, як ты, зялёна,
З лісточкамі расстанешся?
З дробнымі расстанешся?
— Ветрык павеець, дождзжык пальецца,
З лісточкам расстануся,
З дробненькім расстануся.
— Як ты, Лёнечка, як ты, малада,
З мамачкай расстанешся?
З родненькай расстанешся?
— Ой, зара, зара за столік сяду,
Слёзкамі аблiюся,
З мамкай расстануся.

598. Ліповае лісцейка
Каля ліпачкі трэцца, 2
З ліпачкай расстаецца:
— Заставайся, ліпачка,
З дубкамі, з бярозкамі,
З зялёнымі адросткамі.
Красная ды дзевачка
Каля мамачкі ходзіць, 2
З мамачкай расстаецца:
— Заставайся, мамачка,
З сынкамі, з нявесткамі,
З блізкімі суседкамі.

599. — Ты мая ліпачка, а я твой лісточак,
Як жа нам з табой расстаціся?
— Ты абсыпешся, а я застануся.
З табой і расстануся.
— Ты ж мая мамулька, а я твая дачулька,
Як жа нам з табой расстаціся?
— Цябе павязуць, а я застануся,
З табой і расстануся.

600. — Цёмна хмара,
Як табе разысціся?
— Малада дзевачка,
Як табе раскланяцца?
— Я разыйдуся, як рыба з лёдам,
Так я з вашым родам.
Як рыба з плотачкамі,
Так я з дзевачкамі.

601. Моравая рыбанька,
Моравая рыбань[ка],
Як табе не трудненька,
Як табе не труднень[ка]
Із мора ў раку плысці,
Із мора ў раку плыс[ці]?
Маладая Галечка,
Маладая Галеч[ка],
Як табе не трудненька,
Як табе не труднень[ка]
Бацёнька спакідаці,

Роднага спакідац[і]?
К свёкарку прывыкаці,
К чужому прывыкац[і].

602. Палынь, палынь, трава горкая,
Трава горкая, безкаронная.
Вох, і ёсць каму мяне біць, журыць,
А пажалаваць мяне й некаму.
Вох, і татка мой ды не жалуе,
Аддае замуж дый прыказвае:
— Во, і насі злота, не хілі к грудзям,
Во, і гаруй гора, не кажы людзям,
Да пій мёд-віно ды не п'яньчыся,
Да гаруй гора ды не скаржыся.
— А мой татачка, а мой родненькі,
Насіўшы злота, злота змажыцца,
Гараваўшы гора, людзям скажыцца.
Піўшы мёд-віно, мушу ўп'яньчыцца.
Не пайду к татку я ў нядзелю,
Ды пайду к татку я ў сераду,
А мой міленькі ўсё й па пераду.
А мой татачка ў варотцах стаіць
Ды на зяцелку наракаецца:
— Да ўзяў дачку, як ліпіначку,
Ды ссушыў-знудзіў, як лісцiначку.
— А мой татачка, а мой родненькі,
Ды не я ж яе ды ссушыў-знудзіў.
Ссушылі ж яе да пастаў-кросны,
Сёмая вясна, як стаяць кросны,
Во ніць ніціцца, бёрда бердзіцца,
А Наталачка ды ўсё сердзіцца.

603. А жалела мяне маці
Ў агарод пасылаці,
А шчыпаці цыбулі.
А цяпер не жалее,
У чужыя людзі аддае,
А чужому дзіцяці.

604. Кацечку маці гадавала,
Да на ветры не пускала,
Да на тыя ветры буйныя,

12. Зак. 298

Да на тыя людзі дзіўныя.
От, цяпер да й пусціла,
З церама да й на ганачак 2
Паслухаці дудачак.
— Вой, дудачкі-прудачкі,
Да не іграйце жалосна, 2
Да не разжальвайце мамкі.
Як мамку да разжаліце,
То мяне да не возьмеце,
Што й мяне да не возьмеце,
Без мяне не паедзеце.
Без мяне да маладой,
Без мае мамкі старой.

605. Гадавалі сястру па шчыросці,
Аддавалі яе па ўчцівосці.
Не пушчалі яе да на вулачку,
Толькі пушчалі да на сонейка.
Пазіралі праз акенечка,
З кім наша дзевачка пахаджаць будзе,
Залатыя пярсцёнкі да мяняць будзе.

606. Ой, між гор, між гор, між даліночкі жоўтыя пясочкі.
Ой, там хадзіліся-прахаджваліся Манечкіны браточкі.
Яны хваліліся-пахваляліся сваёю сястрою:
— Ёсць у нас сястра, лет не дарасла, мы яе выдаем.

607. Ліхія стральцы-байцы па полю ходзяць,
Сочуць-пасочуць старога лося ў гаросе.
Як дачула яго ласіца, што ў лозе,—
Як кінула свае крутыя рогі пад ногі:
— Няхай мае крутыя рогі прападуць!
Куды майго старога лося павядуць?
А з кім я буду па балоце хадзіць,
А з кім я буду сваіх дзетак вадзіць?
Як зазвінелі кутыя колы па мосце,
Як пачула малада Зіначка ў каморцы —
Як кінула залатыя ключы пад ногі:
— Няхай мае залатыя ключы прападуць!
Куды ж мяне ад мамачкі павядуць?
У мамачкі як была, куды хацела хадзіла,

А ў свякроўкі куды захочаш не пойдзеш,
А ў свякроўкі трэба прасіцца, карыцца.

608. А хадзілі стральцы-лаўцы па бару,
Злавілі ласянёначка ў ламу.
Зачула старая ласіца ў бярлогу,
Зламала крутыя рогі аб дарогу:
— А няхай мае крутыя рогі прападуць,
А няхай майго ласянёначка не бяруць.
А ўжо ж мае крутыя рогі прапалі,
А ўжо майго ласянёначка забралі.
А з'язджалі пышныя сваты са двара,
А забіралі младу дзевачку са двара.
Зачула яе мамунька ў каморы,
Кінула залатыя ключы аб скрыню:
— Няхай мае залатыя ключы прападуць,
Няхай маёй дачушкі не бяруць.
А ўжо ж мае залатыя ключыкі прапалі,
А ўжо ж маю дачушку забралі.

609. Пахадзілі маладыя стральцы па полю,*
А злавілі сівога лося ў гаросе.
Як зачула яго ласіца ў лузе,
Паспускала крутыя рогі на ногі:
— Няхай мае крутыя рогі прападуць,
Калі майго сівога лося тут заб'юць.
Пахадзілі маладыя сваты па двару,
А злавілі красну Анечку ў цераму.
Як зачула яе мамулька ўдаму,
Як кінула залатыя ключы аб зямлю:
— Няхай мае залатыя ключы прападуць,
Калі маё мілае дзіця забяруць.

610. Ішлі стрэлцы, ішлі ўлоўцы на ўловы,
Да зачула турова маці ў дуброве,
Ой, кінула туровы рогі аб землю:
— Ой, няхай мае туровы рогі тут прападуць!
Бо ўжо мяне з таго месца пражануць.
Ішлі сваты, ішлі браты на ўловы,
Да зачула маладая Ганначка ў каморы,

Ой, кінула залатыя ключы аб зямлю:
— Ой, няхай мае залатыя ключы тут прападуць!
Бо ўжо мяне з таго месца павязуць.

611. Белая бярозанька папушчала лісцейка,
Папушчала лісцейка з верху да долу,
Чакаючы холаду. 2
Маладая дзяўчынка папушчала слёзачкі
Па беламу лічайку. 2
Чыя гэта мамачка на канцы стала стаіць,
На сваё дзіця глядзіць? 2
— А мая мамачка, калі мяне жалееш,
Напішы маё імя на залатым кубачку,
На верхнім абручайку. 2
А як будзеш кубачак браць,
Будзеш мяне ўспамінаць: 2
— Няма майго дзіцяці, няма каго пасылаці,
А ні ў лес па ягадкі, ні з крыніцы вадзіцы.

612. Баценьку, на дворы дождж ідзе,
Я пайду ад цябе.
Запішы на столе ў сябе,
Што глянеш, мяне спамянеш.
Спамянеш — дзіцетам назавеш.
— Дзесь мае дзіцета гуляе,
Гуляе — перстыні мяняе.
Зазжнешся з горы ў даліну,
Спамянеш сем раз у гадзіну.
Дзе маю работу забачаш,
То жалосна заплачаш,
Ды маімі сцежачкамі кружышся,
Дробнымі слёзкамі уліешся.

613. Радзімы баценька, развітаймося,
Развітаймося, расстаемося.
Запішы мяне на стале ў цябе.
За столік зайдзеш — мяне ўспамянеш:
— Дзесь маё дзіцятка на чужой старонцы,
На чужой старонцы ў чужога баценька.
А чужой баценька без віны карае,
Без віны карае, без вады ўмывае.
Слёзкамі ўмыешся, рукамі ўтрэшся.

614. Калі табе жаль, мая мамачка,
Калі табе жаль, мая родная,
Было мяне не выдаваць,
Было мяне адмуляваць.
У новай святліцы,
Пры сцяне на таблiцы.
Хто ўвойдзе, той пагляне,
Каму будзе жаль, той заплача.
— Няма мае дачушачкі,
Толька яе малюваненька,
Мамінае гадаваннейка,
Дзявочае красаваннейка.

615. Ой, мой баценьку-саколіку,
Вырэзуй мяне на століку.
Ой, як сядзеш абядаці,
Будзеш на мяне паглядаці.

616. Як ты мяне, матанька, аддасі,
На чырвоным паперы напішы.
На чырвоным паперы напішы
І ў новай каморацы палажы.
Пойдзеш да каморанькі да й глянеш
І сваё дзіцятачка спамянеш.
— Куды, маё дзіцятка, хадзіла
І якую работку рабіла.
Ой, бурчэлі шпулечкі, як прала,
Звінела каморанька, як ткала,
Звінела каморанька, звінела,
Там, дзе мая дочанька сядзела.

617. — Хаця ж мяне, мая мамачка, аддасі,
Хаця ж мяне на вароцейках запішы.
А хто ж будзе вароцейкі адчыняць,
А хто ж будзе мяне, маладу, успамінаць?
— Буду, буду вароцейкі адчыняць,
Буду, буду цябе, маладую, успамінаць.
— А хто ж будзе ў поле кароўкі выганяць,
А хто ж будзе мяне, дзіцятка, успамінаць?
— Буду, буду кароўкі ў поле выганяць,
Буду, буду цябе, дзіцятка, успамінаць.

— А ці будзеш па мяне, мамачка, тужыці,
Што я пайду на цэлы свой век служыці?
— Буду, буду, маё дзіцятка, тужыці,
Што ты пойдзеш на цэлы свой век служыці.
— Ці будзеш, мая мамачка, бедаваць,
Што я пайду на цэлы свой век гараваць?
— Буду, буду, маё дзіцятка, бедаваць,
Што ты пойдзеш на цэлы свой век гараваць.

618. Ой, аддасі мяне, мамка, аддасі,
Хаця мяне на вароцейках запішы.
Як будзеш вароцейка адчыняць,
Тады будзеш мяне, млоду, успамінаць.
Не бядуй, мая мамка, не бядуй,
Я да цябе штонядзелечку прыбягу,
То я табе ўсё сваё гора раскажу.
Да не ўмела сваё гора расказаць,
Сталі мяне дробны слёзкі абліваць.

619. Сакоча цяцера, сакоча,
Ды з бору ляцеці не хоча.
— Не лепей жа мне ў бары быць?
У бары вадзіца-крыніца,
У бары ягадка-суніца.
Ой, плача маладая, плача,
З дому ехаці не хоча.
— Не лепей жа мне ў мамкі быць?
У мамкі падвор'е малое,
З мяне пагуляння давольна,
А ў маладога падвор'е вяліка,
Усё маё пагулянне ўнікне.

620. Сакоча цяцера, сакоча,
А з бору ляцеці не хоча:
А ў бару ягадкі салодкі,
Чыстая вадзіца ў крыніцы.
Ой, плача Ганначка, плача,
Ад мамкі ехаць не хоча.
— Як з табой, мама, расстацца,
Ці мне гадочак астацца?
Як жа мне з мамачкай расстацца,

З чужой свякроўкай пазнацца?
А свая мамка родная,
А чужая ж свякроўка нягодная.
А я ўжо ў мамачкі не буду,
У чужой свякроўкі век збуду.

621. У бары цяцера сакоча,
З бору ляцеці не хоча:
У бары ягадкі салодкі,
У бары вадзіца ў крыніцы.
Плача Марылька, плача,
Ад маткі ехаць не хоча.
— У мамачкі работка лёгкая,
У мамачкі вадзіца блізкая,
У мамачкі вядзерцы малыя,
У мамачкі парожкі нізкія.
Адазваўся Марцінка:
— Не бядуй, Марылька,
Я сам работку параблю,
Я сам вадзіцы нанашу,
Я і парожкі паніжу.

622. А ў бары цяцера балбоча,
А з бору ляцеці не хоча:
А ў бары ягодкі салодкі,
А ў лузе каліна горкая,
На полі дзедаўё колкае.
А плача, плача дзевачка,
Ад матулькі ехаці не хоча:
У мамулькі пасцелька цвярдзенька,
А работка яе лёганька.
У свякроўкі пасцелька мякканька,
А работа яе цяжанька.

623. А ў бару цецярук балбоча,*
А з бору ляцець не хоча:
А ў бару ягадкі салодкі.
А ў лузе каліна веткамі,
Не гуляць Манечцы з дзеўкамі.
— Я гэту каліну паламаю,
З дзеўкамі хоць трошкі пагуляю.

Я гэту каліну і ў платок,
Пагуляю з дзеўкамі хоць гадок.
Я гэту калініцу патапчу,
А з дзеўкамі хоць трошкі паскачу.

624. Шчабеча перапёлка, шчабеча,
З бору ляцець не хоча.
— Добра мне было ў бары,
Да не будзе гэтак на моры:
Да ў бары ягадкі-суніцы,
Халодная вадзіца з крыніцы.
Плача-паплача Ганулька,
Ад мамы ехаць не хоча.
— Добра мне было ў мамкі,
Не будзе гэдак у свякроўкі:
У свае мамкі
На вулку іду — гуляю,
А з вулкі іду — не дбаю.
Як засталася к свякроўцы:
На вулку іду — прашуся,
А з вулкі іду — баюся.
На новы ганачак ступаю,
Як боб слёзкі раняю.

625. Да чакеча чаечка, чакеча
Ды з бору ляцеці не хоча.
— Ды як мне добра ў бору,
Ды растуць ягады на долу,
Ды як палячу я ў поле,
Ды не будзе відаць на доле.
Ой, плача дзевачка ды плача,
Ад мамкі ехаць не хоча.
— Ой, як жа мне добра ў мамкі:
Выйду на вулку — гуляю,
Вайду ў хату — не дбаю.
А як пайду к свякратку,
Выйду на вулку — баюся,
Вайду ў хатку — злякнуся.
Нікога я не баялася —
Ні старога, ні малога.
А цяпер жа ўсіх баюся —
І старога, і малога,
І Іваначкі маладога.

626. Баравая пчолачка, 2
Яна з бору ляцець не хоча,
Не хоча.
Яна з бору ляцець не хоча.
Вельмі ж ёй у бары добра,
Добра.
Вельмі ж ёй у бары добра.
Прыйдзе дзень — па бору лятае,
Па бору лятае.
Прыйдзе дзень — па бору лятае,
Прыйдзе ноч — на дубе начуе.
Маладая ж дзевачка, 2
Яна ад бацькі ехаць не хоча,
Не хоча.
Яна ад бацькі ехаць не хоча.
Вельмі ёй у бацюхны добра,
Добра.
Вельмі ж ёй у бацюхны добра.
Прыйдзе дзень — на сяле гуляе,
На сяле гуляе.
Прыйдзе дзень — на сяле гуляе,
Прыйдзе вечар — нічога не знае.

627. У бары цецераў балмочыць,*
Ён з бору ляцець не хочыць:
У бары ягадка саладзенька,
Ва мху вадзічка халадзенька.
Там наша Галінка гуляла,
Красную ягаду збірала.
Ай, брала, брала, заснула,
Ехаў Сашутка, не ўчула.
Ён кальцом каціў, не дакаціў,
Ён платком махнуў, не дамахнуў,
Ён пугай сцябаў, не папаў,
З каня саскочыў, разбудзіў:
— Уставай, Галінка, не ўсыпайся,
Не к мамцы ідзеш, к свякроўцы.
Рана пабуджаць не будзець,
А раз прабудзіць — прасудзіць:
— Мая нявехна санёха,
Мая нявехна драмоха.
Белы кужаль прасць — яна драмаць,
А кросенцы ткаць — саўсім спаць.

А як лыжкі мыць — ваўком выць,
Хату падмятаць — сабакам брахаць,
А пасцельку слаць — хахатаць.

628. Драмліва поле, драмліва,*
Там яно ягаду зрадзіла.
Пайшла Танечка ягаду браць,
А ягад яна не набрала,
Поўны дзянёчак праспала.
Адкуль там быўшы Васенька,
Уплётам хлыстаў, не дастаў,
З каня саскочыў, стаў ён гаварыць:
— Гэта табе, Танюша, не ў мамкі,
Гэта табе, Танюша, у свякраткі.
Выйшла свякроўка на вулку:
— Ляніва, нявестка, ляніва,
У ягады пайшла — не брала,
Поўны дзянёчак праспала.
У клецъ яна пайшла — клецъ сажгла,
Ці там дабрынкі не было?
Сем састаў ануч вісела,
З камарова сцягно мяса было,
З арэхаву шкарлупу масла было.

629. Драмліва поле, драмліва,*
Сільныя ягадкі зрадзіла.
Пайшла Юлечка ягад браць.
Беручы ягадкі, заснула.
Наехаў Іванька, не чула.
Пужкаю сцебануў, не дастаў,
Пярсцёнкам катнуў, не папаў,
Злез із коніка дый накрыў:
— Спі ж, мая Юлечка, высыпайся,
Не к татухну йдзеш, к свёкарку,
Не к мамухне йдзеш, к свякроўцы.
Там цябе жалеці не будуць,
Там цябе раненька ўзбудзяць,
Там цябе па вадзіцу пашлюць,
Скажуць:
— Негадзяй, нявестка, негадзяй,
Па вадзіцу пайшла — аблілась,
Па цяпелца пайшла — абпяклась,

Бел кужыль прала — драмала,
Красенцы ткала — іравала.

630. Драмліва поле, драмліва,
На ягаданьку ўрадліва.
Ніхто тых ягад не смеў браць,
Адна наша Ніначка пасмела.
Браўшы ягадкі, заснула,
Наехаў Іванька, не чула.
Махнуў хустаю, не дамахнуў,
Пакаціў пярсцёнак, не дакаціў.
Злезшы з коніка, пабудзіў.
— Устань, мая Ніначка, ачніся,
На табе вадзіцы — памыйся,
На табе ручнічок — утрыся,
На табе чарачку — пахмяліся,
На табе яблычак — закусі,
На табе яблычак садовы,
А другі яблычак мядовы.

631. Радлівы бары, радлівы,
Ды на іх ягадкі радзілі.
А хто раненька ўстане,
Той тыя ягадкі пабярэ.
Ганначка раненька ўстала,
Яна тыя ягадкі пабрала.
Беручы ягадкі, заснула,
Прыехаў Іванка, не чула.
Ён каня вярнуў, не ўвярнуў,
Канчуком махнуў, не ўдарыў,
Выняў хустачку дый накрыў.
— Спі, мая Ганначка, праспіся,
Не к мамцы ідзеш, к свякрусе.
Цяпер ты мая, не чыя,
А я твой, не чужы.

632. Ой, у полю, у полю вішнёў сад,
А ў том садочку вінаград.
Ой, там малада хадзіла,
А вінаграду сцерагла.
І сцерагучы, заснула,
Ехаў малады, не чула.

Махнуў хусткаю, не збудзіў,
Кінуў яблычкам, не вайняў,
Ізлез з коніка, абайняў:
— Спіць мае сэрданько цвярдзенька,
Спаліла сланэнька лічэнька,
Вятрэц косаньку размахаў.

633. Ой, чарачка, чарачка
Медзяная.*
Эй, а хто цябе, чарачка,
Піці будзе?
А хто ж цябе, дзевачка,
Любіць будзе?
Эй, да гнула вішаньку,
Не ўвагнула.
Эй, села пад вішаньку
Да й заснула.
Эй, як прыехаў міленькі,
Ой, я і не чула.
— Эй, устань, устань, мілая,
Устань, прачніся,
На маю калясачку
Эй, падзівіся.
Эй, мая калясачка,
Ой, не прастая.
Эй, да мая калясачка,
Ой, залатая.

634. Расцвіла каліна дый на захад сонца,
Плакала дзяўчына, гледзячы ў аконца.
— Добра табе, каліна, цвісці-расцвітаці,
Як жа мне нядобра з дому выязджаці.
Добра табе, каліна, у лесе красавацца,
Як жа мне нядобра з мамкай расставацца.
Добра табе, каліна, ягадкі спяліці,
Як жа мне нядобра дзевяроў дарыці.

635. Плыла утанька ракою,
Вяла дзетачкі з сабою.
— Ой, вада мая, прынада мая,

* Кожны другі радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

Травіца шаўковая.
Ішла матанька ў камору,
Вяла дзеваньку з сабою.
— Мая матанька, мая родная,
Разлука мне з табою.

636. — Не плач, маманька, як я паеду,
Я буду ж бываці штодня к абеду.
— І не будзеш, дзіцятка, не будзеш бываці,
Бо чужая маці будзе не пускаці.
А чужы татанька будзе прававаці,
Што ўзяў нявесту, да няма яе ў хаце.

637. — Ужо ж ты, Ганначка, ад нас пойдзеш,
Што ж ты за дар нам прышлеш?
— Не тужы, матанька, галаваньку не сушы,
У другую суботаньку я прыеду да цябе
І разважу я цябе.

638. Ой, не грусці, наша Валечка, не грусці,
Штонядзельку да мамачкі ў госцікі прыхадзі,
А як прыйдзеш да роднае мамачкі на парог,
Паліюцца буйныя слёзкі як гарох.

639. Прыходзь, прыходзь, наша Паўлінка, к нам часта.
Без цябе ў нас у панадворыку сцямнее,
Без цябе ў нас твая мамачка схмурнее,
Без цябе ў нас твой татачка зжаўцее.

640. Мая матухна родна,
Я па твайму двару
Да не скора пайду.
Па двару па новенькаму
Да па мурожку зялёненькаму.

641. Мар'юшка татухну прыказвала:
— Прысылай, татухна, за мной гасцей,
Не будуць госцейкі зневажоны,

Ды будуць на куце пасаджоны,
Ды будуць госцейкі ўгашчоны.

642. Дунечка матушке да наказвала:
— Ты прыедзь, матушка, ка мне ў госці,
Прывязі, матушка, трубкі і рубкі —
Мне, маладзе, многа нада:
Сорак саракоў адных ручнікоў,
Пяцьдзесят латок адных наметак.

643. Матулька родная,
І сама выязджай,
І радзіну сазывай.
На куце пасаджу
І мядком напаю.
Я і сама, малада,
Напярод паеду,
У церамок уступлю,
З церама выступлю
І сваю радзінку
З сорама выведу.

644. Ой, не гайся, мамачка, не гайся,
У чырвоныя чаботанькі й абувайся, 2
Гой, да са мною ў дарожаньку сабірайся.

645. Просім цябе, наша свацечка, да столу,*
Што мы бярэм тваю дачушку з сабою,
Яе норавы мы тутка кідаем.
Як дзеўкай была, як ружа цвіла,
Як прыйдзеш да нас, каб не плакала.

646. За хаткаю вецер калінку махаець,
Млода Манечка ў свайго татачкі пытаець:
— Мой татачка, мой родненькі, скажы мне,
Ці заехацца па вячэрачку да цябе?
— Заязджай, мая дачушка, не мінай,
А ты ж да мяне кожную нядзелечку прыязджай.

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

647. Ядвабная сукеначка да долу,
Ад'язджае млода Стасечка ад дому.
Ядвабная сукеначка да зямлі,
Ад'язджае млода Стасечка ад сям'і.
Ядвабная сукеначка да пяты,
Ад'язджае млода Стасечка ад таты.
— Жаль маю, родна матуля, на цябе,
Што не знасіла белай сукенкі я ў цябе,
Цяпер пайду ў чужыя людзі насіці,
Цяпер буду чужой матулі гадзіці.

648. Зайшла Ганначка да каморы,
Спляснула ў ладоні,
Як пасыпаліся персцені яе
Па новенькай каморы.
— Ой, сейцесь, сейцесь, персцені мае,
Па новенькай каморы.
Ой, задайце матушцы жалю,
Бо я ўжо ад'язджаю.
Няхай заплача па мне маладой,
Па работніцы сваёй.

649. — Ёлачка, ёлачка, чаму ж не зялёная?
— Як жа мне, ёлачцы, зялёненькай быці,
Калі зверху мне сонца прыпякае,
А знізу вада падмывае.
— Дзевіца, дзевіца, чаму ж невясёлая?
— Як жа мне, дзевіцы, вясёленькай быці,
Калі дзела ў папы ў лад не ідзе:
Меншую дочку першую замуж аддаець.
А ні ткуха, ні прадуха,
Ні кашулькі пашыць.
А як выйдзе на вуліцу,
То кавалераў добра маніць.
Рубчыка не зарубіць,
А кавалераў добра любіць.

650. Айцец з маткаю няверна жывуць,
Старшую сястрыцу па вадзіцу шлюць,
Малодшую дачку замуж аддаюць.
Бадай тая рэчанька травой заплыла,

Як я, маладзенька, замуж не пайшла.
Бадай тая студнечка правалілася,
Як я, маладзенька, не жанілася.

651.— Івушка, ракітавы кусток,
Што жа ты, івушка, не зелена стаіш?
— Як жа мне, івушке,
Зялёненькай быць?
З караня івушку
Ключава вада мыець,
З сяродку івушку
Чарвяк точыць,
А зверху івушку
Жарка солнушка пякець,
Дробны дожджычак сякець.
Ехалі баяры:
Зрубілі івушку
У чатыры тапары,
Здзелалі з івушкі
Дзве лодушкі, вясло.
Селі, закацілі,
Громкі песенькі запелі,
Красну дзевіцу
З сабою пасадзілі.
— Чом жа ты, дзевіца,
Нявесела сядзіш?
— Як жа мне, дзевіцы,
Вясёленькай быць?
Матка з бацькай
Няпраўдаю жывуць:
Меншу дочку
Упярод замуж аддаюць.

652. Не будзець ад пана бога дарожкі,
Нашто падбіла большую сястру пад ножкі,
А большая не горшая за цябе,
А палучыла няславачку праз цябе.

653. Што ты, Волечка, проці бога зрабіла, *
Сваю веру пад ножачкі падбіла.
Што ты, Волечка, проці бога сказала,

Рускую веру пад ножачкі стаптала.
Па табе будуць усе званы забіты,
Па табе будуць усе цэркаўкі закрыты.
З цябе будуць усе людзі смяяцца,
Як ты будзеш у касцёле вянчацца.

654. А ў полі два дубочкі роўныя,
А ў Зіначкі два браціткі родныя.
Адзін брацітка вяселлейка гуляець,
Другі брацітка на белым свеце страдаець.
— Прыедзь, прыедзь, мой брацітка, ў вяселле,
Паглядзіш на маю свадзьбачку жуткую.
Цябе за столікам не відаці,
І каля хаткі не чуваці.

655. Малада Анечка вяселлейка збірае,
Яе сястрыца ў чужой старонцы не знае.
— Сядзь, Анечка, белы лісток напішы,
Сваю сястрыцу на вяселлейка папрасі.
Шэрай зязюляй белы лісток перашлі.
— Ляці, ляці, шэра зязюля, не сядай,
Белы лісточак маёй сястрыцы перадай.

656. — Ой, Манечка, не сядзі,
Адчыні аконца, паглядзі,
Ці ўсе твае конікі на дварэ,
Ці ўсе твае госцікі пры табе?
— Няма майго коніка з прыезда,
Няма майго брацікa з прыхода.

657. Чаго сядзіш, што думаеш, Ганулька,
Ці ўся твая сямеечка сабрана?
Твайго брацеткі, твайго старшага нетуці,
Твой брацетка, твой родненькі не знаець,
Ды што тваё вяселлейка гуляюць.

658. Прыляцела раба зязюлька крычучы,
Села яна ў Янінкі на плячы.
— Гэта ж табе, млода Янінка, за тое,

Што сплятала русу касіцу ўтрое.
Было плесці русу касіцу ў шэсць радоў,
Было гуляці ў роднай мамкі шэсць гадоў.
— Я не хачу плесці касіцы ні раду,
Я не хачу быць у роднай мамкі ні году.
— Дзе, мая мамка, жалобная суkенка,
Я ў цябе астатні вечар паненка.
Астатні вечар, астатнюю гадзіну,
Сабрала я ўсю сваю радзіну.
Мой брацітка ў чужой старонцы не знаець,
Што сястрыца вяселле гуляець.
Пішыць сястрыца брацітку і галосіць:
— Даруй, брацітка, даруй, родненькі,
Што я цябе ў вяселлейка не звала,
Бо я сама недаўнюсенька пазнала.

659. І на стаенцы сівы косю й скачыць,
А на вайне Валеччын брацетка плачыць:
— Чаму, сястрыца, пісем не пішаш да мяне,
Віно-мёд п'еш, вяселле гуляеш без мяне.

660. Узышоў месячык з вечара да дня.
Хвалілася дзевачка, што ўся радня,
Аж яе роднага брацеткі няма.
— Напішы, дзевачка, ды два пісямцы,
Ды пашлі брацетку тры паклончыкі:
— Брацетка родненькі, прыедзь да мяне,
Блаславі мяне ў чужой старане.

661. Ой, у бары явару многа,*
Зялёнага ніводнага.
У Светачкі братоў многа,
Да й роднага ніводнага.
Ой, ёсць каму піць, гуляць,
Няма каму благаслаўляць.

662. У роўным полі вецер каліну калыша,
Плача дзевачка: брацейка пісем не піша.
— Прышлі, брацейка, хоць у нядзельку з-пад зары,
Я буду чытаці на каберцы стоячы.

663. Пашлі, Танечка, сівога каня вішчачы,
Няхай ляціць твайго браточка ішчачы.
Бо ў цябе чужы людзі сабраны,
А твой браточак у чужой старонцы сасланы.
Бо ў цябе чужыя людзі балююць,
А твой браточак у чужой старонцы гаруець.
Бо ў цябе чужыя людзі ў банкеце,
А ты не знаеш, ці ёсць браток твой на свеце.

664. Чаго, Верачка, так часта ўздыхаеш,
Ці ты брацітка ў вяселлейка чакаеш?
Вазьмі, Верачка, сівога каня са стайні,
Пусці яго дарожачкай іржучы,
Няхай ляціць, твайго брацітку ішчучы.
Да плыў косю тры дні, тры ночы па моры,
Напіўся косю мутнай вады на моры,
Не жджы, Верачка, твой брацітка ў няволі,
Прышле табе жалкае пісьмо з поўначы,
Успомні, сястрыца, хоць за столікам седзячы.

665. Чаго, чаго, млода Лёнечка, думаеш,
Чаму на вяселлечка свайго браціка не маеш?
Ідзі да стайні, сівога каня асядлай,
Пусці яго дарогай вялікай,
На вяселле браціка шукай.
Плыў конь тры дні, тры начы праз мора,
Відзеў, Лёнечка, твайго брацітку ў няволі.
Стаіць конь пад ганачкам ды заржаў,
Відзеў твайго брацітку ды не ўзяў.
Стаіць конь пад ганачкам, ножкай туп,
Тваймy брацітку на вяселлі не быць тут.

666. Зарзаў, зарзаў сівы кося ля клеці,*
Як пачуў жа Раечкін братка на свеце:
— А што ў маёй роднай мамкі дзеецца?
Ай, наверна, родна сястрыца жэніцца?
Можа, ад яе ка мне пісямцо пpыляціць?
Можа, мяне на вяселлейка пазавуць.
Хоць бы ж я вяселлейка пагуляў,
Хоць бы ж я з сваёй радзімкай пагукаў,
Хоць бы ж я сваю родную мамку ўвідаў.

14*

667. Ой, ці я табе, да мой баценька,
З восені не казала:
Не гары поля ды не сей жыта,
Бо не буду пажынаці.
Да скапай градку да пасей рутку,
То буду палівані.
Ці я табе, да мой свёкарку,
З восені не казала:
Не капай градкі да не сей руткі,
Не буду паліваці.
Да згары поле да пасей жыта,
То буду пажынаці.

668. Я ж табе, татачка, з вясны казала:
Не дзяры бор, не сей лён,
Я ж у цябе зімаваці не буду,
Ляночак рабіці не буду.
Я ж табе, мілы, з вясны казала:
Дзяры барок, сей лянок,
Я ж у цябе зімаваці буду,
Лянок трапаці і мяці буду.

669. — Чы я табе, мой баценьку, яшчэ з вясны не казала:
Не капай градкі і не сей руткі, не буду паліваці?
Не паліваці, не даглядаці, не з яе вянка віці.
— Ой, я пайду, маё дзіцятка, тваімі сцежкамі,
То палію рутаньку дробную, зялёную сваімі слёзкамі.
Ой, як я пайду з гары ў даліну,
Палію руту дробную, зялёную сем раз на гадзіну.

670. Настачкіна мамка **
Не ўмела ігру іграць:
Пакаціла галушачку,
Прайграла дачушачку.
Пакаціла другую,
Прайграла маладую.
А Васількова мамка
Умела ігру іграці:
Пакаціла галушачку,
Выйграла дачушачку.
Пакаціла другую,
Выйграла маладую.

671. А ў чым жа садзе *
Вішню ўламілі?
У Іванькі ў садзе
Вішню ўламілі,
Увесь сад усушылі.
А ў чым жа садзе
Вішню пасадзілі?
У Пецевым садзе
Вішню пасадзілі,
Увесь сад украсілі.

672. А Волеччын бацюхна,
А Волеччын бацюхна ўстаў пазнюсенька.
Устаў пазнюсенька, умыўся гарнюсенька,
Пайшоў у садочак да тхнуў жа важаленька:
— А божа ж мой да міласцівы, выкапана ў мяне да рожу.
Выкапана ў мяне да рожу чырвону харошу,
Чырвону харошу — маладзеньку Волечку,
Маладзеньку Волечку.
Ванюшчын бацюхна,
Ванюшчын бацюхна ўстаў ранюсенька.
Устаў ранюсенька, умыўся бялюсенька,
Пайшоў у садочак да тхнуў жа лягесенька:
— Ой, хвалю да цябе, божа:
Ой, хвалю цябе, божа, пасаджона ў мяне рожу.
Пасаджона ў мяне рожу — маладзеньку Волечку.

673. А ў Гаўрылы гора, гора:
Чорная кона са двара сашла.
А ўся она да ў золаце,
Галовушка да ў серабрэ,
Лапачкі ў кітаечке.
А ў Васілья радасць, радасць —
Чорная кона на двор ўзышла,
А ўся она ў золаце,
Галовушка да ў серабрэ,
А лапачкі ў кітаечке.

674. Сіў конь вады не п'ець,*
На паводдзе наступаець.
Танюшкіна мамка

Таго каня праклінаець:
— Адбаў, божа, сілку
Ды сіваму коню.
Адвёз маю служку,
Танюшку-дачушку.
І зімнюю праху,
Вясеннюю ткаху, 2
А летнюю жаху.
Сіў конь вады не п'ець,
На паводдзе наступаець.
Ванюшкіна мамка
Таго каня выхваляець:
— Прыбаў, божа, сілку,
Ды сіваму коню.
Прывёз ка мне служку
Танюшку-дачушку.
І зімнюю праху,
Вясеннюю ткаху, 2
А летнюю жаху.

675. А Марыніна матушка
На льду каня поіць,
Поіць і праклінаець:
— Штоб табе, коне,
Не пілось да не елася,
У полі не гулялася.
Адвёз ты мне, коне,
Із дому работніцу,
А з поля кукобніцу,
А маю саветніцу,
Госцям прыветніцу.
Іванава матушка
На льду каня поіць,
Поіць і пахваляець:
— Штоб табе, коне,
Пілося да елася,
У полі гулялася.
Прывёз ты мне, коне,
У дом работніцу,
А ў поле кукобніцу,
І мне саветніцу,
І гасцям прыветніцу.

676. Вой, там да каля броду, 2
Піў конь вараны воду,
П'ючы воду параготвае, 2
Капыцікам прыстуквае.
Галеччына матка 2
Таго каня да праклінае: 2
— Да бадай да табе, коню, 2
Тры сілы адбыло.
Завёз маё дзіцятка 2
На чужое падвор'е.
На чужое падвор'ейка, 2
За чужое застоллейка.
А Іванкава матка 2
Таму каню дабро просіць: 2
— Да бадай да табе, коню, 2
Тры сілы дабыць.
Прывёз мне дзіцятка,
Ды на маё падвор'ейка, 2
Да за маё застоллейка.

677. Васечкіна маці
Каня велічала:
— Спасіба табе, коне,
Што прывёз мне княгіню,
Што прывёз ка мне княгіню,
У двор гаспадыню,
А к клеці ключніцу,
А к печы кухарку.
Пашачкіна маці
Каня праклінала:
— А будзь пракляты, коне,
Што ўвёз ад нас княгіню,
Што ўвёз ад нас княгіню,
У двор гаспадыню,
Ад клеці ключніцу,
Ад печы кухарку.

678. Цвіла, цвіла ліпачка жоўтымі цвятамі,*
Цвіла, цвіла — стала ападаці.
Коліна маці мяла, мяла сені,
Мяла, мяла — села пачываці.
Села пачываці, стала гаварыці:

— Цяпер мае сенечкі падмецены будуць,
Цяпер мае госцікі ўгашчоны будуць.
Цвіла, цвіла ліпачка жоўтымі цвятамі,
Цвіла, цвіла — стала ападаці,
А Ганначына маці мяла сені,
Мяла, мяла — села пачываці.
Села пачываці, стала гаварыці:
— Цяпер мае сенечкі нямецены будуць,
Цяпер мае госцікі не ўгашчоны будуць.

679. А палаці, палаці,
Некалі ляжаці.
І ў хаце не мецена,
Карова не загната,
Свінням не давата.
А палаці, палаці,
Можна паляжаці.
І ў хаце прыбрана,
Карова загната,
Свінням падавата.

680. Да Мішачкава маці
Хвартушок падвязала, 2
Што нявехну прыждала
Да скорую, да й рабочую,
І на дзела ахвочую.
Пойдзе ў поле да наробіцца,
Прыйдзе дамоў — нагаворыцца.
Да Валечкіна маці
Хвартушок апусціла, 2
Што дачухну ўпусціла,
І скорую, і рабочую,
І на дзела ахвочую.
Пойдзе ў поле да наробіцца,
Прыйдзе дамоў — нагаворыцца.

681. І шуміць, шуміць зялёная дуброўка,
І а плачыць, плачыць Валеччына мамулька,
Плачаць, плачаць а Валеччына мамулька: 2
— І гадавала, гаравала — аддала,
Гадавала, гаравала — аддала.

І шуміць, шуміць зялёная дуброўка,
І а шуміць, шуміць зялёная дуброўка.
Рада, рада Колечкава мамулька: 2
— Ні гадавала, ні гаравала — ўзяла.

682. Елка-сасонка зіму і лета зеляненька,
Ванькіна маці ўсю нядзелюшку весяленька.
Распінала белы шацёр на двор.
— Цяпер жа мне, бялёшанькі пахадзіць.
А ёсць каму кашуліцы памыці,
А ёсць каго на работушку паслаці,
А, ой ёсць каго з работушку даждаці.
Напяку пірагоў, навару кашы — ёсць з кім есці.
Пайду ў поле, займу постаць — ёсць з кім жаць.

683. Дуб ды бяроза ўсю зімушку чарненек,
Мар'іна маці ўсю нядзелюшку скучненька,
Распінала чорны шацёр на двор:
— Цяпер жа мне чарнёшанькай пахадзіць:
Ой, некаму кашуліцы памыці,
Ой, некага на работушку паслаці,
Ой, некага з работушкі даждаці,
Напяку пірагоў, навару кашы — не з кім есць,
Пайду ў поле, займу постаць — не з кім жаць.

684. Дуб да бяроза ўсё лета ссыхала,
Яленкіна мамка ўсю нядзельку ўздыхала:
— І карміла, і паіла — служкі нет,
Выйду на поле, займу постаць — не з кім жыта жаць.
Пайду ў клець дабро глядзець — дабра нет.
Дуб да бяроза ўсё лета ссыхала,
Сцёпкіна мамка ўсю нядзельку ўздыхала:
— Выйду на поле, займу постаць — ёсць з кім гнаць,
Пайду ў клець, дабро глядзець — дабро ёсць.

685. Елка-сасонка як зімой, дак летам зеляненька, зеляненька,
Іванькава мамка — усю гэту нядзельку весяленька,
весяленька:
— Не кукобіла, не ляляяла — служка ёсць, служка ёсць.
Дасць бог летца да уродзіць хлебца —

Ёсць каму жаць, ёсць каму жаць.
Займець шырока, пагоніць далёка —
Ёсць каму жаць, ёсць каму жаць.
Елка-сасонка, яна пасыхаець, яна пасыхаець,
Надзеччына мамка ўсю гэту нядзельку плачаць, ой, плачаць:
— І кукобіла і лялеяла — служкі нет, служкі нет.
Дасць бог летца ды ўродзіць хлебца —
Некаму жаць, некаму жаць.
Займець вузенька, пагоніць блізенька —
Нет каму жаць, нет каму жаць.

686. А на моры вутка крачыць, 2
Ніначчына мамка плачыць:
— Я й расціла, я й кукобіла,
Ды некага пабуджаці,
За вадзіцаю пасылаці. 2
А на вуліцы курыца сакочыць,
Іванькава мамка рагочыць:
— Не расціла, не кукобіла,
Ды ёсць каго пабуджаці, 2
За вадзіцаю пасылаці.

687. У гародзе зялёная ветачка зялёна,
Як прыйдзе вясна.
Ванеччына родная матачка вясёла,
Як прыйдзе лета:
Паставіць кросны — ёсць з кім ткаць.
Паспее жыта — ёсць з кім жаць.
А ў гародзе зялёная ветачка зжаўцее,—
Як прыйдзе [восень].
Манеччына родная матачка схмурнее,—
Як прыйдзе лета:
Паставіць кросны — не з кім ткаць,
Паспее жыта — не з кім жаць.
Як стане над ставачкай аддыхаць,
Тады будзе сваю дачушку ўспамінаць.

688. Выйшла маці жыта жаці,
Стала сярпы раскладаці:
Няма сярпа залатога,

Жанца маладога.
Выйшла свякроў жыта жаці,
Стала сярпы раскладаці:
Прыбыў сярпок залаценькі,
Жанец маладзенькі.

689. Каб ты, зязюлька, каб ты, сівенька,
У мой садок не лятала,
Ой, адкавала, адшчабятала
Ад дому дамаўніцу,
З мае хаткі работніцу.
Пайду на поле, на шырокае —
Не з кім пахаджаці,
Пастаўлю снапкі да радзенька —
Не з кем панасіці.
Каб ты, зязюлька, каб ты, сівая,
У мой садок прылятала,
Прыкавала, прышчабятала,
Як дому дамаўніцу,
У маю хатку работніцу.
Пайду на поле, на шырокае,
Пастаўлю снапкі да гусценька —
Ёсць каму панасіці,
Пастаўлю копку шырокую —
Ёсць каму завяршыці.

690. Як у гародзе на чарназемі
Вырасла канаплінка,
На той канаплінцы
Зязюля кукавала.
Княгінькіна мамка
Раненька ўставала,
Бяленька ўмывалася,
Суханька ўціралася,
На ганак выходзіла,
Зязюлю слухала,
Шэрую праклінала:
— Багдай, зязюля,
Багдай, шэрая,
Век-вяком не кукавала,
Адкукавала, адшчабятала
Мне верную служку,

Родную дачушку,
Раннюю ўставанійцу,
Познюю ўкладанійцу.
Як у гародзе на чарназемі
Вырасла канапелька,
На тэй канапельцы
Зязюля кукавала.
Жанішкова мамка
Раненька ўставала,
Беленька ўмывалася,
На ганак выходзіла,
Зязюлю выслухала,
Шэрую паздраўляла:
— Багдай, зязюля,
Багдай, шэрая,
Век-вяком кукавала.
Прыкукавала, прышчабятала
Мне верную служку,
Княгіньку нявехну,
Раннюю ўставанійцу,
Познюю ўкладанійцу.

691. Мікалайкаў войчанька
Па садзіку пахаджае,
Па садзіку пахаджае,
Зязюльку выхваляе:
— Зязюлька, зязюлька,
Каб ты здарова была,
Каб ты здарова ка́вала.
Прыкавала мне да нявехначку,
У доме дамаўніцу,
А ў поле работніцу,
К суседзям прыветніцу.

692. Дуракі мужыкі
Упусцілі рыбачку,
Белакрылачку.
Паехалі ў горад,
Пабывалі ў рынке,
Купілі пянькі
На тры рублі.
Здзелалі сетачку,

Сетачку пяньковую.
Закінулі ў рэчаньку,
Упусцілі рыбачку,
Белакрылачку.
А вумныя мужыкі
Паехалі ў горад,
Закупілі шоўку,
А із таго шоўку
Здзелалі сетачку,
Сетачку шаўковую.
Закінулі ў рэчаньку
І паймалі рыбачку,
Белакрылачку.
Яны думалі, што рыбачка,
Што то белакрылачка,
Ажно выйшла дзевачка.
Выйшла чарнабровачка.

693. Яліна, яліна,
Сухая вяршына.
З-пад тэй, пад яліны,
Сняжок выпадаець,
Звярок выбягаець.
Сняжок бялешанек,
Звярок сярэшанек,
Слядок значнёшанек.
Грыпініны браццяя
Па'хоце хадзілі, 2
Звера асачылі.
Звера не ўлавілі, .
Сястру ўпусцілі.
Яліна, яліна,
Сухая вяршына.
З-пад тэй, пад яліны,
Сняжок выпадаець,
Звярок выбягаець,
Сняжок бялешанек,
Звярок сярэшанек,
Слядок значнёшанек.
Іванавы браццяя
Па'хоце хадзілі,
Звера асачылі,
Агрыпіну ўзялі,
З Іванам звянчалі.

694. А ў вас выюць-плачуць,
А ў нас пяюць, скачуць,
А ў вас ды на жаласць,
А ў нас ды на радасць.

695. Што Ганначчына мамачка
На ганачку стаіць,
Накрыж ручкі дзяржыць
Ды на зораньki глядзіць:
— Зоры мае невясёлыя,
Сені мае немяцёныя,
Сталы мае някрытыя,
Ложкі мае нямытыя,
А міскі пад лаўкаю
Зараслі мураўкаю.
Што Іванькава мамачка
На ганачку стаіць,
Накрыж ручкі дзяржыць
Ды на зораньki глядзіць:
— Зоры мае да вясёлыя,
Сені мае замяцёныя,
Сталы мае накрытыя,
Ложкі мае памытыя.

696. Вы скачыце, плачыце,
Работніцу траціце.
А мы скачам і пяём,
Работніцу забяром.

697. Дзевааччына мамачка
Ды сядзіць у запечку, 2
Хустачкай акрыўшыся,
Слёзкамі абліўшыся:
— Ад мяне дзіця бяруць,
Ад мяне пасаг вязуць.
Малойцава мамачка
Ды сядзіць за столікам 2
Ды ў ладошкі плешча:
— Да мяне дзіця вядуць,
Да мяне пасаг вязуць.

698. Чыя ж там мамухна
Усю ночаньку не спала,
З яснай зарой размаўляла?
— Зара мая, зоранька,
Нешчаслівая ж мая доленька:
З маёй хаты кублы нясуць,
З майго хлява кароў вядуць.

699. Расхуталісь вароты Ляксейкіны.
Вараны конікі з двору бягуць,
Верну служаньку з хаты вядуць,
Новыя кублікі з клеці коцяць.
Дунулі ветрынькі ўдоль па вуліцы,
Расхінуліся вароцінькі Пятрусіны,
Узрадавалася сардэчанька Дамнусенькі.
Вараныя конікі на двор бягуць,
Верную служаньку на двор вязуць,
Новыя кублікі ў клець нясуць.

700. У нашае Марфачкі бяда стала: *
А збегла кабыла-жарабятніца,
А звязла скрыначку маляванаю,
А звязла дачушку гадаванаю.
А звязла скрыначку із замочкам,
А звязла Ларыску із вяночкам.
У нашае Кацечкі прыбыль стала:
Прыбегла кабыла-жарабятніца,
Прывязла скрыначку маляванаю.
Прывязла дачушку гадаванаю.
Прывязла скрыначку із замочкам,
Прывязла дачушку із вяночкам.

701. Ой, Галечкі маці
Па двару пахаджвае
Да мяцеліцу праклінае:
— І што то была за мяцеліца,
Вывела бодную скрыню,
А і з хаты гаспадыню,
І з поля да работніцу,
І з хаты дай ахотніцу,
І з току малацінніцу,

А і з хаты калацільніцу.
Ой, Толечкі маці
Па двару да пахаджвае 2
Да мяцеліцу жалае:
— Харошая была да мяцеліца,
Прывяла бодную скрыню, 2
А ў хату гаспадыню,
А ў поле да работніцу,
А ў хату да й ахотніцу,
І ў ток малацільніцу,
І ў хату калацільніцу.

702. Ай, на дубе зязюлька,
На другім — другая.
Яны шчабечуць, 2
Усю праўду гаворуць.
Ай, тыя што зязюлечкі —
Мацвеевы сёстры.
— Калі б мы зналі,
Калі б мы ведалі,
Куды наш брат паедзіць,
А мы б тую дарожаньку
Каўрамі ўслалі,
А мы б свайго да брахненьку
Падале паслалі.
Ай, на дубе зязюлька,
На другім — другая,
Яны шчабечуць, 2
Усю праўду гаворуць.
Ай, тыя што зязюлечкі —
Усё Кацькіны сёстры.
— Калі б мы зналі,
Калі б мы ведалі,
Куды нашу сястру вязуць,
А мы б тую дарожаньку
Дуб'ём завалілі,
А мы б сваю сястрычаньку
Назад варацілі.

703. На горушкі, на круценькай — кукаль ды пшаніца,
Пад горушкай, пад круценькай — светлая вадзіца.
Там мыліся, бяліліся Якушкіны сёстры.

Яны мылiся, румянiлiся i гаварылi:
— Калi б мы знаалi ды ведалi,
Куды брат паедзiць, каторай дарожанькай,
Тую дарожку, тую сцежаньку сукном уваслалi, цвятамi
ўвабралi,
На рэчушцы, на быстранькай масты пачынiлi,
Свайго брата родненькага сюды ажыдалi.
На горушцы, на круценькай — кукаль ды пшанiца,
Пад горушкай, пад круценькай — светлая вадзiца.
Там мылiся, бялiлiся Мархуткiны сёстры.
Яны мылiся, румянiлiся й гаварылi:
— Калi б мы знаалi ды ведалi,
Куды сястра паедзiць, каторай дарожанькай,
Мы б тую сцежку, тую дарожку ломам заламалi,
На рэчаньцы, на быстранькай масты размасцiлi,
Сваю сятру Верачку ўзад варацiлi.

704. Да Iванкавы сястрыцы
Да гулялi ў святлiцы,
Гулялi-размаўлялi:
— Каб жа мы ды тое знаалi,
Куды наш братко паедзе,
То б мы бор кужалем слалi,
А поле — да кiтайкамi,
Штоб па бару не ўрасiўся,
А па полi не ўпылiўся,
Штоб к дзевачцы не спазнiўся.
Штоб яго шубачка ззяла,
Штоб яго чэшча пазнала
Ды родным зяцем назвала.

705. — О, бела, бела бяроза,
Чаму на моры палягла,
Дзеўкам дарогу залягла?
Iшла Галечка малада,
У прыполе золата нясла,
У рукаве шчырае срэбра
Ды пасыпала на моры,
Клiча мамачку з каморы.
— Я з жалi ручкi не ўздыму,
Цябе маладу аддаю,
Цябе маладу аддаю

Ды на чужую старану,
Да чужога дзіцяці.
Да чужога дзіцяці,
Ён будзе біці і караці,
Біць і караці,
Белыя ручкі ламаці.
Белыя ручкі ломячы,
Дробныя слёзкі ліючы,
Будзеш ты плакаці.

706. — Вярба, вярба, вярбіца,
Ды чаго ж ты на мора палягла,
Ды дзевачкам дарогу заняла?
— Не сама я, дзеванькі, палягла,
Палажыла мяне дзеванька,
У камору часта ходзячы,
Прыполамі золата носячы.
Рассыпала золата па моры
Да клікала татачку ў каморы
Пазбіраці золата па моры.
— Няхай табе, дзіцятка, той збярэ,
Хто з табою, маладою, шлюб бярэ.

707. — Ой, верба, верба, вербіста,
Чаго на мора навісла,
Да чаго на мора навісла?
Пад тую вербу сцежачка,
Туды ішла дзевачка
Да несла золата ў прыполе,
Да рассыпала на моры.
Кліча бацюхна з каморы:
— Хадзі, бацюхна, са мною,
Збярэм золата з табою
На шаўкову нітачку,
На срыбрану іголачку.
— Да не магу, дзіцятка, не магу,
З жалю ручак не здойму,
За слёзанькамі не бачу.

708. Раскудравая бярозка
На Дунай палягла,

Дзевачцы дарожку залягла,
Ішла дзевачка з прыбору,
Сыпала золата з прыполу,
А за ёй мамачка слядамі,
Заліла сцежачкі слязамі.
— Не ідзі, мамачка, за мною,
Ты гэтага золата не сабярэш,
Толькі свае слёзкі разаллеш.
— Дзевачка мая, дзіцятка маё,
Я за табою не пайду,
Я гэтага золата не збяру,
Толькі свае слёзкі разаллю.

709. Ішла дзевачка су поля,
Сеяла замшолу з трыполя.
Як наляцелі галубы,
Сталі тую замшолу клявацi,
Пайшла дзевачка зганяці:
— А сюгі, галубы, не клюйце мае замшолы,
Ты ж мне, замшола, знадабна:
Буду клетачкі кляціць,
Суджаньку коніка значыць,
Каб яго конічак значан быў
Міжа ста канёў вароных,
Міжа ста князёў малодых.

710. Ішла дзевачка з застолля,
Сыпала руту з прыполля:
— Рута мая зялёна,
З кім і мне падбіраці?
— Прасі, дзевачка, татухна
Дробныя руты сабіраці.
— Не буду татухна прахаці:
Не ўмеў мяне ні кахаці,
Ні ў доме дзяржаці,
Ні мной пасылаці.
Ішла дзевачка з застолля...

*Далей паўтараецца тое ж са зваротам да маці. Нарэшце:*

Ускочыла дзевачка з застолля,
Сыпала руту з прыполля:

— Рута мая зялёная,
З кім і мне падбіраці?
— Прасі, дзевачка, дзяцінку
Дробныя руты збіраці.
— Буду яго прахаці:
Ён будзе кахаці,
У доме дзяржаці
І мной пасылаці.

711. Рассыпалася рутанька
Каля залатога кубанька.
— Рута мая, дробна зелена,
З кім цябе падбіраці.
Хадзі, братка, са мною,
Збярэмо рутку з табою.
— Не пайду, сястра, не пайду,
Із жалю ручак не здыйму.

712. Маладая Манечка,
Маладая Манечка,
Прасі ж сваю радзінку
Ў шчаслівую гадзінку.
Ды скіньцеся па рублічку,
Ды выкупіце Манечку.
Няхай ідзе з намі,
Ужо вяночкі павялі.
Ужо вяночкі павялі,
А дружачкі паскучалі.

713. На сінім моры круг плыве,
На том крузе маладая дзевачка стаяла,
На сваю матку белым ручнічком махала.
— Выйдзі, выдзі, родная матка, з каморы,
Да выкуп мяне, маладзенькую, з няволі.
— Да не выду, маё дзіцятка, з каморы,
Да не выкуплю цябе, маладую, з няволі,
Да ты ж таго схацела,
Каб ты ў няволенцы сядзела.

714. Кракала шэра уціца на моры,
Плакала да Аўдотачка ў няволі.
— Ой, і выкупі, ой, і выкупі мяне, бацюшка,

Мяне, родненькі, з няволі.
— Ой, і дзе ж мне ўзяць, мая дзетачка, выкупу?
— Ах, і сто рублей, бацюшка, ў кубле.
Ой, кракала шэра уціца на моры,
Ой, плакала да Аўдотачка ў няволі:
— Ох, і выкупі мяне, матушка, з няволі.
— І дзе мне ўзяць, маё дзіцятка, выкупу?
— Ох, і ў клеці, мая матушка, ў сундуце.
Ох, і сто халсцін, мая матушка, сто халсцін.

**715.** Да ў вароцечках, да ў новенькіх
Сіняе да мора грае.
Да на том моры, да на том сінім
Залаты да човен плыве.
Вышла-выбегла малада дзеванька,
Із мора да воду брала,
Да тагды ж яна, маладзенькая,
З чоўнам размаўляла:
— Каб не той човен і клён-дзерава,
То б я тут да затанула.
Мяне матка чуе да мяне не ратуе,
Знаць мяне не шкадуе,
Да не хоча мяне да ў сябе дзяржаці,
Ні мною да пасылаці,
Да хоча мяне з чужымі людзьмі
Ў дарогу да выпраўляці.

716. Да ў нядзелю рана
Да не дарма мора грае,
Да дзеванька патанае,
Да матачку паклікае:
— Да, матачка мая родная,
Да знімі да мяне з мора,
Бо ўжо мне вялікае гора.
— Дзіця маё маладзенькае,
Слаўцо тваё дарагенькае,
Ты ж маладое, неразумнае,
Дурны ж ты да розум маеш,
Да лепей мне сто залатых даць,
Як цябе з мора зняць.

717. У нядзельку рана
Да сіняе мора іграла.
Схадзілася вялікая вална,
Выкінула дзевачак з чаўна.
Усе дзевачкі патанулі,
А Марына ўздрыгнула
Ды яна плача-галосіць,
Свайго татачкі просіць:
— Родненькі мой татачка,родненькі,
Вымі мяне з гэтай валны, з вялікае бяды.
— Марынка, маё дзіцятка,
Да ні чаўночка, ні вясла.
— Куды мяне долечка ўнясла?
Чаўночак на беражку.
— Чаўночак вада вымывае,
А весельца жвірок выядае.

718. У нядзельку параненьку 2
Да на моры зазвінела.
Там Танечка кубкі мыла, 2
Золат персцень ураніла
І крыкнула перавозку: 2
— Ты мой, татанька, родны, 3
Ты ратуй мяне з мора, 3
З вялікага гора.
— Дзіця мае дарагое, 2
Я бы рад ратаваці, 3
За вецярком не чуваці, 3
За слязамі не відаці.
Да на моры бура стала, 2
Усе чаўночкі пасагнала, 3
Усе вясельцы пазламала.
— Ты мой, татухна родны, 2
Ты няпраўду гаворыш,
Ўсе чаўночкі ў беражочку, 2
Усе вясельцы ў чаўночку.

719. У панядзелак рана
Там сіне мора грала.
Там Маруся воду брала,
Воду брала,
А набраўшы да і патанула.

— Ратуй, ратуй, родны бацюшка,
Да й не дай жа мне загінуці,
Сіне мора пераплынуці.
— Ой, рад бы я цябе ратаваці,
Дай не ўмею плаваці.
Каб мне човен да вясёлачка,
Ратаваў бы я тваё сердзечка.
Ані чоўна, ані вясла,
А куды цябе доля занясла?

720. У нядзелю раненька
Сіне мора калыхалася, 2
У ім сонейка хавалася.
Маладая дзеванька рана ўставала,
Ды з мора ваду брала — 2
Сонейка ратавала 2
Ды сама ўпала,
Татачку ды паклікала:
— Татачка мой, ды мой родненькі,
Выбаў мяне з сіняга мора, 2
Ды з вялікага гора.
— Дзіця маё, ды маладое,
Рад жа я цябе ратаваць:
Няма чоўна, няма вясла,
Гэта цябе доля ўнясла, 2
Што ты малада замуж пайшла.

721. У панядзелак рана *
Сіняе мора іграла.
Зіначка ваду брала,
Татаньку паклікала:
— Татанька мой родненькі,
Выцягні вады з мора,
Вывядзі мяне з гора.
— Дачушка мая родная,
Выцягну вады з мора,
Не вывяду цябе з гора.
У панядзелак рана ...

*Далей паўтараецца тое ж са зваротам да брата, сястры.*
*Нарэшце:*

Валерку паклікала:
— Валерка мой родненькі,
Выцягні вады з мора,
Вывядзі мяне з гора.
— Ай, Зіначка мая родная,
Не выцягну вады з мора,
А вывяду цябе з гора.

722. На моры сонца грала,
Дзяўчына ваду брала,
З кладачкі схілілася,
У мора ўвалілася,
У брацiткі прасілася:
— Брацітка мой родненькі,
Ды вылі ваду з мора,
Ды выкуп мяне з гора.
— Я не буду выліваці,
Не ўмела шанаваці,
Брацiткам называці.

723. У суботу рана
Сіне мора грала.
Маладая Олечка
На моры ваду брала
І з матулькай размаўляла:
— Мамка мая родная,
Пераедзь сіне мора,
Выкупі мяне з гора.
— Дзіцятка маё роднае,
Не пераеду сіне мора,
Не выкуплю цябе з гора.
На двары буйны вецер,
Чаўночкі пазганяла,
Вясёлцы паламала.
Ні на тое цябе аддалі,
Каб назад бралі,
А на тое цябе аддалі,
Каб работку рабіла
І свякроўцы гадзіла,
І свёкарку наравіла.

724. У нядзелю рана
Мора ўзыграла,
Дзяўчына патапала,
Свайго атца жадала:
— Татачка мой любы,
Не дай мне ўтапіцца,
З гэтым морам паплыцца.
— Дачушка мая люба,
Я да вады не смею
І плаваць не ўмею.
У нядзелю рана ...

*Далей паўтараецца тое ж са зваротам да маці. Нарэшце:*

Свайго мілага звала:
— Ой, мілы ж мой, любы,
Не дай мне морам захлынуцца,
На дне ў моры апынуцца.
— Красачка ж ты мая любая,
Да я ж вады не баюся,—
Цябе вызвалю і сам не ўтаплюся;
Ідзе човен і бясельца —
Хадзі сюды, маё сэрца.

725. У нядзелю рана
Чаго гэта мора іграла?
Там сонейка да купалася,
А Гапка да дзівавалася,
Што з гэтага дзівавання
Дай сама ўпала.
— Ратуй, ратуй, мой бацюхна.
— Як цябе ратаваць буду?
А ні чаўна, ні вясла:
Усе хваля панясла.
Адазваўся Нікіпарка
Край сіняга мора:
— Выйму цябе з вялікага гора.
У мяне чоўны і весла —
Хваля нічаго не ўнесла.

726. У панядзелак рана *
Сіня мора іграла, 2
Там наша Алена

Вадзічушку брала.
Вёдры начарпнула,
Сама ўтанула.
Утануўшы, крычала,
А бацюшка чуець,
Не ідзець, не ратуець.
— Не мне слуга будзець.
А Іванушка чуець,
Ідзець і ратуець.
— Яна мне слуга будзець.

727. Як пайшоў вінаград у зялёны сад,
Суччайка- вецейка ўсё й ламаючы,
Спелыя ягадкі абіваючы.
Як пайшоў Колечка па застоллейку,
Белыя ручкі ўсё ламаючы,
Татачку роднага ўпрашаючы:
— Татачка родненькі, перайдзі мора,
Татачка родненькі, выкупі [redacted] гора.
— Колечка сыночак, не пайду ў мора,
Колечка сыночак, не адкуплю з гора.
Як пайшоў у гора, гаравць трэба,
Танечку мілую шанаваць трэба.

728. Сені мае, сені,*
З-пад вас, мае сені,
Ручай працякае.
На том ручаёчку
Дзевачка гуляе,
Бацюшку клікае:
— Бацюшка радзімы,
Вывезь мяне з мора,
З вялікага гора.
Бацюшка не выйшаў,
Дзевачку не вывеў.
— Калі б жа я знала,
Я б тын паламала,
Кароў папускала,
Тапчыце, каровы,
Што ёсць у гародзе,

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

І хрэн да расаду.
Мая рута мята,
Сырое карэнне,
Лебядзінае пер'е,
Пер'е й у падушкі,
Дзевачку на служкі.

729. Ой, каліна-маліна
Край мора стаяла
Да й расой прыпала.
Там дзевачка дзівавалася
Да расой умывалася,
Калінаю ўціралася,
З таго да дзівавання
Да сама ў мора ўпала.
— Ой, бацюхна мой родненькі,
Выймі мяне з мора
Да з вялікага гора.
— Ой, дзіцятка мае родненькае,
Я не выйму цябе.
Хай цябе бог сам выйме
З глыбокага мора
Да з вялікага гора.

730. Па ракам, па азёрам чаўнок плыве.
Жыццё тваё, Ніначка, у гора ідзе.
— Татулька родны, выкупляй мяне,
Татулька родны, ратуй мяне.
— Не буду выкупляці, не ўмела шанаваці,
Дзетка мая, я не бог з неба,
Калі зойдзеш у гора — гараваць будзеш,
Калі зойдзеш у багацце — панаваць будзеш.
Калі будзеш багата, будзе ведаць радзінка,
Дзе твая хата.
Калі будзеш гараваць,
Усе будуць забываць.

731. Ой, два валы, ой, два валы рэчку плылі,*
А рэчку пераплыўшы, рыкнулі:
— Цяжка, цяжка нам, двум валом рэчачку плыці,
Цяжка, цяжка а Зіначцы ад матулькі ісці.

Ад матулькі iсці.
— А мамачка родная, пераплынь мора,
А мамачка родная, не пусці ў гора.
— А дачушка, а родная, не можна знаць,
А ці будзеш добра жыць, а ці гараваць.

732. А ўпала рэчка і ў мора,
Папала дзевачка і ў гора.
А туды ж бы ішла мамачка.
— Ох, мамка мая родная,
Набяры вадзіцы сы мора,
Вызвалі ж мяне сы гора.
— А дзіцятка маё любае,
Не набяру вадзіцы сы мора,
Не вызвалю цябе сы гора.
А ў моры вадзіцы трэба быці,
А ў горы дзіцяці трэба жыці.

733. Цячэ вадзіца з ручайка ў мора,
Ідзе Ганначка з роскашы ў гора.
— Пераедзь, мамка, шырока мора,
Выкупі, мамка, з вялікага гора.
— Не пераеду мора, мора шырока,
Не выкуплю з гора, гора вяліка.
Не нада мора пераязжаць,
Зайшла, дзіцятка, нада гараваць.

734. Цякла рэчачка з возера ў мора,
Ідзе дзевачка з роскашы ў гора.
Просіць Манечка сваёй мамачкі:
— Перайдзі, мамачка, сіняе мора,
Выкупі мяне з гэтага гора.
— Не перайду, дачушка, сіняе мора,
Не выкуплю цябе з гэтага гора.
Із мора вадзіцу цяжка выбіраці,
З роскашы да гора трэба прывыкаці.

735. Зыбнула мора, зыбнула, *
Млода Марылька ўтанула.
Ды не ўтанула, яшчэ ўсклікнула:

— Татачка родненькі, перайдзі мора,
Татачка родненькі, выкупі з гора.
— Дзіцятка Марылька, я не бог з неба,
Нашлося гора, гаравацъ трэба.

736. Белая наша бяроза,
Чаго на моры палягла,
Дзеўкам дарожку залягла?
Ішлі дзевачкі край мора,
Адна Алеська праз мора.
Зыбнула мора, зыбнула,
Наша Алеська ўтанула.
Прыйшоў Іванька да яе:
— Падай, Алеська, ручку мне.

737. Па лугам вада йшла,
А крутым беражком Аўдотка.
— Няхай я тута ўтону,
Не застануся нікому.
Ні свайму бацюшке радному.
Па лугам вада йшла,
А крутым беражком Аўдотка.
Утанула Аўдотка, утанула, 2
Толькі ручкамі ўспляснула,
Залатым перстнем блеснула.
Ой, туды пабяжаў Пятрушка:
— Падавай, Аўдотка, ручкі мне.
— На табе, Пятрушачка, абее,
Да няхай я тута не ўтону,
Я застануся табе аднаму.

738. Чорная імгла
К зямлі прылягла.
Маладая Кацярынушка
З вадой пацякла,
А за ёй мамушка
Крутым беражком:
— Падай, падай ручаньку,
Кацярынушка.
— Я не падам руку,
Пушчай патану,

Не дастануся я нікаму.
Чорная імгла...

*Далей зварртаецца татушка.*
*Нарэшце:*

А за ей Панкратушка
Крутым беражком:
— Падай, падай ручаньку,
Кацярынушка.
— Ой, на табе дзве,
Пусь я табе.

739. Зыбнула мора, зыбнула,*
Там Рыпіна ўтанула,
На бераг ручку паклала.
Шоў па берагу бацюшка:
— Падай, Рыпіна, ручкі мне.
— Ні падам, бацюшка, ручкі вам,
Пусць я ў моры ўтанула,
Не дастанусь я нікому,
Ні татарыну ліхому,
Ай, ні бацюшку роднаму.
Зыбнула мора, зыбнула...

*Далей зварртаецца мамачка.*
*Нарэшце:*

Шоў па беражку Архіпка:
— Падай, Рыпіна, ручкі мне.
— На табе, Архіпка, абее,
Пусць я ў моры не ўтану,
Не дастанусь я нікому,
А дастанусь я Архіпу.

740. Ой, здрыгнула мора, здрыгнула,
Дзе млода дзеўка хадзіла.
Ходзіць яе маці беражком,
Кліча яе маці галаском:
— Падай, Маня, ручку, падай мне,
Можа я выратую цябе.
— Не дам табе, мама, ніводнай,
Бо я табе, мама, не згодна.
Ой, здрыгнула мора, здрыгнула,

Дзе млодая Маня танула.
Ходзіць яе Пеця беражком,
Кліча сваю Маню галаском:
— Дай, Маня, ручку, дай, Маня, дзве,
Можа я выратую цябе.
— Падам табе, Пеця, падам і дзве,
Бо я буду жыці пры табе.

741. Дрыгнула мора, дрыгнула,
Там наша дзевачка ўтанула.
Прышла да яе матачка.
— Да падай, матачка, ручку.
— Не магу, дзетачка, не магу,
Я з жалю ручкі не ўзніму,
Што я цябе, маладу, выдаю,
Да прышоў міленькі да мяне.
— Да падай, рыбачка, ручку мне.
— Рада б я абедзве падаць,
Не магу галоўкі падняць.

742. — Мы ў цябе, Дунечка, п'ём-ядзім,
А конічкі нашы, Дунечка, так стаяць.
— Ламайце розу, ламайце,
Карміце каней, карміце:
А мне ўжо ў бацькі не жываць,—
Етай розы не ламаць,
І вяночкі не ўвіваць.

743. А ўжо позненька, не раненька,
Сонейка на заходзе.
— Навучай мяне, да мой татачка,
Як свекарку гадзіць.
— Гадзі, дзіцятачка, гадзі, раднoе,
Як роднаму татачку.
Раненька ўстань, да добры дзень аддай,
Зірні ў вядзерцы,
Ці ё вадочка
Свекарку ўмыцца.
Зірні на кручок,
Ці ёсць ручнічок

Свекарку уцярэцца.
Ож у вядзерцы поўна вадзіцы
І ручнічок на кручочку.

744. Дзіцятка ад'язджае, маценька навучае:
Каб раненька ўставала,
Каб «дзень добры» давала
І старому, і малому,
І свёкарку, і свякроўцы,
І дзеверу, і ятроўцы.

745. Ой, там на зарэ,
У новым дварэ,
Раненька засвечана.
Ой, там дзевачка
Раду радзіла,
У мамачкі пыталася:
— Парадзь, мамачка,
Парадзь, родная,
Як свёкру гадзіці?
Свёкру гадзіці,
Свякрусе наравіці?
— Устань раненька,
Умыйся бяленька,
Ватрыся халадзенька,
Вазьмі ручнічок,
Павесь на кручок,
Няхай ручнічок мае.
Свёкарка ўстане,
На кручок гляне.
— Чый то ручнічок мае?

746. Ой, знай, дзеванька.
Ой, знай, дзеванька,
Ой, знай, дзеванька,
Як свякроўцы гадзіці.
Устань раненька,
Умойся бяленька,
Умойся бяленька.
Пакланіся нізенька.
І старэнькаму ж, і маленькаму ж,

Ды яшчэ таму, што на прыпечку,
Ды яшчэ таму, што ў калыбелі,
Ды на беленькай пасцелі.

747. — Не аддай, не аддай мяне, мамачка, у чужы край,*
Ў чужым краю нікагусенька я не знаю.
— А я цябе, мая дзіцятка, навучаю:
Як пойдзеш ты ў ціхі Дунай па ваду,
Сустрэнеш ты старога мужа на хаду,
Пастаў жа ты, ай, вядзёрачкі сціхенька
І скланіся старому мужу нізенька.
Скажаць людзі, ты й разумнае матулькі,
Скажаць людзі, ты й багатага татулькі,
Скажаць людзі, ты й пачотнае радзіны.

748. — Ох, аддавала мяне мамка ў чужыну,*
А я ў чужыне ды чужых людзей не знаю.
Выпраўляла мяне рана па ваду к Дунаю,
Ох, я к Дунаю дарожачкі не знаю.
Ох, ля Дуная стаіць людзей грамада,
Ох, сама ж не знаю, што тым людзям сказаці.
— Ох, не пушыся, дзіцятка мае, кланяйся,
Ох, скажуць людзі, што харошае мамачкі,
Ох, скажуць людзі, што багатага татачкі.
Ох, плавала шэрая рыбка па мору,
Ох, гуляй, гуляй, мая радзіма, за мною,
Не так за мною, як за русаю касою.

749. Мы ж цябе, Ганначка, адпраўляем,
Мы ж цябе навучаем: 2
— Уставай жа ранюсенька, 2
Вымывайся бялюсенька.
Рана па вадзіцу ідучы, 2
З маладым не станавіся, 2
А старому пакланіся.
Малады цябе разлучаць будзе,
А стары цябе навучаць будзе.

750. — Не аддай мяне, мамачка, у чужы край.*
У чужым краю я нічогінька не знаю.

— А я ж цябе, мая дочачка, навучу:
Не будзь гордая, не будзь пышная, карыся,
Добрым людзям у ножачкі кланіся.
Скажаць людзі — добрага роду дзіцяці.
— Пашлюць мяне ў бор па лучыну, па дровы,
Падзяру я вымываныя рукавы,
У лес ходзячы па лучыначку, па дровы.

751. Пауха пер'е ўсю нядзельку сушыла,
Маці Анечку ўвесь вечарок вучыла:
— Пойдзеш, Анечка, у чужыя людзі далёка,
Будуць там бабы, будуць сядзеці і гаварыці,
Падступі блізенька, пакланіся нізенька ў ножкі.
Скажуць жа людзі, што добрае маткі,
Добрага бацькі дзіцятка.

752. — Жаль, жаль, мая мамачка, на цябе,
Што я пагуляла нямножка ў цябе.
Невялікую русую касу ўзрасціла,
Малалетнюю ў чужыя людзі пусціш.
Я чужа і чужых людзей не знаю.
— А цябе, дзіцятка, навучаю:
Ты ж, маё дзіцятка, не пышыся, карыся,
Кожнаму нізка ў ножкі кланіся.
Ты ж і старога і малога не мінай,
Кажынаму ты галоўку сагінай.

753. Дзіцятка маё дарагое,
У чужых людзях будзь пакорнае.
Будзь пакорнае і ласкавае,
Будзь ласкавае і паклоннае.
Будзь паклоннае і жаданае,
Будзь жаданае і дагадліва.
Будзь жаданае і дагадліва,
На ўсе справы спахватліва.

754. А брат сястру ў дом вядзець,
Каліна-маліна ягода чырвона.
А брат сястрэ прыказваець:
— А будзь, сястра, для ўсіх добра,

Каліна-маліна ягода чырвона.
Будзець табе свёкарка няродны татачка,
Будзець табе свякроўка няродная мамачка,
Будзець табе дзевярочак як братачка.
Самі сядуць абед абедаць,
А цябе па ваду пашлюць;
Горы высокі, а воды далёкі,
Пака ты шла — паабедалі,
Толькі заспела ложкі памыці
Да сабак пакарміці.
Ложачкі ляп-ляп-ляп,
А слёзачкі кап-кап.
Свякроўка скажаць:
— Чужое дзіця, ідзі ў поле жыта жаці,
Сажнеш каласок, кінеш у раток,
Тым ты і паабедаеш.

755. Зборнае скрасенне настала,
Варутанька дзевак сабрала.
Варутанька ў дзеўках пытала:
— Скажыце вы мне, падружкі,
Ці будзець свёкар, як бацька?
Ці будзець свякрова, як матка?
Ці будуць дзевяры, як браты?
Ці будуць залоўкі, як сёстры?
— Падружка наша, Варутанька,
Мы табе ўсю праўду скажам:
Не будзець свёкар, як бацька,
Не будзець свякрова, як матка,
Не будуць дзевяры, як браты,
Не будуць залоўкі, як сёстры.

756. Да ўжо позненька, да не раненька — слонейка на заходзе,
Маладая Манечка ў сваёй мамачкі на выходзе.
— Чаго, Манечка, чаго, млодая, так сільненька плачаш?
Ці ты, Манечка, маладзенькая, ліхую свякроўку чуеш?
— Хоць бы ліхую, хоць бы якую, над мамачкі не будзе.
У мамачкі хаджу, касіцу пляту, а ў свякроўкі не буду.

757. — Чаго, зязюля, чаго, сівая,
Да сука прыпадаеш?

Ці ты, зязюля, ці ты, сівая,
Цяжкую зіму чуеш?

— Ой, ці цяжкую, ці не цяжкую —
Не будзе, як лецейка.
Ой, ці цяжкую, ці не цяжкую —
Не будзе як цёплае.

Улетку паляту — ягадку знайду,
Усё пажыўлюся.
Зімой паляту — нічога не знайду,
Толькі звалачуся.

Зімою хоць за сцяною,
То ўсё мне зімненька,
А ўлетку хоць пад кусцікам,
То ўсё мне цяпленька.

— Чаго, Ганначка маладзенькая,
Чаго слёзы роніш?
Ці ты, Ганначка, ці ты, маладая,
Ліхую свякроў чуеш?

—Ой, ці ліхую, ці не ліхую —
Не будзе, як матанька.
Ой, ці ліхую, ці не ліхую —
Не будзе, як родная.

Матанька ўстане — яшчэ прынакрые:
— Паспі, маё дзіцятка!
Свякроўка ўстане — ва ўсе куткі гляне:
— Устань, мая нявестачка!

Хутчэй ўстань, нявестачка,
Бо ўжо пазнюсенька,—
У людзей таўкуць, у людзей мелюць,
А ў нас ціхусенька!

758. — Чаго, зязюля, чаго, шэрая,
Так рана кукуеш? *
А ці ты чуеш, ці ты вяшчуеш

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Зімачку халодную?
— Чую, не чую, а добра знаю —
Не лецітка будзець.
— Чаго, Томачка, чаго, малада,
Так жаласна плачыш?
А ці ты чуеш, ці ты вяшчуеш
Свякроўку благую?
— Чую, не чую, а добра знаю —
Не родная мамка будзець.

759. — Чаго, пчолачкі, чаго, ярыя,
К вуллю прыляталі?
Ці вы, пчолачкі, ці вы, ярыя,
Лютую зіму пачулі?
— А хоць лютая, хоць не лютая —
Не будзе, як лецечка.
Будзе зімачка студзёная,
З бальшымі маразамі.
— Чаго, Зіначка, чаго, молада,
Да століка прылягаеш?
Ці ты, Зіначка, ці ты, молада,
Ліхую свякроўку чуеш?
— А ці ліхая, ці не ліхая —
Не будзе, як мамачка.
Будзе свякроўка журліва,
З бальшымі ўгрозамі.

760. — Чаго ты, лося, чаго ты, сівы,
А к сялу прылягаеш? *
А й ці ты, лося, а й ці ты, сівы,
Лютую зіму чуеш?
— А хоць лютую, хоць не лютую —
Не будзе, як лецечка,
Не будзе, як цёплае.
Я ўлетку пайду — травіцы шчыпну,
У крыніцы я й нап'юся,
Я ўзімку пайду — лазіцу грызу,
Па снягу й пакачуся.
— Чаго, Манечка, чаго, малада,

---

* Кожны радок, акрамя шостага, сёмага, семнаццатага і васемнаццатага, паўтараецца.

Так жа жаласна плачаш?
Ці ты, Манечка, ці ты, малада,
Ліхую свякроў чуеш?
— А хоць ліхую, хоць не ліхую —
Не будзе, як мамачка,
Не будзе, як родная.
Я ў мамкі пайду нагуляюся.
Прыйшоўшы, я й высплюся.
У свякроўкі пайду я й нараблюся,
Прышоўшы, папраўлюся.

761. — Чаго ты, лосю, чаго, нябожа,
Да сяла прылягаеш?
Мусіць ты, лосю, мусіць, нябожа,
Цяжкую зіму чуеш?
— Ой, хоць і цяжкую, хоць і нецяжкую —
Не будзець, як лецейка,
Не будзець, як цёплае.
Я ў бор не пайду,
Ягад не знайду,
Не будзець, як лецейка,
Не будзець, як цёплае.
Я ў авёс не пайду,
Не нажыруюся,
Не будзець, як лецейка,
Не будзець, як цёплае.
— Чаго ты, Марыська, чаго, маладая,
Да стала прыпадаеш?
Чы ты, Марыська, чы, маладая,
Ліху свякроўку чуеш?
— Ой, хоць ліхую, хоць не ліхую —
Не будзець, як матанька,
Не будзець, як родная.
Ой, у матанькі пайду да карчомкі
Да й нагуляюся.
Прыйду да хаты да й спаць лягу.
Маці мяне да й накрые.
— Ой, спі, дзіцятка, спі, дарагая,
Покі ты ў мяне жывеш.
Пойдзеш у людзі,
Не такова будзе,
Як у матанькі, як у роднае.
Свякроўка ўстане,

У ўсе куткі гляне,
Стане цябе дай будзіці,
Стане крычаці:
— Ты легла спаці,
А не такаво ў хаце,
Як трэба харашэнька.
Устань, нявеста, устань, маладая,
Я ж не маці, я не родная.

762. — Чаго ты, лосю, чаго ты, сівы,
Да сяла прылягаеш?
Ці не ты, лосю, ці не ты, сівы,
Лютую зіму чуеш?
— А хоць лютую, хоць не лютую —
Не будзе, як лецейка.
Я летам бягу — расіцу рашу,
Зялёную траўку скушу.
А зімой бягу па глыбокім снягу,
Сухую траву грызу.
— Чаму, дзеўчына маладзенькая,
Ліхую свякроў чуеш?
— А хоць ліхую, хоць не ліхую —
Не будзе, як мамачка.
Я ў мамкі хаджу — вяночак нашу,
Усё падвор'е ўкрашаю.
К свякроўцы прыйду — чужая ў раду,
Зайдуся ад жалю.

763. Кавала зазулька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
Цешылі яе пташачкі,
Цешылі яе дробныя.
— Цешце, не цешце, пташачкі,
Цешце, не цешце, дробныя,
Не будзе зіма, як лета,
Не будзе ў бору ягодак,
Не будзе ў садочку вішанёк,
Не будзе вадзіцы ў крыніцы.
Плакала Манечка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к скамніцы.
Цешылі яе сястрынкі,
Цешылі яе родныя.

— Цешце, не цешце, сястрынкі,
Цешце, не цешце, родныя,
Не будзе свёкар, як бацька,
Не будзе раненька будзіці,
Пойдзе да сусед судзіці:
— Санніва нявестка, санніва,
Драмліва нявестка, драмліва.
Як хату мяла — драмала,
Панясла смецце — заснула.
Пайшла па воду — утанула.
Донца-вядзерца — пабіла,
Залатую дужачку зламіла.
Прыйшла да свёкарка — тужыла:
— Што я, свёкарка, зрабіла.
— Не тужы, нявестка, не тужы:
У нас кавалі на сяле,
У нас бондары ўсе свае:
Донца-вядзерца іскладуць,
Залатую дужачку іскуюць.

764. Кукавала зязюля ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку.
Прыклаўшы галоўку, гаварыла:
— Ці будзе зімачка, як лета?
Ці будзе садавіна расцвітаці,
Ці будзе вішанька вызраваці?
Расплакалася дзяўчыначка ў святліцы,
Ды прыклаўшы галоўку к століку.
Прыклаўшы галоўку, гаварыла:
— Ці будзе свёкарка, як татка?
Ці будзе свякруха, як мамачка?
Ці будзе пускаці гуляці?
— Ідзі, ідзі, нявехна, не барыся,
На сенешнім парозе вярніся.
А ці гуляла, нявехна, ці гуляла?
— Спасіба, татачка, пагуляла,
На сенешнім парозе пастаяла.

765. Ляталі гусанькі, да не грагалі,
Толькі адна гусанька прыграгнула.
Чула ж яна на сябе прыгоданьку —
Прыгоданьку — лютую зіманьку:

Увальюць вадзіцы ў карытца,
Нет піці, нет купаціся.
Сядзелі дзеванькі, не плакалі,
Толькі адна Матрунка прыплакала.
Чула ж яна на сябе прыгоданьку —
Няроднага татаньку, а свякратаньку,
Няродную матаньку — свякрованьку,
Чула ж яна няродных братцаў — дзевяратак,
Чула ж яна не сястрычак — заловачак.

766. Ляцелі гусанькі, да не гогалі,
Толькі адна гусанька ды й загогала.
Чуець яна зімухну студзёную,
Чуець яна марозы траскучыя,
Чуець яна замяцелі паўзучыя.
Сядзелі дзеванькі ды не плакалі,
Толькі адна княгінька заплакала.
Чуець яна свякратка жураўлівага,
Чуець яна свякроўку варклівую,
Чуець яна дзевяроў перасмешнікаў,
Чуець яна заловак калатовак.

767. — Ой, у лесе, лесе да мядзведзь рыкае.
Будзе табе, дзевачка, да свякроў ліхая.
— Да няхай рыкае, да няхай гукае,
Да няхай ліхая — я сама такая.
Будзе гаварыці — буду наравіці,
А будзе крычаці — я буду маўчаці.
Я таму мядзведзю саладзень падкіну,
Я сваю свякроўку ў пярыну ўкіну.
Да няхай мядзведзь саладзень пасмокча,
Няхай мая свякроўка ў пярыне квохча.
— Смакчы, смакчы, мядзведзю, да хоць разарвіся.
Спі, мая свякроўка, да хоць не прачніся.

768. — Борам, борам ды мядзведзь рыкае,
Будзе табе, дзеванька, ды свякроў ліхая.
— Ой, няхай жа будзе, а я не баюся,
Я сваёй свякроўцы ды панараўлюся.
Позненька лягу ды раненька ўстану,
Я сваёй свякроўцы ды міленька стану.

769. За лесам, лесам ды мядзведзь рыкае,
Будзе табе, дзевачка, свякроў ліхая.
— Не думай, нявестка, я цябе нагрызу,
Табе, маладзенькай, я тры дзела закажу:
Першае дзела — уставай, нявестка, раненька,
Другое дзела — мяці сені чысценька,
А трэцяе дзела — бяжы па ваду скоранька.

770. Кажуць людзі, кажуць:
Свякроў добра будзе,
Сама рана ўстане,
Мяне не ўзбуджае,
Пойдзе да суседаў
Ды ўсё абсуджае.
А я й маладзенька
Горушка пазнаўшы,
Назаўтра раненька
Яшчэ раней устаўшы,
Заняла я волы,
Пагнала ў дубровы.
Зазулька кавала,
Я ей памагала.
— Калі зазулька сівая —
То ляці да бору,
Калі ты, мой міленькі,—
То едзь ты дадому.
Прыгнала я волы,
Села на парозе,
Паліліся слёзы,
Як раса з бярозы.

771. Вячэрай, Галю, тую вячэру,
Што мамка наварыла,
Бо пойдзеш к чужой матухне,
Не будзеш вячэраці.
Самі пасядуць, вячэраць будуць.
А цябе па ваду пашлюць,
Па халодную, у крыніцу бяздонную.
Прынясі, Галю, вады,
Прынясі за старога,
Прынясі за малога,
За Васечку маладога.

Падай вады,
Падай старому,
Падай малому,
Васечку маладому.
Памый, Галю, ложкі,
Памый за старога,
Памый за малога,
За Васечку маладога.
Ложачка бразне,
Слёзанька капне.
То і ўся твая вячэра.

772. Ой, да стаіць яблынька расхіліўшыся, некаму падрэзаць,
Да ляжаць яблычкі рассыпаўшыся, некаму падабраці.
Да сядзіць дзевачка, расплакаўшыся, некаму развaжаці.
Да й прыйшла да яе родна матачка, стала разважаці:
— Ой, не плач, не плач, маё дзіцятка, павячэраем са мною.
Бо як пойдзеш к чужому бацьку, не будзеш вячэраць.
Ды самі пасядуць, цябе пашлюць па ваду,
Ужо к таму броду па халодну воду.
Прынясеш жа вады, завяляць піць падаць,
Ой, як старому, так і малому, хлопчыку маладому.

773. — Чом ты, Ганначка, не вячэраеш
У сваяго баценька?
Ой, як пойдзеш а да чужога,
Не будзеш вячэраці:
Самі сядуць вячэраці,
Цябе пашлюць па воду —
Вядро вяліке, вада далека,
Ночанька цямненькая.
— Не журыцеся, блізкі суседзі,
Ночкаю цемненькаю,
Ой, есць у мяне залаты персцень,
Ён будзе мне свяціці.
Ой, есць у мяне молад Іванка,
Ён будзе мне гадзіці:
Я за вядзерца, ён за другое,
Прынясемо абое.

774. Вячэрай, Манечка, вячэрай, малада,*
Тут твая вячэрухна.
Як пойдзеш ты ў чужыя людзі,
Не будзеш ты вячэраці.

Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраці.
Ты з вадой на двор,
Яны з застолля вон.
Столічак сатрэш, крошачкі змяцеш,
Уся твая вячэрухна.
Возьмеш кусочак, пойдзеш у куточак,
Заплачаш сільненька.

775. Вячэрай, Вольгачка,*
Красная дзевачка,
Паследнюю вячэрку
У свайго роднага татачкі.
Пойдзеш к чужому,
К свёкру к ліхому,
Не будзеш вячэраці.
Возьмеш кусочак,
Сядзеш у куточак,
Слёзкамі абальешся.
— Сухі мой кусок,
Цёмны мой куток,
Горкая мая доля.

776. У церам Олечка вечарам бяжыць,
І з церама, ой, ціха ідзець,
А яе мамулька вячэраць завець.
— Вячэрай, мамулька, наздароўе,
Будзе мне сняданне на світанне
І будзе мая вячэра на ад'язджанне.

777. Чаму, Валечка, у мамкі вячэры не ясі?
Ды як будзеш у чужой мамкі — не прасі.
Чужая мамка табе вячэры не зварыць,
Яна цябе, як рыбіну, сасмажыць.
Парэжыць русую касу на мятлу,
Ссушыць цябе, маладзенькую, як зямлю,
Будзіць тваёй русаю касой падмятаць,
Будзіць цябе, маладзенькую, папіхаць.

778. Чаму, Манечка, не вячэраеш
Бацькавай вячэры? 2
Ой, як пойдзеш да й да свекарка,
Не будзеш вячэраці. 2
Самі сядуць павячэраць,
Цябе пашлюць па ваду. 2
Прынясеш вады, памыеш лождкі.
Пад калінаю стала,
Пад чырвонаю стала,
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Сільненька заплакала. 2
— Ой, што б маманька знала,
Мне вячэраці прыслала 2
Ці за месяцам, ці за зараю,
Ці браткам, ці сястрою. 2
Не месяцам, а за зарою,
Не браткам, а сястрою.

779. Да й ужо не рана, ужо змяркае,
Сонейка на заходзе.
А й наша Манечка маладзенькая
Прочанькі ўбіраецца.
Яе матачка, яе родная
Вячэраць сунімае:
— Пастой, дзіцятка, пастой, роднае,
Павячэрай са мной,
Бо, як ты пойдзеш к чужой мацеры,
Не будзеш вячэраць.
Самі пасядуць, павячэраюць,
Цябе пашлюць па ваду.
Прынёсшы вады, прынёсшы вады,
Кожнаму піці даць,
Як і старому, так і малому,
І Колечку маладому.
Падаўшы вады, падаўшы вады,
Загадаюць лыжкі мыці.
Лыжачка бразне, слёзачка капне —
Нечага вячэраць.

780. Ужо й не рана, ужо й не позна,
Сонечка на заходзе.**
Мілая Любачка, маладзенька,
Ад маткі на выходзе.

Яе мамачка, яе родная,
Вячэрацi сунiмае.
— Не сяду, матка, не сяду, родна,
З табою вячэрацi.
У цябе, матачка, у цябе, родная,
Вячэра гарача,
У маёй свякрухi, у маёй лютае,
Наварана, напечана.
— Там табе, дзiця, там табе, роднае,
Там табе няволейка.
Самi сядуць вячэрацi,
Цябе вышлюць па ваду.
Ключы высока, вада глыбока,
Не можна вады дастаць.
Прынесла вады, прынесла вады,
Нечага вячэрацi.
Лжачкi — бразь-бразь, слёзачкi — кап-кап,
Нечага вячэрацi.
Свякруха кажа, свякруха кажа,
Што нi дзела рабiла,
Iванка кажа, Iванка кажа,
Па вадзiцу хадзiла.

781. А ўжо на дварэ ды не раненька —
Сонейка на захадзе.
Сабiраецца малада ў прочкi
Проця цёмнай ночкi.
Яе ж мамачка, яе родная
Вячэрацъ занiмаецъ.
— Мамачка мая, вячэрай сама,
Мне ўжо не да вячэры.
Конi вароны ўжо пазапражоны,
Пад сенi падвядзёны
I толькi сесцi, ды паехаць,
Ды сiльненька заплакаць.

782. Дай, мацi, павячэрацi, 2
Бо не буду да й начавацi.
Бо паеду я ў дарожаньку
Да й да свёкра ў каморачку.

783. Злятайцеся ўсе, пташачкі, на полю,
Падхадзіце, татка з мамкай, да столу,
А вып'ем па чарачцы па поўнай,
Падзелімся па долечцы па роўнай.
Вы ж будзеце, татка з мамкай, тут жыці,
А я ж пайду, маладзенька, служыці.
Вы будзеце, татка з мамкай, панаваць,
А я ж буду з ліхім мужам гараваць.

784. Ходзіць кунанька па сенажаці, гагочыць,
Ходзіць дзевачка па новых сенях — плачыць,
Баценька падзелу просіць,
Роднага падзелу просіць:
— Баценьку, падзелься са мною,
Родненькі, падзелься са мною.
— Дзіцятка, няпраўду мовіш,
Роднае, няпраўду мовіш.
— Баценьку, сам гэта бачыш,
Родненькі, сам гэта бачыш.
Табе, баценьку, хата і камора,
А мне, маладой, скрыня, пярына і карова.

785. Хадзі, баценька, павячэраем з табою,
Павячэраўшы, пойдзем у подзел з табою.
Табе, баценька, сені, хата і камора,
А мне скрыня, пярына і карова.
Марыся ходзіць, свайго баценька просіць:
— Ой, выдай, баценьку, каравай,
З новай каморы, з замчатай скрыні.
Ой, выдай, баценьку, каравай.
Ой, выдай, родненькі, каравай.

786. Сядзіць Валечка за белым сталом, лялее,
Яе мамачка ў канцы стала аж млее.
— Хадзі, мамка, павячэраем з табою,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Падзяліўшыся, раз'едземся з табою.
Расціла, пясціла, мамка, ты мяне,
Цяпер аддаеш у чужыя людзі, плаці мне, 2
Табе, мамачка, новыя сені, камора,
А мне, маладой, куфар адзежы, карова.

787. Ходзіць малада па новых сенях,
Ручанькі згарнуўшы.
А за ёю яе мацёнка,
Свечаньку запаліўшы:

— Хадзі, дзецятка, за мною,
Падзелімся з табою.

Падзяліўшыся, маё дзецятка,
Разлучымся з табою.

788. Сядзьмо, мамка, павячэраймо,
А павячэраўшы, падзелямося.
Табе, мамка, хатка з вугламі,
А мне скрыня з паставамі.
Табе, мамка, уся худобачка,
А мне скрыня і каровачка.
Табе, мамка, ніты, бердзечка,
А мне ўсе палаценечка.
Табе ж, мамка, нажывацца,
А мне ад цябе ўбірацца.

789. Сядзьмо, матка, павячэраймо,
Павячэраймо, падзелімося.
Табе, матка, хатка-дамоўка,
А мне, матка, куфрык, кароўка.
Табе, матка, валы палавыя,
А мне, матка, коні вараныя.
Табе, матка, усе заслончыкі,
А мне, матка, усе свойчыкі.
Табе, матка, усе угэльчыкі,
А мне, матка, усе кужэльчыкі.
Кладзі, матка, серпік на парозе,
Бо дзіця на дарозе.

790. Нуце, маці, да вячэраці,
Павячэраўшы, дзяліціся.
Табе, мамка, што ў вузліку,
А мне, мамка, што ў кубліку.
Табе, маці, каробачкі,
А мне, маці, каровачкі.
Табе, мамка, да галушкі,
А мне, мамка, да падушкі.

Табе, маці, навойчыкі,
А мне, маці, сувойчыкі.
Табе і ніці і бердзенка,
Заставайся, мае сердзенька.

791. Давай, мамка, павячэраем,*
Павячэраўшы, падзелімся.
Табе, маці, вуглы ў хаце,
А мне, маці, сундукі ў клеці.
Табе, мамка, кош да каробка,
А мне, мамка, конь да кароўка.
Табе, мамка, куркі, яечкі,
А мне, мамка, чатыры авечкі.
Табе, мамка, лажкі да міскі,
А мне, мамка, гусачкі да гускі.

792. Сядзьмо, мамка, павячэраймо, 2
Повячэрайм... падзялімос[а].
Повячэрайм... падзялімоса, 2
Харашэнька разайдзімос[а].
Табе, мамка, ніці-бердзечкі, 2
А мне, мамка, палаценеч[кі].
Табе, мамка, ўсе вугельчыкі, 2
А мне, мамка, ўсе кубельчык[і].
Сядзьмо, братка, повячэраймо, 2
Повячэрайм... подзялімос[а].
Повячэрайм... подзялімоса, 2
Харашэнька разайдзімос[а].
Табе, братка, хата, лапата, 2
А мне, братка, карова рагат[а].
Сядзьмо, сястра, повячэраймо, 2
Повячэрайм... подзялімос[а].
Повячэрайм... подзялімос[а].
Харашэнька разайдзімос [а].
Табе, сястра, бодня парожня, 2
А мне, сястра, як панесці мож[на].

793. Нуша, мамачка, вячэраць,
Павячэраўшы, дзяліцца.
Табе, мамачка, каробкі,
А мне, моладзе, наміткі.

Табе каробкі смецце насіць,
А мне, маладзе, к царкві хадзіць.
Табе, мамачка, кублікі,
А мне, маладзе, трубачкі.
Табе кублічкі галаву біць,
А мне, маладзе, галоўку віць.

794. Да пад барочкам зямелька-чарназём,
Да там ехаў млоды Юзоўка чарнаброў,
Да пачуў ён шэру зязюлю кукуючы.
Там не зязюля, не шэрая кукуе,
Млода Валечка з мамусенькай гукае:
— Хадзі, мамулька, павячэраем са мною,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Табе, мамулька, сені і хата, і каморка,
А мне, мамулька, шафа, пярына і кароўка.

795. Шаўковая нітачка сцелецца,*
Ганначка з мамачкай дзеліцца:
— Вот табе, мамачка, вяроўка,
А мне, моладзе, кароўка.
Вот табе, мамачка, усе пруткі,
А мне, моладзе, усе трубкі.

796. Па полю туман сцелецца,*
Валечка з мамунькай дзеліцца:
— Вот табе, мамачка, торба верацён,
А мне, моладзе, шкаф палацён.
Вот табе, мамачка, дзяружкі,
А мне, моладзе, падушкі.
Вот табе, мамунька, усё дабро,
А мне, моладзе, серабро.

797. У гародзе ды палын з травой сцелецца,
Маладая Ганначка са сваёй мамкай дзеліцца:
— Табе, мамачка, цадзілка, дайніца,
А мне, мамачка, маладая цяліца.
Табе, мамачка, куча верацён,
А мне, мамачка, кухрык палацён,
Аставайся, мая мамачка родна,
Я паеду на чужыначку, буду адна.

А ў чужыне я людзей не знаю,
У кожнага ды работачкі пытаю.
Скора пайду, дык скажуць баюся,
Памалу пайду, дык скажуць лянюся.

798. Сядзьмо, матка, павячэраймо са мною,
Павячэраўшы, пагаворым з табою.
Табе, матка, сені новы і камора,
А мне, матка, кубел поўны і карова.
Табе, матка, па новых сенях пахаджаць,
А мая кароўка будзе рыкаць.
Ты будзеш, матка, па новых сенях хадзіці,
А мая кароўка па зялёнай дуброве блудзіці.

799. Сядзьмо, мамачка, павячэраймо з табою,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Табе, мамачка, світка, паветка, камора,
А мне, мамачка, куфарок плацця, карова.
Каб мая карованька ў варатах рыкнула,
Каб мая свякроўка ў аконца глянула.
— Ох, нявестка мая, шчаслíва доля твая.
Да рассей жа долю да па мойму полю,
Да распусці шчасце да па маей хаце.

800. Сядзьмо, мамка, павячэраймо,
За вячэрай пабяседуймо.
Давай, мамка, падзелімося,
Толькі, мамка, не сварымося.
Табе, маці, хата, камора,
А мне сундук і карова.
Табе, маці, кошык з верацянцамі,
А мне сундук з ручнікамі.
Ты, мамка родная,
Меншай не астаўляй свае ніводнага,
Бо та меншая ленавалася
Да на печы пацягалася.

801. Сядземо, матка, павячэраймо са мною,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Да табе ж, матка, новыя сені, адрына,

А мне, матка, кубел плаццяі пярына.
Табе ж, матка, да новыя сені, камора,
А мне, матка, кубел плацця і карова.
Мяне павязуць да на Падолле,
Дзякуй табе, матушка, за шырокае падвор'е,
Што ты ж мяне сціха, памаленьку гадавала,
Для мяне падаркі гатавала.
Сорак ночак цёмненькіх не спала,
Трыццаць свечак ясненькіх спаліла,
Дзесяцёра чаравічак навюсенькіх знасіла.

802. Садзьмо, матка, павячэрай са мною,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Ой, табе, матка, сені, хатка ды камора,
А мне, матка, залатая скрыня ды карова.
Ой, табе, матка, роскаш,
Печкі да перапечкі,
Новыя сені,
Дзе сваты сядзелі.
Як паглядзела маці,
Што няма дачкі ў хаце.
Ні каровы ў аборы,
Ані скрыні ў каморы.

803. Нуця, матка, вячэраць, 2
Павячэраўшы, дзяліцца. 2
Табе, маці, у пуні кароўка,
А мне, маці, у клеці каробка.
Матка ў пуньку — кароўкі нет,
Матка ў клець — каробкі нет,
Матка за вароты — толькі след,
І мяцёлачкай замецена,
Куды мая чада павезена?

804. А ўжо ж не позна, а ўжо ж не рана, зарыцца,*
Будзем з табою, родная мамка, дзяліцца.
Табе тры пушкі, мне тры падушкі, матухна,
А ўжо ж не позна, а ўжо ж не рана, зарыцца,
Будзем, татухна, з табою мы дзяліцца.
Табе вяроўка, а мне кароўка, татухна.
А ўжо ж не позна, а ўжо ж не рана, зарыцца,

Будзем з табой, брацейка, мы дзяліцца.
Табе хлявочак, а мне канёчак, брацітка.
А ўжо ж не позна, а ўжо ж не рана, зарыцца,
Будзем з табою, родна сястрыца, дзяліцца,
Табе вяночак, а мне чапочак, сястрыца.

805. Сядзем, сястрыца, павячэраем з зарою,
Павячэраўшы, мы падзелімся з табою.
Табе, сястрыца, дзявочая красата,
А мне, сястрыца, жаночая ташната.
Табе, сястрыца, дзявоцкае гулянне,
А мне, сястрыца, жаночае ўздыханне.

806. Да столу, маё дзіцяця, да столу,
Павячэраўшы, падзелімся з табою.
Табе, дзіцяця, скрыня, пярына, кароўка,
Бо ў цябе свякроўка і залоўка.
Буду ■ цябе, маё дзіцяця, навучаць,
Каб ты сумела к чужой сямейцы прывыкнуць,
Па новых сянёх ціхусенька перайсці
Ды свякроўку роднай мамулькай называць.

807. Хадзі, мамачка, павячэраем з табою,
Павячэраўшы, пагаворым з табою.
Табе, мамачка, адна кашулька, а мне дзве,
Бо я паеду ў чужыя людзі, а ты не.
Табе, мамачка, хата, сені і камора,
А мне, маладой, скрыня адзежы і карова,
Скрыню павязуць, кароўку павядуць праз поле,
Папавальнее, мамачка, тваё падвор'е.

808. Ой, клён-ліпа па дарозе сцелецца,
А Манечка з мамкаю дзеліцца:
— Табе, мамка, адна трубка, а мне дзве,
Я паеду ў чужыя людзі, а ты не.
Ой, клён-ліпа па дарозе сцелецца,
А Манечка з бацькам дзеліцца:
— Табе, бацька, адна шапка, а мне дзве,
Я паеду ў чужыя людзі, а ты не.
Ой, клён-ліпа па дарозе сцелецца,

А Манечка з сястрыцаю дзеліцца:
— Табе, сястрыца, адна спадніца, а мне дзве,
Я паеду ў чужыя людзі, а ты не.

809. Сцелецца зялёна рута, сцелецца,
Дзеліцца дачушка з мамкай, дзеліцца.
Разасла́лася зялёна рута ля варот,
Раздзялілася дачушка з мамкай не на год.
Разаслалася зялёна рута на ўвесь свет,
Раздзялілася дачушка з мамкай на ўвесь век.

810. Пры дарозе белы рамон сцелецца,
Млада дзевачка з роднай мамкай дзеліцца:
— Табе, матухна, адна кашулька, мне дзве,
Я паеду ў чужы людзі, а мамка — не.
Пры дарозе белы рамон сцелецца,
Млада дзевачка з родным таткам дзеліцца:
— Табе, татка, скрынка, пярынка, а мне дзве.
Я паеду ў чужы людзі, а татка — не.
Пры дарозе белы рамон сцелецца,
Млада дзевачка з роднай сястрой дзеліцца:
— Табе, сястрыца, адна спадніца, а мне дзве,
Я паеду ў чужы людзі, сястрыца — не.
Пры дарозе белы рамон сцелецца,
Млада дзевачка з родным браткам дзеліцца:
— Табе, братка, дзве рэдзечкі цвілыя,
А мне, братка, дзве авечачкі сівыя,
Я паеду ў чужы людзі, а братка — не.

811. — Маё нізкае падвор'е,
Чаго вадою затоплена?
Ці табе сонейка не было,
Ці табе ветру не стала?
Свяціла сонца ў ваконца,
Да веяў ветрык з загор'я
Да на нізкае падвор'е.
— Маладзенькая дзевачка,
Чаго ты замуж хацела,
Ці ў мамкі роскаш дадзела?
У мамкі гулі да гулі —
Болей не будзе ніколі.

812. Захацела красна Волечка замуж маладая.
Да будуць твае белыя плечкі,
Да штодзень пад плятнямі.
Да будуць твае сінія вочкі
Штодзень пад слязамі.
Да будзець твая русая каса
Штодзень пад нагамі.

813. Пераплыла рыбка з возера ў мора,
Перайшла дзевачка з раскошы ў гора.
— Ці табе, Маруська, роскаш дадзела,
Што маладзенька замуж захацела?
Ці ў твайго таткі хатачка мала,
Ці ў тваей мамкі хлеба не стала?
Калі хатка мала — датачыць можна,
Калі хлеба не стала — дакупіць можна.

814. Ці табе, Мар'ечка, роскаш надаела,
Што ты так маладая замуж захацела?
Не будзеш, Мар'ечка, па начы хадзіць,
Не будзеш, Мар'ечка, Васілю гадзіць.
Пасцелеш пасцельку, ён перасцеле,
Падасі вадзіцы, ён не нап'ецца.
Ён не нап'ецца, гарой надзьмецца,
Маладая Мар'ечка слёзкамі зальецца.

815. — Маладая Марыйка,
Ці табе роскаш дадзела,
Ці ты замуж захацела?
— А мне роскаш надаела,
А я замуж захацела.
Надаелі тыя госці,
Штосуботкі прымаючы,
Штонядзелькі выпраўляючы.

816. Да ці табе, Манечка, роскаш надаела,
Што ты маладзенькая замуж захацела?
Да ў тваe маткі пірагі і аладкі,
А ў чужое да няма нічога.
Да мякіну таўкуць, да аладкі пякуць,
Да цыбульку смажуць, ды аладкі мажуць.

817. Табе, дзевачка, роскаш дадзела,
Што ты маладая замуж захацела.
У твайго татачкі гара з гарою,
Гара з гарою і сад над ракою.
— Пусці, пусці, татачка, ў вішнёў сад гуляці, 2
З ружы кветкі рваці.
Да сарву я кветку з ружовага цвету,
Да пушчу я кветку ў быструю рэчку.
— Плыві, плыві, кветачка, да к новаму двару,
К новаму двару, к татачку майму.
Да татачка сядзіць, у вакенца глядзіць:
— Чаму ж мая кветачка
Да без дажджу змокла, 2
Да без сонейка звяла,
Знаць, маё дзіцятка ўвесь год ляжала.

818. Ці ты, Сонечка, з розуму сышла, з сваіх лет,
Ці надаела мамчына роскаш, белы хлеб?
А што ты насіла сама чорныісподы?
Ай, тое будзець, што і чорна не будзець.
А будзеш ехаць к сваёй мамульцы вечарком,
Ай, будуць ліцца дробныя слёзы ручайком,
А цябе будзе твая мамулька пераймаць,
Яна ж будзе тваё горачка ўсё пытаць:
— А сколькі была паветачка за хатку?
А сколькі была суседачка за матку?
Сколькі стаяла цёмных ночак пад акном?
А сколькі слала пасцелечак пад вуглом?

819. Каялася ластачка,
Што рана з вір'ю вышла,
Яшчэ па горам снягі ляжаць,
А подалі там людзі стаяць.
Каялася малада дзеванька:
— Што я , малада, да замуж пайшла,
Што я не ўмею дзела рабіці.
Ой, есць у мяне мая матанька;
Вона мяне навучыць дзела рабіці,
Ключы насіці.

820. — Ластаванька чорнанька,
Да чаго рана з гор'я вышла?
Шчэ ж па горах снягі ляжаць,
А па далінах крыгі стаяць.

— Ты ж, дзеванька малоданькая,
Да чаго ж малада замуж пайшла?
Чы ўмецiмiш гаспадарыцi,
Чы дзела рабiцi?
— Еся у мяне молад жанiшок:
Навучыць мяне гаспадарыцi,
Дзела рабiцi.

821. — А зiма, зiма, чаго сцюдзёна,
Чаго рана стала? 2
— А што за рана, а што за позна —
Калi мая пара прыйшла: 2
Лiсточак падзець, траваньку кладзець,
Ужо мая пара iдзець. 2
— Чаго, Марынка, чаго, дзеванька,
Чаго рана замуж iдзеш? 2
— А што за рана, а што за позна —
Калi мая пара прыйшла. 2
Татухна даець, Клiмутка бярэць,
Ужо мая пара прыйшла,
Ужо мая гадзiна.

822. — Чом ты, зiмачка, чом, халодная, раненька наступаеш?
— Ой, я сваю пару знала, я i наставала.
Лiсточак апаў, зямельку ўслаў, то мая пара прыйшла.
— Чом ты, дзевачка Хаелечка, чом, маладая, рана замуж пайшла.
— Не сама я шла, не ахотаю, мяне татка аддаў.
Татка аддае, сам не ведае, яка долечка будзе.
— Донечка мая маладая, долечка твая перад ачамi, косачка твая за плячамi.

823. Ты, баравая зязюля,
Чаго ты ў бару не жыла?
Цi ў бару жыроў не было?
А ў бару жыроў даволi,
На полi не будзе нiколi.
I лятала б ты па волi,
Наляталася б даволi.
Ты, маладая Нiначка,
Чаго ты ў татакi не жыла?

А ці ў таткі хлеба не мела?
А ў таткі хлеба даволі,
Гуляла б яшчэ болі,
Нагулялася б даволі,
У свякроўкі не будзеш ніколі.

824. Лугавая зязюля, чаго ты ў бор ляцела?
Ці табе ў лузе надаела?
Ў лузе каліны дастаўней,
У лузе кукаваць галасней.
Ай, маладая Манечка,
Чаго ты ад маці ехала?
Ці ж табе ў мамкі надаела?
Ў мамкі сняданне шторання,
У мамкі гулянне павольна,
У мамкі й паспаці праквольна.
Ў свякроўкі гуляць не пойдзеш,
Раненька снедаць не сядзеш.
Не будзе рана будзіці,
Выйдзе на вулку судзіці.

825. — Чаго ты, цяцера,
З бору паляцела?
Ці табе, цяцера,
Ў бару надаела?
Ці табе ў бару
Ягад нету?
Ці табе ў моху
Вады нету?
— Чаго ты, Грыпіна,
Ад маткі ідзеш?
Ці табе ў маткі,
Ці табе надаела?
— Бацькін хлеб
Палыном пахніць,
Маткіна капуста — гарчыцаю.
Свёкараў хлеб
Пірагом пахніць,
Свякровіна капуста
С атрушкаю,
Буду жыць з дружкаю.

826. Ой, дурна, дурна цяцера,
Што ты з бору зляцела?
Ці табе ў бары дадзела?
Ой, дурна, дурна Волечка,
Чаго ты замуж ляцела?
Ці табе ў мамы дадзела?
Тваей мамы падвор'е малое,
А ў яе гуляння даволі.
А ў твайго Ванечкі падвор'е шырока,
А ў яго гуляння далёка,
А ў тваей мамы пірагі-баранкі,
А ў твайго Вані бізуны-нагайкі.
А свякроўка не матка,
Будзіць цябе не будзе,
Выйдзе на вуліцу, судзіць будзе,
Што мая нявестка санліва-драмліва.

827. У цябе, Ганулька, розуму мала,
Чаму ты болей не дзевавала,
Русай касіцы не гадавала?
Русу касіцу ды зацямніла,
Сабе, моладзе, свет завязала.
Дзевачкі пойдуць у сад па вішні,
Табе, Ганулька, другія мыслі.
Дзевачкі пойдуць вяночкі віці,
Ты, маладзенька, слёзачкі ліці.
Дзевачкі пойдуць у сад па дулькі,
Табе, Ганулька, другія думкі.
Дзевачкі пойдуць у сад гуляці.
Ты, маладзенька, дзіця люляці.

828. — Куды, куды, маладая Галечка, паедзеш?
Ці ў горад, ці за горад, ці ў сяло,
Ці ў чужую невядомую старану?
Да хто цябе ў чужой старонцы прыхіне?
Да хто цябе роднай сястрыцай назаве?
— Да я вазьму два брацейкі з сабою,
Яны мяне ў чужой старонцы прыхінуць,
Яны мяне роднай сястрыцай назавуць.
— Ты, Галечка, маладзенькая, чудная,
Тваe брацейкі скора вернуцца дадому,
А цябе пакінуць, маладзенькую, чужому.

829. У нядзелю рана сіне мора грала,
Аддавала маці дочку ў чужую староначку,**
Ў чужую староначку ды ў чужыя людзі.
— А хто ж цябе, дзіця маё, даглядаць там будзе?
— Ой, даглядзяць мяне ды чужыя людзі,—
Гадзіць буду, рабіць буду, свякроў добрая будзе.
Сколькі ні гадзіла, сколькі ні рабіла,
Свякроў кажа і гаворыць — нявестка лянівa.
Выйду я й на гору, гляну я й дадому,
Паліць мама, варыць есці ўсё й на маю долю.
— Вары, мама, ў печы, вары вячэраці,
Вары, мама, палі, мама, ўсё й на маю долю.
Ты думаеш, мама, што я тут паную?
Ой, прыдзі ж ты, паглядзі ж ты, як я тут гарую.
Ты думаеш, мама, што я тут не плачу?
За горкімі слёзанькамі свету я не бачу.

830. У нядзельку рана скрыпачка іграла,
Там маці сваю дачушку ў людзі выпраўляла,
У чужу старану, у чужыя людзі.
— А хто там цябе, дачушка, шкадаваці будзе?
— Я рабіці буду, я хадзіці буду,
Ой, у чужой старонцы мне там добра будзе.
Выйду я на горку, пагляджу у долку.
— Гатуй, мама, вячэрачку і на маю дольку.
Ці ж я не рабіла, ці ж я не гадзіла,
А ўсё роўна мая работачка нікому няміла.

831. Ой, аддае маці дачку
Да ў чужыя людзі.
— А хто ж цябе, маё дзіця,
Шкадаваці там будзе?
— Ой, а хто ж мяне наб'е,
Той мяне пашкадуе.
А цяпер, мая матка,
Мне з табою не быці,
Прыйшоў час, прыйшла пара,
Трэба з мілым жыці.
— Скажы, скажы, маё дзіця,
Калі прыйдзеш ў госці?
— Як вырасце ў тваёй хаце
Трава на памосце.

Расла трава, расла трава,
На бок схілілася,
Ждала, ждала маці дачкі,
Сільна журылася.
— Не плач, матка, не плач, матка,
Не ўкідайся ў тугу,
Выцесалі тваёй дачцэ
Цясовую труну.
Выкапалі, выкапалі
Глыбоку магілу,
Пахавалі, пахавалі
Маладу Марыну.
Пасадзілі на магіле
Чырвону каліну,
Да захавалі да скрыні
Пухаву пярыну.

832. — Паедзеш, Гэлечка, у чужыя людзі,
Хто ж цябе, Гэлечка, шкадаваць будзе?
— Пашкадуе мяне малады Ігнатка,
А я за вядзерца, а ён па другое.
— Пастой, Гэлечка, пойдам абое.
— А горы высокі, а воды далёкі,
Відны калодзеж вельма глыбокі.
— Я ж горы паніжу і воды наблiжу,
Цісовыя вядзерцы напалам разрэжу.

833. — Паедзеш, Галюхна, у чужыя людзі,
Хто ж цябе, маладую, шкадаваць будзе?
Адазваўся малады жанішка:
— Я ж цябе, маладую, сам пашкадую.
Пойдзем па ваду ды абое разам.
Прынясём вадзіцы ды маёй матаньцы,
Да з новае крыніцы.
Яна бярэ за ключку, ён яе за ручку:
— Будзем, дзевачка, з табой гаварыці,
Як нам на свеце жыці.

834. — Да паедзеш, Марылька, ў чужыя людзі,
Хто ж цябе, маладое, шкадавації будзе?
— Пашкадуе мяне малады Іванка:

Я за вядзерца, ён за другое,
Пойдзем па ваду да разам абое.
Паставіла вядзерца на ціхім Дунаі,
А сама прыпала к шырокай дарозе,
К шырокай дарозе, белай бярозе.
— Ой, дарожкі ж мае невядомыя,
А суседкі мае незнаёмыя!
— Не журыся, Марылька, не журыся, маладая!
Пойдзеш, маладая, у поле жыта жаці,
Будзеш сваіх суседак усіх пазнаваці:
Каторая нізка, то суседка блізка,
Каторая высока, то суседка далёка.

835. — Да ты, ўточка да рабенькая,
Да залатое твае пер'ейка,
Як ты паплынеш да на сіне мора,
Там цябе да вада пойме.
— Маладая наша дзеванька,
Як ты паедзеш у чужыя людзі,
Там табе да горэй будзе:
Студня далёкая, вада глыбокая,
Хто ж цябе да пажалуе?
— Да будзе ў мяне малады дзяцінка,
Ён мяне да пажалуе,
Ён за вядзёрка, я і за другое,
Прынясем вады абое.

836. — Хіба табе, Валечка, роскаш дадзела,
Што ты маладая замуж захацела?
— Ой, дадзелі, дзелі таткавы сені
Да штодзень мятучы, штосуботу мыючы.
Да паедзе Валечка да ў чужыя людзі,
Да хто яе маладую шкадаваць будзе?
Хіба яе пашкадуе малады Іванька:
Яна за вядзерца, а ён за другое, 2
Ды пойдуць па ваду ды разам абое,
Да брацьмуці вадзіцу з аднае крыніцы.
Да хто тую вадзіцу папіваці будзе,
Да хто іх маладзенькіх шкадаваці будзе?

837. Як пайду я ў лес па дровы,
Нарублю клёна.
Павёў мяне дурны розум

На чужую страну
І на чужыя людзі.
— Ой, хто ж цябе, мая доню,
Навучаць будзе?
— Ой, навучаць, мамка,
Усе добрыя людзі,
Як у маёй галаваньцы
Добры розум будзе.
— Адны будуць вучыці,
А другія судзіці.
— Нам з табою, родная маманька,
Да веку не жыці,
Глазам не відацца.
— Калі цябе, мая дочанька,
У госці дажыдацца?
— Дажыдайся, маманька,
Тады мяне ў госці,
Калі нарасце трава
У сенях на памосце.
Расла, расла траўка
Ды й пахілілася,
Ждала, ждала маці дочку
Ды й зажурылася.
Расла, расла траўка
Дый стала ссыхаці,
Ждала, ждала маці дочку
Дый стала плакаці.

838. Ой ты, рыбачка-краснапёрачка,
Быць было табе ў моры.
Як ты пойдзеш у быструю раку,
Спаймаюць рыбаловы.
Ой ты, Ганначка, маладзенькая,
Быць было табе дома.
А як пойдзеш у чужыя людзі,
Не тое табе будзе.
Самі сядуць вячэраць,
Цябе па ваду пашлюць.
Гара высокая, вада далёкая,
Няскора вернешся.
Прынясеш вады, нажывеш бяды,
Каждаму піць падаці.
Вады падаўшы, пасцель паслаўшы,

Сама сядзеш вячэрацць,
Лыжачка ў міску, слёзка ў лыжку —
Вот я і павячэрала.

839. Ты гуляй, гуляй, рыбка-плаціца,
Пакуль чыстая вадзіца.
А як прыплывеш у сіне мора,
Там гуляць не будзеш болей.
Папусціш луску па жоўтым пяску —
Вот тваё гулянне.
Ой, гуляй, гуляй, дзяўчынанька,
Пакуль у роднай мамкі.
Як пярэйдзем да свякроўкі,
Там гуляць не будзем болей,
Яны цябе, маладу, ды пашлюсь па ваду,
Самі сядуць вячэраць, 2
А майму горачку не вераць.
Кожнаму піць падай,
А сама галадай.
Піцькі падаўшы, пасцель паслаўшы,
Сама сяду вячэраць.
Кусок у раток, слёзы ў платок —
Вот мая вячэра.

840. Гуляй-пагуляй, шчука-плаціца,
Калі цёпла вадзіца.
Калі сцюдзённа — ляці на мора,
На жоўтыя пяскі.
А там, на пяску,
Ды ловяць луску маладыя рыбалоўцы.
Гуляй-пагуляй, млода Леначка,
Калі добра ў матулечкі,
А ў свякроўкі не ў роднай мамкі,
Некалі гуляць будзець.
Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
А самі сядуць вячэраці.
Воды далёкі, горы высокі,
К вячэры не вернешся.
Прынясеш вады — на сябе бяды,
Кождаму піці падаці.
Старому гаршком, маломе каўшком,
Мілому шкляніцаю.

Вады падаўшы, пасцель паслаўшы,
Сяду ж я вячэраць.
За ложачку хап і слёзачка кап —
Вот мая і вячэрачка.
Свякроў — не маці, не знае — даці,
А сама — не смей узяці.

841. Плыві, рыбачка, плыві, плотачка,
Ды па быстрай рэчачцы.
Як выплывеш на круты бераг,
Там зловяць рыбалоўцы,
Абдзяруць луску на жоўтым пяску,
Некалі плысці будзе.
Гуляй, Марыська, гуляй, маладая,
Ды ў сваей мамачкі.
Як застанешся да свякровачцы,
Некалі гуляць будзе.
Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраці.
Прынясла вады — сама сабе бяды,
На сваю галовачку.
Свякроўка кажа вады падаць.
Вады падала, пасцель паслала.
— Сядзь, дзіця, павячэрай.
На стале ложкі, хлеба ні крошкі,
Аблілі дробны слёзкі.

842. Ты гуляй, гуляй, рыба-плаціца,
Да па сіняму мору.
Ты гуляй, гуляй, рыба-плаціца,
Да па сіняму м...!
Як пойдзеш жа ты на ўзлукамар'е,
А мінецца гулянне:
Закінуць сяцей на тваіх дзяцей,
Самую паймаюць.
Ты гуляй, гуляй, маладая Аўдулька,
У свайго роднага бацькі.
А пойдзеш жа ты а ў чужыя людзі,
А мінецца гулянне.
А пойдзеш жа ты а ў чужыя людзі,
А мінецца гуля...
А самі сядуць абед абедаць,

Цябе пашлюць па ваду:
— Ты ідзі, ідзі, чужое дзіця,
Скора па ваду.
Ты ідзі, ідзі, чужое дзіця,
Скора па вадзі...
Воды далёкі, горы высокі,
Усё мая горкая доля.
Воды далёкі, горы высокі,
Усё маё няшчасце.
Я з гары котам, на гару лётам,
Усё маё няшчасце.
Вады прынясла, абед пацярала,
Усё мая горкая доля.
Вады прынясла, абед пацярала,
Усё маё няшчасце.
Пакінулі мне хлебушка з крошку
Да капустачкі лыжку.
Я за кусочак, муж за гужочак,
Усё мая горкая доля.
Я за кусочак, муж за гужочак,
Усё маё няшчасце.

843. Ай, гуляй, гуляй, белая рыба,*
Па сіняму мору.
А чым жа цябе, белую рыбу,
Рыбачку, спаймаюць?
Панясуць цябе, белую рыбу,
К маладым кухараткам.
А там жа цябе, белую рыбу,
Будуць жарыць і варыці.
Ай, гуляй, гуляй, малада дзевачка,
А ў роднае мамкі.
А як пойдзеш ты да свякрушачкі,
Некалі гуляць будзе.
Вады прынясі, гусей пакармі,
Некалі абедаць.
Лыжачкі бразь-бразь, слёзачкі кап-кап,
Нечага ж вячэраць.
— Чужое дзіця, ідзі паляжы,
Тады пойдзеш жыта жаць.
Снапочак нажнеш, каласок сатрэш,
Гэта твой абед будзе.

844. А гуляй, гуляй, шчука-рыбачка,
Да й па сіняму мору **
А зловяць цябе, шчука-рыбачка,
Маладыя рыбалоўцы.
Паложаць цябе, шчука-рыбачка,
У святліцы на скамейцы.
Будуць цябе, шчука-рыбачка,
Сячы ды рубаці.
Будуць цябе, шчука-рыбачка,
У катле гатаваці.
Будуць табой, шчука-рыбачка,
Гасцей частаваці.
Гуляй, гуляй, маладая Кацечка,
У татулькі на падвор'і.
Павязуць цябе, маладая Кацечка,
А ў чужыя людзі.
А будуць цябе, маладая Кацечка,
Усюды пасылаці.
Цябе пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць.
Прынясеш вады — на сябе бяды,
Кожнаму піці падаваці.
Трэба старому, трэба малому,
Трэба Янку маладому.
Ложачкі бразь-бразь, слёзачкі кап-кап,
Тут твая вячэрачка.
Пойдзеш у куточак, хлеба кусочак,
Слёзкамі праганяць будзеш.

845. Разлівалась сіня мора, разлівалась,
Лю-лі, лю-лі да люлёшанькі, разлівалась.*
Што на тым, на сінім моры рыба ходы ходзіць,
На круценькім беражочку — рыбалоўцы.
— Берагіся, бела рыбіца, берагіся,
Пад крутыя беражочкі хараніся.
Будуць цябе, бела рыбіца, усе лавіці,
Будуць цябе, бела рыбіца, рассякаці,
Будуць цябе на тры блюдзечкі раскладаці,
Будуць цябе на тры столікі падаваці,
Усё пад таго, пад Архіпачку маладога.

---

* Рэфрэн «Лю-лі, лю-лі да люлёшанькі» паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

846. Ой, гуляй, рыбка, гуляй,
Як цяпер вады многа.
Як вады паменшае,
Табе, рыбка, пагоршае.
Ой, гуляй, дзеўка, гуляй,
Як цяпер ў свайго бацькі.
Як пойдзеш к чужому,
Табе, дзеўка, пагоршае,
Дзелачка пабольшае,
Бо ў свёкра ніва вялікая,
Да постаць шырокая,
Ад мяжы далёкая.

847. Ой, гуляй, гуляй, шчука-рыба,
Да па ціхаму Дунаю,
Прыплывеш ты к беражочку,
Там цябе паймаюць.
Ідуць малойцы шчуку-рыбу лавіці.
Рыбаньку зловяць, лушчыцу здымуць
Да на кухні згатуюць.
Паложаць яе перад панамі
І з перцам, з прыправамі,
Будуць яе пакроіваць сярэбранымі нажамі.

848. Гуляй, рыбка, гуляй 2
У быстрай вадзе на дне.
Ой, бо як цябе рыбакі поймуць,
То з цябе залатую луску здоймуць.
Гуляй, Марысю, гуляй 2
У мацюнкі сваей,
Ой, бо як цябе баяры поймуць
І гулянечка табе ўймуць.
Паміне табе тое
Гулянечка частое.

849. Ой, калапенька зялёненька,
Як цябе выбіраці?
Ой, Алеська маладзенька,
Як цябе выпраўляці?
Ты ў мамкі расла,
Ты ў мамкі цвіла,

Як ягадка красна,
А цяпер, мая Алеська,
Долечка няшчасна.
Цябе маладу
Пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць.
Прынясеш вады —
Для сябе бяды,
Усім піцькі падасі:
Як старому, так і малому,
Ванечку маладому.
Піці падаўшы,
Пасцелькі паслаўшы,
Сама сядзеш вячэраць.

850. Мамачка мая, родная мая,
Куды мяне выпраўляеш?
У чужыя людзі, не ў знакомыя,
Ды ў вялікае гора.
Мяне, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць.
Вада далёка, гара высока,
Я й няскора вярнуся.
Прынясу вады — на сябе бяды,
Кожнаму піці даці:
І старэнькаму, і маленькаму,
І свайму міленькаму.
Піцькі падаўшы, пасцель паслаўшы,
Сама села вячэраць.
На стале ложкі, хлеба ні крошкі —
Вот мая й вячэрачка.
Ложачкі ляп-ляп, слёзачкі кап-кап —
Вот я й павячэрала.

851. На сіняму на Дунайку
Сіва ўтаўка плыла.
Яна плыла-паплывала,
А ўсё дзеванька дзівавала.
Не дзівуй ты, Евачка,
Яшчэ ж табе да дзіўней будзе,
Як да свёкаркі пойдзеш,
А табе вячэраць не будзе.

Самі сядуць да вячэраці,
Цябе пашлюць па ваду,
Па халодну воду.
Покі вады прынесла,
Уся вячэра адышла.
Свякроўка вады піці,
А нявестка ложкі мыці.
Памыла, папаласкала
І на паліцу паклала.
Сама села та й заплакала:
— Каб мая ж мама знала,
Мне б вячэру прыслала —
Сівенькім галубочкам
Тай найменшанькім браточкам.
Каб мая мама знала,
То б мне вячэру прыслала —
Сіваю галубкаю,
Найменшаю сястрыцаю.

852. Куды паляціш, сівая зязюля,
Там цябе лавіць будуць.
Куды паедзеш, маладая дзяўчына,
Там цябе глуміць будуць.
Самі сядуць паабедаюць,
А цябе па ваду пашлюць.
Прынясеш вады — на сябе бяды:
Каждаму падаць трэба.
Там сцежачкі невядомыя,
Дзе ты там хадзіць будзеш?
Там суседачкі незнаёмыя,
З кім ты гаварыць будзеш?

853. Як табе, Тамарачка,
Да ў чужых людзей?
У чужой старане
Да ўсё не па-нашаму.
Самі сядуць вячэраці,
А цябе пашлюць па ваду.
Вады прынясеш,
Ложачкі збярэш —
Нечага вячэраць.
Ложачкі бразь-бразь,

А слёзачкі кап-кап —
Нечага вячэраці.

854. — Паеду, братка, я із свайго дому.
Будзе мае месцечка на куце гуляці.
Будзе мая лыжачка сухая ляжаці,
Будзеш мяне, братка, часта ўспамінаці.
Калі будзе добра, там застануся, там застануся,
Калі будзе блага, дамоў вярнуся, дамоў вярнуся.
За цябе, брацетка, коніка папасу, коніка папасу,
За цябе, братавая, вадзіцы прынясу, вадзіцы прынясу.
Буду ў цябе, брацетка, за кусочак хлеба, за кусочак хлеба.
— Мая ты сястрыца, мне цябе не трэба.

855. — Чаго ж, ты, Галечка, сядзіш, бядуеш?
Ой, божа, божа, сядзіш, бядуеш.*
Ці ты, Галечка, гора чуеш?
— Хоць гора чую, плакаць не буду,
Як добра будзе, там жыць буду,
Нядобра будзе, дамоў вярнуся,
Свайму татачку служыць вазьмуся,
Пасцель пасцялю, вады нанашу.
Татачка скажа: — Цябе не прашу.
Падам вадзіцы, падам і хлеба,
Татачка скажа: — Ты мне не трэба.

856. Пайду я замуж ды даведаюся:
Калі добра будзе, то там застануся,
А калі нядобра, то назад вярнуся
Да да свайго таткі да служыць наймуся.
— Прымі мяне, татка, за кусок хлеба.
А татачка кажа: — Да ты мне не трэба.
— Прымі мяне, мамка, за кусочак хлеба.
А мамачка кажа: — Увесь хлеб паела.
— Прымі мяне, сястрыца, за кусочак хлеба.
А сястрыца кажа: — Да ты мне дадзела.
— Прымі мяне, братка, за кусочак хлеба.
А брацейка кажа: — Ціха, не крычэце,
Сягоння пабудзе, а заўтра хай едзе.

---

* Рэфрэн «Ой, божа, божа» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

857. Дай пайду я замуж да даведаюся:
Калі добра будзе, то там астануся,
Калі што якое, то назад вярнуся.
Да мякінку таўкуць, да аладкі пякуць,
Ды цыбульку смажаць, да аладкі мажуць.
— Прымі, мяне, мамачка, на адзін гадочак.
— Не прыму, дачушка, не адзін дзянёчак.
— Прымі мяне, мамачка, з кусочка хлеба.
— Не прыму, дачушка, ты мне не трэба.
— Прымі мяне, мамачка, да ў свой пакой.
— Не прыму, дачушка, ужо ў цябе ёсць свой.

858. — Пайду замуж хоць за вецера,
Пажыву хоць да вечара.
Ладна будзе — там жыць буду,
Дрэнна будзе — дамоў прыйду.
— Пойдзеш замуж, то вернешся,
А дзеўкай не абернешся.

859. Ішлі дзевачкі з вішання,*
Усе дзеўкі, усе дзеўкі песні запелі,
Толькі адна Лілечка заплакала.
У яе дзевачкі пытаюцца:
— Чаго ты, Лілечка, слёзна плачаш?
— Дзевачкі-падружачкі, замуж іду.
Калі будзець мне харашо, я і вас вазьму,
А будзець мне плоха, назад прыду.
— Лілечка-падружка, не вернешся,
Хоць худа, хоць харашо, там жыць будзеш,
Чужому, ліхому гадзіць будзеш.

860. — Ты, калапенька, ты, зеляненька,
Як цябе выбіраць? *
— Мая Улімка, маё дзіцятка,
Як цябе аддаваць?
— Не плач, не бядуй, мая мамачка,
Я там доўга не буду,
Пажыву гадок, пажыву другі,
На трэці вярнуся,
Не паправіцца мая долечка —
Пайду ўтаплюся.

— А не тапіся, маё дзіцятка,
Сваю душу загубіш.
Было казаць, было гаварыць,
Што ты яго не любіш.
— А я й казала, я й гаварыла,
Што яго не любіла,
Нешчаслівая мая долечка,
Яна мяне згубіла.

861. Аддала мама дачушку
Ды ў чужую старонку.
— Ой, жыві, жыві, дачушка,
Ды на чужой старонцы.
— Калі добра будзе, жыць буду,
Калі блага будзе, ў свет пайду,
Усім дзевачкам раскажу:
Ніколі замуж не йдзіце,
У роднай мамкі жывіце.

862. — Ты казала, мамка,
Што не збудзеш мяне.
Прыступісь да стала,
Падзівісь на мяне.
— Хоць прыступлюся,
Не падзіўлюся,
Дачка мая міла.
— Хоць міла, хоць не міла,
Я табе не ўгадзіла:
Ні ў полі, ні на волі.

863. Іскарка-прыгаўка наша Валечка, *
Скокнула-прыгнула к мамцы на ручкі.
— Жалей мяне, мамачка, сёння вечарок,
А заўтра б пажалела, ды некага будзе.
Ой, выйдзеш на вулку ды гукаць будзеш:
— Дзе мая дачушка ды падзелася,
Ці з сакалом ці з лебядзём у поле паляцела?
— Не з сакалом, не з лебядзём у поле паляцела,
А з маладзенькім Коленькам паехала.

864. Мая матка родна,
Палілей да мяне цяпер.
Бо ўжо заўтра не лілецімеш,
Да у сябе да не мецімеш.
Аддасі баярам на рукі,
Януську на векі.

865. На гарэ, на гораньца,
Стаяла камаранька,
А ў той камараньцы
Нянькі-мамкі сядзелі,
Маладу Хвелечку лялеелі.
Прыйшла к ей яе мамухна:
— Досыць, досыць, Хвелечка,
Нянькам-мамкам сядзець,
Цябе, маладу, лялеець.
— Мамухна мая родная,
Палялей мяне дзень да вечара,
З вечара да поўначы,
З поўначы да світання,
З світання да снядання,
З снядання да абедзіка.
Паабедаўшы, добры дзень дам.
Мамухне добры дзень,
А свякроўцы добры вечар.

866. Татачка родненькі,
Да прыступ к століку,
Да к малому словіку.
Ды добра было, як мы ўмесце раслі,
А ці добра будзе, што мы розна пайшлі?
Ды ў чужыя людзі,
Ды к чужым бацькам.
Абгаворуць мяне і хаду, і яду,
І работу маю.

867. Мая мамачка,
Прыступ к столачку,
К майму словечку.
Не сына жэніш,
Не нявесту бярэш —

Мяне, маладзенькую, аддаеш.
Мая мамачка, што ж табе лягчэй:
Чы малую было хавацъ,
Чы цяпер з суменя аддавацъ?

868. Пыталася млада Волечка ў мамулечкі:
— А дзе мае пракрасныя дзянёчкі?
А ці вы іх у карчомачцы прапілі?
А ці яны ў цёмным лесе зблудзілі?
А ці яны ў сіне мора ўтанулі?
— А Волечка, дачушачка, я не знаю,
Цяпер над табой я волечкі не маю.
Аддала цябе Іваньку на апеку —
Няхай шануе цябе, маладу, да веку.

869. Кукавала зязюлечка ў садочку,
Прыпомніла Ганулечка, ох, тую ночку.
Кукавала зязюлечка ў цёмным бару,
Прыпомніла Ганулечка, ох, тую пару:
— Не кукуй, зязюлечка, ў садочку,
Не ўспамінай, Ганулечка, ох, тую ночку.
Ой, не кукуй, зязюлечка, ў цёмным бару,
Не ўспамінай, Ганулечка, тую пару.
Табе, маладой, у зелен сад не хадзіць,
Табе, маладой, русу касу не насіць.

870. Закукавала шэра зязюля ў садочку,
Прыкланіўшы галовачку к лісточку.
— Ой, знаю, знаю, што мне ў садочку не быці,
Ой, знаю, знаю, што мне зязюлей не слыці,
Ой, знаю, знаю, што па садочку не лятаці,
Ой, знаю, знаю, што з вішань ягадак не кляваці.
Заплакала млада Мар'я ў святліцы,
Прыклаўшы гадоўку ■ скамейцы.
— Ой, знаю, знаю, што мне ў татулькі не быці,
Ой, знаю, знаю, што мне дзяўчынай не слыці,
Ой, знаю, знаю, што па дварочку не хадзіці,
Ой, знаю, знаю, маткаў дворык не красіць.

871. Да вумная-разумная Волечка 2
Па павуцінцы сіне мора перайшла,
Перайшоўшы, на кладачку прысела,

А прысеўшы, тры думачкі здумала:
Адна думачка — пры матульцы не быць,
А другая — па вуліцы не хадзіць, 2
А трэцяя — малодчыкаў не звадзіць.

872. Хадзіла Маруся па навіне,
Кідала карчэўя сама на сябе:
— Тут вам, карчэўя, не ляжаць,
А мне ў гэтай навіне не векаваць.
Хадзіла Маруся па клеці,
Кідала падушкі на плечы:
— Тут вам, падушкі, не ляжаць,
А мне ў татанькі не зімаваць.

873. А ў панядзелак ясна соўнейка ўсхадзіла,
Маладая Галечка сваю мамачку будзіла:
— Ой, устань, устань, мая мамачка, пасядзі,
А ты на мяне маладзенькую паглядзі,
А я ж у цябе паследню ночку начую,
Пасledню ночку, пасledні дзянёк гасцюю.

874. Мамачка мая, я госця твая,
Я госця твая.
Нямножка буду, дакучаць не буду,
Дакучаць не буду.
У панядзелак рана, толькі да снядання,
Толькі да снядання.
А да абеду я ужо паеду,
Я ўжо паеду.
Ужо конікі пазапражоны,
Пазапражоны.
Ужо вазочкі пазасціланы,
Пазасціланы.
Для нас, маладых, прыгатаваны,
Прыгатаваны.

875. Абыходная зорачка
Абышла да й кругом неба.
Абышла да й кругом неба,
Перад месяцам стала.

Перад месяцам стала,
З месяцам размаўляла:
— Месяц мой, перакрою,
Пагаворым мы з табою.
Пагаворым мы з табою,
Як рыбка з вадою.
Абыходная Манечка
Абышла да й кругом стала.
Абышла да й кругом стала,
Перад мамкаю стала.
Перад мамкаю стала,
З мамкаю размаўляла:
— Мамка мая родная,
Пагаворым мы з табою,
Пагаворым мы з табою,
Як месяц з зарою.

876. — Ой, гарэшкі, гарэшкі,
Бадай бы вы не ўрадзілі,
Як вы мяне сазвадзілі.
— Ой, дурная дзеўка,
Не мы цябе сазвадзілі.
Звяла цябе цёмна ночка,
Горкая гарэлачка,
Святая нядзелечка.
А светы панядзелак
Адлучыў ад дзевак,
А светы аўторак
Прылучыў да жонак.
У святую серадзіцу
Выправілі па вадзіцу,
У святую пятніцу
Паставілі за чалядніцу,
У святую суботу
Загадалі ўсю работу.

877. Ты ж, кляніна, кляніна,
Ты ж, кляновы лісточак,
Куды цябе ветры задуюць:
Ці ў лугі, ці ў балоты,
Ці на шчырыя бары?
Там бары да шчырэнькія,

Там мяды саладзенькія.
Маладая Ганначка,
Куды цябе бацькі аддаюць:
Ці ў турэцкую землю,
У наравістую сем'ю?
Там зямля крамяністая,
Там сям'я наравістая.
Да што ступіш — праступіш,
Да што мовіш — прамовіш.
Слоўца тваё перамоўлена,
Дзельца тваё перароблена.

878. Ты, зялёны барвінцу,
Чы марозу не баішся,
Па дарогам не цэлешся?
Ты, клянова лісціна,
Куды цябе вецер нясе:
Чы на дуб, чы на кляніну?
Ты, малада дзяўчына,
Куды цябе жанішок вязе:
Чы на Дунай, чы ў туркі,
Чы ў татары, чы ў турэцкую зямлю,
Чы ў шляхецкую сям'ю?
Там вона не знаецца,
Кажному кланяецца.
— Кланяйся, дзеванька, старому і малому,
Дасць табе гасподзь літную долю.

879. Кляновая да лісцінaчка, 2
Куды цябе да вецер вее?
Да вецер вее...
Куды цябе да вецер вее:
Ці ўгору, ці ў даліну?
Ці ў даліну...
Ці ўгору, ці ў даліну?
Ці назад на кляніну?
Маладзенька ж Верачка, 2
Куда цябе бацька аддаў:
Ці ў людзі, ці ў татаршчыну?
Ці ў татаршчыну...
Ці ў людзі, ці ў татаршчыну,
Штодзень гоняць да на паншчыну?

Дзень вялікі, луста малая, 2
Бо не свая матка давала.
Каб свая матка давала — 2
Лусту хлеба і кусок сала.
Сала...
Лусту хлеба і кусок сала,
Яшчэ к таму і сама ўзяла.

880. — Кляновая лісцiначка,
Куды цябе вятры веюць:
А чы ў луг, чы ў даліну,
Чы назад на кляніну?
— А веюць мяне ветры
Ані ў луг, ані ў даліну.
Веюць мяне ветры
На шчырыя барочкі,
На зялёныя лужочкі.
— Маладая Баська,
Куды цябе мамка аддаець:
А чы ў туркі, чы ў татаркі,
Чы ў турэцку зямлю?
— Аддаець мяне мамка
У вялікае сяло,
У багатую хату,
Гдзе дзевяраткі граюць,
А залвіцы прыпяваюць,
Горку долю праклінаюць.

881. — Кляновая лісцiначка, *
Куды цябе ветры ве[юць]?
Куды цябе ветры веюць:
Ці ў луг, ці ў далі[ну],
Ці ў луг, ці ў даліну,
Ці ў салодку малі[ну]?
— А сама ж я не знаю,
Куды мяне ветры ве[юць].
Ці ў луг, ці ў даліну,
Ці ў салодку малі[ну].
— Маладая Мар'ічка,
Куды цябе татка адда[ець]:
Ці ў вясёлае сяло,
Ці ў багатую ха[ту],

Ці ў багатую хату,
Ці ў сагласную сям['ю]?
Ці ў сагласную сям'ю,
Ці ў пачотную рад[ню]?
— А сама ж я не знаю,
Куды мяне татка адда[ець]:
Ці ў вясёлае сяло,
Ці ў багатую ха[ту],
Ці ў багатую хату,
Ці ў сагласную сям['ю].
Ці ў сагласную сям'ю,
Ці ў пачотную рад[ню].

882. — Кляновае лісцінёнка, куды, куды цябе ветры веюць?
— Я і сам не знаю, куды мяне вецер веіць:
Ці ў лог, ці ў балота, ці ў чыстае поле,
Ці ў сіняе мора.
— Маладая Марылька, куды цябе мамка аддаець?
Ці ў багатую хату, ці ў згодную сямейку?
— Я і сама не знаю, куды мяне мамка аддаець.
— Маладая Марылька, ці баішся ты свякроўкі?
— Я свякроўкі не баюся, на скамейке пасцялюся
І раненька абачхнуся, і слязой аблюся,
І рукаўком абатруся.

883. А туча, туча грозная,
Куды цябе ветры дзьмуць:
А ў чые лугі-даліны,
Ці ў зялёную дуброву?
Дзяўчоначка маладая,
А куды цябе аддаюць:
Ці ў горад, ці ў сяло?
А калі ў сяло — хазяйка,
А калі ў горад — мяшчанка.

884. У борку, ў борку, ў пры борку
Рубіў суджанька каморку,
Прыйшла да яго дзеўнька:
— Божа табе памажы, суджанька,
Рубі каморку шчытнюсенька,
Прасякай ваконца нізюсенька,

Каб к нам салаўі ляталі,
Каб нас маладых пабуджалі.
А ў мяне матынька не свая,
Не будзіць рана будзіці,
Выйдзіць на вулку судзіці:
— Мая нявеста негадзяй:
Бел кужаль прала — дрымала,
Па ваду пайшла — аблілася,
Па цяпло пайшла — абажглася,
Ложкі мыла — ўсё выла,
Хату мяла — ўсё пляла,
Пасцель слала — ўсё пяяла.
Ёсць у мяне дачушка мязенка:
Пойдзець — вады прынясець,
Цяпла прынясець — ўзадмець,
Ложкі бяленька памыіць,
Хату чысценька падмяцець,
Пасцель сцеліць — усё плачыць.

885. Ой, борку, борку, пры борку
Рубе малойчык каморку
З вялікімі акнамі,
Каб салавейкі ляталі,
Нас маладых пабуджалі.
Нас мамачка не пабудзе,
Выйдзе на вулку, абсудзе:
— Лянiва нявестка, лянiва,
Сонца не зойдзе — спаць пойдзе,
Сонца ўзыдзе — яшчэ спіць,
Каб па вадзічку не схадзіць,
Белых ножак не змачыць,
Белай сукенкі не зрасіць.

886. Ой, у бары, бары, пры борку
Да рубіць Марцінка каморку.
Там яго Ганначка пахаджае,
Яго маладога навучае:
— Рубі, Марцінка, з аконцам,
Каб мы не спалі да сонца,
Бо наш свякратка — не татка,
Да не будзе рана будзіці, 2
Выйдзе на вулку судзіці:

19. Зак. 298

— Дабра мая нявехна, вой дабра,
Да спіць да беленькага дня.
Соўнейка ўзыйдзе, пастаіць,
Яшчэ мая нявехна ў ложцы спіць.
Соўнейка ўзыйдзе, падыйдзе,
Тады мая нявехна з каморы ідзе.

887. Ой, што ж то, ой, што ж то да ў лесе такуе?
Маладзенькі Іванка камору будуе.
— Ой, будуй каморку,
Да будуй высока,
Да прарэж аконечка шырока.
Ой, што б сюды салавейка залятаў,
Да штоб мяне маладзеньку разбужаў.
Бо ў мяне мамка чужая,
Бо мяне раненька не збудзіць,
Яна выйдзе на вуліцу да асудзіць:
— Добра нявехна, добра,
Спіць да яснага сонца,
А да белага свету.
Як сонейка ў шчэлю,
То нявехна ў пасцелі.

888. А ў борку, ў борку, пры борку
Рубіў дзяціна каморку,
А к той каморцы сцежанька,
Туды ішла дзеванька:
— Бог помач табе, малойчык,
Рубі каморку шчытненька,
Прасякай ваконцы нізенька,
Каб [redacted] нам салаўі прыляталі,
А нас раненька пабуджалі.
— Няпраўда твая, дзеванька,
Не будуць к нам салаўі прылятаці,
Не будуць нас рана прабуджаці.
Есь у мяне мамунька старая,
А пабудзіць яна нас раненька.
— А пабудзіць — не пабудзіць,
Выйдзіць на вулку — абсудзіць:
— Нягодзя нявестка, нягодзя,
Раннюю зараньку праспала,
Вячэрнюю зараньку прагуляла.

Раннюю зараньку ў цераме,
Вячэрнюю зараньку у карчме.

889. Сабірайся, дзевачка, у дарогу,
Ды бяры зязюльку з сабою.
Прыкуй яе к караваці,
Будзе яна раненька кукаваці,
Цябе, маладую, пабуджаці,
Бо чужая мамка — не свая,
Да не будзе рана будзіць,
Да выйдзе на вулку судзіць:
— Добрая нявехна, дабрэнька,
Спіць да яснага сонейка.
Сонца ў ваконцы пастаіць,
А мая нявехна яшчэ спіць.
Ці яе дзела не рупіць,
Ці яе малойчык не будзіць?
Каб дзела рупіла б, дык не спала б,
Каб будзіў малойчык — устала б.

890. У дарогу, дзевачка, у дарогу,
А бяры зязюлю з сабою.
Прыкуй ты яе к кравацi,
Будзе яна табе раненька кукаваці,
А цябе, маладу, будзіці.
А ў цябе мама — не свая,
А не будзе раненька будзіці,
Выйдзе на вуліцу судзіці:
— Няўдала нявеста, няўдала,
Раннюю зару праспала,
А вячэрнюю прагуляла.
Раннюю зару ля печы,
А вячэрнюю ля клеці.
Па цяпло пайшла — абпалілася,
Па ваду пайшла — аблілася,
Па муку пайшла — абпылілася,
Па дровы пайшла — павалілася.

891. Ці я табе, мая мамка, надакучыла,
Што ты мяне проці лета заручыла?
Ці я табе, мая мамка, надаела,
Што ты мяне маладую ажаніла?

Заручыла мяне, мамка, маладую,
Да спраў жа мне, мамка, зязюленьку баравую,
Да пасадзі яе, маці, у краваці,
Будзе яна раненька каваці,
Будзе мяне рана пабуджаці,
Бо свякроўка не матухна, не пабудзіць,
Выйдзе за варота да і асудзіць:
— Санлівае, драмлівае чужое дзіця,
На работу лянівая нявестка мая.
Як прала белы кужаль — драмала,
Як пайшло па вадзіцу — днявала,
А як пайшло ў чыстае поле жыта жаць,
Займе постаць шырокую — ляжа спаць.
Зачула гэта слова родна маці:
— Ці я ў цябе ў парогах стаяла,
Штоб ты маё санлівае дзіця брала
Да такімі саромлівымі словамі абсуджала?

892. Бацюхна мой родненькі,
Аддаеш мяне маладую, *
Скуй жа мне ложу залатую
Да й прыкуй жа салавеечку.
Салавейка шчабятаць будзе,
Мяне, маладую, пабуджаць будзе,
Бо ў мяне маці не свая.
Хоць пабудзіць — пагудзіць,
Выйшаўшы да на вулічку,
Да стаўшы ў размовачку,
Што гультайка нявехна:
Раннюю росу праспала,
А вячэрнюю да прагуляла.
Чужыя нявехны пяюць на лужочку,
А мая нявехна спіць у палажочку.
Чужыя нявехны пайшлі жыта жаці,
А мая нявехна спіць у караваці.

893. Мамачка мая родная,
Куды аддаеш мяне маладую?
Скуй жа мне ложу залатую
Да прыкуй салавеечку.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Салавейка шчабятаць будзе,
Мяне маладую пабуджаць будзе,
Бо ў мяне да чужая маці,
Не будзе мяне рана пабуджаці.
Хоць пабудзіць — агудзіць,
Выйшаўшы да на вуліцу,
Зірнуўшы да на сонейка:
— Сонейка да вышэй клеці,
Спіць мая нявехна у новай кравconfiguraці.
Пастушкі да па лужочках —
Спіць мая нявехна у новых палажочках.
Пайшоў свёкар да яе пабуджаці:
— Уставай, да маладзіца,
Лугавая мядзведзіца,
Да што ў лузе ляжала,
Да майму сыну свет завязала.

894. — Да матачка да родная,
Аддаеш мяне маладую,
Да спраў ложу залатую,
Прыкуй зязюлю рабую,
Каб рана кукавала,
Мяне маладую пабуджала.
— Да дзіцятка маё мілае,
Да будзь сама дагадліва,
Да ўставай ранюсенька,
Памывай чысцюшанька,
Памятай харашушанька,
Бо твой дом пры дарозе,
Штодзень госці на парозе.

895. Аддаеш, маценька, маладу,
Ой, выкуй мне ложу залату.
Ой, прыкуй да ложы салаўя,
Ой, каб ён раненька шчабятаў,
Мяне, маладую, пабуджаў,
Бо ў мяне свякрухна, а не маці,
Не хоча хадзіці, будзіці,
Пойдзе да суседа судзіці:
— Спіць мая нявестка да дзянька,
Аж да сходу сонейка.
Кароўкі ў аборы рыкаюць,

Пастушкі ў дуброве гукаюць.
— Ой, цыц, мацёнка, не судзі,
Прыйдзі да каморы і збудзі —
Кароўкі ў аборы падаю,
Пастушкі ў дуброве даганю.

896. Ой, кавалю, да каваленьку, 2
Скуй жа мне да сякераньку, 3
Да зрабі мне да краватаньку, 3
Да прыкуй зязюленьку,
Штоб рана кавала 2
Да й мяне да пабуджала.
Бо ў мяне не свая маці, 2
Да не будзе будзіці, 2
Толькі будзе судзіці:
— Што ж у мяне за нявехначка, 2
Санліва, драмліва, 3
На дзелечка ж ляніва.
Сонца не зойдзе, паспаці ляжа, 2
Сонца ўзойдзе, тагды ўстане.
Устане яна, паснедае, 2
На дзелечка не завідуе.

897. Да едзь ты, мой татухна, у гарадочак,
Купі ты мне, татухна, салавейку.
Прыкуй яго, татухна, к кравацi,
І ён будзе раненька шчабятаці,
Будзе мяне, маладую, пабуджаці.
У мяне, мой татухна, не свой бацька,
І ён мяне раненька не пабудзя,
Выйдзе на вулачку, абсудзя:
— Ёсць у мяне нявестачка маладая,
Яна ў мяне раненька не ўставала.
— Не слухайце, суседачкі, свёкра майго,
Да я мяту хату, сені з свечкамі,
Да я бягу па вадзіцу з заранiцай.

898. Ганначка мамачцы ды наказвала:
— Ой, прыедзь, мамачка, ка мне ў госці,
Прывязі зязюлечку мне шэрую,
Пасадзі яе ў клетачку.

Прыкуй клетачку к краватачцы,
Зязюля шэрая кукаваць будзіць.
Зязюля пабудзіць — не пагудзіць,
Выйшаўшы за вароты гаварыць не будзіць.
Свякроўка пабудзіць — абгаворыць:
— Яшчэ маё загувала не ўставала,
Белага лічыка не ўмывала,
Русае касы не часала,
Тонкага кужалю не ўпрадала.

899. Войчанька родненькі,
Выйдзі ты на вулачку, 2
Да купі зязюлечку,
Да прыкуй ■ кравaці
Мяне, млоду, пабуджаці.
А свякроўка да не людзі,
Яна мяне не пабудзіць, 2
Выйдзе на вулачку, абсудзіць.
Як перайду я жывенька,
Яна скажа — зухуючы,
Як перайду памаленьку,
Яна скажа — гультуючы.

900. — Мамачка мая, родная,
Аддаеш мяне ў людзі, 2
Хто ж мяне будзіць будзе?
— А дзіцятачка маё,
А йдзі ў садочак, 2
А злаві салавейку,
А прыкуй к каравaці,
Ён будзе шчабятаці, 2
Цябе рана абуджаці
Ў крынічку па вадзіцу, 2
У шчыры бор па брусніцы.

901. Матронка, маё дзецятка,
Поймі салавейка ў садку
І скуй абложку на ножку,
Прыкуй у каморы і к ложку,
Салавейка збудзіць рана,
Гасподзь бог да розуму давядзе,
А свякроўка харашэнька ўкажа...

902. Як аддала мяне, маці, маладую,
То дай і каровачку рабую,
Каб яна раненька рыкала,
Мяне, маладую, прабуджала,
Бо свякруха — не матухна, не разбудзіць.
А разбудзіўшы, на вуліцы пасудзіць:
— Ой, ляніва мая нявехна, ляніва,
Спіць яна да белага дзянёчка.

903. — Ой ты, каліна, чырвона журавіна,
Ой, чаго ты плачаш, малада дзяўчына?
— Ой, я плачу да сама не знаю,
Што ты мяне бярэш, я тавару не маю.
Ой, няма ў мяне ні тавару, ні авец,
Да няма чаго заганяці ў хлявец.

904. Сабірайся, Марусенька,
Ой, сабірайся, Марусенька,
Да й нічога не кідай.
Верацёнца й у каробачку,
Ой, верацёнца й у каробачку,
А венчыка на галовачку,
А сапожкі на ножкі,
Паедзема да свякровушкі.

905. Сабірайся, донечка, сабірайся,
Бяры свае анучкі з-пад кучкі,
Бяры свае караўкі з-пад лаўкі,
Бяры свае лапечча з-пад печча,
Бяры свае падушкі з-пад кучкі.
Скакліва, матачка, скакліва,
Скокнула ў сені — пасцелі нет,
Скокнула ў заполак — шыхваньера нет,
Пабегла за вароты — слядкі знаць.
— Мусіць, мае дзіцятка павёз заяць.

906. Збірай, дачка, пасталы і анучы,
Каб не плакала, ад бацькі ідучы.
Збірай з сабою пасталы, валокі,
Каб не папалі на цябе ўрокі.

907. Нутка ты, маладуха, не шляйся,
А з намі ў дарогу прыбірайся,
А наша дарога — даўгая,
А ў нашай дарозе — каляюшкі,
Не забудзься, Наста, і падушкі,
А ў нашай дарозе — каляінкі,
Не забудзься, Наста, і пярынкі.

908. А ў полі — гарбылік,
Забывай, Зося, сваё жыллейка.
А ў полі — гарушачкі,
Забірай, Зося, падушачкі.
А ў полі — лашчыначкі,
Забірай, Зося, хусцінички.

909. А ўсе мы песні папелі, *
Аднаго шарсня не спелі.
А лятаў жа шарсцень каля сцен,
Прыехаў Міколка па пасцель:
А па пуховыя падушкі,
А па бялёвыя дзяружкі,
Ручніковыя скацёркі.
Ды па скрыначку із замком,
Ды па Машачку із вянком.

910. Пей, дружачка,
Ды не ўпівайся,
Што табе трэба,
Не забывайся.
Бяры пярыны
На дзве дзяціны,
Бяры падушкі
Да й на дзве душкі,
Бяры радзенца
Да свайго сэрца.

911. Маршалачкі-туркі,
Бярыце тапоры ў рукі 2

* Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

Да сячыце ў клеці вуглы,
Бярыце да скрыні, бодні.
Сячыце да краватачкі,
Бярыце да пярнатачкі.

912. Нашы мілы маршалачкі,
Бярыце дрыжкі ў ручкі,
Адбівайце замочкі,
Бярыце скрыночкі
І ўсе пярыны,
І карову з ардыны.
Выйдзі, маці, у сені,
Падзівіся на вышачкі,
Чы ляжаць падушачкі?
Вышачкі падраны,
Падушачкі забраны.

913. Светавая зоранька,
Узыйдзі ранесенька, засвяці яснесенька,
Пакуль я выеду з бацькава падвор'ечка,
Пакуль я выеду з маткіна застольнічка.
Пакуль я выкацю кублы із каморы,
Пакуль я выведу карову із аборы,
На свякровы возы, што стаяць пры дарозе.

914. Я месяца да перакрою,
Свяці, месяц, нада мною,
Над маго бацькі клеццю,
Пакуль жа я да ўбяруся
З бацькавага падвор'ейка,
З мацерынага застоллейка.

915. А ў каго на дварэ відна стала?
А ў Хрысціны на дварэ відна стала.
А Ганутанька фанары зажыгала,
Чыста серабра выбірала,
Выхадзя яе бацька выпрашываў:
— Дачушка мая, не бяры многа.
— А мне многа нада:
Дзевяры-лебядзі — нежанатыя,

Залоўкі-лябёдкі — не аддаваны.
Дзевяроў-лебядзёў жэнім — слугі будуць,
Заловак-лябёдак аддадзём — госці будуць.

916. Ай, рана сонца йграла,
Раней таго Настулька ўставала,
Таткіны клетачкі адмыкала,
Чыстае серабро выбірала.
За ей услед татка ходзіць:
— Дачушка родная, не ўсё бяры.
— Татанька, родненькі, многа надыбі:
Я ж іду ў хату багатую,
Я ж іду ў сям'ю вялікую,
Дзе дзевяры нежанатыя,
Залоўкі-лябёдкі не аддаваны.
Дзевяроў пажаню — сям'я будзець,
Залоўк павыдам — госці будуць.
Дзевяры-сакалы — суседзі мае,
Залоўкі-лябёдкі — госці мае.

917. Раненька ўсхадзіла сонейка,
Дзевачка ўставала раней таго,
Адмыкала таткавы клецейкі,
Серабра к сабе брала, золата.
— Дачушка, не бяры многа.
— Татка мой, многа нада ж мне,
Бо ў мяне дзевяроў, як чарцей,
Бо ў мяне заловак, як камней,
Дзевярам па шалічку,
Залоўкам па вяночку,
Дзевяры — гульня мая,
Залоўкі — журба мая.

918. Там, міжы гор, да каморачка,
Там свяціла ясна зорачка.
Там не зорка свяціла,
Маладая Ганначка хадзіла
З залатымі ключамі,
З васковымі свячамі,
Скрыначкі адмыкала,
Падарачкі выбірала.

Ой, за ёю, маладою,
Яе мамачка з сястрою:
— Мая дочка, мая родная,
Да не выбірай ўсе падарачкі, 2
Да й застаўляй меншай сястрэ.
— Мамачка мая родная,
Пакуль сястру падгадуеце, 2
Іншых падарачкаў нагатуеце.

919. Не зара за гарою,
Хвелечка са свячою
Па каморы хадзіла,
Сабе дары кроіла.
Прыйшла к ей яе мамухна:
— Досыць, досыць, Хвелечка,
Па каморы хадзіць,
Сабе дары кроіць,
Пакідай малай сястры.
— Няхай малая сястра
Позна спаць кладзецца,
Раненька ўстаець,
Тоненька выпрадаець,
Гусценька вытыкаець.
Не за дзень я выпрала,
Не за два дні выткала,
За адзін вечар выдала.

920. Выбачай, сястроначка,
Што парожна скрыначка,
Не я яе паражніла,
Гэта восень нарабіла.

921. Ды была ж Людачка ў мамкі адна
І тая з двара з'язджае,
Палавіну дабра забірае.
А каб другая такая,
То б і другую палавіну забрала.

922. Да хадзіла Анечка па двару,
Да думала думаньку не адну,
Што не ўсё я ад мамачкі пабяру,

Пакідаю слядочкі па двару.
Як на мае слядочкі пагляне,
То й мяне, маладзеньку, успамяне:
— Была ў мяне дочачка не ляніва,
Штосуботу лавачкі памыла,
Штонядзелю ў цэркаўку хадзіла.

923. Рыкнула кароўка з парога,
Заставайся, маценька, здарова.
Усё сваё, маценька, пабяру,
Пакідаю слядочкі па двару.
Хто на мае слядочкі нарыне,
Той мяне, маладу, успаміне:
— Тут маё дзіцятка хадзіла,
Красату ў вяночку насіла,
Праўданьку ў сэрцы дзяржала.

924. Не жалелі вы дзеўкі,
Не жалейце і пасцелі:
А ў кружкі дзяружкі,
Шытыя падушкі.
Ой, нам хоць і ў рады,
А мы і гэтаму рады.
Ой, нам хоць і ў проску,
Кладзі на павозку.

925. Ой, давай, маці, давай,
Меншай дочцы да не застаўляй.
Менша дачка не работнічка,
Да жніва ляніва.
Да жніва ляніва,
Да кудзелі драмліва.
Яна прасці ленавалася,
Да на пячы выцягалася.

926. Да ладзі, матка, ладзі,
Да ў боданьку кладзі,
Меншай не астаўляй:
Менша сабе зробіць,
Як іванька зародзіць.

Ніванька не зрадзіла,
Менша не зрабіла.
Менша дочка мала,
Яшчэ сабе не надбала.

927. Ладзі, маці, ладзі,
Поўны скрыні кладзі.
Кладзі світы, кажухі
Для дочы-харашухі.
А яшчэ тыя даматканы,
Што ў шнурочкі патканы.
Давай, мама, давай,
А другой дочцы не астаўляй.
Менша дочка не пагаравала,
Што на пасцелі спала.
Як пабудзе лета-зіманьку,
То накладзе поўну скрынаньку.

928. Да далі ж вы нам дочку,
Дайце шмацця бочку.
Сваткі Арынкі, пабяром, ой, пярынкі,
Мы, сваткі Агапкі, пабяромся, ой, за лапкі.

929. Аддайце нам дзеўку,
Аддайце пасцельку: 2
Падушку з лягушку,
Маладую, як цялушку! 2
А мы ж вас не звалі,
Мы ж вас не прахалі, 2
А ўкінулі ў сані,
Штоб ехалі з намі. 2
А пташачка карасцель,
Ляці ж скоранька па пасцель.

930. Тарарах, тарарах калёскі *
Павязлі Ніначку з пекла ў рай.
— Я не ў пекле была, а ў раі,
Я не хлеб ела — пірагі,
Не гарэлку пілі — саладуху,
Аддайце нашу маладуху.

А не хлеб мы елі — скарынкі,
Аддайце нашы пярынкі.
А не хлеб мы елі — пампушкі,
Аддайце нашы падушкі.

931. У полі, у полі ляшчынка,
Няма ў Лукеркі пасцілкі.
У полі, у полі калюжкі,
Няма ў дзевачкі дзяружкі.
Ёсць і дзе павярнуцца,
Да нечым напрануцца.

932. А е ў мяне падушкі
З конскае галушкі,
А е ў мяне пярыны
З грэцкае мякіны.

933. Ці я ў маткі да й не донька была,
Што мне матка да й катанку дала,
А ў катанцы да й кішэнечка,
А ў кішэні да й капеечка.

934. Да давай, матка, цеху,
Штоб не было смеху.
Да давай мяшка,
Штоб радзіла сынка.

935. Пасадзіла маці дачку
На цыбульным мяшку.
Адышлася і глядзіць,
Ці высока дачка сядзіць.
Дачка едзе на меху,
А людзі стогнуць ад смеху.
Стаіць, журыцца маці,
Што не будзе дачцэ на чом спаці.
Цыбульны мех, не пярына,
А жаніх дурань, не мужчына.

936. Ой, гудуць пшчолкі, гудуць,
Ужо Марысю мыслі бяруць,
Па новых сенях ходзячы,
Да новых скрынь гаворачы:
— Ой, скрыні мае навенькія
І падаркі бяленькія,
Пойдзеце віце на чужыну,
Будзеце віце абсуджоны,
Што не новенькі і не белыя,
Маей свякрусі нямілыя.

937. Скрыня мая ты бязвухая,
Ох, куда ты да патрухала?
Да ці ў лес, ці ў дуброву,
Ці свёкру ў камору?
А ў майго свёкра
А ні клеці, ні павеці.
А ні клеці, ні павеці,
Да такія свірны, што заганяюць свінні.

938. — Кухрычак да мой новенькі,
Куды ж ты да надумаўся,
Ці ў лес, ці ў дуброву,
Ці міламу да ў камору?
— Не ў лес, не ў дуброву,
Да к міламу да ў камору.

939. — Скрыні мае, бодні мае, *
А куды вы выбіраецесь?
Чы ў гай, чы ў дуброву,
Чы да свёкра ў камору?
— Ой, у гай да зялёненькі,
Да ў свірань новенькі.

940. Ой, кубле, мой кубле,
Да таварышу ты мой,
Цябе нясуць маршалачкі,
А мяне з хаты свашачкі.

941. Трасцё гарыць, а трасцё гарыць, звяр'ё выець. *
Звяр'ё выець, звяр'ё выець, есці хочаць.

— Не ещце, звяр'ё, не ещце, звяр'ё, татку роднага.
Не ещце, звяр'ё, не ещце, звяр'ё, мамку родную.
Не ещце, звяр'ё, не ещце звяр'ё, дружка мілага.
А ещце, звяр'ё, а ещце звяр'ё, ліхога свёкра.
А ещце, звяр'ё, а ещце, звяр'ё, ліхую свякроўку.

942. Каб я знала, каб я ведала,
Кудыма свякроў ісці будзе,
То я слала бы дарогі пад яе ногі
Жыжкаю і крапівою.
Яшчэ да таго, яшчэ да таго
Да калюшчаю шыпшыною.
Каб я знала, каб я ведала,
Куды мая матка ісці будзе,
То я слала б дарожкі пад яе ножкі
Тонкімі кужалямі,
Яшчэ да таго, яшчэ да таго
Да бітымі талярамі.

943. — Умела, умела, мамулечка, гадаваць,
Як сумела процію ночачкі аддаваць?
Я ж не знаю, у каго прасіцца начаваць.
— Едзь, дзіцятка, к новаму дварочку,
Пастой там ля залатога тыночку.
Выйдзе Васева мамулька з хаты —
Яна цябе ў хатачку ўвядзе,
Яна цябе дзіцяткай назаве.

944. — Ой, ты, Манечка маладзенькая,
Дзе будзеш начаваць?
— Начавала б я ў свайго бацюхны,
Бацюхна не прымае.
Есць у мяне мой свёкарка,
Ён мяне дажыдае.

945. Мой ты вяночак,
Мой ты зялёны, 2
Ты сягоння зіяеш,
Заўтра звянеш, 2
Ты маей мамачцы

Сэрца разжаліш. 2
Мая мамачка
Бедаваць будзе: 2
— Дзе маё дзіцятка
Начаваць будзе? 2
Можа, яно будзе
Па лесе хадзіці,
Пташак будзіці:
— Мае ж вы пташачкі,
Мае пташаняткі, 2
Пакажыце дарожку,
Дзе родная мамка. 2

946. На моры вуціца купалася,
Купаўшысь, вуціца акунулася,
Вылезшы на беражок, страпянулася,
Аб цёмнай ночушкі клапацілася:
— А дзе мне, вуціцы, гэту ноч начаваць?
Ці ў траснічку, ці ў лысьнічку, ці ў бярэзнічку?
Не ў траснічку, не ў лысьнічку, не ў бярэзнічку,
Луччы ўсяго ў селезня, усё пад крылышкам,
У селезня пад крылом, дый пад сізым пяром.
А ў цераме Ганначка слёзна плакала,
Аб цёмнай ночушкі клапацілася:
— А дзе мне, дзеванькі, гэту ноч начаваць?
Ці ў цераме, ці ў высаке пад вакошачкам?
Не ў цераме, не ў высаке пад вакошачкам,
Луччы ўсяго ў Івана на краватці.
На кравацi, на цясовай даске,
На цясовай даске дый пад шубанькай,
Пад шубай ды пад правай палой.

947. — Ідзе табе, рыбушка, зіму зімаваць:
Ці ў вадзе, вадзе, пад лёдам,
Ці пад круценькім беражком,
Ці на жоўценькім пясочку?
— А ідзе табе, Анісця, ноч начаваць:
Ці ў полі шатры распінаць,
Ці ў зялёненькай дуброве,
Ці ў Піліпавай каморы?
— Калі я ў полі — кунькаю,
У зялёнай дуброве — вуткаю,
У цёмнай каморы — дзеўкаю.

948. Да паедзем ў далёку Украіну,
Дзе ж мы начаваці будзем?
Што ж мы, маладыя, вячэраці будзем?
Будзем начаваці ў зялёнай дуброве,
У зялёнай дуброве пад ялінаю.
Пташачае пер'е за падушку будзе,
Кляновы лісточак апрануціся,
Не знай і не ведай прыгарнуціся.

949. Думай-гадай, мая матко,
Дзе я буду начаваці,
Што я буду вячэраці?
Вячэрацьму рыбку з перцам,
Начавацьму з любым сэрцам.
Вячэрацьму галушачкі,
Лягу спаць у падушачкі.
Галушачкі — млінавыя,
Падушачкі — пухавыя.

950. Рожа мая белая,
Да галоўка мая бедная,
Дзе мне маладзе начаваць?
Ці мне маладзе на вадзе,
Ці мне маладзе на моры,
Ці ў свякраткавай каморы?
Хто ж тую камору прыбіраў,
Хто ж тую пасцельку засцілаў?
Прыбірала камору — ятроўка,
Засцілала пасцельку — свякроўка.

951. Ай, пара, пара да двара, *
Цёмная ночанька абняла.
А дзе ж мы будзім начаваць:
Ці на полі чахлы распінаць,
Ці дровы рубаць, на агонь класць,
Ці шапкі здзяваць, раздумаць?
А не будзім тут начаваць,
Там нас маманька даўно жджэць,
Смачную вячэру гатовіць,

* Кожны радок паўтараецца.

Белыя скацерці засцілаіць,
Залатыя кубачкі наліваіць,
Белыя вароты адкрываіць,
Яна нас, маладых, дажыдаіць.

952. Вылятаў саколенька
З-пад зялёнага сада,
З-пад белага вінаграда.
А за ім усе пташачкі,
Як рой вымятаўся,
На мяцеленьку змятаўся.
А з'язджаў Іванушка
З вялікага сяла,
З багатага двара,
А за ім Палагеюшка:
— А пастой, Іванушка,
Пагаворым з табой,
Дзе нам ночку начаваць?
— Ля дарогі мой татухна жывець,
Там мы будзем начаваць,
Там нам будуць вячэру гатаваць.

953. Ой, свет світае, на зару займае.
А маладая Танечка са двара з'язджае,
А ў яе мамачка ды ключоў пытае:
— Ой, дзе ж, дзіцятка, ды ключы падзела?
— Да глядзі, мамачка, дзе я сядзела.
У новай каморы вісяць на прабоі.
Павесіла высока, сама еду далёка.
Палажыла нізенька, сама еду блізенька.
Палажыла на веку, сама еду давеку.

954. Як пайшоў пыл-туман па залессейку,*
Як пайшла Танечка па застоллейку,
Кінула-рынула ключкі на ручкі:
— Вот цяпер, татачка, я не ключніца,
Ключніца-верніца, усё чужому бацьку,
Чужому, ліхому да не роднаму.

955. Сядзела Волечка за сталом,
Кінула ключыкі на стол:
— Прымі, тата, ключыкі,

Я ж тваім ключыкам не ключніца,
Я ж тваей матачцы не хатніца,
У сямейцы не парадніца.

956. Цвітуць цвяточкі дый расцвітаюць,
Малада дзевачка за сталом сядзіць,
Яе татачка ключоў пытаіць.
— Мой татачка, я не ключніца,
Я не ключніца, я разлучніца.
Дзе мылася, там забылася,
Дзе хадзіла, там палажыла
У новай каморы дый на прыборы.

957. Салавей шчабеча — сад разлягае,
Плача Насцечка — на воз сядае,
А мамачка ў яе пытае.
У яе пытае — дзе ключы дзела?
— Глядзі, мамачка, дзе я сядзела.
Кінула ключы на сіне мора,
На сіне мора, на быстры рэкі,
Аддаеш гаравацъ на цэлыя векі.

958. Марыся на воз сядае,
Яе бацэнька ключоў пытае.
— Ой, дзе, донечка, ключы дзела?
Ой, дзе, донечка, ключы палажыла?
— Не хачу, баценька, праўды сказаці,
Не хацеў мяне падгадаваці,
Маіх госценькаў частаваці.
Я іду маладзенька ў чужыя людзі,
Мне, маладзенькай, дагана будзе,
Што мае госценькі цвярозы.
— Ой, вярніся, доньку, я падгадую,
Твае госценькі пачастую.

959. Свеця месяц над зарою, рана, рана,
Свеця месяц над зарою, ранёханька, *
Едзя брацец за сястрою:

* Кожны радок адзін раз паўтараецца з рэфрэнам «рана, рана», а другі — «ранёханька».

— Пастой, сястра, ключы звязла.
— Я табе, брацец, не ключніца, няверніца!
Ёсць у цябе жана ў доме,
Тая ў цябе за ключніцу.

960. У садочку на кляночку
Салавейка шчабеча,
Адзавіся, млода Верачка,
Цябе матанька кліч [а].
— Няхай кліча, хоць не кліча,
Я ей адслужыла.
У каморы на прыборы
Ключыкі палажыл [а].
У каморы на прыборы
Ключыкі палажыла,
А ў святліцы на паліцы
Персценя згубіл [а].
У святліцы на паліцы
Персценя згубіла,
А ў садочку ды на вішаньцы
Грабелькі пачапіл [а].

961. Ой, у Слуцку, у Слуцку да на новым ганку,
Да каціла дзевачка чырвону кітайку.
Да яна каціла, яе цёмна ночка захваціла,
Яна маладзенька заснула.
Прыйшла яе матачка, не чула.
— Дзе ж, маё дзіцятка, да кітай падзела?
— Да ў новай каморы вісіць на прабоі,
Хусткаю накрыта, слязьмі абліта.

962. У гародзе макаванька цвіцела,
Не макаванька, не чырвоная цвіцела,
Малада Анютка за столікам сядзела.
Яе матулька, яе родная не пазнала,
Ды ходзячы ў дзяўчат пытала:
— Дзе ж маё любае дзіцятка, Ганулька?
Адазвалася-адгукнулася за сталом:
— Пытай, не пытай, мая родная матулька,
Не ключніца, няверніца я твая,
Ды ключніца, ды верніца я Ясеньку,
Загадніца, спагадніца я сямейцы.

963. Ой, маманька-вутка, *
Чашы галаву хутка,
Бо ўжо ж дочанька на дарожаньцы,
Кладзі серпа на парожаньцы.
Кладзі серпа і грошыкі,
Наш жаніх да харошанькі.

964. Ужо ж Галечка на дарожальцы, **
Кладзе серпік на парожац:
— Як мой бацька да багаты будзе,
Хто ж яму да рабіць будзе?
— Не журыся ж, мая дзіцятка,
Як зародзіць бог жыта 2
Да на новае ж лета,
Я жэньчыкаў да панаймаю,
Сваё дабро папрыбіраю.

965. Дарожачцы...
Таццяна на дарожачцы,
Кладзі сярпы на пажоначцы.
Будзе ж маці спамінаці: 2
— Гэта маё да дзіцятка жала, жала.
Гэта маё да дзіцятка жала,
Частыя жменькі клала, клала.
Частыя жменькі клала,
Харошыя снопікі вязала.

966. А я ў свайго татачкі да верна служыла,
У полі на камень свой серп палажыла: **
— Годзе табе, татачка, да ўжо слугаваці,
Да не буду, татачка, твайго жыта жаці.
Да не буду, татачка, твайго жыта жаці,
Будзе тваё жыта ў полі зімаваці.
— Ат, маё дзіцятка, няпраўда твая,
Не будзе маё жыта ў полі зімаваці.
Хоць буду наймаці, па талеру даваці,
Будзе маё жыта ў тарпах ляжаці.

967. А дзевачка татачку верна служыла,
На снапкі наверсе серп палажыла:
— Я не буду, татачка, твайго жыта жаці,

Будзе тваё жыта ў полі зімаваць.
— Дзіцятка маё, няпраўда твая.
Да штодзень я буду жнейкі наймаці,
Да па залатому на дзень даваць.
— Будзеш жа, мой татачка, па два даваці,
Да не будуць жнейкі шчыра жыта жаці.

968. Да сястра брату верна служыла,
Да на летняй капе серп палажыла:
— Ці я табе, братка, да не гаварыла,
Не сей жыта многа, бо не буду жаці,
Будзе тваё жыта ў поле зімаваці.
— Нябось, мая сястрыца, нябось, мая родная,
Да буду наймаці, да буду плаціці,
Да буду плаціці, да хоць па тры злоты,
Хоць па тры злоты, да хоць па чатыры,
Да буду наймаці, буду пажынаці,
Да не будзе маё жыта ў полі зімаваці.

969. Ужо дзеванька ў дарозе,
Кладзі серпікі на парозе:
— От, табе, матка, серпікі-грошы,
Я ж табе была жэнчык харошы.
Я табе жала, грошы не брала,
А цяпера будзеш жэнчыкі наймаці,
А цяпера будзеш грошы даваці,
Сама даброчка з поля збіраці.

970. Ужо Матронка на воз сядае,
Яе баценька сярпа пытае:
— Ой, дзе, дзіцятка, сярпа падзела?
— Нашто, баценька, сярпа пытаці.
— Буду, дзіцятка, жанцы наймаці,
Па залатому на дзень даваці.

971. Наташка ў мамачкі служыла,*
На стале сярпочак палажыла.
Хто ж гэтым сярпочкам жаць будзе?
Чужая жнейка — не свая.
Чужая жнейка жаць будзе,

На сонейка пазіраць будзе,
Ці высока сонейка, ці нізка,
Ці далёка вечар, ці блізка.

972. Ужо я, бацейка, адслужыла,
У каморы сярпа палажыла.
А хто ж тым сярпом будзе жаці?
Будзе бацейка прынаймаці.
Па залатому штодзень даці.
Воны няверна будуць жаці,—
Будуць на сонца паглядаці,
Хутчэй вечара дажыдаці:
— Дай жа, божа, хутчэй вечар,
То мы пойдземо дадоманьку,
На гатовую вячэраньку,
На белую пасцеленьку.

973. У новым гародзе на ярай руце
Салавейчык шчабеча.
— Ідзі, ідзі, маладая Марысю,
Цябе мацюнка кліча.
— Нех сабе кліча, як сабе хоча,
Ужо я ей адслужыла,
У новай каморы, на новым стале
Сярпок палажыла.
— Эй, хто жа тым сярпом будзе жаці?
Трэба да яго прынаняці,
Штодзень два злоты даці.
Яшчэ не схоча добра жаці:
Будзе на сонца паглядаці
І да доманьку паспяшаці.

974. Ой, у сітнічку, у ракітнічку,
Там чорны воран крача.**
— Не йдзі, Ганначка маладзенькая,
Бо твой баценька плача.
— Ой, няхай плача з кім сабе хоча,
Я й яму адрабіла,
Ой, там у клуні ды на старонцы
Серпікі палажыла.
— Не йдзі, Ганначка маладзенькая,
Твая маценька плача.

— Ой, няхай плача з кім сабе хоча,
Я ўжо ёй адрабіла,
Ой, у каморы ды на балечцы
Серпікі палажыла.
— Не йдзі, Ганначка маладзенькая,
Твая сястронка плача.
— Ой, няхай плача з кім сабе хоча,
Ужо я ёй адрабіла,
Ой, там у каморы ды на полачцы
Чоўнічкі палажыла!

975. Не хацела дзевачка ў татачкі жыці,
Палажыла сярпочак на капе на жыце.
— Тут табе, сярпочак, лета не ляжаці,
А мне ў таткі не звекаваці.

976. Мар'ечка бацэньку адрабіла,
У сенях грабелькі паставіла:
— Будзеш, бацэньку, бедаваць,
Будзеш грабчыкі прынаймаці,
У дзень па два злоты ім плаціці,
Такі не будуць верна грэбсці,—
Будуць на грабелькі спірацїся
І на сонейка ўглядаціся:
— Ужо сонца нізка, вечар блізка,
Ой, ўжо пара дадоманьку.

977. Цёплае соўнышка па залессю шло,
Малада Мар'юшка па застоллю шла,
Стукнула-бракнула залатым пярснём,
— Татанька родненькі, я не служанька табе,
Маманька родная, я не едная ў цябе,
Служкай буду чужому бацюшку, чужой матушцы.

978. Лета ж маё, лета,
Ужо я не твая жнейка.
Маці ж мая, маці,
Ужо я не твая служка.
Таго я служачка,
З кім пад вянцом стаяла.

979. На моры селязёнь свішча,
А бацька сваей дачкі ішча:
— Хадзі, хадзі, мая дачухна,
Да пасцелеш мне пасцель белу,
— Пасцялю я, мой бацюхна,
Але не табе, да свёкарку.

980. Сонейка з рання ўсходзіць.
Дзеванька вакол стала ходзіць.
Баценька, да пакорна просіць.
Родненькі, да пакорна просіць.
— Дзіцятка, да застанься дома,
Роднае, да застанься дома.
— Баценька, да не мая воля.
Родненькі, да не мая воля.
За мной род чужы ходзіць,
Васечка за ручаньку водзіць.

981. Сонейка да на заходзе,
Сястрыца да на выездзе.
Брат яе ў варотах стаіць,
Белы ручнік на руках дзяржыць.
— Сястрыца мая, родненькая,
Пераначуй хаця ночаньку,
Павячэрай да вячэраньку.
— Брацейка ты мой, родненькі,
Ноч мая ў дарожаньцы,
А вячэра ў свякрованькі.

982. На дварэ да дожджык росіць,
Родны бацюшка свайго дзіцяці начаваць просіць:
— Дзеця ж маё, маё родненька,
Пераначуй хоць і ночаньку,
Пагуляй вечарыначку.
— Бацюшка мой, родненькі,
Рада б я тры, чатыры начаваць,
Вяляць конікі закладаць,
Мяне, маладзеньку, хочаць браць.

983. А ўжо позненька, да не раненька,
Сонейка на заходзе, **
А ўжо Наташка, а ўжо малада

У матулечкі на выездзе.
Яе мамка ў варацех стаіць,
Яна яе ўнімае:
— Не едзь, дзіцятка, не едзь, мілае,
Ужо роза расцвітае,
Зялёны явар, зялёны явар
У вяночкі паспявае.
— Мамулька мая, родная мая,
Мне ж розу не рваці.
Мамулька мая, родная мая,
Мне вяночкаў не віці.
Мамулька мая, родная мая,
Мне з табой не жыці.

984. — Валечка ж, наша сястрыца,*
Ды не едзь жа з тымі панамі,
Астанься з намі, сёстрамі.
— Не мушу, дзевачкі, не мушу,
Злюбіла Валіка, як душу.
Пад гару па ваду хадзіла,
На яго слядочак уступіла,
Маладога Валіка ж злюбіла.

985. Месячык дарожаньку прасвячае,
Бацька сваё дзіцятка ўпыняе:
— Не едзь, не едзь, дзіцятка, ад мяне —
Хмурнее падвор'е без цябе:
Зялёныя садочкі не цвітуць,
Ціхія салавейкі не пяюць.

986. Ужо не раненька, ды ўжо позненька,
Сонейка на заходзе,
Была ў мамачкі адна дачушка,
І тая на выходзе.
Узяла конаўку, пайшла ў каморку,
Беленька памылася.
Выйшла з новенькай, выйшла з каморачкі,
Мамачцы скланілася.
Падзякавала сваёй матачцы за яе гадаванне,
Падзякавала за яе шанаванне:
— Дзякуй, мамачка, дзякуй, родная,

За тваё гадаванне,
Што гадавала, што шкадавала,
Нямножка пасылала.
Хто не гадаваў, хто не шкадаваў,
Той будзе пасылаці,
Матачцы маёй,родненькай маёй,
Жаль будзе засылаць.

987. А спасіба табе, хата,
Што жыла ў табе багата.
А спасіба і вам, сені,
Што гулялі на вяселлі.
Спасіба табе, мамка,
Што хадзіла ў цябе гладка.
А спасіба табе, тата,
Што жыла ў цябе багата.
А спасіба і вам, сёстры,
Што жыла я ў вас пёстра.
А спасіба і вам, браточкі,
Што куплялі мне платочкі.
А спасіба і вам, суседзі,
Што паслухалі, у мяне пасядзелі.

988. Дзякую табе, мая мамачка,
Да за твае гадаваннейка,
А за ранняе сняданнейка,
А за познае ўставаннейка.
Я ж па твайму двору юж заўтра не пайду,
Я ж па тваёй хаце да й не буду пахаджаці,
Я з табой, мамка, да й не буду размаўляці.

989. Ой, дзякуй табе, матка, што рабіла гладка,
А вам, бацэньку, за гадаванне,
А вам, брацікі, за шкадаванне,
Вам, сяструначкі, за параданьку,
А вам, дзявочкі, за канпаначкі,
А вам, суседачкі, за папрадачкі,
Вам, хлопчыкі, за музычанькі,
А вам, маладцы, што наймалі танцы,
Выце наймалі, а мы танцавалі.

990. Схілілася бяроза
Чэраз гору ў даліну:
— Дзякую табе, дубsecuritiesванька,
За твае гадаваннейка.
Як я ў цябе бывала,
Буйнага ветру не чувала,
Дробнага дошчу не відала.
Скланілася Ганначка
Чэраз скамлю мацэнцы:
— Дзякую табе, мая мацёнка,
За твае гадаваннейка.
Як я ў цябе бывала,
Важнага дзела не рабіла,
Позна па ваду не хадзіла,
Усё ціхія танкі вадзіла.
Дзякую табе, мая матанька,
За твае гадаваннейка.

991. Дзякавала бяроза сваёй зялёнай дуброве:
— Дзякуй табе, зялёна дуброва,
За тваё пастаянне.
Колькі я ў цябе стаяла,
Буйнага ветру не знала,
Ано знала, ано ведала
Пасынкі распускаці,
Голлечка гадаваці.
Дзякавала Матронка сваяму роднаму баценьку:
— Дзякуй табе, родны баценьку,
За тваё гадаванне.
Колькі я ў цябе бывала,
Цяжкога дзела не знала,
Ано знала, ано ведала
Лічанька ўмываці,
Косаньку ўчасаці.

992. Благадарыла белай бярозке дуброўка:*
— Спасіба ж табе, мая бярозка, за тое,
За тваё пастаяннейка ціхое.
Не чула я сільных ветраў ад цябе
І не відзела я крупных дажджоў ад цябе.
А як стала ў чыстым полі на гарэ,
Як сталі мяне сільныя ветры шугаці,

Як сталі мяне дробныя дажджы мачыці.
Благадарыла млада Зіначка мамульцы:
— Спасіба табе, мая мамулька, за тое,
За тваё гадаваннейка ціхое.
Не відзела ж я цяжкай работкі ў цябе,
Не чула ж я ліхіх слоўцаў ад цябе.
А як стала ў свёкаркі, свякроўкі,
Сталі мяне цяжкой работай марыці,
Сталі мяне благімі слоўцамі сушыці.

993. Да дзякавала бела бяроза дуброве:
— Дый дзякую табе, дуброва,
За тваё за добрае стаянне.
Не было ж на мяне ні дробных дажджоў за табой,
Не было ж буйных вятроў за табой.
Дый як я стала ў чыстым полі на гары —
Адкуль тыя дробныя дажджы ўзяліся?
Дый адкуль тыя дробныя ветры ўсталі?
Да й дзякавала дзяўчына матульцы:
— Дый дзякую табе, матулька,
За тое ды за тваё, за добрае гадаванне —
Не было на мяне ні цяжанькай працы, ні ліхой журботы,
І не было на мяне людской абмоўкі.
А як я стала ў чужой матулькі-свякроўкі,
Адкуль тыя цяжкія працы ўзяліся?
Ды адкуль тыя ліхія журботы ўзяліся?
Ды адкуль тыя людскія абмоўкі ўзяліся?
Санлівая, драмлівая нявестка.

994. Стаяла вішанька ў зялёным саду,
Стаяла зялёная ў зялёным саду.
— Спасіба, садочак, настаялася,
Спасіба, зялёны, настаялася,
Суччайкам-лісцейкам намахалася,
Пташачак ягадкам накармілася,
Гуляла Галечка ў свайго бацюшкі,
Гуляла Галечка ў свайго роднага.
— Спасіба, папанька, нагулялася,
Спасіба, родненькі, нагулялася,
Па ігрышчах, гульбішчах нахадзілася,
Харошых, прыгожых налюбілася,
Аднаму Федзенькі прыгадзілася.

995. Шаўкова нітачка блянуе,
Матронка баценька дзянькуе:
— Дзянькую, баценька, дзянькую,
З тваяго падвор'я стампую,
Кідаю слядочкі па двару,
Лью слёзанькі па сталу.

996. Бывайце здаровы, жывіце багаты,
Ужо я паеду да з вашае хаты.
Будзе маё месцейка за сталом гуляці,
Будзе мая ложачка да сухая ляжаці.
Да на маём месце некаму сесці,
Да маёю ложкаю некаму есці.

997. Бывайце здаровы, бацькавы парогі,
А кудою хадзілі мае белыя ногі.
Кудою хадзілі, хадзіць больш не будуць,
А каго я любіла, любіць больш не буду.
Ой, ляцелі гусі дый у брадочку ўпалі,
Бадай тыя гусі ды прапалі,
Як воду ў прудочку дый раскалыхалі.
Як мы любіліся, людзі не зналі,
Цяпер разышліся, як цёмная хмара.
Як мы з табою любіліся,
Сухі дубы развіліся,
Як перасталі, то зялёны паўсыхалі.

998. Бывайце здаровы, мае вы абразы,
Як я вас убірала на тыдзень два разы.
Бывайце здаровы, мае белы сцены,
Як я вас бяліла напроціў нядзелі.
Бывайце здаровы, мае стол і лавы,
Як я вас умывала на тыдзень два разы.
Бывайце здаровы, мае вы парогі,
Як па вас хадзілі мае белы ногі.

999. Прашчайце, прашчайце, міскі-талеркі,
Міскі-талеркі.
А хто ж вас без мяне вымываць будзець?
Вымываць будзець.

Вымываць будзець бацька з маткай,
Бацька з маткай.
А хто ж вас без мяне прыглядаць будзець?
Прыглядаць будзе.
Матка з бацькам прыглядаць будзець,
Прыглядаць будзець.

1000. Да дабранач, сцены, лавы.
Сцены мае ды маляваныя,
Хто вас будзе дамалёўваці?
Лавы мае ды вымываныя,
Хто вас будзе дамываці?
Застаецца ды стара маці,
Будзе сцены маляваці,
Будзе лавы вымываці.

1001. Дабранач, цісовы сталы, дабранач.
Ох, і хто вас памываць будзець без мяне?
Ёсць у мяне меншая сястрыца за мяне,
Будзе засцілаць цісовы сталы лепша мяне.
Ай, дабранач, міскі-талеркі, дабранач.
Хто вас будзе памываць без мяне?
Ёсць у мяне сястрыца менша мяне,
Будзе памываць міскі-талеркі лепша мяне.
Дабранач, татка і з маткай, дабранач.
Хто вас шанаваць будзе лепша мяне?
Ой, ёсць у мяне менша сястрыца за мяне,
Будзе шанаваць татку з мамкай лепша мяне.

1002. Ой, дабранач, новы столічак, дабранач,
Я ж цябе штосуботкі вымывала, 2
Я ж цябе штонядзелячкі ўсцілала, 2
Пака к сабе, маладой, Івану прыждала.

1003. Ой, дабранач, старая хата, дабранач,
Ой, хто ж цябе памятаць будзе без мяне?
Ой, дабранач, мая мамачка, дабранач,
Хто цябе паважаць будзе без мяне?
Ой, добры дзень, новая хата, добры дзень,
Я цябе памятаць буду да штодзень.

Ой, добры дзень, мая свякрушка, добры дзень,
Я цябе паважаць буду да штодзень.

1004. Покуце, покуце,
А хто цябе шараваць будзе, 2
Як мяне не будзе?
Як была Манечка,
Яна цябе шанавала,
Штосуботы шаравала,
Штосуботы, панядзелка,
Бо была добра дзеўка.

1005. Мілыя мае палаці,
Хто на вас будзе ляжаці?
Белыя мае запечкі,
Хто на вас будзе грэць плечкі?
Мілае маё біла,
Хто ж цябе абдыме?

1006. Заплакала печ,
Што некаму печ.
Заскрыпелі палаці,
Што некаму ляжаці.

1007. Дабранач, мамка, дабранач!
Аддаеш мяне не на нанач,
Не на адну ночку, не на дзве —
Аддаеш мяне на ўвесь век.
А не дай жа, божа, ноч начаваць,
А дай жа, божа, век векаваць.
Ноч начаваць — гасціна,
А век векаваць — радзіна.

1008. Дае дзяўчына роднаму полю дабранач:
— Ой, дабранач, роднае поле, ад мяне!
— З богам, з богам, наша жнеечка, едзь сабе!
Дае дзяўчына траве-мураве дабранач:
— Ой, дабранач, трава-мурава, ад мяне!
— З богам, з богам, наша жнеечка, едзь сабе!
Дае дзяўчына лугавой вадзе дабранач:

— Ой, дабранач, талая вада, ад мяне!
— З богам, з богам, наша праллейка, едзь сабе!
Дае дзяўчына роднай мамачцы дабранач:
— Ой, дабранач, мая мамачка, ад мяне!
— З богам, з богам, мая служачка, едзь сабе,
Няхай цябе горкая доля абміне!

1009. Месяцу перакрою.
Засвяці нада мною,
Над бацькаваю камораю,
Штоб было віднесенька
Камору зрабаваці,
Бацьку дабранач даці.
Там на двары цёмна ноч,
Давала дзеванька дабранач.
Не той дабранач, што на ноч,
Дай той дабранач, што навек,
Чаму мяне не дзяржалі яшчэ рок.

1010. Дабранач, мой бацeньку,
Не на адзін йду дзянёчак,
Не сена паграбаці,
Не прыйду вячэраці.
Сэ прыйду ў гасцiноньку
І на малую часіноньку.

1011. Манечка з двору з'язджала,
Мамульцы дабранач давала:
— Дабранач, мамулька, дабранач,
Паеду к свякроўцы я нанач.
Свякроўка рана будзіць не будзець,
Выйдзець на вулку,
Усім суседзям абсудзіць.
— Драмліва нявестка, драмліва,
Бел кужаль прала — драмала,
Красёнцы ткала — усё спала.
— Няпраўда, жаночкі, няпраўда,
Бел кужаль прала — гучэла,
Красёнцы ткала — стучэла,
Па ваду ішла — пяяла.

1012. Ой, дабранач, мая маманька, 2
Ой, дабранач, усе суседанькі,
Нізкія, яшчэ й высокія, 2
Блізкія, яшчэ й далёкія.

1013. Шаўковая нітачка к сцяне льнець,*
Мар'ечка татухну чалом б'ець.
Адбіла чалом за сталом,
Сказала дабранач за дваром:
— Дабранач, татухна, дабранач,
А не буду к табе я нанач!
Не на 'дну ночку, не на дзве...
Не на 'дну мяне маладу —
Што ёсць дзевачкі на раду,
Дык на каждую маладу.

1014. Шаўкова нітачка на сцяне ўе, на сцяне ўе.
Маладая Галечка дабранач дае, дабранач дае:
— Дабранач, матка, дабранач, дабранач.
Ужо мой дабранач не на дзень, не на дзень,
Ужо мой дабранач на ўвесь век, на ўвесь век.
Пойдзе славачка на ўвесь свет, на ўвесь свет.
Да не на адну мяне маладу, маладу,
Сколькі ж дзевачак на раду.

1015. Шаўковая да нітачка к сцяне льне,
Маладая Волечка дабранач дае:
— Дабранач, мая матка, дабранач,
Еты табе дабранач не нанач.
Еты табе дабранач на ўвесь век.
Да ўзяў за ручаньку чалавек,
Да не так за ручаньку, за брыджы.
— Пастой, Волечка, не дрыжы, 2
Да к сваёй матачкі не бяжы.
— Ох, у тваёй матачкі хлеб да вада,
Да у маёй матачкі мёд да сыта.

1016. Дабранач, сваты, дабранач,
Паедзем ужо к нам нанач.
Мы ў вас, сваточкі, пабылі,

Мы ваш мядочак папілі,
Мы вашу дачушку забралі.
Цяпер яна ў нас жыць будзе,
Яна з намі віно піць будзе.

1017. — Да паедзе жаніх дадому,
Да не заляцяйся другому,
Да не забывайся дзеванькі.
— Як жа я маю запіцца
Да свае дзеванькі забыцца?
Да куды я пайду — то наўме,
За сталом сяду — край яе.
Вазьму за ручку — цёпленька,
К сэрцу прыгарну — міленька.

1018. Гаварыла ясная зорка з месяцам:*
— Як мы абойдзем кругом свету з месяцам?
— Ай, абойдзем, мая зорачка, абойдзем,
Свецючы, ідучы, абойдзем.
Гаварыла млода Зіначка з Валодзем:
— Як мы абойдзем кругом століку з Валодзем.
— Ай, абойдзем, мая Зіначка, абойдзем,
Ты плачучы, я ўнімаючы, абойдзем.

1019. Русы кудры- кудзяркі па застоллю пайшлі,
Русу косу-косаньку за сабой павялі.
Пайшоў вінаград па застоллю,
Ён павёў вішаньку за сабой.
Як пайшоў Янка па застоллю,
Ён павёў Вараньку за сабой.
Дзвінуліcь ножанькі па суножанькі,
Белыя ручанькі па скацеркі.

1020. Пайшла хмарачка па залесейку,
Крышачы-ламаючы сухадрэвачку,
Пайшла Ганначка па застоллейку,
Плачачы, ломячы белыя ручкі,
Сваю мамачку ўспамінаючы:
— Мая мамачка, мая родная,
Дзе я хадзіла, хадзіць не буду,
Сваё гулянне я пазабуду.

1021. У садочку красачкі цвіцелі,
Па застоллейку сваточкі сядзелі.
Пазнаць па мове, што ўсе панове,
Пазнаць па сукенцы, што ўсе паненкі.
Як малодачка выйшла,
Па застоллейку пайшла,
Усё застоллейка засвяціла,
Усіх сватоў закрасіла
Да русай касою,
Да сваёю красатою.

1022. Ходзіць Ніначка каля століка,
Як яснае сонейка. 2
Ручанькі ломіць,
Слёзанькі роніць —
Усё ў покуць кланяецца. 2
Па саду хадзіла —
Увесь сад красіла,
Як у хату ўвайшла,
То як сонца ўзышла.

1023. Маладая стола абходзіць, 2
Бацінька пакорна просіць: 2
— Бацінька, ты не плач за мною,
Родненькі, не плач за мною:
Не бяру ўсяго з сабою, 2
Кідаю слядкі па дварэ, 2
А слёзкі ў вас на стале.

1024. У бару зязюля кукуець,
Надзечка мамульцы дзякуець.
Дзякую, мамулька, за хлеб-соль,
Не пайду я болей за твой стол.
А хоць жа прыйду ў гасціны
У гадочак — разочак.
Мая дарожанька даўгая,
А можа свякроўка ліхая,
Часта хадзіці не пусціць.
У саўхозе коніка не дадуць,
А мяне ў мамулькі доўга ждуць.

1025. За борам зязюлька кукуець,
Дзеўка татульку дзянькуець.
— Дзянькую, татулька, за хлеб-соль,
Не пайду болей за твой стол,
Толькі прыйду ў гасціны,
Дзе мяне малую пясцілі,
Па новых сенках хадзілі,
На белых ручках насілі,
У бога долечкі прасілі:
— Дай, божа, долечку гэтаму анёлачку.

1026. Скокнула Раіска з лаўкі далоў,
Адбіла татачку нізкі паклон:
— Ды дзякуй, татачка, за хлеб-соль,
Ды не пайду болей за твой стол.
Хоць жа я прыеду ў гасціну,
Прывязу хлеба з лусціну.
Да белага сыру ў кішэні,
Да малога сына ў калыбелі.

1027. — Спасіба, бацюшка, за хлеб-соль,
Не буду хадзіць за твой стол,
А хоць і буду хадзіць — у гасціную,
Буду даваць і спасіба табе.
— Хоць сколькі гуляўшы,
Не паедзем — не ўзяўшы.
Хоць сколька сядзеўшы,
Не паедзем — не еўшы.
Цяпер, падружкі, к свінням спаць,
А Ганначцы ў раду стаць,
Як былі падружкі — так не былі,
Скакнулі цераз тын, як кабылы.

Сяброўкі:

Не скрыпкі граюць — вудзянкі,
Не свашкі пяюць — рудзянкі.

1028. Ой, спасіба, мая мамка,
Ой, за хлеб-соль,**
За хлеб-соль.
Цяпер жа я не пайду

Ой, за твой стол,
За твой стол.
А я ўжо да й пайду
Ой, за свякроў,
За свякроў.
А свёкарка чужы татка,
Ой, не пагодзіць,
Не пагодзіць.
А свякруха чужа мамка,
Ой, да й асудзіць,
Да й асудзіць:
— Санлівае-драмлівае
Ой, чужое дзіця,
Чужое дзіця.
Яна прала белы кужаль,
Ой, задрамала,
Задрамала.

1029. — Дзякуй табе, мамачка, за хлеб-соль,
Не прыйду я болей за твой стол.
Будзе маё месцачка гуляці,
Будзе мая ложачка ляжаці,
Будзе мяне мамачка чакаці. 2
— Дзіцятка маё маладое,
Я ж цябе расціла-гадавала, 2
Такой жаласці не знала.
Не знала жаласці — ды ўзрасла,
Пазнала жаласць, як прапіла.

1030. А на дварэ дождж — вокны слізкі,
Кланяйся, Кацярынка, сваёй радзінкі.
— Спасіба, татачка, ды за гадаванне,
Што я ў цябе, татачка, гадавалась,
У зялёным садзіку красавалась,
Красненькіх вішанак нашчыпалась.

1031. Да не сядзі, млода дзяўчынка, пышненька,
Пакланіся бацьку, маці нізенька.
Няхай цябе доўга за скам'ёй не дзяржаць,
Няхай цябе ў дарожку благаслаўляць.
Як у тую дарожку шчасную,
Ды да свайго малойчыка краснага.

1032. Засвяціла яснае сонца ў грудцы,
Сабірайся, наша Аннушка, у людцы.
Сабірайся, наша Аннушка, у дарожку,
Пакланіся татку з мамкай у ножкі.
Пакланіся роднай мамцы найніжэй,
Бо ёй было гадаваці найцяжэй.
Яна ж цябе, маладзенькую, пясціла,
А цяпера ўзяла ў людцы і пусціла.

1033. Шатайся, сонейка, па небу хуценька,
Кланяйся, падружанька, сваяму татку нізенька,
Сваяму радочку да пры добрым гадочку.

1034. Шаўкова нітачка к сцяне льнецъ,*
Марфа бацюшке целеграмы б'ецъ:
— Прыступ, бацюшка, блізенька,
Кланюся табе нізенька.
А нізка, нізка, што ў ножкі,
Да ў чырвоныя сапожкі.
А чорненькія па гразі хадзіцъ,
Чырвоненькія — па саломачке.

1035. Зіма і лета ёлка-сасёнка зялёная,*
Усю нядзельку Аннушка вясёлая.
А ў пятніцу смутнесенька хадзіла,
А ў суботу сваю дружынку сабірала,
А ў нядзельку, сеўшы за столік, плакала,
І яна плакала, сваю матульку валала:
— Ты прыйдзі, прыйдзі, мая матулька, блізенька,
І пакланюся я табе ў ножкі нізенька,
А што ты мяне маленькую расціла,
А вырасціўшы, так хорашанька вучыла,
А выучыўшы, у чужыя людзі пусціла.

1036. — Ахмурнела татачкава хатачка, 2
А дзе мая радзімая мамачка?
Няхай падойдзе паціхонечку блізенька,
Пакланюся паследні разок нізенька.
— А няўжо мне, мая дачушка, здаецца,

* Кожны радок, акрамя шостага, паўтараецца.

Куды ж твая галоўка хінецца?
Не хінецца твая ґалоўка да мяне,
Знаць, пойдзеш, мая дачушка, ад мяне.

1037. Не стой, не стой, мая мамачка, у парозе,
Бо я ў цябе, мая мамка, у дарозе.
Прыступіся ка мне, мамка, блізенька,
Пакланюся я табе, мамка, нізенька,
Коскамі зямельку ўсцялю,
Слёзкамі ножкі абалью.
Што я ад цябе, мамка, проч пайду,
Жыві, жыві, мая мамка, за гарою,
А я к табе, мамка, ні нагою,
Зарасцеш ты, забуянеш лебядою.

1038. Не стой, мая мамачка, у парозе,*
Ужо твая дачушка на вывозе,
А спытай у зяцелькі, ці п'яніца?
А калі п'яніца — прап'ець дачку,
А калі картэжнік — у карты прайграець,
А калі разбойнік — будзець біць дачку.

1039. Не стой, маці, ды ў запечку,
А стань сабе у парозе:
Тваё дзіця ісці будзе,
Табе ўклоны нясці будзе.
Уклоны нізенькія,
Слёзачкі дробненькія.

1040. Вішанька, Танечка, вішанька,
Кланялася матухне нізенька.
Коскамі зямельку дастала,
Слёзкамі ножанькі абліла,
Ручкамі матухну абняла:
— Гэта табе, матухна, чэсць і хвала,
Што я цябе ручкамі абняла.

1041. Сонца за месяц усё павышэй, павышэй,
Ой, месяц сонцу пакланіўся, пакланіўся,
Танечка татачку пакарылася, пакарылася:

— Успомні, татачка, хоць у суботу, хоць у суботку,
Я цябе ўспомню, робячы работку, робячы работку.
Успомні, татачка, хоць у нядзельку, хоць у нядзельку,
Я цябе ўспомню, сцелючы пасцельку, сцелючы пасцельку,
Бо там старонка невядомая, невядомая,
Бо там сямейка невясёлая, невясёлая.

1042. Пакланіся, Гэлечка, стаўпу і печы,
Каб не біла свякруха кулакамі ў плечы.

1043. Пераксціся, млода Настачка, у парозе,*
Каб не спаткалі злыя людзі ў дарозе,
Каб не ссадзілі з коніка далоўкі,
Каб не знялі платочка з галоўкі.

1044. —Збірайцеся, наша радзінка, да стала, 2
Будзем гаварыць, што і з Людачкай нам рабіць. 2
Адну выправіць — вялікая жаль будзець,
Дома пакінуць — проці людзей стыд будзець.
— Дык бывай там, наша Людачка, здарова,
Хай будзець табе, чаго ж ты хочаш ад бога,
Каб там цябе суседачкі любілі,
Да каб к табе ў адведачкі хадзілі,
Да каб цябе маладзенькую не судзілі. 2

1045. Рана, рана, ранюсенька
Ты, Галюхна, не лякайся
Ды ў світу адзявайся.
Рана, рана, ранюсенька
Галю ад бацькі адлучаюць
Ды к Васільку далучаюць.
Рана, рана, ранюсенька
Галю ад мацеры адлучаюць
Ды к Васільку далучаюць.
Рана, рана, ранюсенька
Ты, Галюхна, не лякайся
Ды ў світу адзявайся.
Рана, рана, ранюсенька
Ты ў світу адзявайся
Ды к Васільку сабірайся.

1046. А ў сенечках галубок гудзе,
А ў святліцу галасок ідзе.
Да хто жа там адзываецца?
Да дзевачка адзяваецца,
Да ў мамачкі да пытаецца,
Сколькі з сабой сватоў браці.

1047. Ды не сядзі, наша Анечка, не думай,
Ды пераплыві нашу рэчачку Дунай,
Тады ты сабе думачку задумай,
Што твой брацітка за табой ехаць не хочаць.
Ды ідзі ціхусенькай паходачкай,
Кланяйся брацітку нізюсенькім уклонам:
— Ды едзь, ды едзь ты, мой брацітка, са мною,
Хоць ты на маім вяселлейку пасядзіш,
На мяне, маладзенькую, паглядзіш.

1048. Ходзіць малада па новым дварэ,
Косанькі распусціўшы,
Сабе дружачкі просіць:
— Едзь, сванька, за мною,
За русаю касою,
За беленькім лічкам,
За зялёным вяночкам.

1049. Шумела, шумела сосанька ў барочку,
Ой, рана, рана сосанька ў барочку,*
Плакала-рыдала дзевачка ў каморы.
А хто ж то за мною ў пыданнях прыедзе?
Прыедзе за мною брахнейка з жаною,
Брахнейка з жаною, яшчэ з маладою.

1050. Іграла дудачка да паігрывала,
Плакала Анісця да парыгвала,
Што некаму з ею ў вячэрнік ехаць,
Паедзець за ею Іван з жаною,
Паедзець за ею Сямён з жаною...

*Далей пералічэнне ўсёй нявесцінай радні.*

---

* Рэфрэн «Ой, рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка, акрамя апошняга.

1051. Некаму са мной у паязды ехаць:*
Старшая сястрыца старэйшынька,
Сярэднюю сястрыцу дзеткі абселі,
Малая сястрыца малёшынька,
Паедзець са мною брат з жаною.

1052. — Чаго сядзіш да што думаеш, дзевачка,
Хто за табой ды ў закосвічках паедзе?
Твой жа братка, твой жа родны не хоча,
І, ды выйшаўшы на вулачку, рагоча.
— Пусціце мяне, маладую, з застолля,
Ой, пайду ж я па застоллейку блізенька,
Пакланюся свайму братачку нізенька,
Да й папрашу свайго братачкі харашэнька:
— Паедзь, паедзь, мой братачка, за мною,
Хоць не за мною, дык за русаю касою,
Хоць не за касою, дык за роднаю сястрою.
Да будзеш у паважанні за мною,
Да сядзеш ты да й у майго свёкра за сталом,
Да будзеш піць ты да мёд-віно [...],
Да за мяне, усё атлічную паненачку.

1053. І закукавала шэра зязюлька на моры:*
— А й ці паляціце, ясны саколы, за мною?
— А й паляцім, наша зязюлька, паляцім,
А мы ж у цябе ў шчырых барочках пакінем,
А мы ж будзем позна і рана прылятаць,
Як ты будзеш у шчырых барочках кукаваць.
Заплакала млода Ніначка ў каморы:
— Ой, ці паедзеце, мае брацікі, за мною,
Ой, ці паедзеце, мае родныя, за мною?
— А й паедзем, наша сястрыца, паедзем,
А й паедзем, наша родная, паедзем.
А мы ж цябе ў чужой старонцы пакінем,
А мы будзем позна і рана ўсё гукаць,
Як ты будзеш у чужой сямейцы прывыкаць,
Як будзеш свайму Колечку слугаваць.

1054. — І чаго сядзіш ды што думаеш, Марыйка,
І хто за табой і закосвічкам паедзець?
І ды твой брацітка, і ды твой родненькі не хочыць,

І ды выйшаўшы на вулачку, хахочыць.
— І абы былі мае браціткі здаровы,
І будуць мае вараны коні гатовы.
І мае конікі вараненькія 'брок ядуць,
І мае браціткі, маладзенькія, мядок п'юць.
І мае конікі на вуліцы гарцуюць,
І мае браціткі, маладзенькія, танцуюць.

1055. Ясіна дрэва, ясіна,
Надзечка браточка прасіла:
— Паедзь, паедзь, мой братачка, са мною,
Бяры ж тапарок з сабою,
Сячы-рубай шчыры бор,
Каб мне быў відаць таткаў двор.
Сячы-рубай балоты,
Каб мне былі відаць вароты.
Сячы-рубай сасоне,
Каб мне было бачна таткава аконне.

1056. Братулькі мае родныя,
Не едзьце ка мне ў панядзелак,
А едзьце ка мне ў аўторак,
Прывязіце тапароў штук сорак.
Сячыце-рубайце шчыры бор,
Каб мне быў відзен таткаў двор,
Дзе мой татулька малоціць,
Дзе мая мамачка печ топіць,
Дзе мае сястрыцы плацця пяруць,
Дзе мае братулькі коней пасуць.

1057. Прасіла Праскоўка братулькаў:
— Не едзьце, братулькі, у паўначы,
А прыедзьце, братулькі, чуць золак,
Прывязіце тапароў хоць сорак.
Высячце, вывальце шчыры бор,
Каб я ўвідзела таткаў двор.
— Няпраўда твая, Праскоўка:
Хоць мы высечым шчыры бор,
Не ўвідзіш ты таткаў двор.

1058. Ці я табе, мая мамка, не дзіцятка,
Што ты мяне не жалееш, так як матка?
Што ты мяне проціў ночкі гоніш прочкі?
Ці я табе, мая мама, надаела,
Ці я ў цябе хлеба пераела?
А вясною да цвяточкі, ой, будуць цвясці,
А дзевачкі паўз наш дом гуляць ісці.
Будуць ісці да й стучаць,
Ці сумееш, мая маці, адказаць.
— Я сумею, я сумею, дзіця маё, адказаць:
— Не пытайце ў мяне, а пытайце ў Івана, хлопца ясна,
Дзе мая радная дочка, дочка красна.

1059. А ці я ў цябе да, мой татка, не дзіця была,
Што ты мяне проці ночкі гоніш прочкі?
Дак аддай жа, мой татка, дзявоцкі нарад:
Чырвоныя чаравічкі — зямельку таптаць,
А зялёную спаднічаньку — сляды замятаць.
— Не пытай ты ў мяне, маё дзіця, нарада,
А пытай жа, маё дзіцятка, у бога долі.

1060. Настала тая гадзіна,
Што нежаласліва радзіна,
Ні той татачка родны мой:
Напроці ночы гоня вон,
Праводнічка не дае
І сам за мною не едзе.
Дзе мне, маладзе, начаваць?
Ці мне, маладзе, на вадзе,
Ці ў зялёненькай дуброве,
Ці ў свякраткавай каморы?
Калі на вадзе — рыбкаю,
Калі ў дуброве — белкаю,
Калі ў каморы — дзеўкаю.

1061. Нежаласлівы баценька,
Не жалуе дзіцятка:
Проціў ночкі выдае,
Тай праваднічка не дае,
Дарожанькі не кажа
І сам са мною не ідзе.

І дзе мне, маладой, начаваці,
І дзе мне, маладой, спаці?
Чы мне, маладой, на вадзе,
Чы ў зялёнай дуброве,
Чы ў сваго баценькі ў каморы?
Адазваўся молад Цімох:
— Не журыся, мая Прысенька,
Не будзеш начаваці на вадзе,
Ні ў зялёнай дуброве,
Ні ў баценькі ў каморы,
Тай будзеш начаваці
Да на цесявай кравацi,
Да на пуховых падушках,
Да на шаўковых радзюжках.

1062. Да нежаласлівы бацюшка,
Што проціў ночы вон гоніць,
Ні праваднічка не дае,
Ні сам за мной не ідзе.
— Ідзі, мой бацюшка, за мною,
Напаткалі людзі журлівы
Да зажурацъ мяне без цябе,
Без цябе, бацюшка, роднага,
Без твайго прывету добрага.

1063. Не жарка гарыць каліна,
А не жарка гарыць каліна,
Не жалка плача радзіна.
Не жалее маці дзіцяці
Да наўпроць ночкі вон гоніць, 2
Перавозьнічка не дае,
Да перавознічка не дае,
Да за яе грошы не бярэ. 2
— Перавознічак-галубок,
Да перавознічак-галубок,
Перавязі дачку на той бок, 2
А там, у маладога, даўно ждуць, 2
За мяне грошы аддадуць,
Да за мяне грошы аддадуць.

1064. Пакацілася-павалілася каліна,
Нежаласлівая твая, дзевачка, радзіна.
Ды вот ты плачаш, качаешся па стале,
Твая радзіна не падумае аб табе.

Ужо болей маці не пажалуе дзіцяці,
Мусіць хоча скарэй ад сябе прагнаці.
Апусцілася цёмная ночачка на дварэ,
А яна ж мне і праваднічка не дае.
Слоўца добрага нават ніхто мне не кажа,
Мне дарожачкі маладой не ўкажа.
Дзе мне, маладой, гэту ночачку легчы спаць?
Ці мне на вадзе, ці мне класціся ў сенажаць, 2
Ці да малойца ў пуховую краваць?

1065. (Ой) Не давай-ка, мамка (й), рана замуж,
Рана замуж.
А што ж, мая (й) мамка, я ж табе не угадзіла (ох),
Не угадзіла?
Наверна, на крынічку па вадзічку (ох)
Не схадзіла?
Не схадзіла... Дай-ка, мая (й) мамка,
Ох, мне праваднічку,
Праваднічку... Ой, да мая мамачка,
Ой, хоць сястрычку,
Хоць сястрычку... Дай-ка (й), мая мамка,
Ой, правадочка.
Правадочка... Да мая мамачка,
Ох, хоць браточка.
Хоць браточка... Да пройдзеш, мая мамачка,
Ой, па дарожке.
Па дарожке. Да зарасцець мая дарожка,
Ох, лебядою.
Лебядою... Да зарастут мае сцежкі
Ой, да (й) палыном.
Да (й) палыном... Да тогда, мая мамка,
Ой, ты прайдзі-ка.
Ты прайдзі-ка... Ды (й) ты маю дарожку,
Ой, пратапчы-ка.
А, мамачка ты мая, ды беларучачка,
Да бела ручка твая.
Да бела ручка твая... Ды вот табе ж я, мамачка,
Ох, не ўгадзіла.

1066. Да не жаласліва мая маці,
Напроці ночы вон жане,
Дай свечкі ў ручкі не дае

І праваднічка не вышле.
— Вышлі, вышлі, матачка, хоць малога,
Хоць таго салавейку лугавога.
Ён будзе ляцеці высока,
Я буду ехаці далёка.
Ён будзе ляцеці, шчабятаці,
А я буду ехаці і плакаці.
Дзе ж мне, маладой, ноч начаваці:
Да й ці на паповай сенажаці,
Да й ці ў Іванкавай криваці?

1067. Ці я ў цябе, мая мамка, не дзіця была,
Што ты мяне, маладую, эй, замуж аддала?
Што ж ты мяне супроць ночкі шлеш прочкі?
Ой, дай жа мне праваднічку, эй, хоць малога.
Ой, дай жа мне праваднічку, хоць малога,
Ой, жа таго салавейку, ой, садавога.
Салавейка будзе ляцець, шчабяціць,
А я буду, маладая, эй, горка плакаці.
Салавейка будзе ляцець нізенька,
А я буду сваёй мамкі, ой, блізенька.
Салавейка будзе ляцець высока,
А я буду сваёй мамкі, ой, далёка.

1068. Нежаласлівы ж бацюхна,
Што проціў ночы вон жане,
Мне праваднічка не дае,
А ні сам са мною не ідзе,
Пайшла б жа я сама — баюся,
Дарога вяліка — утамлюся.
Да на той дарозе старожкі,
Тыя ж мяне старожкі спаймаюць, 2
Па русай касе пазнаюць,
Ад роднага бацюхна адманяць,
Да к лютаму свёкарку прыманяць.
Дзе ж мне, маладзе, ноч начаваці:
Ці ж мне, маладзе, на вадзе,
Ці на паповай сенажаці,
Ці ў Марцінкавай криваці?
Да не на паповай сенажаці,
Да ў Марцінкавай криваці.

1069. Ці я ў цябе, мая мамка, не дзяціна,
Ці я ў цябе да дзелейка не рабіла,
Што ты мяне проці ночкі гоніш прочкі?
Дак дай жа мне праваднічка хоць малога, 2
Хаця б таго салавейку лугавога.
Пасаджу я салавейку ў каваці,
Салавейка будзе рана шчабятаці,
Будзе мяне, маладую, прабуджаці.
А свякрухна не матухна — не пабудзіць,
Толькі выйдзе на вуліцу — дай абсудзіць:
— Санлівае-драмлівае чужое дзіця.
Ой, як прала кужаль, дак драмала,
Дак драмала.
Ой, як ткала тонкі кросна, саўсім спала,
Саўсім спала.
Пайшла ў поле жыта жаці, лягла спаці.

1070. Ці я табе, мамка, не дзіця была,
Што ты мяне проціў ночкі шлеш у прочкі.
Ой, дай жа мне праваднічку, хоць сястрычку,
Ой, дай жа мне правадочка, хоць браточка.
Ой, еду я ў вяліку дарожаньку,
Да ў дарожаньку незнакомую,
Да к маманьцы, да не к родненькай.

1071. — Ці я ў цябе, мамка, ой, не дзіцятка,
Што ты мяне не жалееш, ой, так, як матка?
Пасылаеш мяне прочкі, ой, проці ночкі,
Не даеш мне праваднічкі, ой, ні сястрычкі.
Толькі дала праваднічка, ой, салавейку.
Салавейка лугавенькі, ён, ой, маленькі.
Ён не ўмее шчабятаці, ой, ні лятаці,
А мне не з кім ночку, ой, размаўляці.

1072. Да нежаласліва матушка:
Супраці ночы вон гоніць,
А праваднічка не даець,
Дарожанькі не ўкажыць.
Цяпер жа ночы цёмныя,
Цяпер жа рэчкі быстрыя,
На рэчках кладкі гібкія,

На кладку станець — вагнецца,
У чаравічкі вады нальецца,
Там маё сярдзечка ўлякнецца!..
Да нежаласліва матушка:
Пасылаець мяне прочушкі
Супраці цёмнай ночушкі,
І свечкі ў ручкі ні даець,
І праваднічка ні пашлець:
— Вот табе свечачка — звёздачка,
Вот табе праваднік — месячык.
Праводзіць цябе да двара,
Ай, да тсцёвага церама.

1073. Няпраўдзівы татачка,
Да напроціў ночы дзіця шле.
Напроціў ночы дзіця шле,
Да праваднічка не дае:
— Вот табе, дзіцятка, праваднік,
З правага боку — чалавек.
Із правага боку — чалавек,
А з левага боку — клён-дубнік,
А перад табою — дарога,
Едзь сабе, дзіцятка, здарова.
— Не пара, татачка, не пара,
Не ўзышоў месяц і зара.
Не ўзышоў месяц і зара,
Да не ўшыты ў шубу рукава.

1074. Неспагадліў бацюшка,
Неспагадліў родненькі,
Выпраўляе дзіцятка
Праціў цёмнай ночкі,
Да не дае праваднічка,
Да ў правую ручаньку ручнічка.
— Гэта ж табе, дзіцятка, праваднічок,
Да ў правую ручаньку ручнічок,
Да ў левую ручаньку дарога,
Едзь сабе, дзіцятка, здарова.
Будзь ты здарова, як зіма,
Будзь ты вясёлая, як вясна,
Будзь ты рабочая, як лета,
Будзь ты багатая, як восень.

1075. А нежаласлівы бацюшка,
Срэдзі ночушкі са двара шлець,
Праважатага не даець
І прыданага не суліць.
А ў нас ночушкі цёмныя,
А ў нас разбоі бальшыя,
А ў нас усё звяр'ё лютыя.
А не ў полі ж нам стаць начаваць,
Каліну ламаць, у агонь класць,
Маліну шчыпаць, паджыгаць.
А дарожкі нашы да не торныя,
А ўжо коні нашы прытаміліся,
А ўжо свахі нашы прыўмарыліся.

1076. Ходзіць бобранька па двару,
За нім кунанька з просьбаю:
— Бобраньку чарнескі,
Вазьмі мяне з сабою.
— Ты ж мяне, бацоньку,
Проціў ночкі аддаеш,
Ты ж мне праваднічка не даеш.
— У цябе е, дзіцятка, праваднік,
Да дзяржыся моцна за ручнік.

1077. Ой, дайце мне павознічка,
Да маладога малойчыка.
Няхай жа ён снапка звяжа,
Няхай жа ён слаўцо скажа.
Снапка звяжа памаленьку,
Слаўцо скажа паціхеньку.

1078. Сонейка на заходзе,
Верачка на ўездзе.
Мамухна забаўляіць,
Ехаць не пускаіць.
— Мамухна мая, родная мая,
Дай жа мне праваднічка:
Брацітку надкосчічкам,
Сястрыцу прыданачкай.

1079. Па полю, па ельнічку,
Па белым бярэзнічку.**
Там Танечка хадзіла,

Ходзячы заблудзіла.
Ходзячы заблудзіла,
На сцежку не трапіла.
На сцежку не трапіла,
Стала да й заплакала:
— Татулька мой родненькі,
Дай жа мне праводню.
Дай жа мне праводнячку —
Брацітку ў надкосьнічкі,
Брацітку ў надкоснічкі,
Сястрыцу ў баярачкі,
Сястрыцу ў баярачкі,
Цётачку ў прыданачкі.

1080. Ці я табе, мамка, надаела,
Ці я ў цябе хлеба, солі параела,
Што ты мяне проці ночкі ды шлеш у прочкі?
Ой, дай жа мне, мая мамка, правадніцу,
Праваднічку, хоць сястрычку.
Праважала сястра родна да парогу,
Паказала сястра родна мне дарогу.

1081. Да прыляталі сокалы
Пад вішнёвы садок,
Да падмаўлялі саколку:
— Да ты, саколка, саколка,
Да ці паляціш ты з намі,
Да з маладымі сакаламі?
— Рада ж я, рада паляцеці,
Жаль саду да пакінуці.
Садочку зеляненькага,
Гняздзечка цяпленькага,
Пер'ейка да рабенькага.
Да пад'язджалі сватове
Пад Бярозаўскі засценак,
Да падмаўлялі дзевачку:
— Дзевачка, дзевачка,
Да ці паедзеш ты з намі,
Да з маладымі са сватамі?
— Рада ж я, рада паехаці,
Жаль маткі да пакінуці.
Матачкі да старэнькія,

Сястрыцы да маленькія.
Да з'ехаліся сватове
Да на адно падвор'е,
Да вялі маладых за адно застолле.
Пілі ж яны мёд-віно
З аднаго кілішка.
Елі ж яны патраўку
З аднаго паўміска.

1082. А з вішнёвага саду
Сакалы вылятаюць,
Зязюлю вызываюць:
— Зязюля сівая,
Ці паляціш ты з намі,
З намі, сакаламі?
— Рада б я паляцеці,
Жаль саду пакідаці.
А ў маім садочку
Усякая выгодачка,
Сладкая ягадачка.
З новага двара
Сваты выязджаюць,
Дзевачку вызываюць:
— Маладая дзевачка,
Ці паедзеш з намі,
З намі, із сватамі?
— Рада б я паехаці,
Жаль мамкі пакідаці.
А ў маёй мамкі
Усякая выгодачка,
Лёгкая работачка,
Смачная вячэрачка,
Мяккая пасцелечка.

1083. Цераз сад зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі,
За ім упагон маладзец маладзенькі.
Маладзец маладзенькі,
Маладзенькі Васенька.
А з багатага двору
Панічы выязджалі,
Панічы выязджалі,

Дзевачку вызывалі:
— Маладая дзевачка,
Ці паедзеш ты з намі, 2
З намі, панічамі?
— Рада б я паехаць,
Жаль татку пакінуці.
У майго татулькі ўсякая выгадачка,
Лёгкая работачка.
Святы дзень у таночку,
Будзець дзень у вяночку,
А ў ліхога свякраткі,
Ды не ў роднага таткі.
Будзець дзень на рабоце,
Святы дзень у балоце.

1084. Ой, за сеньмі, да сеньмі,
У зялёненькам зеллі,
Там дзевачка хадзіла,
За ею суджанька
Ўслед ступаў,
У дзевачкі пытаў:
— Ты, дзевачка мая,
Паедзеш лі са мною
К майму бацюшке?
У майго бацюшкі
Двор машчоны,
Святліцы новыя,
Залвіцы вясёлыя.
— Рада б я паехаць —
Жаль атца пакінуць:
Нет у атца слугі
Ні малой ні вялікай,
Ні такой, як я была.

1085. Ой, прасіў салавейка рабай зязюлі:
— Да ляці, зязюлька, да да майго саду,
Да ў маім садзе табе добра будзе:
Кругом майго саду вішанькі-чарэшні.
Вішанькі-чарэшні разлягаюцца,
Розныя пташачкі пазлятаюцца.
Ой, прасіў хлопчычак маладой дзевачкі:
— Да й хадзі, хадзі, дзевачка, да да майго дому,

Й а ў маім доме табе добра будзе:
Кругом майго дома вішанькі-цярэшанькі.
Вішанькі-цярэшанькі разлягаюцца,
Розныя госцікі пад'язджаюцца.

1086. Салавей зазульку сабе намаўляе:
— Ліньмо мы, зазулька, да маго садоньку,
У маем садоньку ўсе харашэнька,
Усе харашэнька, усе весяленька.
Іванка Марысю сабе намаўляе:
— Ідзьмо, Марысю, да маго баценька,
У маго баценька ўсе харашэнька,
Усе харашэнька, усе весяленька:
Калодзезь на дворы, яблыньку ў церані:
Вадзіцы зачарпнеш, яблычка вышчыпнеш,
Вадзіцы нап'ешся, яблычка ўкусіш,
Яблычка ўкусіш — заплакаці мусіш.

1087. Салавей зязюльку хорашанька просіць:
— Пераляці, зязюлька, да майго садочку,
У маім садочку да тысяча жырочку:
Чырвоныя вішанькі панаспявалі,
А вінныя яблычкі паналіваліся.
А міленькі дзяўчынку хорашанька просіць:
— Пераязджай, мая любая, да маёй роднай маці,
А ў маёй мамкі ўсяго даволі:
На парог уступіш, то сыра ўкалупіш,
А ў хату ўвойдзеш — пірага ўкусіш.
— Да няпраўда, міленькі, няпраўда твая.
Я ж тваю, мілы, усю роскаш знаю:
На парог уступлю — цяжка-важка ўздыхну,
А ў хату ўвайду, то горка заплачу.
А гляну на клеці — мякіна-амеці,
А гляну ў куточкі — стаяць кіёчкі,
Кіёчкі дубовыя на мяне гатовыя.

1088. Салавей зязюльку к сабе падмаўляе:
— Ляці, ляці, зязюлька, ты ў мой садочак,
Бо ў маім садзіку лучшы пажытак:
Салодкія дулі галлё пагнулі,

Чырвоныя вішні да да долу звіслі.
А хлопчычак дзевачку к сабе падмаўляе:
— Паедзьмо, паедзьмо, дзевачка, да майго бацюхна,
Бо ў майго бацюхна лучшыя раскошы:
На пярэклецъ уступіш, да сыра ўкалупіш,
У клецьку пойдзеш, пірага адкроіш.
— А я твае, хлопчычак, да ўсе ласкі знаю:
На пярэклецъ саступлю — цяжэленька ўздахну,
У клецьку пайду — сільненька заплачу.

1089. Высока я на цераме сяджу,*
Далёка з-пад зоранькі слышу,
Как голуб са галубкай варкуюць:
— Галубка, паляцім са мной,
А ў мяне гнёздышка вітае,
А ў цябе яечка белае.
Высока я на цераме сяджу,
Далёка з-пад зоранькі слышу,
Как Іван з Манечкай гаворыць:
— Манечка, пойдзем са мной,
А ў мяне горанка новая,
А ў цябе пярына пуховая.

1090. Селязень ды на возеры свішча,
Ён к сабе сваю вутачку ішча:
— Вуці, вуці, мая вутачка, ка мне,
А ў мяне гняздзечка з трасценька,
А ў мяне ды пад крылачкам цяпленька.
А па сенечках Колечка ходзіць,
Ён к сабе сваю Надзечку клічыць:
— Хадзі, хадзі, мая Надзечка, ка мне,
А ў мяне святліца — не хата,
А ў мяне кравацъ цясовая,
А ў мяне пярына пуховая.

1091. А наш Мішачка добрага роду,*
Дзе п'ець-гуляець — а ў двор начаваць.
Ён сваю шубаньку на руках нясець,
Ён сваю Волечку за руку вядзець:
— Хадзі, мая Волечка, у мой двор начавацъ,
У маім дварку, як у божым райку,
Музыканты йграюць, дзеўкі гуляюць.

1092. Свішча салавей у бару,
Бо яму скучна аднаму.
Кліча зязюлю з сабою:
— Ходзь пашчабечам з табою —
Ці паляціш ты са мною?
Ходзіць Сашачка па двару,
Бо яму скучна аднаму.
Кліча Зіначку з сабою:
— Ходзь пагаворым з табою —
Ці паедзеш ты са мною?

1093. Не плач, мацёнка, за мною,
Не забяру ўсяго з сабою.
Кідаю слядочкі на двара,
А дробныя слёзанькі на стале.
Пайдзі, матулю, пазбірай,
Куды заганеш, пасылай.
Салавейка свішча, пасвістае,
Зазульку шукае.
Дзесь мая зазулька
За трома лясамі,
За Дунаямі.
Пераляці, зазулька,
Да маго садочку,
Бо ў маём садочку
Большай лісточку.
На маёй травіцы
Большай расіцы.
Маладзенькі ходзіць,
Маладзенькі просіць:
Пераедзь, Гануленька,
Да маго баценька.
У маго баценька
Стрэха навенька,
Калодзезь на двара,
Вядро на ключцы,
Будзе вяселенька
Па ваду йдучы.

1094. Гуляла галубка па саду,*
За ней галубец пазаду.
— Паляцім, галубка, са мною,

Усё бы я з табой паляцеў,
Усё бы я з табой кукаваў.
Хадзіла Валечка па саду,
А за ей Коленька пазаду:
— Пойдзем, Валечка, са мною,
Харашо нам будзіць з табою.
Умеў бы я з табой пахадзіць,
Умеў бы я з табой гаварыць.

1095. Салавей з кукушкай згаварыліся:
— Паляцім, кукушка, у шчыры бор жыць,
Мы саўём, кукушка, ды два гнёздышкі,
Выведзем, кукушка, два цаплёначкі.
Табе, кукушка, кукавёначка,
А мне, салаўю, салаўёначка.
Табе, кукушка, кукавać будзе,
А мне, салаўю, шчабятаць будзе.

1096. Крыкнуў селязень на моры,
Адазвалась вутачка ў азяры:
— Знаць мне ў азяры не быці,
Светлай вадзіцы не піці.
Крыкнуў Іванька на дварэ,
Адазвалась Гапуська ў цераме:
— Знаць мне ў цераме не жыці,
Краснай дзявіцай не слыці.

1097. Свіснуў салавей на моры,
Кракнула вуціца ў азёры:
— А не хочацца мне ляцець
З гэтага возера сіняга,
З гэтага стадзечка сільнага.
Хоць не хацела — ляцела.
Свіснуў Іванка на кані,
Заплакала Волечка ў церамі:
— А не хочацца мне ехаці
З гэтага церама новага,
Ад свайго татухны роднага.
Хоць не хацела — ехала.

1098. Свіснуў селязень на моры,
Пачула вутачка на беражку.
Ды на жоўценькім пясочку.
— Беражочак мой круценькі,
Пясочак мой жоўценькі,
Не хочацца мне адгэтуль,
З гэтага беражка крутога,
З гэтага пясочку жоўтага.
Крыкнуў Колечка на коні,
Пачула Зіначка з каморы.
— Камора мая новая,
Мамачка мая родная,
Не хочацца мне адгэтуль,
З гэтай каморы новае,
Ад свае мамкі роднае.

1099. Ой, падлятаець, ой, падлятаець
Салавей пад зялёны сад.
Ён вызываець, ён выклікаець зязюлю з сабой. 2
Зязюля ходзіць, крыллейка ломіць, ляцець не хочаць. 2
Хоць не хацела, хоць не хацела, а паднялася і паляцела. 2
Вот пад'язджаець, вот пад'язджаець
Да Мішачка пад новы двор.
Ён вызываець, ён выклікаець Ніначку з сабой. 2
Ніначка ходзіць, ручанькі ломіць, ляцець не хочаць. 2
Хоць не хацела, хоць не хацела, а села і паехала. 2

1100. Там, за садамі, за зялёнымі,
Там шырокае поле.**
Ой, там Зосечка маладзенькая
Зялёны лянок поле.
Ой, наехала яе сваткове,
Міхальковы браткове:
— Кідай, Зосечка, маладзенькая,
Зялёны лён палоці,
Сядай ты з намі, ой, са сваткамі,
Мёд-віно папіваці!
Ой, едуць поле, едуць другое,—
Ёй схацелася піці.
— Ой ты, Міхальку, ой, малодзенькі,
Дзе твой мёд салодзенькі?
Як запівалі, то й абяцалі

Мёд-віно папіваці,
А як узялі, то й абманулі
Мяне маладзенькую!

1101. Для крыніцы, для студзёныя
Казачанька каня поіць,
Дзяўчонка падліваець,
Казак дзеўку падмаўляець:
— Пойдзем, пойдзем, дзеўка, з намі,
З маладымі казакамі.
Едзем поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаем.
— Будзем, братцы, начаваць,
Сіні агонь раскладаць
І вячэрыцу гатаваць.
— Вары, дзеўка, вячэру,
Сцялі мякку пасцелю.
Ўсе казакі паўснулі,
Адзін казак не ўсыпаець,
Каравулы занімаець:
— Устаньце, братцы, прабудзіцесь
І паслухайце-ка вы,
Што стогнець дарожачка
І шуміць зялёная дуброва.
Не зязюлечка кукуець,
Не саловушка шчабечаць —
Плачаць маці па дзіцяці:
— Дзіця маё дарагое,
Сэрца маё рацівое,
Кукобіла-лялеяла,
Дасталася чужым людзям на паругу,
Чужой матке на ўслугу,
Калыхала цябе, спавівала,
З начовак ног не вынімала,
Цёмныя ночкі не ўсыпала.

1102. А ў нашага суседа
Пачынаецца бяседа,
Малойчыкі п'юць-гуляюць,
Дзяўчыначку намаўляюць.
— Дзяўчыначка чарнаброва,
Сабірайся і едзь з намі,

З маладымі малайцамі.
Дзяўчыначку напаілі,
На павозачку ўсадзілі.
— На павозачку садзіся,
Айцу й мамцы пакланіся.
Едуць поле і другое
І на трэцяе ўз'язджаюць.
— А я стану паслухаю,
А што ў лесе галасуець,
Ці не зязюлька кукуець,
А не зязюлька кукуець.
А не салавей шчабечыць,
Плачыць маці па дзіцяці,
Што нет каму слугаваці, 2
Пасцель белу паслаці.
— Ты, дзяўчына-дурачына,
Калі хочаш — дык вярніся.
— Ды хоць жа я і вярнуся,
Дык мой венчык не вярнецца.
— Ты, дзяўчына чорнабрыва,
Будзем ехаць каля крамы,
Купім венчык такі самы.
— Ды хоць жа ён такі самы,
Дык той венчык не вянчаны.

1103. Пры вуліцы, далінаю, стаіць вярба з калінаю.
— Пастой, вярба, не шатайся, з маладой дзяўчынай размышляйся.
— Ды ўжо ў мяне размышлёна, ды ўжо ў мяне расчыслёна:
Ойца з маці пакідаці, з мілым другам паязджаці.
Еду поле і другое, уз'язджаю на трэцяе.
— Паслухайся ты, мой мілы, ці зязюля там кукуець,
Ці саловішча там вітаець?
— Не зязюля там кукуець, не саловішча вітаець,
Родна мамка тужыць, плачыць па сваёй роднай дзіцяці.
— Ці я цябе не расціла, ці я цябе не пясціла?
І расціла і пясціла, цёмнай ночкі не даспала,
Яснай свечкі не згасіла, перамены ўсё чакала.
Ото ж твая перамена, чужой бацькі, чужой маткі.
Чужой бацькі пасцельніца, чужой маткі няверніца.
— Устань, устань ты, мой мілы, ды ўжо к нам госці прыехалі,
Твае швагры, мае брацце.

— Адчапіся, адчапіся, ты няміла,
Твая радня апастыла.

1104. — Ты, каліна, развівайся,
Ты, дзяўчынка, размышляйся.
— Да ўжо ж маё размышлёна,
Да ўжо ж маё раздумёна:
На Украіну ад'язджаю,
Ойца-матку пакідаю.
— Калі жалка — дык вярніся,
Ойцу-матцы пакланіся.
— Рада б была вярнуціся,
Не вернецца мой вяночак.
— Будзем ехаць блізка места,
Купім вянок пазалацісты,
— Да хоць жа ён пазлацісты,
Не вернецца мой руцяны,
Да хоць жа ён з шчыра злота,
Не вернецца мая цнота.

1105. — Ты, каліна, не шатайся,
Ты, дзяўчынка, размышляйся.
— Я даўно размышлёна,
Пара коней залажона.
Еду поле, я й другое,
На трэцяе ўз'язджаю.
Стойце, братцы, паслухайце,
Ці зязюля там кукуе,
Ці салавей шчабечаць?
Не зязюля там кукуе,
Не салавей шчабечаць,
Гэта па мне мамка плачаць,
Гэта па мне татка тужыць.
— Калі жалка, то вярніся,
Атцу й маці пакланіся.
— Рада была б я вярнуцца,
Мая маладосць не вернецца.

1106. —Бяроза, бяроза, чаму не развіешся?
— Дзяўчына, дзяўчына, чаму не размыслішся?
— Тады развіюся, як над берагам стану.

— Тады размыслюся, як з мілым на возе сяду.
Дайце мне коні, коні вараныя,
Сядзем мы, паедзем, абое маладыя.
Ехалі мы поле, ехалі другое,
А на трэце поле сівы конь ступае —
Хто ж там у лесе сціхенька гукае:
А ці чорны воран, ці сіва зязюля,
Ці айцец і маці шукаюць дзіцяці?
— Дзіцятка, дзіцятка, дзіцятка дарагое,
Аддалі мы цябе замуж маладою.
Не сумуй, дачушка, як былінка ў полі,
Гаруй жа, дзіцятка,— такая твая доля.

1107. — Распускайся, альшыначка, *
Размышляйся, дзяўчыначка.
— А я, млода, размышляла,
У чужу страну уязджала,
У чужу страну-староначку,
На людскую абмовачку.
Плачце па мне, бацька, маці,
Што я, малада, не вярнуся.
Цяжка ў лесе без зязюлі,
А мне, млодай, без матулі.
Цяжка ў лесе без ядлоўца,
А мне, млодай, да без ойца.
Цяжка ў полі без мятліцы,
А мне, млодай, без сястрыцы.
Цяжка ў полі без кусточка,
А мне, млодай, без браточка.
Цяжка ў лесе без нічога,
А мне, млодай, без нікога.

1108. Былі, былі мы на рыначку,
Пілі, пілі мы гарэлачку,
Дарам пілі — не скупілі,
Дзеньгі клалі — не шчыталі,
Свет Дашачку падманялі:
— А, Дашачка, садзісь з намі:
А у нас коні вараныя,

---

* Кожны цотны радок, акрамя апошняга, паўтараецца.

Кучарыкі маладыя,
Скрыпачкі залатыя,
А свашачкі маладыя.

1109. Едзь скарэй, дзяўчыначка, едзь скарэй із намі,
Табе лепей будзе, як у роднай мамы.
Ты ў роднай мамы ела хлеб аўсяны,
А ў нас будзеш есці штодзень пітляваны.
Ты ў мамы насіла лыкавыя лычкі,
А ў нас будзеш насіць штодзень чаравічкі.

1110. Хмель лугамі, хмель лугамі,
А пшаніца ламамі.
Скажы, скажы, дзеўка Надзя,
Ці паедзеш ты з намі?
Хмель паўецца, хмель паўецца,
А пшаніца пажнецца.
Што табе, дзеўка Надзя,
Дзеваванне мінецца.
Мы тую пшаніцу
Згорнем у капіцу,
Возьмем дзеўку Надзю,
Зробім маладзіцу.

1111. Сыза мая ты галубачка,
Села сабе на вароцейках
І галоўку схіліла.
І галоўку схіліла —
Крылля распусціла...
Як прыляцеў сыз галубчык:
— Сыза мая ты галубачка,
Падымі ты хоць галовачку,
Паваркуем з табою,—
Ці не паляціш са мною?
Хадосачка ты малодая,
Села сабе за столейкам
І галоўку схіліла.
І галоўку схіліла —
Коску распусціла...
Як прыехаў к ёй Яхімачка:
— Міла мая ты Хадосачка,

Падымі ты хоць галовачку,
Пагаворым з табою,—
Ці не паляціш са мною?

1112. На моры вутачка купалася *,
А выйшла на бераг страсалася.
Прыляцеў да яе селязень яе.
— Умывайся, вутачка, бялюсенька,
Страсайся, вутачка, сухусенька,
Паляцім мы з табой на сіне мора,
Там жа ў нас пташачкі салятаюцца,
Нас з табой, вутачка, дажыдаюцца.
У каморы Лідачка вымывалася,
Беленькім ручніком уціралася.
Прыехаў да яе Геначка яе.
— Умывайся, Лідачка, бялюсенька,
Уцірайся, Лідачка, сухусенька,
Паедзем з табою к майму татку,
Там жа ў нас госцейкі з'язджаюцца,
Нас з табой, Лідачка, дажыдаюцца.

1113. А ў полі, ў полі, а на нівуньцы,
Сядзела павунька а на купінцы,
Распусця крыллейка каля купінкі,
Раняя пер'ейка ўсё дробнае.
Прыляцеў павучок, сеў лі яе,
— Ай ну, ну, павунька, падымай крылле,
Падымай крылле, падбірай пер'е,
Паляцім мы з табой у вішнёвы сад,
Там нашы птушачкі суляталіся,
Нас з табой, павунька, дажыдаліся.
У цераме, ў цераме, а ў новенькім,
Сядзела дзевунька за столікам,
Распусця косуньку па плечунькам,
Разалля слёзунькі па беламу ліцу.
Прыехаў і к ёй Ляксейка, сеў лі яе:
— Ай ну, ну, дзевунька, заплятай коску,
Заплятай коску, уцірай слёзкі,
Паедзем мы з табой к майму татуньку,
Там нашы родныя сабіраліся,
Нас з табой, дзевунька, дажыдаліся.

1114. Ці на цябе, канапелька, ці на цябе, зеляненька,
Веялі буйныя ветры?
Як сталі веяць, ўсё павеваці,
Мусілі абламаці.
Ці па цябе, Наташка, ці па цябе, малада,
Гэтыя добрыя людзі?
Як сталі хадзіць, да дачку прасіць,
Мусілі ўпрасіці.

1115. — Ой ты, наламлёна каліна,
Хто цябе, чырвону, наламіў?
— Наламілі мяне пастушкі,
Раненька волікі пасучы,
Позненька дадому жанучы,
Мяне на кіюшкі беручы.
— Ой ты, намаўлёна Ганначка,
Хто ж цябе намовіў маладу?
— Намовіў мяне Нічыпарка,
Ведучы конікі па расе:
Ён намовіў мяне яшчэ ў касе,
Ведучы конікі да броду,
Ён намовіў мяне маладу.
Ведучы конікі на рэкі,
Ён намовіў мяне навекі.

1116. Ой, не свет то ўжо світае,
І не зорачка ж то ж зіяе:
Малады Пятрушка сваю Манечку
Да да сябе падмаўляе:
— Едзьмо, Манечка, са мною,
Да не заязджаймо ні к кому,
Ні к маему роду, ні к тваему,
Толькі заедзем к аднаму —
К маяму татачку роднаму.
У маго ж татачка п'юць да гудуць,
Да нас, маладзенькіх, даўно ждуць.

1117. Дадому, сваточкі, дадому,*
Не будзем заязджаць ні к кому.
Толькі заедзем к аднаму —
К роднаму татаньку маяму.

Там кватэра пісана,
Там вячэра гатавана,
Там пасцеля паслана.
Пісалі кватэру — пісары,
Гатавалі вячэру — кухары,
Слалі пасцелю — паненкі.
Мы ж тым пісарам плацілі,
Мы ж тых кухароў прасілі,
Мы ж тых паненак гасцілі.

1118. Была, была ночка да ўжо й дзень,
Свякроў нявехну даўно жджэ:
— Едзь, нявеханька, дадому,
Замяці кашулю да долу. 2
Ужо на дварэ змяркае,
Іван Параску таркае:
— Едзьма, Параска, дадому,
Да не заязджайма ні к кому,
Заедзем к аднаму —
К майму бацюхне к роднаму;
Там нам каморка прыбрана
І пасцелька паслана.
Прыбрала каморку — ятроўка,
Паслала пасцельку — свякроўка.

1119. Паедзем дамоў, паедзем,
Ні к кому заязджаць не будзем.
Толькі заедзем к аднаму —
К роднаму татульку свайму.
А к той свякроўцы — палямянцы,
Што яна раненька не будзіць,
А выйдзець на вулку ды асудзіць:
— Негадзяй, нявехна, негадзяй,
Не ўстаець раненька, не будзяй.
Вадзіцу несла — аблілася,
Бель-кужаль прала — драмала,
Як падкаціўся вугалёк,
Як загарэўся кужалёк,
Дзяжу мясціла — галасіла.

1120. Шаўкова нітачка к сцяне ўець,*
Васечка Тонечку дамоў завець:
— Паедзем, Тонечка, мы дамоў,

Там нас мамачка даўно жджэць,
Цёмную ночаньку не ўваснець,
Зялёным віном румачкі наліваець
І нас, маладых, ажыдаець.

1121. Ужо ж на дварэ белы дзень,
Ужо свякруха нявесткі даўно жджэ,
А ўжо на дварэ змяркае,
Ужо Васілёк Аленку таркае:
— Едзьма, Аленка, дадому,
Да свайго вечнага пакою.
Ты ж будзеш мне жаною,
А маёй мамачцы слугою.
Будзеш ты мне пасцель слаць,
А маёй мамцы плаццця праць.
Памерзнуць ручкі крэпенька,
Спамянеш мамку міленька.

1122. Ці не шут быў Іванька-падманшчык,
Падшуціў, падманіў дзевачку:
— Ай, хадзі, дзевачка, на маю старану,
На маёй старане не па-вашаму:
У бочках ваду на валах возяць,
У катлах на кухні абед варадь,
Ветрам-віхрам хату мятуць.
Як прыйшла дзеўка на яго старану:
— Пакажы-ка, дзе валы стаяць,
Пакажы-ка, дзе катлы вісяць?
— Ета ж я цябе абманіваў,
На сваю старану пераманіваў.
А на нашай старане ўсё па-вашаму:
У судах на плячах ваду носяць,
У гаршках у печках абед вараць,
Венічкам да ручкам хату мятуць.

1123. Ці не брод рэчаньку падмываець,
Ці Пеця Ніначку падмаўляець:
— Паедзем, Ніначка, у нашу старану,
А ў нашай старане не па-вашаму:
Па лугах, берагах цвяты цвятуць,
Па быстрых рэчаньках мяды цякуць,

Па крутых горачках пчолкі звіняць.
— Пеценька, душа мая, няпраўда твая.
А ў вашай старане ўсё па-нашаму:
Па лугах, берагах трава расцець,
Па быстрай рэчанькі вада цячэць,
Па крутой горачкі жоўтыя пяскі.

1124. Хваліўся Япачка сваёй стараной:
— Ды ў нас не па-вашаму:
Па гарам, па гарам вінаград расце,
Па лугам, па лугам шаўкі ўюцца,
Па рэкам, па рэкам мёд-віно цячэ.
— Як пайшла ды знайшла ўсё па-нашаму:
Па гарам, па гарам алешнік расцець,
Па лугам, па лугам траўка ўецца,
Па рэкам, па рэкам вадзіца льецца.

1125. Да хваліўся хлопчык старанок:
— Едзь, дзевачка, са мною.
Да ў нас не па-вашаму:
Цякуць рэчкі мядовыя,
Беражкі — васковыя.
На беразе вінаград расце,
З вінаграду да віно цячэ.
Дзеўка яму да паверыла,
Села з ім да паехала,
А ў іх да па-нашаму,
Цякуць рэчкі вадзяныя,
Да берагі пясчаныя,
А на беразе лаза расце,
А з-пад лазы вада цячэ.

1126. Выхваляўся Сашутушка сваёй роднай старонушкай:*
— Как у нашай старонушкі ўсё гэта не па-вашаму,
Калодзезь мядовенькі, чарачка-серабраначка.
Усё дуб'ё удалыя і бяроза кудравая,
І бяроза кудравая, і ялдё камляватае.
Як прыйшла Галютушка на яго старонушку:
— Пакажы, Сашутушка, калодзесь мядовенькі,
Калодзезь мядовенькі, чарачку-серабраначку
І дуб'ё ўдалое, і бярозу кудравую,

І бярозу кудравую, і яллё камляватае.
— Дурна, дурна Галютушка, дурна, дурна Іванаўна,
Калодзезь мядовенькі — гэта родны бацюшка,
Чарачка-серабраначка — гэта родная маменька,
А дуб'ё ўдалыя — гэта родныя брахількі,
А бяроза кудравая — гэта родная сястрыца,
А яллё камляватае — мая радня багатая.

1127. А брацечка мой родненькі,*
Пасунься па лавачцы
Пад кутняе акошачка,
Паглядзі ў акошачка,
Ці высока сонейка?
Калі высока —
Будзеш тут гуляць,
А калі нізенька —
Будзеш дамоў ад'язджаць.
Наша мамухна, наша родная, даўно жджэць,
Штогадзіначку, шточасіначку к вакну йдзець.
— А дзе ж мой сынок гэту ночаньку начуець,
Калі ў дарозе, па перавозе — крый божа,
Кагда ў Васечкі, на белай ложы — дай божа.

1128. Стараста да саколічку,
Прысунься ды к аконечку,
Паглядзі ў абалонечку,
Да ці рана?
Да калі ж рана,
То на конічку зайграймо,
А калі ж позна,
То і ў цесцюхны паначуймо.
Бы дома ў цесцюхны начаваці,
Да й саломку купляці,
За жмачок — пятачок,
За жменьку — капейку.

1129. Стараста старэсенькі,
Да як сыр бялесенькі,
Прысунься к акеначку,
Паглядзі ў абалоначку,
Чы ядзяць коні сена?

Калі ядзяць коні сена,
То шчэ пасядземо,
А калі ядзяць коні салому,
То ўжо едзьмо дадому.
Прадамо нагавіцы,
Купімо куль травіцы.

1130. Малады да павознічак,
Паганяй да коні скора, 2
Штоб коні не стаялі 2
У вялікай дарозе, 2
У свякроўкі да на парозе.

*Свякроўка да за столікам:*

— Зяцюхну да саколіку, 2
Сядзь сабе да на коніка, 2
Да праедзь па дворыку, 2
Зірні-глянь да на сонейка 2
Да ці рана, да ці позненька.
Калі рана, то пагуляймо,
Калі позна, то ад'язджаймо.

1131. Гэй да, свацейка маладзюсенькі,
Не глядзі ў чарцы днечка,
Паглядзі ў аконейка,
Ці высока сонейка.
Пад гай зелянюсенькі
Конь бяжыць варанюсенькі.
Конь бяжыць да выбягае,
Ванечка выязджае.

1132. Ой, сонейка, сонейка,
Да заходзь скоранька,
Бо мы будзем начаваць
Да і поўдарогу.
Зялёнаю дуброву
Сабе пад галову,
А белую бярозу
Сабе пад ногі.

1133. — Ды чаму ж, жанішок,
Дадому не дбаеш?
— Я маладзёнак,

Дадому раднёнак,
Калі мяне цешчанька
Мёдам частуе,
Сваю дочку ды навек даруе.
— Бяры, зяцю, дочку,
Дам цялушачку
І бодзеньку плаццяў,
Яшчэ і падушачку.

1134. Паедзем-ка, мой брацітка, дадому
І павязём нявольніцу із няволі.
А прывязём нявольніцу дадому,
Пусцім мы нявольніцу па волі.
Будзем усёй сямейкаю глядзеці,
Як яна будзе ў хату нашу радзеці.
Калі будзе ў хату ў нашу радзеці,
То будзем усёй сямейкай жалеці,
А не будзе ў хату нашу радзеці,
Не будзе ніхто жалеці.

1135. І да я ў вас капустачкі не ела,
Да я вот усё на братоўку глядзела.
Ой, едзьма, едзьма, брацітка, дадому,
Вот мы павязём і сваю братову,
Пусцім яе па новых сенцах хадзіці,
Вой, ці патрапе нашай мамцы гадзіці?
Патрапіла па новых сенцах хадзіці,
Ой, патрапіла нашай мамцы гадзіці.

1136. Ды паедзем, мой брацітка, дамоўкі,
Павязём сваю братоўку з няволькі.
Ды пусцім жа яе ў сваім двары па волі.
Будзем жа яе паціхусеньку зважаці,
Ці будзіць яна нашу сямейку ўважаці,
Ці будзіць яна татку з мамкай гадзіці.
Калі будзіць яна татку з мамкай гадзіці —
Будзіць жа яна па кірмашыках хадзіці.
Калі будзіць яна татку з мамкай ўважаці —
Будзіць жа яна на пары конікаў паязджаці.

1137. — Паедзем, мой братачка, дадому,
А возьмем мы гэту вумніцу з сабою.
А будзе ў сваёй мамачкі рабіці,
Няхай едзе к свякровачкі гадзіці.
— А ўгаджу свякровачцы, ўгаджу,
Каля печы з апалонічкам пахаджу.

1138. А паедзем, мой брацюлечка, дамоўкі,
А павязём братовачку з няволькі,
А пусцім яе па новай хаце хадзіці,
Каторай яна будзець мамульцы гадзіці?
Ці будзець гадзіці гэтай мамульцы, што расла,
А ці будзець гадзіць гэтай мамульцы, што прыйшла?
Не будзець гадзіць гэтай мамульцы, што расла,
А будзець гадзіць гэтай мамульцы, што прыйшла.

1139. Паедзем жа мы дадому,
Павязем Мар'ечку з сабою,
А няхай яна ў вас не плача,
А няхай яна ў нас паскача,
А няхай яна ў вас не рыдае,
А няхай яна ў нас гуляе.

1140. А цераз рэчку кладачка,*
Ды паедзем дамоў, братачка,
Возьмем братавую з сабой.
Няхай яна тут не плача,
Белае лічанька не траця.
Хай яна ў нас пабудзе—
Белае лічанька прыбудзе.

1141. Паедзем дамоў разам,**
Павязём мамцы радасць,
А скрыню каваную,
Княгіню хаваную.
А скрыню каваль каваў,
Княгіню татка хаваў.

1142. — А што сядзіш, што думаеш, брацейка,
А як жа мы дамовачкі паедзем?
Як паедзем цёмным борам — заблудзім,

Як паедзем ціхім Дунаём — утанём.
— Не бядуй, мая сястрыца, не бядуй,
Я ў бары ясну свечу запалю,
У ціхі Дунай залаты човен упушчу,
Я з Дуная сваю дружыну вывезу.

1143. Паедзем, мой брацюлечка, іграя,
Будзець нам гэта ночачка відная.
Будзець нам ясён месяц свяціць,
Будзець нам ясна зорачка блішчаць.
Ці будзець з намі наша братоўка гукаць?
А не будзець, мой брацечка, не будзець —
Пакуль жа яна мамчыну негу забудзець.
А пусцім яе па новых сянёх хадзіць,
А самі будзем на яе глядзець —
Катораму будзе татульку шчырэць:
Ці роднаму татулечку, што расла,
А ці таму няроднаму, што прыйшла?

1144. У дарожку, сваткі, у дарожку,
Будзе вам дарожка, як дошка,
Будзе вам каляінка, як стрэлка,
Будзе вам Зосенька, як кветка.
А ваша дзеванька па дарозе замшук сее,
А па лугу кужалі сцеле,
Каб едучы, не ўпыліцца,
А ідучы, не абрасіцца
І к свёкру не спазніцца.

1145. — А не сядзі, мой брацітка, не сядзі,
Адвярніся ў аконачка паглядзі.
Нешчаслівая гадзіначка нам дамоў,
А будзіць жа нам тры прычыначкі ў дарозе:
А разышоўся ціхі Дунай без чавён,
А разлілася быстрая рэчка без кладак,
А заблудзіць дружыначка ў цёмным бары.
— А не бядуй, мая сястрыца, не бядуй,
Я тыя тры прычыначкі рукой развяду:
Я ў ціхі Дунай чавён апушчу,
Праз быструю рэчку я кладачкі памашчу,
А ў цёмным бары сорак свечак запалю —
Я ўсю сваю дружыначку асвятлю.

1146. Пара, пара нам дадому,
Упала раса аж да долу,
І да дробная, халодная,
І лебядовую і коням грызці,
Мядовую і людзям есці.

1147. Вы, сваточкі-паночкі,
Да ўжо ўзышлі ж зорачкі,
Да ўжо зышоў да асенні месяц,
Пара свахом дадому ехаць.
Бо ночанька цёмненька,
Дарожанька да не пэўненька.
Каб жа нам не зблудзіці
Да нічога не згубіць,
Ні лютага звераці,
Ні чужога дзіцяці.

1148. Пара, сваткове, час ехаці,*
Можаце ў полі пастаяці,
Капыткамі поле паараці,
Белу лілею пасеяці,
Чырвону ружу пасадзіці.
Бела лілея — то Волечка,
Чырвона ружа — то Павалка.

1149. Ой, ляталі павушкі па полю,*
Зазывалі пташачак да бору:
— Ой, да бору, пташачкі, да бору,
Вы не клюйце яру пшану ў полі,
А вы клюйце ягаду ў бары.
Ой, гуляла Танечка ў піру,
Зазывала Васеньку дадому:
— Ой, дадому, Васенька, дадому.
Не любі чужых жонак у піру,
А любі мяне младу на даму.

1150. Пабіраймося з кута,
Хопіць нам сядзець тута,
Чужое поле таптаці
Ножкамі, астрожкамі,

Залатымі падкоўкамі.
Едзьмо ў свой горад,
Там нам далі б яшчэ гонар,
Там мёд із [...],
А мы будзем з дзеўкаю.

1151. Ды паедзем, мой брацейка, дадому,
Ды павязём сваю братоўку з сабою.
Нас тут не любяць, ды не галубяць, а дома ждуць,
Наша мамачка старэнькая
Прахадзіла белыя ножкі, ходзячы,
Праглядзела свае вочкі, гледзячы.
— Чаму, ды чаму майго дзіцяці доўга няма? 2
Можа, яго ў скрынкі, пярынкі ўвязалі,
Можа, яму маладой Танечкі не далі?

1152. Паедзем дамоў, паедзем,
Тут нас не любяць, тут не галубяць, дома ждуць,
Шточасіначкі, штогадзіначкі к вакну йдуць,
К вакну йдуць і ў вакно глядзяць:
— Вунь едуць.
Вязуць, вязуць к нам нявольніцу з няволі,
Пусцім яе па сваім двару паволі,
Няхай яна на нашым двары гуляець,
Будзем жа, мае братулькі, глядзеці,
Ці будзець яна нашаму двару радзеці.
Ой, будзем, мае братулькі, узіраці,
Ці будзець яна нашаму двару прыяці.
— Калі я буду за вашым сталом сядзеці,
Тады ж я буду вашаму двару радзеці.
Калі я буду вашу поліўку сярбаці,
Тады ж буду вашаму двару прыяці.

1153. Сабірайся, наша дружына, да столу,
Пара нам, маладзенькім, ехаць і дадому.
Нас тут не любяць, не галубяць, а дома ждуць.
Штодзянёчак, шточасочак паслы шлюць.
А мы паслы не палучалі
І дамоўкі не ад'язджалі,
І асталіся на старым месце.

1154. Паедзем, братачка, дадому.
Цераз рэчачку кладачка,
Паедзем дадому, братачка.
Тут нас не любяць, не галубяць,
А дома ждуць-паджыдаюць,
Свечачкі-недагарачкі зажыгаюць,
Малыя дзетачкі за вароты выбягаюць,
Цябе, маладзенькага, дажыдаюць.

1155. Паедзем дамоў, нярана, *
Нам тут начаваць няладна.
Нам вячэрачка нясмачна,
Нам пасцелечка нямякка.
А ў нас у доме ўсё харашо:
У нас вячэрачка смачная,
У нас пасцелечка мяккая.

1156. Паедзем дамоў, паедзем,*
А тут начаваць не будзем,
Бо тут ночка цёмная,
Тут пасцелька цвёрдая,
Тут вячэрка — крупнічак,
А дома пасцелька — сяннічок.

1157. Нас тут не любяць,
Нас дома ждуць,
Нам тут вячэраць не даюць.
Нам тут вячэраць нясмашна,
Нам тут пасцеля нямякка,
У нас дома — вячэра памушкі,
У нас дома мяккая пасцель — падушкі,
Паедзем, мой братачка, дадому,
Нас тут не любяць,
Нас тут не галубяць,
Нас штогадзіначкі дома ждуць.
Шточасіначку к вакну ідуць.
Меншыя сястрычкі за вароты выглядаюць,
Яны ж цябе, мой братулечка, дажыдаюць.

1158. Брацітка-зарутачка,
Бяры жану за ручачку.
Брацітка-саколіку,

Бяры жану з-за століку,
Паедзем дамовачкі.
Нам дома лепі будзець:
Конікам аброк а будзець,
Сваточкам мядок а будзець.
Конікі стаяць будуць,
Сваточкі гуляць будуць.

1159. Цераз быстру рэчку кладачка,
Паедзем дамоў, братачка.
А ў нас у доме нет нікога,
Адна мамачка старэнька,
Другая — сястрычка маленька.
Некаму хатачкі падмесці,
Некаму вадзіцы прынесці.
Манечка хатачку падмяце,
Віцечка вадзіцы прынясе.

1160. Да за лесам, лесам, да за цёмным гаем,
Там дзяцінка конікі сядлае.
Сядлае, сядлае, да на сонца гляне:
— Час табе, соненька, да за бор заходзіць,
А мне, маладому, да пара дадому.
Да ў маго татка да двор маленькі,
Да двор маленькі, гасцей паўненькі.
Да п'юць, гуляюць, мяне, маладога, паджыдаюць,
Велькія шкляніцы мёдам наліваюць.

1161. Пара табе, сонейка, да за бор заходзіць,
А мне, маладому, ехаці дадому.
Дай у маём доме галубы брукуюць,
Галубы брукуюць да валы бушуюць.
Да дзякую богу да за свайго бацька:
Ён галубы накорміць, а валы напоіць,
Ён валом — травіцу, галубом — пшаніцу.

1162. Паедзем, брацітка, дадому,*
Там нас маманька даўно жджэць,
Васкавыя свечы ўсю ноч жгець.
Папаліла свечы на ўгаркі,

Дажыдая нявесты-кухаркі.
Папабіла місы-талеркі,
Дажыдая маладой нявесткі.
— Хоць жа я ночаньку не спала,
Я сабе нявесту даждала.
Не буду я спаць другую,
Даждала нявесту любую.

1163. А паедзем, мой брацітка, дамоўкі,
Нас тут не любяць, не галубяць, дома ждуць.
Наша мамухна, наша старая даўно жджэць,
Штогадзінаньку, шточасінаньку к вакну йдзець.
— А зашто-пашто майго сыночка доўга нет?
А ці яго вараны коні прысталі,
А ці яго і маладонечку не аддалі?
Яго конікі, як гаголікі на дварэ,
Яго дзевачка, яго мілая для яго.

1164. А чэраз рэчачку кладачка,*
А паедзем дамоў, братачка.
Будзе сварыцца татачка,
Будзе лаяцца мамачка,
А будуць сястрыцы доўга ждаць,
А за вароцікі выбягаць.
— Чаго наш братулька бавіцца?
Ці яго конікі не бягуць,
Ці яму дзевачку не даюць?
А бягуць конікі і пляшуць,
А дзевачку аддаюць і плачуць.
А бягуць конікі — тупуюць,
Аддаюць дзевачку — скупуюць.

1165. Ой, час-пара дадоманьку ехаць,
У майго баценькі свечы гарадь, відаці,
Мой баценька за варотамі мяне жджэ.
— Даколь, даколь мае дзéцятка не едзе,
Даколь, даколь нявестачкі не вязе.

1166. Паедзем, братка, мы дамоў,
Ужо нас мамачка даўно жджэць.
— Калі мае дзетачкі прыедуць,

Калі маю нявестачку прывязуць.
Прыедуць, прыедуць дзеткі скора,
Прывязуць нявестку ў атласе.
Не хачу нявесткі ў атласе,
Хоць бы ў беленькай сярмязе,
А бы ў добрай павазе.

1167. Думай, брацейка, думай, брацейка,
Што з дому мамка казала. 2
Яна казала, яна казала
Адну ночачку начаваць, 2
А на другую, а на другую —
У паўночачкі прыязджаць. 2
Па нас дома, па нас дома
Наша мамачка бядуіць: 2
— А дзе ж маіх, а дзе ж маіх
Пара дзетачак начуіць? 2
А ці ў дарозе, а ці ў дарозе
На перавозе — бронь божа! 2
А ці ў цесцяткі, а ці ў цесцяткі
Ды за столікам — дай божа! 2
Калі ў дарозе, калі ў дарозе,
На перавозе — ляды б'юць. 2
Калі ў цесцяткі, калі ў цесцяткі
Ды за столікам — мяды п'юць. 2

1168. Думай, думай, наш брацейка, седзючы,
Што нам казала наша мамка едучы.
Яна казала ж адну ночку начаваць,
А на другую з нявестачкай прыязджаць.
Пусцім мы яе па новай хатцы хадзіць,
Ці будзіць умець нашай мамцы гадзіць.
Пусцім яе па новых сенях гуляць,
Ці будзіць умець з нашай мамкай гукаць.
Дадзім жа мы ёй ключы ад каморы,
Будзіць хадзіць у нас братаўка па волі.
Дадзім жа ёй качарэжку й памяло,
Каб не хадзіла нявестачка на сяло.

1169. Пара, пара нам дадому ад'язджаць,
Нідзе нашай братовачкі не відаць.

А ці яна із малойцамі гуляець,
А ці яна з роднай мамулькай гукаець?
Калі гуляець — няхай кідаець,
Калі гукаець — няхай гукаець, пасядзім.

1170. Гуда гудзець і ў хату йдзець,
Яна кажаць — дзевачка, сабірайся.
— Я й сабяруся, я й прыбяруся,
Ды я з вамі не паеду.
Запражыце вы таткавых коней,
Таткавы коні з двара не йдуць,
Ах, божа мой, божа мой, з двара не йдуць.
Кладуць галоўкі на павозачкі,
Яны вушачкі ўсе паапушчалі.
Запражыце вы свёкравых коней,
Свёкравы коні з двара бягуць,
Нясуць галоўкі, як саколікі,
Дзержаць вушкі, як у заенькі.
Хвала табе, божа,
Едзе Аленка, глядзець прыгожа.

1171. Запрагайце бацькавы коні,
Да накачывайце мацерыны кублы.
Бацькавы коні тупчуць, рагочуць,
Маладую везці не хочуць.
Запрагайце свекравы коні,
Накачывайце мацерыны кублы.
Свекравы коні як зарагацелі,
Із двара паляцелі.

1172. Запрагайце ж свякровых коней, божа ж мой.
Свякровы коні не п'юць, не ядуць, божа ж мой.
Не п'юць, не ядуць, жаласна іржуць, божа ж мой.
Звесілі галоўкі на павадочкі, божа ж мой.
Запрагайце ж таткавых коней, я й рада.
Таткавы коні і п'юць і ядуць, я й рада.
Нясуць галоўкі, як саколікі, я й рада.

1173. Да бору, шчырыя пташачкі, да бору,
І здзелалі вы нам вялікую шкодачку:
І вы тры палі ярыначкі склявалі,

І чацвёртую пшанічанькі началі.
І а дадому, любыя госці, дадому,
І здзелалі вы нам вялікую шкодачку:
І вы выпілі півачка тры бочкі,
І чацвёртую мядовіну началі,
І пятую нашу Ганечку забралі.

1174. Мы ў сваточкаў адны суткі прабылі,
Мы сваточкам чатыры бяды зрабілі:
Адна бяда — з хлева кароўку павязём,
Другая бяда — куфар адзежкі забяром,
Трэцяя бяда — панчоху грошы забяром,
Чацвёртая бяда — дачушку павязём.

1175. З мора вада выліваецца,
Зяць ад цешчы выбіраецца.
Зяць ад цешчы выбіраецца,
А цешча зяцем не нахваліцца.
Пасадзі ж ты зяця ў канец стала,
Ды дзівіся, як на сокала.
Пасадзі ж ты ды ў куточку,
Ды дзівіся, як на пташачку.

1176. Гарнастай Піліпачка,
Гарнастай маладзенькі,
Па застоллейку ходзіць,
Свайго сцілушку просіць:
— Ды не назабаў мяне, сцілушка,
Ах, мой бацюшка грозен,
А мой родненькі грозен:
Не ўпусціць позна на двор
І з жаною з маладою,
І з вясёлым поездам.

1177. Маладзенькі Цімох у канец стала стаіць,
Свайго цесценька просіць:
— Цесценьку, мой баценьку,
Пускай нас дадоманьку.
А нам дарога вяліка,
Ночанька цямненька,
Сваціца маладзенька.

Конікі ўсе донечкі,
Сванечка-сямілетачка
Між намі, як кветачка,
Матронка-выборачка
Між намі, як зорачка.

1178. Гнуткая ляшчынанька
Каля двора гнецца,
Маладзенькі жанішок
Каля цесценька трэцца:
— Цесценьку, мой бацeньку,
Пускай нас да доманьку.
Цяпер ночка нявідная,
Дарожанька нятрапная.
Штоб мы тут не заблудзілі,
Да чаго не згубілі:
Чы скрыні, чы пярыны,
Чы дзеванькі-княгіні.
Як скрыню загубімо,
То другую купімо.
Як дзеваньку загубімо,
То другой не найдземо.

1179. Дубчычак, да свідовы дубчычак
Каля ясеня вырас.
Паломіцца, ой, ён не паломіцца,
А к ясеню не прыгорнецца.
Сяргейка, малодзенькі Сяргейка
Каля сельятка трэцца,
Трэцца, каля сельятка трэцца.
А ён трэцца, не пакорыцца,
Пакорыцца, ■ ён трэцца, не пакорыцца,
А зарань дамоў не папросіцца.
Ні бацюхна, сельятка, родны бацюхна,
Уладжай мяне зараней дадому.
Уладжай мяне, да не баў мяне,
Бо ночанька цямненькая,
А дарожка да няпэўная.
Блудзілі, штоб мы не заблудзілі,
Да нічога не згубілі.
Верацень лютага звера,
Ні чужога ні дзіцяці,
І Яніка, ні чужога сем'яніка.

1180. Свідовы дубчыку кала явара ўецца,
Ён ўецца, ўецца, не паломіцца.
Маладзенькі Іванка каля цесценька трэцца:
— Ой, цесценька, мой бацюхна,
Не май да мяне ў сабе,
Адпраўляй ты мяне ад сябе
І з сваёю да вячэраю,
А з маёю да бяседаю,
Бо ночанька цёмненькая,
Дарожанька няпэўная.
Дарожанька караністая,
А Ганначка наравістая.

1181. Тонкая ляшчынанька каля явора віецца,
Як яна не зломіцца?
Маладзенькі Іванка каля цесця трэцца:
— Цесцюхна, мой бацюхна,
Нехай мяне ў себе.
Бо будзе мяне ў дома бацька ждаць,
Да па мяне паслы слаць.
Прышле каня вараненькага
Па мяне, маладзенькага.

1182. Пад варота месяц свеціць, 2
Ох, там парынь цесця просіць:
— Цесцюхна, ты мой бацюхна,
Перайдзі мне да й дарожачку,
Да й дарожачку.
Перайдзі мне да й дарожачку,
Адпраўляй мяне зараней дадому.
Коні ж мае перарзаліся, 2
Вой, музыкі перайграліся,
Перайграліся,
Вой, музыкі перайграліся,
Ай, свашачкі перапелісь.
Ай, дзевачка зажурылася, 2
Што ў таткі забарылась,
Забарылася,
Што ў таткі забарылася
І к свёкру апазнілася.

1183. А ў сенечках галубок гудзе,
У святолачку галасок ідзе.
А не голуб то гудзе —
Каролька цесця просіць:
— Цясцятка, мой бацюхна,
Не забаўляй мяне,
Ні радзіначкі маей.
Коні мае перарзаліся,
А музыкі перайграліся,
А свашачкі перапеліся.
Мой бацюхна зажурыўся,
Што я молад забавіўся
З вялікай дружынай,
З маладой княгіняй,
З мяккай пярынай.

1184. Па двару сіз голуб ходзіць,
Юрачка цесця просіць:
— Цясце́чак, мой бацюхна,
Выраджай мяне з дому.
Коні мае настаяліся,
Сваточкі нагуляліся,
Дудачка найгралася,
Свацюхна напяялася.

1185. Па сенечках галубок ходзіць,
Святолачку галасок зводзіць,
Колечка цясцятку просіць:
— Цясцятка, мой татка, прашу цябе,
Ды не баў мяне.
Конікі запрэжаны, за вароты заведзены,
За вароты пастаўлёны,
Мне, моладцу. баслаўлёны.

1186. Сваціца-галубіца, не баў нас,
Адкрой хлеба, насып соллю, адпраў нас.
Бо наша дарожка караністая, доўгая,
Наша мамачка бедаўлівая, старая.
Яна будзе ўсю ночачку бедаваць,
Дзе ж там будуць мае дзетачкі начаваць.
Ці ў дарозе, ці на марозе, бронь, божа, бронь, божа,
Ці ў сватоў на падлозе, дай, божа, дай, божа.

1187. Сваце, сваце, ды давай нам волю,
Пускай дадому.
Бо дадому ехаць, то нярана будзе,
Тут начаваці, то няслава будзе,
Бо ўжо мы тут ды забавіліся,
Коні нашы вараныя застаяліся,
Дзеці нашы маладыя ды засядзеліся.

1188. Ой, сваце, сваце,
Да давай нам волю, 2
Пускай дадому,
Бо будзем начаваці
У чужой дарозе, 2
У зялёнай дуброве.
Ельку ламаці,
Пасцельку слаці,
Пухавыя падушкі
Пад галоўку класці.

1189. А сваціца-галубіца, не баў нас,
Адкрой хлеба, пасып солі, адпраў нас.
Просім цябе, сваціца, не тужыць —
Мы ж яе бяром не за наймітку служыць,
Мы ж яе бяром за гаспадыньку жыць.
Мы ж яе пусцім па сваім полі, па волі.
Мы ёй аддадзім залаты ключы ад клеці —
Ці добра будзіць гаспадарачкі глядзеці?
Ды калі будзіць нашай мамачцы гадзіці —
Дык яна будзіць у чаравічках хадзіці.
Калі не будзіць нашу мамачку шанаваці —
Тады будзіць і лапцікі абуваці.

1190. Сыпце пшаніцу ў новы карыта,
Карміце коні ў далёку дарогу,
У далёку дарогу, у зялёну й дуброву,
Штобы не прыйшлося ў бору начаваці, 2
З траўкі-мураўкі пасцелькі слаці, 2
Кляновым лістом й адзявацісь, 2
Свёкар нявесткі спадзяваецца.

1191. Ой, позна, позна, ды не вельмі рана,
Прасіся малойчык у цесця дадому.
А то будзеш начаваці ў зялёнай дубраве,
Ноч начаваці, ёлку ламаці.
Трусова пер'е пад галоўку класці,
Кляновым лісточкам акрываціся,
Шчасцем з долею абгарнуціся.

1192. Ой, нуце, нуце, бо не рана будзе,
Каб не прыйшлося ў бару начаваці,
З траўкі-мураўкі пасцельку слаці,
Дробнаю расою ўмываціся,
Зялёным лісточкам уціраціся.

1193. Ужо гадзіна пята,
Выраджай, маці, зяця,
Шоста наступае —
Нех зяць выязджае.

1194. З мора вада выліваецца **
Зяць ад цешчы выбіраецца.
— Пастой, зяцю, хоць гадзіначку,
Падзіўлюся на сваю дачку.
— Было, цешча, не хваліціся,
Пасадзіці да дзівіціся.
Пасадзіці ў канец стала,
Дзівіцеся, як на сакала.
Пасадзіць у крэселку,
Дзівіціся, як на вішаньку.

1195. Сястрыца наша Дунечка, *
Станавіся, сястрыца, ў канцы столу.
Мы на цябе, сястрыца, нагледзімся,
А тады ж па дварах раз'едзімся.
Сястрыца наша Дунечка,
Луччы б нам было не радзіцца,
Як цяперацька расхадзіцца.
Луччы б нам было не знацца,
Як цяперацька расстацца.

1196. Мая мамачка, мая родная,
Мы ж ужо раз'едземся.
А прыступіся блізка століка,
Хаця ж мы наглядзімся.
Мая сястрыца, мая родна,
Мы ж ужо раз'едземся.
Падай ручку, падай белую,
Хаця ж мы падзержымся.

1197. Прасіся, дзевачка, ў маткі дадому,
Бо будзеш начаваці ў зялёнай дуброве,
Ельнік ламаці, пад галоўку класці,
Кляновым лісточкам апрануціся —
Не знаю, не ведаю, к каму прыгарнуцца.

1198. Мая матанька родна,
Выраджай, да не аддавай,
Ночка цёмна, дарожанька няпэўна,
Свадбіца нямілая,
Конікі-аднолеткі,
Свашкі ўсю ночку стаялі,
Каліну ламалі.
Каліну ў вагонь клалі
Да арабкі стралялі.
Арабкі на юшку,
А пер'ечка на падушку.

1199. Матачка мая родная,
Выпраўляй, не забаўляй,
Не пазні мяне ўдома.
Калі спозніш мяне ўдома,
То дай жа мне маршалачка,
Разумнага дзядзечка,
Майго роднага брацейка.
Матачка мая родная,
Благаславі маладую,
Да вянца едучы,
У бога долю просячы,
Гадзіначкі шчаслівае.

1200. Мамка мая родненькая,
Не пазні мяне позненька, 2
Выпраўляй мяне раненька,
Штоб мяне ды не каралі,
У вялікае дарозе,
У свякратка на парозе,
А ў свякроўкі за столікам,
З маладым саколікам.

1201. Родная мая маценька,
Выправаджай ды не забаўляй,
Бо цяпер ночка цёмная.
І дарожка няпэўна,
У той дарозе карэнняў многа,
У той хаце наравоў многа.
Кожнаму ды наравіці,
І старому, і малому,
Дый таму, што ў калыбелі,
Дый на белай пасцелі.

1202. Мамачка мая родная,
Выпраўляй ды не забывай.
Наша дарога да вялікая,
Вялікая, караністая,
А мая свякруха наравістая.
Хто ж тую дарожку раўнаваць будзе?
Хто ж маю свякруху паважаць будзе?
Я ж тую дарожку раўнаваць буду,
Я ж сваю свякруху паважаць буду.

1203. Да выраджай, матанька,
Выраджай хуценька,
Бо цяпер я буду
У бары начаваці,
З кляновай лісцінкі
Пасцельку слаці,
Павіна пер'ечка
Пад галоўку класці.

1204. Мамка мая родненька,*
Не пазні мяне позненька,
Выпраўляй мяне раненька,

Аддавай да маю ніву,
Да звяжы мне пярыну,
І сто злотых чырвоных,
І тры сукні зялёных,
Жарабіцу да вараную.
Выпраўляй мяне, маладую,
Да ў тую сям'ю чужую.
Там зямля крамяністая,
Там сям'я наравістая.
Да я зямлю крамяніць буду,
Да той сям'і наравіць буду.

1205. Годзе, сваццi, сядзеці...
Годзе, сваццi, сядзеці,
Пойдзем дарогу глядзеці.
Бяром сякеркі-рублёўкі,
Прасячэмо дарогу дамоўкі.
А ў той жа дарозе яліна
Папусціла голлейка да долу,
Папусціла голлейка да долу,
Не пускае нас, сватоў, дадому.
То ж не яліна сухая,
То ж твая цешчанька старая
Папусціла ручанькі да долу,
Не пускае нас, сватоў, дадому.

1206. Ох, я ў таткі на адыходзе,
Пасадзіла арэшку ў агародзе.
— Расці, расці, да й гарэшаньку,
Майму татку на пацешаньку.
А хто будзе рана ўставаці,
Да й мой арэх паліваці?
Будзе татка рана ўставаці,
Арэшку паліваць, да й мяне ўспамінаць:
— Тут маё дзіця пахадзіла,
Да й арэшку пасадзіла.

1207. Я табе, мацёнка, на 'тходы
Пасаджу гарышка ў гароды.
Будзеш гарышка ірваці,
Да будзеш мяне, маладу, успамінаці,

Што й я ў цябе была дочачка аднэнька,
Як у саду вішанька жадненька.

1208. Пасаджу я арэх у гародзе.*
Расці, расці, мой арэшыйка,
Майму татку на пацешыйка.
Няхай татка ўцяшаецца,
Дачкі ў госці дажыдаецца.
— Была ў мяне дачка Валечка
І ціхая, і вясёлая,
Усяму двару парадніца,
Суботняя вышыванніца.
А ў суботу рана памалюся,
А ў скрасенне гарна прыбяруся,
Выйду на вуліцу на чэлядзь падзіўлюся.

1209. Ужо Ленка на адыходзе,
Пасадзіла арэха ў агародзе.
— Расці, расці, арэшаньку,
Майму татку на пацешаньку.
Расце, расце арэх дай хітаецца,
Бацько з маткай уцяшаюцца.
Прыехалі гамяльчане купцы 2
Дай арэх купаваці,
А Леначку заручаці.
Да арэх не купілі,
Толькі Леначку заручылі.

1210. На й адходзе, мой татка,
На й адходзе.
Пасадзіла гарошачак
Ой, у гародзе, эй.
Расці, расці, гарошачак,
Ой, развівайся, 2
Жыві, жыві, да мой татка,
Ой, разжывайся, у-у-х.
У гародзе гарошачак
Ой, да развіўся,
Жыў без мяне мой татачка —
Не разжыўся.

* Першы радок паўтараецца два разы, астатнія — тры разы.

1211. Надзечка на выхадзе,
Пасадзі вішаньку ў агародзе.
Расці, вішанька, высокая,
Жыві, Надзенька, усім добрая.
Расці, вішанька, пагінайся,
Рабі, Надзенька, папраўляйся.
Каб і свёкру і свякроўцы наравіла
І вячэру смачна наварыла.

1212. Хадзіла лісанька па бору,
Прасіла-маліла саболя:
— А сякі-такі саболю,
Вывядзі мяне із бору.
Ужо ж мне ў барочку надаела:
Расіца вочанькі выела,
Шышачкі галоўку прабілі,
Сасонкамі ножанькі пракалола.
А хадзіла дзеванька па двару,
Прасіла-маліла суджаньку:
— Вывязі мяне ад татунькі,
Ужо ж мне ў татунькі надаела,
Па высокіх парогах ходзячы,
Дубовыя вядзёркі носячы.

1213. Прасіла ілга сакала:
— Вывядзь, саколу, із бору,
Бо ўжо ў бору даела,
Пакалола ножкі аб шышкі,
Паабдзірала крылле аб гілле.
Прасіла Матронка Цімошка:
— Выведзь мяне, Цімошка, ад баценька,
Бо ўжо мне ў бацечка даела,
Штодзень ходзячы на дзела,
Густыя хлябы месячы,
А сырую пшаніцу мелючы.

1214. Ходзіць чорна куна па двору,
Водзіць сваго саболя з сабою:
— Ой, выведзь, выведзь з бору
Мяне, мой чорны саболю.
Ужо ж бо мне баравіначка даела,

Ужо ж бо мне садавіначка прыспела,
Ужо ж бо й шышкі абілі мне ножкі.
Ходзіць малада дзеванька па двору,
Водзіць сваго жанішка з сабою:
— Ой, выведзь мяне, мой міленькі,
Выведзь мяне ад маго бацэнькі.
Ужо ж бо мне бацькава дзела даела,
Ужо ж бо мне свякроўства прыспела.

1215. Хадзіла конухна каля рэчкі,
Клала лісточкі на плечкі,
Яна малілась саболю:
— Такій жа сякій саболя,
Ой, выведзь мяне са бору:
А мне ўжо ў бору надаела,—
А мне, саболя, тошненька.
— Я ж табе, конухна, да не памагу.
Кідай лісточкі розненька:
Не будзіць табе тошненька.
Хадзіла Усціння каля клеці,
Клала падушкі на плечы,
Яна малілась Ярахвею:
— Такій жа сякій Ярахвейка,
Чаго мне, Ярахвейка, тошненька?
— Я ж табе, Усціння, да не памагу.
Кідай падушкі розненька:
Не будзіць табе тошненька.

1216. Чорная конка па беражку хадзіла,
Хадзіла, гуляла,
Яна чорнага саболіка будзіла:
— А ўстань жа ты, чорны саболік, не ляжы,
Перавядзі ж ты мяне
З гэтага бору ў свой бор.
Мне гэтат бор надаеў,
Мне ягадка-смародзінка прыелася,
Балотная вадзіца прыпілася.
Марынушка да па цераму хадзіла,
Маладога Іванушку будзіла:
— Устань жа ты, Іванушка, не ляжы,
Перавядзі ж ты мяне
З гэтага двара ў свой двор.

Мне гэты двор надаеў,
Мне ў бацюшкі работушка пастыла,
Мне ў свёкрушкі работа паспела.

1217. Да і Мар'ечка ў малінку хадзіла,
Да раным рана ў малінку хадзіла,
Да маладая ў гаю заблудзіла.
Да і Ванечка на ахотушке ходзіць,
Да і Мар'ечка голас падаець:
— Да і Ванечка, вывядзь мяне з гаю,
Ох, і я з гаю дарожкі не знаю...
— Ох, і Мар'ечка, што будзець за вывад?
— Ох, і Ванечка, вот табе стакан піва,
Ох, і Ванечка, а другі жа мёду...
— Ох, і Мар'ечка, гэтым не даволен.
— Ах, і Ванечка, сяду ў рад з табою.
— Да, і Мар'ечка, гэтым я даволен,
Ступай ўслед за мною.

1218. — Ой, кіну кладку праз сенажатку ды пайду,
Болей у цябе, мая матка, не буду.
Нахадзілася, набудзілася ты мяне,
Наелася чорнага хлеба я ў цябе.
— Не ідзі, мая дачушка, ад мяне,
Не буду хадзіць, не буду будзіць я цябе,
Буду карміць белым хлебам я цябе.

1219. Палажу кладку праз сенажатку і пайду.
— Пайду, пайду, мая мамачка, ад цябе,
Нагадзілася, нарабілася я табе.
— Ой, з богам, з богам, маё дзіцятка, ад мяне,
Будзеш гадзіці чужой сямейцы, а не мне,
Устанеш раненька, памыеш лаўкі бяленька,
Тады ты будзеш чужой сямейцы міленька.

1220. Гаварыла малада Валечка:
— А не магу я з сваім татулькам жыць,
Не магу я ў татулькі быць,
Татульку гадзіці.

А магу я ў свякроўкі жыці,
Свякроўцы гадзіці,
Работку рабіці.

1221. Кося, мой кося, кося вараны,
Вывезь мяне, кося, з роднай стараны.
Буду цябе карміць мурожнай травой,
Буду цябе паіць крынічнай вадой.

1222. Ой, нуце, нуце, да мяне не мучце,
Бацькі прасіце, да мяне вязіце,
Матку благайце, да на воз саджайце.

1223. Ой, паедзьце, панове, да мяне не муцьце,
Або тут кладзіце, або туды вязіце.
— Туды павёзшы — нярана будзе,
А тут палажыўшы — няслава будзе.

1224. Села Ганначка да пры таткавым акне,
Глядзіць Ганначка да на яснае на сонца,
Ці скора будзець яснае сонца спускацца,
Ганначцы з мамкай прашчацца.
Ці скора будзець яснае сонца заходзіць,
Цяжанька будзець з таткавай хаткі выходзіць.
А як стала яснае сонца спускацца,
Стала Ганначка з роднай мамкай прашчацца,
А як стала яснае сонца заходзіць,
Стала Ганначка з таткавай хаткі выходзіць.
Таткава хатка да вясёлая, відная,
А міленькага — хмурненькая, цёмная.

1225. Да ўжо ж будзець і слонейка заходзіць, *
Да ўжо ж нада Валечцы з хаткі выходзіць.
Да ўжо ж будзець і слонейка спускацца,
Будзець Валечка з таткам і мамкай прашчацца.
— Як сядзеш на воз, аглядайся за сабой,
Як гоніцца татка з мамкай за табой.
Па дарожцы жоўты пясочак пыліцца,
За Валечкай уся радзіна гоніцца.

1226. Досыць, каліна, досыць, маліна, у лузе стаяці,
Ужо каліну, ужо маліну пташачкі аклявалі.
Не так пташачкі, не так пташачкі, як тыя пташанята.
Рана прылятуць, позна ўлятуць, а ўсё калінку клююць.
Ягадкі клююць — калінку клянуць — ягадкі несалодкі.
Досыць Аўдосьцы, досыць маладой, у мамачкі сядзеці.
Ужо Аўдоську, ужо маладу, суседзі абгаварылі.
Не так суседзі, не так суседкі, як суседскія дзеткі.
Раненька ўстануць, позненька лягуць, а яе абмаўляюць,
Не так суседзі, не так суседкі, як яе бальшаначкі.
Ля яе сядзяць, на яе глядзяць і аб яе гавораць.

1227. Досыць каліне-маліне ў лузе стаяці,
А ўжо каліну, а ўжо маліну пташачкі абклявалі.
Не так пташачкі, не так сізыя,
Як тыя галубочкі, лецячы на дубочкі.
Досыць дзеўчыне, досыць маладзе у мамулькі гуляці.
А ўжо дзеўчыну, а ўжо маладу, суседзі абгукалі.
Не так суседзі, не так блізкія,
Як тыя далёкія ўсё яе падручнічкі.
Усё яе падручнічкі, што вадзілі пад ручанькі.
У яе пілі, елі і аб яе гаварылі.
Аб яе хаду, аб яе работачку,
Аб яе работачку каждую суботачку,
Аб яе пасцелечку каждую нядзелечку.

1228. Годзе, каліна, годзе, маліна,
Табе ў лузе стаяці.
Годзе салаўям, годзе вераб'ям
Ды ягадкі абіраці.
Не так сакалы, не так вераб'і,
Як зязюльчыны дзеці,
На ёй сядзелі, гняздзечка звілі,
Ягадкі абабралі.
Годзе, дзевачка, годзе, маладзенька,
Табе ў татачкі быці,
Годзе людзям, годзе суседзям
На цябе гаварыці.
Не так людзі, не так суседзі,
Як суседнія дзеці,
З табой ходзяць, на цябе гавораць
І на тваю галовачку.

1229. Досыць, каліна, досыць, маліна,
Ў лозе стаяці.
І так каліну, і так маліну
Пташкі абклявалі.
Не так жа пташкі,
Як салавейкі.
Не так жа салавейкі,
Як шэры зязюлькі.
Не так зязюлькі,
Як верабейкі.
Не так верабейкі,
Як сінія сініцы.
Досыць, княгінька, досыць, лябёдка,
У дзеўках сядзеці,
І так княгіньку, і так лябёдку
Усе людзі абсудзілі.
Не так людзі, як бліжнія суседзі,
Не так суседзі, як яе падружкі,
Не так падружкі, як родныя сяструшкі.

1230. А й чырвоная каліна, каліна,
Ці не досыць стаяць у лозе,
А й ці не досыць стаяць у лозе?
Пара перайсці к дарозе,
А й пара перайсці к дарозе,
А й к таму гасцінцу бойкаму,
А й к таму гасцінцу бойкаму.
А й маладая Манечка, Манечка,
Ці не досыць гуляць у мамкі,
А й ці не досыць гуляць у мамкі?
Пара перайсці к свякроўцы,
А й пара перайсці к свякроўцы,
А й к тэй свякроўцы-шальмоўцы,
А й к тым дзевярам-жандарам.

1231. Кукавала зязюля ў садочку,
Ой, рана-раненька ў садочку, *
Скланіўшы галоўку к лясочку.
Наляцела арлоўе повен сад:
— Досель зязюлі кукаваць,

* Рэфрэн «Ой, рана-раненька» паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

Нада зязюлі ўлятаць.
— Што ж вам, арлоўе, за дзела,
Есць у мяне салоўюшка на тое,
Скажыць улятаць — улячу,
Скажыць кукаваць, я буду.
Сядзіць Ніначка ў святлічке,
Скланіўшы галоўку к сястрычке.
Наехала сватоўе повен двор:
— Досель Ніначке сядзеці,
Нада Ніначке ўязджаці.
— Што вам, сваточкі, за дзела,
Есць у мяне родны татухна на тое,
Скажыць уязджаць — паеду,
Скажыць пасядзець — пасяджу.

1232. Кавала зазулька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
Бедна мая галоўка на свеце,
Салоўе кусточкі заселі,
Дробныя ягадкі аб'елі.
Плакала малада ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к сталіцы.
Бедна мая галоўка на свеце,
Брацейкі ключыкі аднялі,
Сястронкі лавачкі заселі.
Да свёкра, маладэнька, да свёкра,
Там табе лавачкі прасторны,
Там табе ключыкі будут вольны.

1233. — Да бору, зазулька, да бору,
Там табе гняздзечка ўвіта,
Зялёнаю рутаю пакрыта,
Там табе ягадкі суніцы
І вадзіца ў крыніцы.
— Ой, няпраўда, пташачкі, няпраўда,
Волікі травіцу із'елі,
Пташачкі ягадкі аб'елі.
— Да свякрухі, Марысю, да свякрухі,
Там табе вячэра гатова,
Там табе белая пасцель сцелена.
— Няпраўда, сванечкі, няпраўда,
Гостанькі вячэру із'елі,
Дзвяры пасцельку заляглі,
Завухні лавачкі заселі.

1234. — Да бору, цяцюрка, да бору,
Там табе сосны з выбору,
Там табе вада з крыніцы,
Там табе ягады — ярыцы.
— Няпраўда, саколю, няпраўда:
Конікі з'елі травіцу,
Волікі выпілі вадзіцу,
Ягадкі склявалі пціцы.
— Да свёкра, Мар'юхна, да свёкра,
Там табе вячэра гатова,
Там табе святлёлка мяцёна,
Мякка пасцеля сцялёна.
— Няпраўда, староста, няпраўда,
Святлёлку дзевяры заселі,
Вячэру завіцы з'елі,
Свякруха залегла пасцелю.

1235. Чаго сядзіш і што думаеш, дзевачка,
Чаму не завеш свайго татачку да сябе,
Чаму не ідзе з вішнёвага саду ў хату,
Чаму не нясе табе шубачку да долу?
Хай выправе свайго дзіцятка ў дарогу.

1236. — Не туляйся, Волечка, не туляйся,
У вялікую дарогу сабірайся,
Бо твая дарога доўгая,
Бо твая свякруха гордая:
Пасцялі пасцелю — не ляжа,
Папытай праўды — не кажа,
А піць падаеш — не бярэ.
— Я ж тую дарогу ўкарачу,
Я сваей свякрусе ўгаджу
Да мякенька пасцелю пасцялю,
Харашэнька мамкаю назаву.

1237. Рана, рана, ранюсенька
Ты, Галюхна, не лякайся
Ды ў світу адзявайся.
Рана, рана, ранюсенька
Галю ад бацькі адлучаюць
Ды к Васільку далучаюць.

1238. А ў лузе да на дошчачцы,
Там Ганнулька да палошчыцца.
Палошчыцца, умываецца,
Да Іванькі прыбіраецца.

1239. — Куды ж, доню, сабіраешся, **
Што ты мяне не пытаешся?
Ці ў лес па ягоданькі,
Ці ў бор па грыбанькі?
— Не ў лес па ягоданькі,
Не ў бор па грыбанькі.
Не дажыдай мяне, маманька,
Із леса з ягоданькамі,
А з бору з грыбанькамі,
А дажыдай мяне, маманька,
У суботу вечарынаю,
Прыбуду з дружынаю.
У суботу вечарочкам
Прыбуду з дружочкам.

1240. На моры вутачка ды купалася,
А ў яе другая ды пыталася:
— Ці холадна, вутачка, ды тваім ножачкам?
— Што ж ба я ды за вуць была,
Каб маім ножачкам холадна было?
У каморы малада прыбіралася,
А ў яе мамачка ды пыталася:
— Куды ж ты, дачушка, сабіраешся?
А ці ў сад-вінаград па вішаньку,
А ці ў шчыры бор ды па ягадкі?
— Што ты мне, мамачка, наругаешся,
Прапіўшы мяне, ды маладу, насмяхаешся?
Прапіла мяне, маладу, на салодкім мяду,
Русу касу маю — на гарэлачцы,
Белае лічанька — на талерачцы.

1241. Жаль бацюхні, жаль, жаль,
А мацеры яшчэ жальчэй,
Што бярэ дочку жаўнер.
Замятай, матка, попел,
Бо мы дочку ўхопім,

Озьмемо да ручанькамі,
Павяземо канічанькамі,
Ухопімо да беленькімі,
Павяземо да вароненькімі.
Озьмем да павяземо,
Да паложымо спаці,
Што схочамо, то зробімо
Да вашаму дзіцяці.
З крышак паляніца,
А з дзяўчыны маладзіца.

1242. Заграбай, мамка, жар, жар,
Будзе табе да дачкі жаль, жаль,
Падмятай жа, мамка, попел,
Бо мы тваю дачку схопім.
Схопімо яе да ручанькамі,
Павязёмо канічанькамі.
Схопімо да бяленькімі,
Павяземо вараненькімі.
Закідай, мамка, дрова,
Аставайся здарова.
Закідай да трэскамі,
Аставайся з нявесткамі.

1243. Заграбай, матка, жар, жар,
Будзе дачкі жаль, жаль.
Закідай, матка, дрова,
Аставайся здарова.
Стукнеш вядзерцам — няма вадзіцы,
Глянеш па хаце — няма сем'яніцы.
Чужа маценка ягадкі любіць,
Вона цябе раненька збудзіць.
Чужа маценка ягадкі з'ядае,
Родна маценка слёзкі співае.
Ой, бо яна мяне выгадавала,
Цёмнае ночкі не дасыпала, 2
Яснае свячы не пагашала.
Кланяйся, дзеванька, старому й малому,
Старому й малому, бацяньку свайму.

1244. Заграбай, маці, жар,
Будзе табе дачкі жаль.

Заграбай, маці, попел,
Мы тваю дачку ўхопім.
Завязем яе далёка,
За тыя горы крутыя,
У тыя людзі ганарлівыя,
Што мяняюць коней без цаны,
А б'юць жонак без віны,
Без усякай прычыны.

1245. Не стой, мамунька, ля печы,
Не хавай дачушку за плечы.
Мы ж цябе ад печы адвядзём
І дачушку тваю забяром.
Стаўляй, мамулька, у печ гаршкі,
Не будзе ў цябе ўжо дачкі.
Кідай, мамулька, у печ дровы,
Аставайцеся здаровы.

1246. Сыра пшонка, ды не мелецца, *
Ашукалі, ды не верыцца,
Сыра пшонка, ды мука будзе,
Ашукалі, ды слуга будзе.
Сыра пшонка, ды малоць будзем,
Ашукалі, ды журыць будзем.

1247. Закавала зазуленка на кручку,
Выбачай, матанька, за дачку.
Выпілі, вымахнулі медзяную бочку,
Выкруцілі, выматнулі у мацеры дочку,
Не мы яе кацілі, сама кацілася,
Не мы яе прасілі, сама прасілася.

1248. Ох, мы выпілі да й папіліся,
Да й бочку мядочку.
Да выкруцілі, да выездзілі
Ад сватанька дочку.
Выкруціўшы да выгадаўшы,
Да павяземо дадому, да паложымо спаці,
Што схочамо, то зробімо з чужога дзіцяці.
Да зробімо з хлеба паляніцу,
Да зробімо з дзеванькі да маладзіцу.

1249. Падзівіцеся, дзецючкі,
Чы ўсе вашы дзевачкі.
Да паехала млада па дарозе,
Й адная ў нашым возе.
Азьмемо да павяземо, да паложымо спаці,
Што схочамо, то зробімо да чужому дзіцяці.
Што ж мы зробімо? З хлеба — паляніцу,
Што ж мы зробімо? З дзеўкі — маладзіцу.

1250. Выкацілі, выкацілі дубовую бочку,
Высваталі, вымянялі ў пана-свата дочку. *
Як пасодзім, да пасодзім у пісаным вазочку,
Як павязем, як павязем да чужое маці,
Што захочам, то здзелаем чужому дзіцяці.
Як паложым, да паложым на сырой зямле,
Што захочам, то здзелаем пры чужой сям'е.

1251. На балоце, на балоце
Да качалі вулля, **
Выкачалі, вымучалі
Да ў Івана дурня.
Да павялі, да павялі
Да да нашай знаці,
Палажылі, палажылі
У цясовай кравaці.
Што захочам, тое зробім
Чужому дзіцяці,
А чужое дзіця
Не знае адказаці.

1252. Ой, сваты, дый малады, ды качалі бочку,
Выкруцілі, вымуцілі ў папашы дочку.
Ой, качалі тую бочку да й па сенажаці,
Ой, не будзе ў нас гора вашаму дзіцяці.
Сабраліся госці разам бочку распіваці,
Ой, шыкуйцесь, бацька, маці, ўнукі гадаваці.
А ўжо ж тыя вашы ўнукі самі скакаць будуць,
Бацька, маці маладой вельмі зяця любяць.
— Хадзі, зяцю родны, хадзі, не зракайся,
А на дочку маладую нігды не ругайся.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

1253. Выкацілі *
Дубовую бочку,
Высваталі
Ў пана-свата дочку.
Мы павязём
Да свайго дамочку.
Мы засцелем
Ды белую ложу,
Мы паложым
На белую ложу,
Мы дастанем
Чырвоную рожу!

1254. Свату, свату, разбою,
Разбіў ты мяне з дачкою.
Усю маю сям'іцу разагнаў,
Гадаваную маю дачку сабе ўзяў.

1255. Загаварылі, мой брацітка, на цябе,
Што не кутыя твае конікі ў цябе.
Ёсь у нашай млодай братоўкі пярсцёнкі,
Мы паробім сваім конікам падкоўкі.
Загаварылі, мой брацітка, на цябе,
Што не ўзданыя твае конікі ў цябе.
Ёсь у нашай млодай братоўкі істужкі,
Мы паробім сваім конікам упружкі.

1256. Ой, поле, поле, полечка,
Ці маеш, суджанька, конічка?
Ой, маю каня, маю два,
Пастаўлю каня з канямі,
А сам, млад, сяду з панамі.
Я тварыўся з панамі,
Аж сеў з шваграмі.
Я тварыўся мёд-віно п'ю,
Аж я з шваграмі чаламі б'ю.

1257. Коні рагочуць,
Дадому хочуць.
Гануленька плача,

Ехаць не хоча.
Сваткове спяваюць,
Дадому рушаюць.
Сванечка плешча:
— Начуймо ешча.
Півачка куфа,
Начуймо тута.
Людзей поўна хата,
Начуймо ў свата.

1258. Чый гэта косю
Стаіць пры плоце? **
Стаіць пры плоце,
Убраны ў злоце?
Васількаў косю,
Стаіць пры плоце.
Стаіць пры плоце,
Свішча, рагоча,
Свішча, рагоча,
Дадому хоча.
З чужога лугу
Не есць мурогу,
З чужой крыніцы
Не п'е вадзіцы.
З чужога боку не есць аброку.

1259. Журыўся жанішка ў сцяткі на дварэ седзячы,
На сваіх конікаў гледзячы.
— Чаго мае конікі так стаяць:
Не п'юць, не ядуць, толькі ржуць, 2
Вуснамі неба дастаюць,
А капыцікам землю б'юць?
А зачула тое дзевачка:
— Не журыся, молад жанішка,
Я тваіх конікаў напасу
На ранняй зары ў яры,
На позняй вячэры ў ячмені.
На ціхім Дунаі напаю,
У нову стаенку зачыню,
Накладу сена ў калена,
Насыплю аброку пад персці.
Ешце, мае конікі, не ржыце,

Толькі мяне ад таткі не вязіце.
Конікі пасталі і зарзалі,
Дзевачку павезлі і зайгралі.

1260. Ой, зажурыўся жанішок,
Што яго конікі на стайні
Не п'юць, не ядуць, так стаяць.
Адазвалася дзеванька:
— Ой, не журыся, жанішок,
Я свайго баценька папрашу,
Я твае конікі напасу
На ранняй расе, у аўсе,
На баценькавым засеве.
Павяду у Дунай да вады
За шаўковыя павады.
Будуць павадкі блішчаці,
Будуць падкоўкі брашчаці.

1261. Зажурыўся малойчык
У цясця за сталом седзячы,
На свае конікі гледзячы,
Што яго конікі не п'юць, не ядуць,
Толькі стоячы рзуць,
Капыцікамі зямлю б'юць.
Выбілі зямлю ў калена,
Выелі траву з кораня.
Як зачула тое дзевачка:
— Не бядуй, малойчык, не бядуй,
Я твае конікі напасу,
Прывёўшы дамоў, напаю,
У ранняй расе ў аўсе,
Познай расіцы ў пшаніцы.
Прывёўшы дамоў, напаю,
У таткі аброку папрашу:
— Аброку, татка, аброку,
Гэтыя коні здалёку,
Адзін конічак — з Вілейкі,
Прыехаў на ім міленькі.

1262. — Што ж зажурыўся ты, Ванечка,
У маркоце за сталом седзячы,
На сваіх конікаў паглядаючы?

— А таму зажурыўся я,
У маркоце за сталом седзячы,
На сваіх конікаў паглядаючы,
Што яны ўжо каторы дзень
Не ядуць і не п'юць, толькі ржуць.
Як пачула гэта Леначка:
— Ай, не журыся ты, Ванечка,
Я ж твайму гору дапамагу,
Я ж тваіх конікаў быстрых
У ранняй расе ў лузе напасу,
У ціхай Дзвіне напаю.
Накладу сена ім па калена,
Насыплю аўса да пояса.
Ешце, мае конікі, і піце,
Вы ж мяне, маладую, вязіце.
Паелі конікі, заржалі,
Павезлі Леначку, музыкі ім услед зайгралі.
Зайгралі, зайгралі ў гармоні,
Павезлі, павезлі к свякрові.

1263. Да зажурыўся малойчык,
У цесця за сталом седзючы, 2
На белу бярозку гледзячы:
— Бярозка мая белая,
Галоўка мая бедная,
Што мае конікі так стаяць,
Не п'юць, не ядуць, толькі ржуць, 2
А капыцікамі зямлю б'юць?
Маю галоўку мыслі бяруць.
Зачула тое дзевачка:
— Не бядуй, не бядуй, малойчык,
Я гэту прыгоду развяду,
Я твае конікі напасу
У ранняй расе ў аўсе,
У позняй пазніцы ў пшаніцы.
Напаю конікаў у крыніцы,
Насыплю аўса па персці,
Каб было конікам што есці.

1264. Не іржы, косе мой, ой, не іржы, *
Напасем цябе ў ва ржы,
На ранняй зарэ на расе.

На абедняй зарэ ў аўсе.
На вячэрняй зарэ ў ярэ.

1265. Яблычка маё віннае,
Дзіцятка маё мілае,
Не 'ддала б цябе ад сябе:
Прыехаў жа госць няроўны —
Не п'ець ні піва, ні гарэлкі,
Не едзіць з двара без дзеўкі.

1266. Сватка-братка,
Аддай нашу дзеўку,
Без дзеўкі не едзем,
Нас там не прымаюць:
Варота запіраюць,
Сабакамі натраўляюць.

1267. — Ой, сядзь, сядзь, мой зяценьку, 2
Небывалы госцiку!
— Хоць жа я небывалы, 2
Такі ж [illegible] дакучлівы:
Я не сяду не піўшы,
Я не лягу не еўшы,
Не паеду не ўзяўшы!

1268. А як будзеш, наша Надзечка, ад'язджаць,
Не забудзьце каліначкі наламаць.
Наламаўшы, па дарожачцы пакідаць,
А каб знала, куды дамоў уцякаць.

1269. Убірайся, дзеванька,
З хаты да мяцёлкаю,
А з двара — перапёлкаю,
За варота — зоркаю,
Раскланяйся з дзеўкамі,
Бо паедзеш з жонкамі.

1270. Убірайся, Галюхна,
І з хаты — галкаю,

А з сяней — мяцёлкаю,
З двору — куніцаю,
За вароты — маладзіцаю.

1271. — Скокні, дзявачка, з лаўкі далоўкі,
Пакланіся бацьку да ног,
Бо ўжо ж коні заложаны
Дый хочуць цябе ўзяць.
— Ой, я вялю аброк даць,
Няхай яшчэ пастаяць,
І я пайду ў нову камору,
Да бацькі на размову.
Была размова ўчора звечару
Дый цяпер зранку.

1272. — Да выбірайся, дзеванька,
Да выбірайся, малодзенька,
Бо стаяць возы ды на дарозе,
Конічанькі запражоны.
— Да трэба коням авёс даць,
Штобы яшчэ трошкі пастаяць,
Ой, пакуль жа я, маладзенькая,
З маманькаю расстануся.

1273. — Сабірайся, Нінaчка, хуценька,
Бо ўжо конікі запражоны,
За вароты завядзёны.
— Закрывай, мамка, юшкі, 2
Да давай нам падушкі.
Закідай, мамка, дрова, 2
Да бывай жа здарова.

1274. Сабірайся, дзевачка, сабірайся,
Бо ўжо коні запрэжаны.
Бо ўжо коні запрэжаны,
Пад вароты падведзены.
— Няхай коні пастаяць,
Дадуць нам, баярам, пагуляць,
Пакуль прыйдзе татка з саду
Ка мне на параду.

От і татка ідзе,
Мне карованьку вядзе.
Як татка на парог,
Так дзевачка да ног.
— Дзякуй, дзякуй, татка,
За тваё выхаваннейка.
За тваё выхаваннейка,
За добрае гадаваннейка.

1275. — Ой, Ганулечка, убірайся,
У кованы вазы ўкладайся.
Ой, час-пара, гадзіна твая
На быт выязджаці,
Сваго быту адведжаці.
— Ой, ужэ бо я ўбралася,
У кованы вазы ўклалася.
Ой, дзе ж пайшоў мой баценька?
Да саду, вінаграду,
Няма кому дзякаваці.
Няхай конікі пастаяць,
Белы аброк з'ядзяць.
А як прыйдзе мой баценька зэ саду,
То я яму падзякую і сяду.
Як куе зазулька, так куе,
А Ганулька бацenькові дзякує.
— Ой, казаў жэ ты, мой баценьку,
Што не забудзеш ты мяне.
Сягоння ж я на воз сядаю,
Наглядзіся на мяне,
Як на ружу чырваную,
Так на мяне маладую.

1276. Пайшоў Міколка ў калінавы лог,
Наламаў калінкі колькі мог,
Палажыў Надзейцы на прыпол.
Стала калінка буяці:
— Досыць табе, Надзейка, гуляці,
Пара на вазок сядаці,
Не на адну гадзінку — на ўвесь век,
Не на цябе адну — на ўвесь свет.

1277. А нярана, а нярана коні рзуць,
А куды мяне, маладу, павязуць?
Ці ў тыя людзі чужыя,

Ці ў тыя мужыкі ліхія,
Што мяняюць коні без цаны,
А б'юць жонак без віны?

1278. — Выйду за варотачкі —
Коні ржуць.
Куды маю маладую
Надзечку павязуць?
— Не плач, мацонька, не думай,
Павязуць мяне за Дунай,
За тыя лозанькі густыя,
За тыя рэчанькі быстрыя.
А я, мацонька, лозанькі пасяку,
Да цябе, родненька, у госці ўцяку.

1279. Пад зару падведзеныя,
Пад шатро пастаноўленыя.
Да стоячы хмыляюцца,
У дарогу паспяшаюцца.

1280. Кованы коні, кованы,
Каўрамі возы засланы,
Сядай, Надзечка,
Будзьмо з намі.

1281. — Ой, сядай, сядай, каханне мое,
Ніц не паможа плаканне твое.
— Ой, як жа бо мне з вамі сядаці,
Забыла ў хаце падзякаваці.
— Дзякуй табе, мама, за гадаванне,
Табе, татачка, за шкадаванне.
Табе, сястрычка, што не была остра,
А вам, брацікі, што паслі волікі,
А вам, дзевачкі, за кумпаночкі,
А вам, хлопчыкі, што бралі ў танчыкі.

1282. Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я сваей матулі дзякувала:
Дзякую табе, мама, што будзіла мяне рана, 2
Больш не будзеш, не будзеш.

26. Зак. 298

Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я сваему тату дзякувала:
Дзякуй табе, тато, што пускаў мяне гуляці, 2
Больш не будзеш, не будзеш.
Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я своему брату дзякувала:
Дзякуй табе, брату, што ганіў мяне ў хату, 2
Больш не будзеш, не будзеш.
Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я своей сястрыцы дзякувала:
Дзякуй табе, сястра, што часала косы часта, 2
Больш не будзеш, не будзеш.
Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я сваім парогам дзякувала:
Дзякую вам, парогі, дзе збівалі хлопцы ногі, 2
Больш не будуць, не будуць.
Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я сваім варотам дзякувала:
Дзякую вам, вароты, дзе стаяла хлопцаў рота, 2
Больш не будуць, не будуць.
Дзе б я ні хадзіла, дзе б я ні была,
Я сваей таполі дзякувала:
Дзякую вам, таполі, нагулялась я даволі, 2
Больш не буду, не буду.

1283. Чатыры коні заложаны,
Пад ганачак падведзены.
— Сядай, паедзем. 2
— Яшчэ з табою я не сядала,
Ойцу свайму не дзякавала.
— Ой, дзякую табе, ойча,
Што хадзіла ў цябе ў злоце,
Цяпер не буду. 2
Чатыры коні заложаны,
Пад ганачак падведзены.
— Сядай, паедзем.
— Яшчэ з табою не сядала,
Матцы сваей не дзякавала.
— Ой, дзякую табе, матка,
Што я была ў цябе гладка,
Цяпер не буду. 2
Чатыры коні заложаны,
Пад ганачак падведзены.

— Сядай, паедзем. 2
— Яшчэ з табою я не сядала,
Братам сваім не дзякавала.
— Ой, дзякую вам, мае брацця,
Што я жыла ў адной хаце,
Цяпер не буду. 2
Чатыры коні заложаны,
Пад ганачак падведзены.
— Сядай, паедзем. 2
— Яшчэ з табою я не сядала,
Сёстрам сваім не дзякавала.
— Ой, дзякую вам, сёстры,
Што мы з вамі былі вострьі,
Цяпер не будзем. 2
Чатыры коні заложаны
Пад ганачак падведзены.
— Сядай, паедзем. 2
— Яшчэ з табою я не сядала,
Сталам-лавам не дзякавала.
— Ой, дзякую, сталы-лавы,
Што я мыла штосуботу,
Цяпер не буду. 2
Чатыры коні заложаны,
Пад ганачак падведзены.
— Сядай, паедзем.
Паехалі.

1284. Пад дом прыехалі,
Убраццa казалі.
— Сядай, сядай, каханнё маё,
Не паможа плаканнё тваё,
Бо стаяць коні запражоны,
Стаяць возы залажоны.
— А я яшчэ не сядала,
Свайму татку дзякавала:
— Ой, дзякуй, дзякуй табе, ойча,
Што хадзіла ў срэбры, злоце.
Зараз не буду.

*Далей зноў: «Сядай, сядай...»*
*Пасля:*

Сваёй мамцы дзякавала:
— Дзякуй, дзякуй табе, мамка,

Што хадзіла чыста, гладка.
Зараз не буду.

*Далей зноў: «Сядай, сядай...»*
*Пасля:*

Сваім парогам дзякавала:
— Дзякуй, дзякуй вам, парогі,
Што хадзілі мае ногі.
Зараз не будуць.

*Далей зноў: «Сядай, сядай...»*
*Пасля:*

Сваім сцежкам дзякавала:
— Ой, дзякуй, дзякуй, мае сцежкі,
Што хадзілі белы ножкі.
Зараз не будуць.

1285. — Сядай, дзяўчына, на мой воз,
Я цябе павязу, дзе сам рос.
Стаяць коні залажоны,
Горкім жалем напаёны,
Сядзем, паедзем.
— Яшчэ ж я, млода, не сядала,
Яшчэ свайму татку не дзенькавала.
— Ой, дзенькую табе, татку,
Што сядзела ў тваёй хатцы.
Цяпер не буду.

*Далей зноў: «Сядай, дзяўчына...»*
*Пасля:*

Яшчэ сваёй мамцы не дзенькавала.
— Ой, дзенькую табе, матка,
Што хадзіла ў цябе гладка,
Цяпер не буду.

*Далей зноў: «Сядай, дзяўчына...»*
*Пасля:*

Яшчэ свайму брату не дзенькавала
— Ой, дзенькую табе, братку,
Што хадзіла ў цябе ў ладку,
Цяпер не буду.

*Далей зноў: «Сядай, дзяўчына...»*
*Пасля:*

Яшчэ сваёй сёстры не дзенькавала.
— Дзенькуе табе, сёстра,

Што хадзіла з табою гостра,
Цяпер не буду.
— Сядай, дзяўчына, на мой воз,
Я цябе павязу, дзе сам рос.
Стаяць коні залажоны,
Горкім жалем напаёны,
Сядзем, паедзем.

1286. Маетнічкі Свента-Вольскі дзевачкі,
Да маюць каля конікаў ручнічкі,
Яшчэ к таму шаўковы трапкачы.
Зарадзі, божа, Свента-Вольскім дзевачкам
Да лянок з галоўкамі,
То воны зробяць ручнічкі з трапкачамі.

1287. Рада ж я, сястрыца,
Рада ж я праводзіць, 2
Не магу прамовіць
За частымі слоўцамі,
За дробнымі слёзкамі. 2

1288. Сястра сястру аддала,
Шчаслівую долю дала.
— Будзь, сястрыца, здаровая, як вада,
А багатая, як зямля,
Караніста, як вярба,
Сямяніста, як пчала.

1289. Дзесь цябе, сватка, сэрца не мае,
Што проці ночы дочку шлеш
І праваднікa не даеш:
У праваднiцы — сястрыцы,
У праваднічка — роднага брацічка.
Павёз брат сястру да броду
Да й паказаў дарогу:
— Ідзі, сястрыца, да броду
Да й не думай дадому.

1290. Ой, брат сястрыцу
Правёў да броду
Да ўказаў сястры дарогу:

— Вот табе, сястрыца, дарога,
Будзь ты, сястрыца, здарова.
Пераедзеш, сястра, рэчаньку,
Запалі па дарозе свечаньку.

1291. Нешчаслівая гадзіна —
Не жалеіць Манечку радзіна:
Проці ночанькі вон гонюць,
А вароцік не адчынюць
І дарожаньку не ўкажуць.
Толькі жаласліў брацітка.
Ён сястры варотцы адкрываў,
Ён сястры дарожку ўказаў.
— Вот табе, сястрыца, дарога
Да свёкравага парога.
Вот табе, сястрыца, другая
Да свякровага дуная.

1292. Добра, браткі, што не загубілі,
Добра, браткі, што не расплятали,
Добра, браткі, што распыталі.
Памолімся госпаду богу,
Выведзьмо сястру на дарогу,
Штоб ты валоў не загубіла,
На гэту гару не хадзіла.

1293. Месяц дарожку асвяціў,
Братка сястрыцу правадзіў:
— Едзь, мая сястрыца, здарова,
Невялікая твая дарога.
Хоць невялікая — шырока,
Ад бацькі, ад маткі далёка.
Ой, бліжэй, бліжэй к свёкарку
І маладому Іванку.

1294. А месяц зямельку асвяціў,
А брат сястрыцу правадзіў,
Правадзіўшы, гаварыў:
— Гэта табе, сястрыца, дарога,
Да будзь, сястрыца, здарова.

Будзь здарова, як вада,
А будзь багата, як зямля,
А будзь красненька, як вясна,
А будзь прыветна, як лета.
— Няпраўда твая, братка,
Непраўдзівыя твае словы:
Вадзіца здарова зімою,
Зямелька багата пашнёю,
А вясна красна з краскамі,
А лета — прывета з цёплым днём.

1295. Віхор віраю наламіў,
Туды брат сястру правадзіў,
Да праводзячы гаварыў:
— Добра ноч, сястрыца, добра ноч,
Не на адну ночку — на увесь век,
Не на адну цябе — на ўвесь свет.

1296. Не віхор вароты растварыў,
Бацюшка дачушку прывадзіў:
— Едзь, мая дачушка, здарова,
Шчасліва табе дарога.
Ей, будзь здарова, як вада,
Ей, будзь вясёла, як пчала,
Ей, будзь багата, як зямля:
Вада здарова—бегучы,
Пчала вясёла—летучы,
Зямля багата—родзючы,
Ты, мая дачушка,—жывучы.

1297. Да не сонейка за бор заходзіць,
Да брацейка сястрыцу праводзіць:
— Вярніся, сястрыца, дадому,
Добра будзе пасылаць табою.
— Пасылай, братка, сваёй жаною,
Сваёй жаною і меншай сястрою,
А я не вярнуся з табою.

1298. Месяц дарожаньку пасвяціў,
Цесць сваго зяця праводзіў:
— От табе ж, зяцю, дарога

Ад маго чэснага парога,
Да едзь, донечка, здарова.

1299. А не матка была — мачыха: *
Прагнала дочаньку скрозь ночаньку,
Ні правадніка не дала,
Ні дарожаньку не ўказала.
Брацец сястрыцу правадзіў,
Ён ёй верненька гаварыў:
— Не забывай, сястрыца, не забывай,
Часценька ў госцейкі прыбывай.
— Я не ў тыя людзі папала,
Каб часта ў госці прыбывала.

1300. —Едзь, мая дачушка, здарова,*
Прыбывай у госці ўзнова.
— Не буду, маманька, не буду,
Не ў тыя рукі папала,
Каб часта ў госці бывала,
А ў гадочак — разочак,
А ў нядзеленьку — часочак.

1301. За лес сонца заходжвае,
Дачку мамка праводжвае:
— Зайдзі, дочанька, за лясочак.
Падай жа мне галасочак.
Зайшла дачка за горачку,
Падала мамачцы гаворачку,
Зайшла дачка за лясочак,
Падала галасочак.

1302. Ой, ступіла залатым абцасам на ўслон
І сыпнула шчасцем, доляю цераз стол.
— Я ж была мяшчаначка, а ў сям'і сялянчка,
Я ўмела калачы пячы, я ўмела таргаваці,
Я ўмела таргаваці, маладую дзеўку аўсом асыпаці.

1303. Калясом месячык, калясом,
Абсей, мамачка, нас аўсом.
Каб жа наш авесец зелен быў,

Каб жа наш малады весел быў.
Зелен авясец краскамі,
Весел малады свашкамі.

1304. Абсыпай, маці, жытам
І шчаслівым бытам,
Шчасцем, здароўем,
Добраю долею.

1305. На парог наступаю,*
Аўсом абсыпаю,
Аўсом і жытачкам,
Каб было лепша жыцце.

1306. Не над рэчкаю стаю
Ды не золата лічу,
Не ў картанькі іграю —
Маладую асыпаю.

1307. Я сваё дзіцятка
Аўсом, хмелем абсыпаю, 2
Шчасце-долю пасылаю.
Жыві-жыві дзіцятка,
Як птушачка ў садочку, 2
Як пчолачка ў вулёчку.

1308. Першым разам, божым указам,
Не па беражочку ходзе,
Не косенька грае,
Не гарэшкі шчыпае,
Я ж цябе, малада Маруська,
Дабром абсыпаю.

1309. Закавала зязюленька ў лесе на бярозе,*
Ой, закавала зязюленька ў лесе на бярозе,
Заплакала дзяўчынанька ў бацькі на парозе.
— Ой, не куй, не куй, зязюленька, ў лесе на бярозе,
Не плач, не плач, дзяўчынанька, у бацькі на парозе.

— Ой, як жа мне не каваці, ужо ляса рубаюць,
— Ой, як жа мне не плакаці, ужо лета мінаюць.

1310. Стукнула дзвермі, гаркнула вельмі:
— Вот табе, мая мамачка,
За тваё гадаваннейка.

### ГАЛАШЭННІ

1311. Мамулька родная, а куды ты ідзеш?
А куды ты ідзеш, што кажух надзяеш?
А ці жыта жаці, ці зяця вітаці?
Калі жыта жаці — не забудзь сярпочка,
Калі зяця вітаці — не забудзь папытаці,
А ці не п'яніца, а ці не разбойнік,
А ці ён разбойнік, а ці ён картыжнік?
А калі п'яніца — на гарэлцы прап'ець,
А калі разбойнік — на паўдарожкі заб'ець,
А калі картыжнік — у карты прайграець.

1312. Расчыніцеся, цісовыя дзверы,
Расступіцеся, добрыя людзі!
Прапусціце мяне за цісовыя столікі,
За бялёвыя скацеркі.

1313. Маменька родная,
Дабранач табе,
А не той дабранач,
Што на адну ноч,
А той жа дабранач,
Што на ўвесь век.
Маменька родная,
Не забывай мяне,
Калі ж худа была,
Праклінай жа мяне.
Калі добра была,
Успамінай жа мяне.
Маменька родная,
Я цябе прасіла,
Як бога маліла:

Не аддавай мяне далёка
У бальшую сям'ю.
Ты мяне саўсім не слыхала,
Аддала мяне ў вялікую сям'ю,
У дрэнную хату.

1314. Татулечку мой,
У дарожку еду.
Даю добры дзень
Не на адзін гадочак,
На вечны часочак.
Куды будзеш ісці,
Так захадзіся,
Адкуль будзеш ехаць,
Так заязджайся,
На мяне, маладу,
Не забывайся.
Мой татулечка,
Чы будзеш любіць,
Як раней любіў?

1315. Татачка родненькі,
Благаславі ты мяне, маладу,
На чужую старану
І [illegible] чужой мацеры ступіці,
Наравы зведаці.
Ці такія наравы,
Як у таткі былі?

1316. Татачка родненькі, баславі маладзе,
Баславі маладзе а да хаты ступіць.
А да хаты ступіць, на пасадзе сесці,
На пасадзе сесці на шчаслівым месці.
Калі ты баславіш, дык і бог баславіць.

1317. Благаславі мяне, мой родны папачка,
Куды ж ты мяне далёка так аддаеш?
Благаславі мяне, мая родная мамачка,
А што я задумала, загадала,
Благаславі ж мяне шчаслівай долечкай.

1318. Татачка родненькі, я к табе іду,
Я к табе іду, на вяселле заву.
На вяселле заву і старых і малых,
І старых і малых, і чужых і сваіх.
Татачка родненькі, а прыступ к століку,
А прыступ к століку, а к майму словіку.
А прыйдзі ж ты ка мне, благаславі ж ты мяне.

1319. Татулька, родны мой,
Я табе каруся, 2
У ножанькі кланюся.
Падаю да ножак
І прашу да слёзак,
Благаславі ж ты мяне
І шчасцем, і долей,
І добрым здароўем.
Божухна высокі,
Узгляні ж на мяне, 2
Благаславі ж ты мяне,
Надары ж ты мяне
І шчасцем, і долей,
І добрым здароўем
На жаноцкі мой век
І на ўвесь белы свет.

1320. Петушок-певунок, ты не пей раненька,
Ты не пей раненька, не будзі мамачку,
Я ж сама пахаджу, мамачку пабуджу:
— Мамачка родная, не кідай жа мяне,
Не кідай жа мяне, блаславі ж ты мяне,
Блаславі ж ты мяне а і з хаты ступіць,
А і з хаты ступіць, у чужыя людзі ісці...
Петушок-певунок, ты не пей раненька,
Ты не пей раненька, не будзі татачку,
Я ж сама пахаджу, татачку пабуджу:
— Татачка родненькі, не кідай жа мяне,
Не кідай жа мяне, блаславі ж ты мяне,
Блаславі ж ты мяне а і з хаты ступіць,
А і з хаты ступіць, у чужыя людзі ісці...

*Калі маладая сірата, то спявае:*

Блаславі ж ты мяне, горкую сірату.

***З гэтымі ж словамі маладая звяртаецца да ўсіх сваіх родных.***

1321. Мая мамулечка, мая родная,
Не спяшы маладу на пасад садзіць!
Да пазволь, мая мамка, на сяло сходзіць,
На сяло сходзіць, падружачак сабраць,
Падружачак сабраць галоўку часаць.
Мая мамулечка, мая родная,
Ускладзі белы ручкі на галовачку!
Да ці гладка галоўка ўчосана,
Да ці крэпка касіца ўплецена!
Не сама ж я часалася,
А часалі ж мае дзевачкі,
Мае дзевачкі, падружачкі,
А яны ж часалі, наругаліся,
Над русай косухнай насміхаліся!

1322. Мая маменька, мая мілая,
Благаславі ж мяне шчасцем-долікам,
Шчасцем-долікам ды багаццікам,
А каб я жыла, уцяшалася,
На цябе, мамка, не абіжалася.
Мая мамачка, мая мілая,
Спасіба ж табе за гадаваннейка,
А што ты мяне ды гадавала,
Ды і молайцу дый сахраняла.
А мой татачка, а мой міленькі,
Спасіба ж табе за гадаваннейка,
А што ж ты мяне добра гадаваў,
А што ж ты мяне ў людзі пусціў.
А паеду ж я ў дарожаньку,
У дарожаньку дужа длінную,
А каб мне была шчасце-долечка,
А каб конікі не капаціліся,
А каб шлі яны ды весяліліся,
Ды весяліліся ды і звіняся...

1323. Ай ты, родная мая мамка,
Дай мне доленькі-шчасцейка,
А я ж іду ў чужыя людзі
І ка чужой маманькі.
Будзіць яна мяне, можа, забіжаць,
Яна будзіць мяне, можа, абгаварываць,
А мне ж яе нада будзіць уважаць,

Каб жа яна мяне не забіжала.
Дасвіданя, мая мамка родная,
Дасвіданя на ўвесь век...

1324. Дабранач табе, мая маманька,
Благаславі мяне, мая маманька,
І надзялі мяне харошай долей
І харошым шчасцем.
І кланяюсь табе, мая мамачка,
Дужа нізенька.
Благаславі мяне, мамачка,
Благаславі мяне, мая родная.
Не забывайце ж вы мяне,
Прыхадзіце ка мне ў госці,
Адведвайце мяне дужа часценька.
А я жыць буду дужа далёка:
І ў далёкае й месцечка,
І не ў знакомую дзярэўню,
І ў вялікую сямейку.

1325. Прашчай, мая маманька,
Прашчай, мой родны татанька,
Вы ж мяне не кідайце,
Вы ж мяне не забывайце.
Прашчайце, мае радзіцелі,
Прыхадзіце ка мне часценька.
Прыхадзі, мой татка,
Ка мне дужа часценька,
Мажа, мая долечка будзець ліхая...

1326. Мая мамулечка, мая родная!
Да куды ж мяне выпраўляеце,
Ці на йгрышчака, на гульбішчака?
Мамачка ж мая міленькая,
А ці наўчыла ж ты мяне
Чужому татачку гадзіці!
А ці ж наўчыла ты мяне,
Як чужой сямейкі патрапляці!

1327. Мамулька родная, выпраўляй жа мяне,
Выпраўляй жа мяне, навучай жа мяне!
Па чужых парогах я не ўмею хадзіць,

А чужому татку я не ўмею гадзіць!
А чужы татулька — што слядочак ступнеш,
Што слядочак ступнеш, то разок папракнець.
А мая красата па падлаўю пайшла,
Па падлаўю пайшла, слёзачкі раняя,
Слёзачкі раняя, ручачкі ламая!

### Нявеста

1328. Ой, любімая мая мамка-радзіцелка,
А ці будзеце вы мяне жалеці,
Як не буду я ў вашай хатке радзіцельскай?
І не забывайце, мае радзіцелі,
Можа, мне будзець бальшое горушка,
А вы ж мяне не кідайце,
Вы ж мяне ў абіду не 'ддавайце.
А мой жа родны татанька,
А мая ж родная маманька,
Падыходзьце ж вы пад маё вакошачка,
Ці не ўвідзіце вы там сваю дачушку,
А мне ж ісці ў чужыя людзі...

### Маці

Любімая мая дачушка,
Куды ж ты ад мяне ўлятаеш?
Улятаеш жа ты ў чужыя людзі,
Улятаеш ты з роднага свайго дома.
Як я раненька ўстану,
А цябе ў хаце нет,
Нет маёй работніцы,
Нет маёй памочніцы.
Дачушка мая, пястушка мая,
Аддаю цябе ў чужую сям'ю,
Устрэцяць там цябе чужыя людзі,
Можа, ты будзеш там гараваць.
Прашчай, мая дзетачка,
Благаслаўляю цябе на доўгі век,
На харошую дарогу.

*Нявеста і маці галосяць адначасова*
*на фоне песні «Кальнула матку ў грудзі».*

1329. Дачушка мая, каму ж ты мяне кідаеш,
А што ж я цяпер буду без цябе дзелаць,
А хто ж мне будзець работку рабіць,
А хто ж мне будзець вадзіцу насіць, хатачку месці.

1330. Куды ж я цябе аддаю
У чужыя людзі?
А я ж цябе гадавала,
А я ж табой красавалась,
Цяпер жа, можа, ты будзеш гаравацъ.
А чужая маманька-свякрованька
Гэта ж няродная маманька.
А чужы татанька-свёкар
Гэта ж няродны татанька.
Устрэцяць цябе чужыя людзі,
Можа, яны цябе будуць абіжаць,
А ты ж прасі свайго падружайка,
Каб ён цябе наглядаў,
Каб ён цябе сваёй маманькі
У абіду не 'ддаваў...

1331. Куды ж ты, мая мілая дзетачка, сабралася,
Куды ж ты гэта так нарадзілася,
І хто ж цябе там устрэціць?
Няродная мамачка і няродны татачка,
Устрэцяць цябе чужыя людцы.
Благаслаўляю цябе шчаслівай долечкай...

1332. Прашчай, мой родны татулька,
Аддаў ты мяне замуж за нелюбімага,
А я ж яго не любіла,
Я з ім нідзе не ўстрачалася,
Як жа я буду з ім жыці?
Не найшла ж я нідзе сваю родную мамачку,
Толькі я найшла сваю хросную мамачку,
Была б у мяне родная мамачка,
Яна бы ж мяне ніколі не аддала
За нелюбімага і чужога...

1333. Татулька родненькі! Дабранач даю,
Дабранач даю на чужую старану.
К чужому татульке, к чужой матульке.
Чужая старана без ветру сушыць,
Чужы татулька, чужая матулька без віны журыць.
Таткава ніва як радзіла, так радзі,
Калі доля мая, так хадзі за мной.

Калі нядоля мая, так не хадзі за мной.
Татулька родненькі!
Тагда ж ты мяне жалеў, як я служка была,
Цяпер, татулька, я госцейка твая.
Татулька родненькі,
Калі добра будзіць — ка мне прыязджай,
Калі дрэнна будзіць — мяне прынімай.

1334. Дарагая ж ты мая мамулька!
А што ж ты са мною робіш?
Аддаеш мяне ў чужыя людзі
Дый нялюбаму чалавеку.
Як жа я пражыву сваю жысь з нялюбым?
Няхай бог табе ўсё прасціць,
І на мяне, мамуля, не сярдзіся.
Я папярэчыць не магу,
Што скажаш, тое й зраблю.

1335. Дачушка ж мая!
А я ж думала, што ўсё жыццё
Пражывём не разлучаяся.
А ты ж мяне не паслухала —
Палюбіла мне нялюбага.
А людзі ж гаворуць, што ён не хазяін,
Ён ні разу не будзіць сваей жонкі любіць
І вечары дома правадзіць.
Ён і ў карты гуляіць і гарэлку п'ець,
Як жа ты з ім пражывеш сваю маладую жысь?
Не пiняй, мая дачушка,
Калі што будзіць неладна.
Няхай табе бог даець усё добрае, харошае!

1336. Цяжка камышку па пяску каціцца,
Цяжка маладзе на пасадзе садзіцца.
Татулька родненькі, благаславі ты мяне,
На пасадзіку сесці на шчаслівым месце.

1337. Пераймі, мой татулька, карміле́ц
І распрасі ў мяне сірацінкі,
Дзе я была-бывала,

Што я відзела-відала.
Я была на страшным суду,
Адсудзілі-адрадзілі
Ад роднага таткі,
Карміліцы мамкі.

1338. Пераймі мяне, радзіцельніца, родна матулька,
Запытай у мяне, дзе я была?
Была я ў царкве божай, стаяла,
Маё маладое сярдэчка зжахнулась,
Хуткія ножанькі падагнуліся,
Як узлажылі на мяне вянцы зялезныя.
Пераймі мяне, родна матулька,
Адчыні мне сені новыя,
Не знабі мяне за новымі сенямі,
Назнаблюся я ў чужых людзях,
У чужога, няроднага татулькі,
У чужой, няроднай матулькі.

1339. Маё мілае дзіцятка, дзе ты было?
Усё мне не верылась,
Што ты была ў божай царкве,
На страшным судзе,
Што ты мяне пакінула.
Хто мае ручанькі падменіць,
Хто цяжку працу зробіць.

1340. І татулька родненькі,
Ці не твой гэта зяць?
Ці не твой гэта зяць
А сядзіць за сталом?
А сядзіць за сталом,
Як пугач за дваром.
Шапачкі не сойміць,
Галоўкі не склоніць.

*А ён яе таўкель у бок, а яна:*

— Не таўзай у бачок,
Уварвеш кулачок.
Не ступай на панчошку,
Уварвець яна ножку.

1341. Татунька, родны мой, ты варот не запёр:
Мужыкоў-чужакоў панайшло к нам на двор.
Стукаюць-грукаюць ды на нашым дварэ
І дзверы ломяць яны ў хатку к табе,
Заграбуць, павязуць мяне, млоду, к сабе.
Татунька, родны мой, ты ратуй жа мяне!
Брацітка, родны мой, чужанін на дварэ,
Калі любіш мяне, дык ратуй жа мяне!..

1342. А вы, скацерці мае бялёвыя,
А не я гэты столікі стаўляла,
А ставіў гэты столікі мой татухна,
Засцілала скацерці мая матухна.
А села за стол з сваім брацікам.
Не турбуйце маю буйну голаву,
Не бузуйце маю русу косыхну.
А стурбуюць галоўку чужыя мамухны,
А збузуюць русу косыхну чужыя татухны.

1343. Радзіцель мой родны татка,
Радзіцелка мая родная мамка!
Благаславіце мяне, надзяліце мяне.
Зашто ж ты, мой родны татка, на мяне рассярдзіўся?
Рана вы маю галоўку завязалі,
Нямножачка я ў вас пагуляла,
Нямножачка пакрасавалась!
Ці я ж у вас была непаслушніца?
Чужый жа татка не жаласліў,
Чужая ж мамка не пагадліва!

1344. Дачушка ж мая!
Ці я цябе не кахала?
Ці я цябе не ляле́іла?
Я й каля цябе прасіджывала
Й ночы не спала,
А ты ж гэта не лічыш,
Й ўсё забылася.
Прамяняла мяне на чужога неізвестнага,
Нёш ён лучшы мяне прыглянуўся?
Ну калі ж ужо так —
Няхай бог табе прасціць.
Не забудзь мяне на старасці лет.
Надзяляю доляй і шчасцем,
І добрым здароўем.

1345. Дарагая ты мая мамулечка!
А прасці ж ты мяне,
Я ж гэтаму не рада,
Я ж цябе любіла і ні разу не кіну:
Ні цяпер, ні после, ні ў старасці лет.
Верна ўжо мая такая судзьба,
Што кідаю сваю сям'ю
І іду ў чужую.
А нёш ты, мамулечка, забылася,
Што я цябе слухала,
Ні ў чом не папярэчыла.
Прасці ж ты мяне
І благаславі ж ты мяне
У чужыя людзі, к чужому чалавеку.

1346. Татулечка ты мой!
А што ж ты на мяне рассярдзіўся?
Праганяеш мяне ў чужую сямейку,
К чужому чалавеку.
Ці я цябе не слухала?
Ці я ж у цябе не рабіла?
Я й ваду насіла,
Я й печку тапіла,
Я й кароў карміла,
Я й зямлю арала,
А ты ўсё забыўся і рассярдзіўся.
Калі ж будзіць так — ну, й прасці мяне
Й блаславі мяне
І доляй, і шчасцем, і добрым здароўем!

1347. Брацітка мой,
Не сядзі на палу
Да сходзі к кавалю,
Да скуй замочак,
Адамкні садочак,
Выламі ветачку,
Падмяці сцежачку.

1348. Петушок-певунок, ты не пей раненька,
Ты не пей раненька, не будзі дзевачак.
Я ж сама пахаджу, дзевачак пабуджу.

Дзевачкі-сястрыцы, а чаго ж вы прыйшлі,
А ці коску часаць — бярыце шчотачку,
А на вуліцу звадь — гуляйце без мяне.

1349. Сястрыца родная,
Мы ж з табой гулялі,
Цвяточкі саджалі,
Мы іх палівалі.
А твае цвяточкі расцвітаць будуць,
А мае цвяточкі засыхаць.
Ты свае цвяточкі паліваць будзеш,
А мае цвяточкі вырываць будзеш.

1350. Спасіба, мае падружкі,
За суражаннейка,
Што вы маю галоўку
Красіва прыбралі.
Прыбралі маю галоўку,
Как у саду цвяточак,
Цвіці, мая галоўка,
Пасledні дзянёчак.
Больша табе, мая галоўка,
У цвятах не цвіцеці.
Больша мне з вам, мае падружкі,
У радочку не сядзеці.
Больша мне з вам, мае падружкі,
Па гулянечкам не хадзіці.
Зарастуць мае сцежкі-дарожкі,
Дзе я з вам вясёлыя дзянёчкі гуляла...

1351. А не жаль мне таго, хто пры боку сядзіць,
Хто пры боку сядзіць ды за ручку дзяржыць.
Жаль жа мне таго, хто ў парозе стаіць,
Хто ў парозе стаіць, слёзачку раняець,
Слёзачку раняець, рукаўком уціраець.

1352. А спасіба, мая мамка,
За тваё надзеляннечка,
За тваё надзеляннечка,
За тваё пагуляннечка,

За тваю волю вольную,
За тваю негу нежную.
І спасіба, мая сястрыца,
Што ты маю галоўку прыбрала,
Што ты маю галоўку прыбрала
І цвяточкамі надзявала.
А не радавайся, мая галоўка,
Аб етах цвяточках.
А еты цвяточкі нямнога цвітуць,
Яны скора асыпаюцца
І слязамі заліваюцца...

1353. Мамачка родная, а дзянькую табе,
А дзянькую табе за падаркі твае!
Ды дай, божа, даждаць — сваім дзеткам аддаць.
Татулька родненькі, а дзянькую табе,
А дзянькую табе за падаркі твае!
Ды дай, божа, дажыць — сваім дзеткам аддаць.
Братулька родненькі...

*Далей тое ж да сястры і іншых сваякоў.*

1354. Мамулька родная, ты не ўвідзіш мяне,
Ты не ўвідзіш мяне ні ў танку, ні ў вянку.
Ні ў танку, ні ў вянку, ні ў дзявоцкім станку.
Ні ў дзявоцкім станку, а ні ў русай касе,
А ні ў русай касе, ні ў дзявоцкай красе...

1355. Свіснулі гусі-лебедзі
Із мора злятаючы:
— Ці ўсе нашы лябёданькі ўзняліся?
А лябёдачка асталася,
На моры прысталася,
З лябёдкамі папрашчалася.
Свіснулі сваты-баяры
Із двара з'язджаючы:
— Ці ўсе нашы сваточкі сабраліся?
А Волечка асталася,
У хатцы прысталася,
З мамачкай прашчалася.

1356. — Садзіся, Паўлінка, на наш воз, *
А палюбоўнічкам хвіга ў нос,
А хто любіў — таму дзве,
А хто не любіў — таму не.
— А каб ты, свацця, не ўзрасла,
Як ты нам хвігу паднясла.
А каб ты спухла на ўвесь воз,
Каб цябе і конік не павёз.

1357. Воран крача, воран крача,
Да на коліку ж сядае, 2
У вырай вылятае.
Плача Галачка, плача Галачка,
Да на воз сядае,
Да ўсё з мамкаю прашчае.
— Сядай, Галачка, на вазы,
Да пакідай мамчыны наравы:
Першы нораў — гулянне,
Другі нораў — пытанне:
Куды ісці, не пытаціся,

Куды ісці, не пытаціся,
Скуль прыйсці, не баяціся, 2
А цяпер, куды ісці, пытаціся,
Скуль прыйсці, баяціся.

1358. Не туляйся, дзевачка, не туляйся,
З намі ў дарожку сабірайся,
Пакідай у маткі норавы.
Першыя нораўкі — вячоркі,
Другія нораўкі — пагулянне.
Русая каса — ўся краса.
Русая каса расплятаецца,
Усё тваё гулянне мінаецца.

1359. Уссядай, Любачка, на вазы, *
Пакідай мамчыны наравы,
Што да па начах хадзіла,
Крупы і сала насіла,
Да чужых жаніхоў карміла,
На свайго Іванку забыла.

1360. На вазы, Галечка, на вазы,
Пакідай мамчыны наравы.
Што й першы нораў — гулянне,
А другі нораў — спяванне,
А трэці нораў — наначкі.
Было табе наначкі не хадзіць,
Маладога Іванечку не любіць.

1361. Маладая дзеванька,
Пакідай вечарніцы
У бацюхна да на паліцы,
Бяры сабе да нарованьку
Да сцеражы да галованьку —
Будзе цябе жаніх біці.
Будзе біці да нагайкаю —
Штоб ты была да хазяйкаю;
Будзе біці да дубінкаю —
Штоб ты была гаспадынькаю;
Будзе біці кулаком у плечы—

Штоб ты стаяла каля печы;
Будзе біці да валокаю,
Штоб не была прывалокаю.

1362. У нашага Іванькі конік вараны,*
Пакідай, Манечка, свае наравы.
Як дома пакінеш — будзеш добра жыць,
Як з сабой забярэш — будуць цябе біць.
У нашай у печы пірог пячэцца,
На цябе, Манечка, бізун пляцецца.

1363. Крача ж воран, крача,
З луга не вылятае.
Плача Таццянка, плача,
На воз не ўссядае.
— Да ці, ой, як жа мне на воз ўссядаці,
Да што стаіць бацька й маці.
Маці, да што стаіць бацька й маці,
Не вяляць кубла браць.
Чорны, ой, кубла ж мой чорны,
Палавіна ж не поўны.
Яна ўскінула радно
Да й тое ■ кубла відно.
Паясішча, ускінула паясішча,
Да і тое ў кубле свішча.

1364. Крычыць вутачка, крычыць,
З возера не злятаець, 2
Вутачак не кідаець.
Аб лёд крыллямі б'ецца,
З вутачкамі расстаецца.
Плачыць Томачка, плачыць,
З-за стала не вылазіць, 2
Мамачкі не кідаець.
Аб стол ручкамі б'ецца,
З мамачкай расстаецца, 2
З Віцечкам пазнаецца.

1365. — Зімовае зеллейка, ці ты зімы баішся,
Па дарозе не сцелешся?
Маладая дзеванька, ці ты коней баішся?

Што на воз не садзішся?
— Я ж зімы ды не баюся,
Па дарозе рассцялюся.
Я ж коней не баюся,
Са сваім родам раскланяюся.
— Кланяйся ды раскланяйся,
То з дружком, то з таварышкай,
То з блізкай суседачкай.

1366. Ужо зазулька ў лугі ўлягае,
Ужо дзеванька ў возы сядае,
Сваім дзевачкам дабранач дае:
— Дабранач, дзевачкі, мае кампаначкі,
Наце вам падаруначкі:
У гародзе рута, у саду васілёчкі.
Рвіце цвяточкі да і віце вяночкі,
Спамінайце мяне штонядзелька.
Не спамінайце валы пасучы,
Да спамінайце вяночкі ўючы.

1367. На дабранач да, Ганначка, сястра наша,
Мы не твае падружачкі, ты не наша.
Кідай свае вечарніцы на паліцы,
Кідай свае недапрадкі каля маткі.

1368. — На дабранач, мае сёстры, на дабранач.
— Прыходзь к нам на вячоркі хаця нанач.
— А ўжо мае вячорачкі ў куточку,
Цяжка-важка на сэрдачку і ў жываточку.
— Паслухайце, мае сёстры, што я вам скажу.
Пасеяла круглай мяты цэлую граду.
А хто ж маю круглую мятку будзе паліваці,
А хто ж мяне на чужыне будзе ўспамінаці?
— Будзе паліваці дробны дожджык,
А будуць успамінаці родны сёстры.

1369. За сеньмі, за сенячкамі
Развіталася Надзечка
З таварышкамі.

Каліну ламала,
Шчыпала арэшкі:
— Заставайцеся,
Мае тарварышкі.

1370. Ой, прасіце, дзеўкі, бога,
Каб дуга паламалася.
Каб дуга паламалася,
А Ганначка нам засталася.
Наша дуга не паломіцца,
А Ганначка не застанецца.
Наша дуга яшчэ новая,
А Ганначка ды й вясёлая.

1371. Дзевачкі, мае сястрычкі,
Вы садзіцеся на воз,
Каб вас конік не павёз,
Каб дуга зламалася,
Каб атоса парвалася,
Каб я з вамі гуляла,
Я бы хлопцаў вітала.
Сталі мае парогі высокі,
Сталі мае суседзі далёкі,
Пакінулі дзевачкі збірацца,
Пакінулі малайцы з'язджацца.

1372. — Дзевачкі мае, сястрыцы,
Уссядайце усе на воз,
Каб мяне конь не павёз,
Каб дуга зламалася,
Супоня парвалася,
Атоса садралася.
— Не бядуй, мая дзевачка:
Дуга мая дубовая,
Супоня шаўковая,
Атоса павіваная,
Ты мая ды каханая.

1373. Белы свет на парозе,
Дзевачка на чужым возе.
— Дзевачкі, мае сястрыцы,

Сядайце ка мне на воз,
Каб мяне конь не павёз,
Каб дуга зламалася,
Каб я, маладзенька,
У мамачкі засталася.
Каб супоня парвалася,
Каб я, маладзенька,
У мамачкі засталася.
Маей дузе не зламацца,
Маей супоні не парвацца,
А мне, маладзенькай,
У папачкі не застацца.

1374. Войчаньку мой родненькі,
Высцілай да высока воз,
Каб мяне конь з двора не звёз,
Каб гужэ парваліся,
Каб я тут засталася.

1375. Скача заічка, скача
З лажка, ды не выскача.
Плача Ганна, плача,
А на воз не ўссядае,
Татульку гукае:
— Татулька мой родненькі,
А падай жа мне ручку,
Пераначую ў цябе ночку.
— А Ганначка, дзіцятка,
Хоць будзеш начаваці,
А не будзеш век векаваці.

1376. Шчабеча салавейка, шчабеча,
З бору ляцець не хоча.
Да плача Кацечка, усё плача,
Ад мамкі ехаць не хоча.
— Да падай, мамачка, ручаньку,
Да пераначую ночаньку.
А мамачка ручанькі не дае,
За варота конікі праводзіць.

— Вот вам, конікі, дарога,
Едзь, мая дачушка, здарова.

1377. Агледзіцца маці,
Што чатыры вуглы ў хаце, 2
А пяты — на парозе, 2
Ужо Манечка на дарозе. 2
— Да падай, мамка, ручку, 2
Пераначую ночку.
Мамка ручкі не падае, 2
Проціў ночачкі ўладжае.

1378. Бярозка з дубам развіваецца,
Дзевачка з родам раз'язджаецца:
— Падай, татка, ручку,
Начавацьму ночку.
Татка ручкі не дае:
— Едзь, дзіцятка, ад мяне.

1379. Крача вутачка, крача,
З-пад млына ўсплываючы.
З-пад млына ўсплываючы,
Вуцянят шукаючы.
Плача Манечка, плача,
Ад маткі ад'язджаючы.
Ад маткі ад'язджаючы,
Свой дом пакідаючы:
— Да й падай, матка, ручку,
Да пераначую ночку.
Ды падай яшчэ другую,
Ды я яшчэ і пераднюю.
— Не буду, дзіцятка, падаваць,
Бо не будзеш начаваць.

1380. — Да падай, матка, ручку,
Да падай другую, 2
Я ў цябе да заначую.
Абазваўся Вовачка:
—Я не буду тут начаваць, 2
Будзе мяне матка ждаць,
Будзе мяне біць-караць.

1381. Лятала пчолка каля барочка,
Да ў бор не ўлятае,
Ходзіць дзявонька каля вазочка,
Да на возе да не сядае,
Просіць у бацюшкі правай рукі.
— Да падай жа і другую,
Начавала ў цябе тую ночаньку,
Пазволь мне і другую.
— Не падам, дзецятко, правай рукі,
Да не падам і другой,
Начавала ў мяне тую ночаньку,
Да не пазволю другой.

1382. Малада дзеванька ў воз сядала,
Сваго баценькі ручкі жадала:
— Да падай, баценька, правую ручаньку,
Чы не вернеш мяне ды назад до сябе.
— Рад бы б я, дзіцяці, абеі падаці,
Да не вярну цябе ды назад до сябе.

1383. Малада Манечка на воз сядае,
Мацюнцы ручку дае:
— На, табе, мацюнка, ручку, на табе дзве,
Прыгарні мяне к сабе.
— Дзіцятка мае, ручанька твая,
Ты не служанька мая.
На маім дварэ, на чужым вазе
Мусіш ты паехаці.

1384. Маладая Манечка на воз сядае,
Да бога ручкі ўзнімае:
— Паздароў, божа, Івася мога
І мяне каля ёга.

1385. Зязюлька куе — сад разлягае,
Дзеванька плача — на воз сядае.
На воз сядала — ручку давала:
— Дзякуй табе, матка, што гадавала,
Дзякуй за тваё гадаваннечка
І за харошае выдаваннечка.

1386. Да прыступ, прыступ, да сівы конічак, да ганку,
Да пагаворым, мая мамачка, на астанку.
Да прыступ, прыступ, да сівы конічак, да тыну,
Ужо ж я цябе, мая мамачка, пакіну.

1387. Месяц узыходзіць,
А зара зарыцца.
Маладая Ірачка
Ды на воз садзіцца.
— Падыдзі, маманька,
Да мяне блізенька.
Да мяне блізенька,
Пакланюся табе нізенька.
— Не хачу, дзіцятка,
Я твайго паклону,
Ступай ад возу
Ды хадзі дадому.
— Рада б я, маманька,
З воза ступіці,
Ды сядзіць Мішачка,
Будзе сварыці.
Рада б я, маманька,
З воза ўстаці,
Ды баюся, што Мішачка
Будзе крычаці.

1388. Чабор мой зялёненькі, *
Не засцілай дарожаньку,—
Там паедзе стары дзядок,
Павязе ён стару бабку,
Старую, некрасівую.
Чабор мой зялёненькі,
Ды засцілай дарожаньку,—
Там паедзе малады хлопчык,
Ён павязе маладую дзевачку,
Маладую, красівую.

1389. Дай, божа, маладым
Добру долю абаім.
Маманька, родненькая,
Пазачыняй брамачкі

Ды пастаў ля вартачкі,
Бо вылеціць ды галубанька.
Галубанька ды сівенькая,
Марыначка маладзенькая.

1390. Адарчына матухна,
Зачыняй да вароцечка: 2
Вылятае да лябёдачка.
Сама яна да сівенькая,
Галовачка да бяленькая.
Да вывозіць да дабра многа:
Сем кублаў з сувойцамі,
А восьмы з чырвонцамі.

1391. Нарві, матка, ляжджаю,
З тваго надворка з'язджаю.
Насып, матка, аеру,
З тваго надворка паеду.

1392. Страпянулася ластаўка,
З-пад варот выскачыла:
— Чуе маё пер'ейка, чуе,
Што мне цяпер не так будзе,
Як у вішнёвым садочку,
На малінавым кусточку.
Заплакала Алінка,
З падвор'я з'язджаючы:
— Чуе маё сэрцайка, чуе,
Што мне цяпер не так будзе,
Як у роднай мамачкі.
Бель бяліла бяленька,
Хадзіла харашэнька.
Засталася ў свякроўкі,
Бель бяліці не ўмею,
Харашо хадзіці не ўмею.

1393. Кукавала зязюлька,
З зялёнага саду вылятаючы,
Крыллейкам да махаючы:
— Нідзе ж мне так не будзе,

Як у вішнёвым садочку,
Малінкі паядаючы,
Вадзічку папіваючы.
Плакала дзевачка,
З мамчынага двара выязджаючы,
Хустачкай да махаючы:
— Нідзе ж мне так не будзе,
Як у роднай мамачкі,
Мёд-віно папіваючы,
Булачкі паядаючы.

1394. Сакалочак на калочак,
А Тарэса у вазочак.
Сакалочак вылятае.
А Тарэса выязджае.
Сакалочак борам, борам,
Едзь, Тарэса, з богам, з богам.

1395. Маліцеся богу,
Паедзем у дарогу.
Коні нашы вараныя,
Сані нашы маляваны,
Слугі нашы дараваны.

1396. Благаславі мяне, татка мой родненькі,
Я ў дарожачку еду.
Да не замыкай на замок варот,
Бо я ўвечары прыеду.
Астаў, мамачка, вячэраці мне,
Каб браціха не знала,
Штоб яна маёй свякрусі ліхой
Не пайшла, не сказала.

1397. Баценьку-галубеньку,
Благаславі мне дарожаньку.
Благаславі дарожаньку,
Я йду ў чужынаньку.
Я ж ні з кім не знаюся,
З кім стану, то таго пытаюся:
Чы з старэнькім, чы з маленькім,
Чы з сваім міленькім.

1398. У дарогу, сваты, у дарогу,*
Бярыце бога з сабою,
А прачыстаю напярод,
Сякіце змяю папярок.
З дарогі, змяя, з дарогі,
Штоб не было сватам трывогі.

1399. Борам, дружанькі, борам,
З нашага двору з богам.
Прасі, дружаньку, бога,
Каб шчаслівa дарога,
Ні крамянная, ні пясчаная,
Каб усё раўненька,
Да хаты відненька.

1400. Устрачай нас, божа,
На першым парозе, 2
На бітай дарозе,
Пры шырокім гасцінцы,
Пры зялёным барвінцы.

1401. Баславі, божа,
Прачыстая Спожа,
Ацец і маці,
Свайму дзіцяці
У дарогу шчаслівую ступіці.

1402. Сватоўе мае, бурлакі,
Бярыце стрэльбы на рукі,
Страляйце ведзьмам пад ногі,
Каб нам не было трывогі,
Нашаму маладому ў дарозе,
А маладой на парозе.

1403. Ой, дадому, сватове, дадому,
Да бярыце ружжа з сабою,
Да страляйце ведзьму пад ногі,
Каб нашым конікам не было трывогі.
А ні нашым конікам у дарозе,
А ні нашым маладым на возе.

1404. Да на бок, на бок, варогі,
Да не пераходзьце дарогі,
Да няхай пырайдзе гаспадзь бог,
Да няхай пырайдзе бацька твой
І з месяцам, і з зоркаю,
І з шчасцейкам, і з долейкай,
І з усею радзінаю,
І з долею шчасліваю.

1405. У стораны, суседачкі, у стораны,
Ды не пераходзьце дарогі.
Ды няхай пяройдзе сам гаспадзь-бог,
Ды няхай пяройдзе бацька мой.
Ды няхай пяройдзе ясна зара,
Ды няхай пяройдзе маці мая.
Ды няхай пяройдзе зарыца,
Ды няхай пяройдзе сястра мая.

1406. Ай, вораню мой чарненькі,
Не пералятай нам дарогі.
Падтопчам цябе пад ногі,
Пад чырвоныя чаботы,
Пад здаровыя жыwoты.
Чырвоныя чаботы — Матрунька,
Здаровыя жывоты — Іванька.

1407. А не стойце, варогі,
Не займайце дарогі,
Бо нашы коні строгі —
Паадтоптваюць вам ногі.
Гострымі гастрожкамі,
Залатымі падкоўкамі
Белы камень разбіваюць,
Па дарозе раскідаюць:
— Гэта вам, варогі,
Белы камень пад ногі.

1408. Матка ж мая родненькая,
Перайдзі мне дарожаньку
І з шчасцем, і з доляю,
І з Юр'ем, і з Міколаю,

Шчасліваю да гадзінаю
І з поўнаю да судзінаю.
— Дзіця ж маё, да роднeнька,
Няхай табе да госпад пяройдзе
І з шчасцем, з доляю,
З шчасліваю да гадзінаю,
З поўнаю да судзінаю.

1409. — Вой, матка мая родная,
Вазьмі каня да за повязь. 2
Вывядзь яго за вароцечка 2
Да і ўкажы мне дарожачку, 2
І ўгадай маю долечку.
— Дзіця ж мае маладое,
Я ж сама тое знаю,
І долечку не ўгадаю.

1410. — Мамачка мая родная,
Перайдзі мне дарожачку
І адгадай маю долечку.
— Дзіцятка маё маладое,
Што маю, то аддаю,
А долечкі не адгадаю.
Альбо будзе вельмі п'яніца,
Альбо будзе нядбайніца.
— П'яніца — то на дзень, на два,
А нядбайніца — навек бяда.
П'яніца — на маю костку,
А нядбайніца — на маю слёзку.

1411. А ў варот бяроза стаяла,
Веццем вароты ўслала.
Ай, туды ішла Таццяна,
Верх той бярозы сарвала:
— Стой, мая бяроза, без вярху,
Жыві, мой бацюшка, без мяне,
Без русай касы без маей,
Без румянага лічання.
Не зелена бяроза без вярху,
Невясёлы бацюшка без мяне,
Без русай касы без маей,
Без румянага лічання.

1412. Дзевачка з двара з'язджала
Ды бярозы вяршок зламала.
— Расці, мая бяроза, рагата,
Жыві, мой татачка, багата.
Расці, мая бяроза, яшчэ рагацей,
Жыві, мой татачка, яшчэ багацей.
Расці, мая бяроза, караніста,
Жыві, мой татачка, семяніста.

1413. З'язджала дзевачка із двара,
Вяршок з бярозы сарвала:
— Стой, мая бяроза, без вяршка,
Без кудравага веццъя,
Без зялёнага лісця.
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Без мае русай косачкі,
Без дзявоцкай красачкі.
— Прынясеш краскі к свякрусе,
Папросіш снедання ў залавіцы,
Як у роднай сястрыцы.

1414. Марынка са двара з'язджала, *
У бярозы макушку сарвала:
— Жыві, мая бяроза, не ссыхай,
Будзь, мая маманька, не уздыхай.
Без верху бяроза расць будзіць,
Без мяне маманька жыць будзіць.

1415. Марыечка з двору з'язджала,
У бярозе вяршок зламала:
— Расці, мая бярозка, без верху,
Чы такая будзеш, як з вярхом?
Жыві, мой татулька, без мяне,
Чы будзець так, як пры мне?
Пры мне была пасцелька мякkенька,
Пры мне была кашулька бяленька,
Пры мне была ножачка разута.
Ці успамянеш, татка,
Як ніхто пасцелькі не пасцелець,
Ні сарочачкі не памыець,
Ні ножачкі не разуець?

* Кожны радок паўтараецца.

1416. Да дзевачка з двара з'язджае,
Да з бярозы вяршок зрывае:
— Да пабудзь, бярозанька, без верху.
Да ці будзе голлейка шумеці,
Да ці будзе лісцейка зелянеці?
Да пабудзь, мамачка, без дочкі.
Да ці будзе так, як было?
Да ці будуць столікі накрыты,
Да ці будуць лавачкі памыты?
Да будзе за сталом мясцінка гуляці,
Да на стале ложачка ляжаці.
— Я ж тую мясцінку дзеткамі закрыю,
Я ж тую ложачку пад стол падкіну.

1417. Дзевачка з двара з'язджала,
У бярозы вяршок зламала:
— Расці, расці, бяроза, без верху,
Жыві, жыві, мамачка, без дачкі.
Да не будзе вуліца мяцёна,
Да не будзе падвор'е вясёла,
Да не будуць дзевачкі збірацца,
Да не будуць кавалеры з'язджацца.
Да пабачыш, мамачка, ў панядзелак,
Будзе маё месцечка за сталом гуляці,
Будзе мая ложачка сухою ляжаці,
Будзе мяне мамачка чакаці.

1418. Волечка са двара з'язджала,
З бярозы вяршочак зламала:
— Стой, мая бяроза, без верху,
Будзь, мая мамачка, без мяне,
Ці будзе такаво, як пры мне?
А к краснай вясне кросны ткаць,
К цёпламу лету жыта жаць,
А к халоднай зіме плаццця праць.
За вароты дарожка падмяцёная,
Туды наша сястрыца завязёная,
Войдзем у клетку — кубла нет,
За сталом мясцечка гуляе,
На стале ложачка сухая.
Без верха бяроза ссыхала —
Без мяне мамачка скучала.

1419. З'язджала Лідачка са двара.
Вяршок бярозы сарвала:
— Стой, мая бяроза, без вярха,
Як я, маладая, без вянка.
Жыві, мая маманька, без мяне,
Як я, маладая, без цябе.
У клетку пойдзеш, пеючы,
А з клеткі выйдзеш, плачучы:
— Няма там ні скрыні, ні пярыны,
Няма маёй дзевачкі-княгіні.

1420. З'язджала Каценька са двара,
Сарвала ў бярозкі макушку:
— Стой, мая бярозка, без макушкі,
Жыві, мая мамухна, без мяне.
А ці так будзець, як пры мне?
Ці будзець хатачка мяцёна,
Ці будзець пасцелька сцялёна?
— Не бойся, дачушка, не бойся,
І будзець хатачка мяцёна,
І будзець пасцелька сцялёна.
Хату вымецець паслушка,
За вадой пойдзець пастушка.

1421. З'язджала Манечка са двара,
Зламіла вяршочак з бярозы:
— Стой, мая бяроза, без верху,
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Без русы касы без мае,
Без хады ціхае.
Пакуль у цябе я хадзіла,
Усё падвор'е весяліла.
Не стала хадзіці, падвор'е весяліці,
Бяроза без верху ссыхае,
Матка па дачцэ ўздыхае.
Як маё дзіцятка адбыло,
У хаце месцечка гуляе.

1422. З'язджае Валечка із двара, *
На бярозе вяршок зламала:

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

— Стой, мая бяроза, без вяршка,
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Як шчука-рыба без вады.
Шчука-рыба без вады здыхае,
Так па мне мамка ўздыхае.
Шчука-рыба без вады лялее,
Так мяне мамка жалее.

1423. Ой, Хадосся з двара з'язджала,
На бярозе вяршок сарвала:
— Стой, мая бяроза, без вярха,
Жыві, мая мамачка, тут адна.
Па мне мая мамачка журыцца.
— Да каго маё дзіцятка хіліцца?
— Не журыся, мая мамачка, не журыся.
Ёсць у мяне свякруха, прыхілюся.
Яна мяне, маладзеньку, пажалее,
Яна мяне раненька не пабудзіць,
А наварыць снеданне, разбудзіць:
— Уставай, Хадоська, паснедай са мною,
Бо няма тваей мамачкі з табою.

1424. Марылька з двара з'язджала,
З двара з'язджала.
На бярозе верх сарвала, 2
Сваім падружкам сказала:
— Дзевачкі мае, падружкі мае,
Калі ў гэтай бярозе верх адрасце,
То мяне мая мамачка забудзе.
Дзевачкі-падружкі ёй адказалі.
Ёй адказалі і праўду сказалі,
Што ў бярозе верх не адрасце ніколі,
Што яе мамачка не забудзе ніколі.

1425. Выбіралася Лідачка са двара,
Зламала бярозачку са ствала:
— Расці, расці, бярозачка, як расла,
Жыві, жыві, мамачка, як жыла.
— Спасіба, родны бацюшка, за хлеб-соль,
Я больш не сяду за ваш стол.

1426. Зязюля з бярозы злятала, *
Бярозе вярхушку зламала:
— Стаі, мая бярозка, без верху.
Як з верхам была — шумела,
Залатое лісцейка звінела.
Танечка са двара з'язджала,
Мамульцы «дабранец» сказала:
— Дабранец, мамка, дабранец,
Паеду к свёкарку я нанач.
Не на 'дну ночачку — на ўвесь век,
Ні на 'дну на мяне — на ўвесь свет.

1427. Ступала дзеванька на вазок,
Зламала ў вішанькі ўвесь вяршок:
— Стой, вішанька, без верху,
Як мой баценька без мяне.
У панядзелак раненька ўспомне
Да любым дзіцяткам назаве.

1428. Ля варот бяроза стаяла,
А ў бярозі макушка зламана,
Ці зелена бяроза без макушкі,
Ці весела мамушка без дачушкі?
Туды-сюды павярнусь, дочкі нет,
Выйду за вароцікі — толькі след.
Зялёная травушка прыложана,
Туды маё дзіцятка павезена.

1429. З'язджала Анечка са двара,
Сеяла расадку з рукава:
— Расці, мая расадка, без мяне,
Расці, мая расадка, як пры мне.
А ці будзе, мамачка, як пры мне?
А ці будзе галоўка прыбрана,
А ці будзе пасцелька заслана?

1430. З'язджала Ірынка са двара,
Сыпала золата з рукава.
— Збірай, матулька, золата,
Было табе не аддаваць мяне сёлета.

Я яшчэ гадок пажыла б,
Усю сваю красату спажыла б.
Па ваду пайшла — след найшла,
Я ў той слядочак уступіла,
Усю сваю красату згубіла.
Згубіла я дзявоцкую красату,
А найшла жаночую ташнату.

1431. Вячэрняя зоранька,
Ды зыйдзі ранесенька,
Засвяці віднесенька,
Пакуль я выбяруся з таткавае каморы
Ды на свёкравы коні.
Конь жа мой вараненькі,
Не бяжы дарогаю,
А бяжы блізка поля,
Каб была добра доля.
Калі добра доля, садзіся на воз.
Калі ліхая, гінь на дарозе.

1432. Рушайце, коні, з двору,
Не чакайце явору.
Няхай явор тут стаіць,
Няхай беленькім цвіціць,
Няхай вецце апушчаець,
Няхай нас дажыдаець.

1433. Дзевачка са двара з'язджае,
Добрую долячку страчае. *
— Калі мая добрая долячка,
Садзіся са мною ў вазок,
Калі маё горкае бяздолле,
Станавіся ў полі вярбою,
Няхай салаўі гнёзды ўюць,
Добрую долячку гукаюць.

1434. Анюшка з двору суязджаець,
Яе доля спатыкаець.
— Колі добрая доля,

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

То садзіся са мною.
То садзіся са мною,
Я паеду з табою.
А нягодная доля,
Не садзіся са мною.
Не паеду з табою,
А плыві ж ты ракою
І барамі, лясамі,
І крутымі ручаямі.

1435. Ужо ж мае да галубчыкі, 2
Паляціце у маю старану, 3
Накажыце маёй матачцы, 3
Ці ехаці, ці не ехаці.

1436. Цёмная, нявідная ноч...
Цёмная, нявідная асенняя ноч, асенняя ноч,
Убіралася дзеўка ад мамачкі проч, ад мамачкі проч.
Чорным шоўкам дарожку ўсцілала, усцілала.
Наперад саколіка выпраўляла, выпраўляла:
— Ляці, ляці, саколік, у маю старану, у маю старану,
Накажы, саколік, свёкарку маяму, свёкарку маяму,
Няхай яго чалядачкі не гуляюць, не гуляюць,
Двары новы камянны ўмятаюць, умятаюць,
Няхай сталы часовыя засцілаюць, засцілаюць,
Няхай кубкі мядовыя наліваюць, наліваюць,
Няхай свечы васковыя да поўначы не стухаюць,
не стухаюць,
Няхай мяне, маладой, дажыдаюць, дажыдаюць.

1437. Едзь, едзь, бацька, дадому,
Да вязі, вязі мацеры павестку, 2
Што прывязе сын нявестку.
Тонкую ды высокую,
Да белую да румяную,
Да хараша прыбраную.
Дай, божа, маладым добрую долю.

1438. Палыньце, галанькі,
Палыньце да маманькі,

Накажыце да павестаньку,
Ой, накажыце да павестаньку,
Сын вязе да нявестаньку.
Накажыце другую,
Што сын вязе маладую.
Высокую, як яліну,
Ой, высокую, як яліну,
Чырвону, як каліну.
Яшчэ вышэй ад яліны,
Ой, яшчэ вышэй ад яліны,
Чырванейша ад каліны.

1439. Ляці, ляці, да сокал сівы,
Да і ў мой дом шчаслівы,
Накажы ж ты павестачку:
Сын вязе да нявестачку,
Ручую, дай рабочую,
Дай да дзела ахочую.
Сюды-туды яе пашлю,
А сама папярод пайду.
Я сама жахчэйшая,
Шчэ ў мяне лытка таўсцейшая.

1440. Да ляціце, галанькі,
Да да мае маманькі,
Накажыце вестаньку:
Вязе сын нявестачку,
Да такую рабатушачку:
Пятрэўнага дня сто копак нажала,
А вясенняе ночкі сто падаркаў напрала.
— Няпраўда, мой сынаньку, няпраўда,
Я чула чэраз людзей, да чэраз людзей,
Пятрэўнага дзянька не вылязала з халадка,
А вясенняе ночкі не злазіла з печкі.

1441. Паляціце, чорны галанькі,
Ох, паляціце, чорны галанькі,
Накажыце маей маманьцы.
Ой, накажыце маей маманьцы,
Што я еду да ў параньцы.
Што я еду, да не сам еду,

Ой, што я еду, да не сам еду,
Што я ж вязу да дзевак танок.
Выбіраю сабе дзеваньку,
Ой, выбіраю сабе дзеваньку,
О высокую, як яліναньку,
Ой, высокую, як яліναньку,
Чырвоную, як каліναньку.

1442. Ляці, ляці, салавеечка,
Да й на мой двор шчаслівы,
Шчаслівы.
Да на мой двор шчаслівы.
Да й накажы маёй маманьцы,
Маёй маманьцы.
Да й накажы маёй маманьцы,
Што я ж еду, да й у парачцы.
Да й накажы другою, 2
Што я еду з жаною.
Табе будзе, матка, слугою, 2
А мне будзе вернаю жаною.
Табе будзе, матка, слугаваці,
А мне будзе пасцель белу слаці.
Табе ж будзе, матка, служыці,
А мне ж будзе дзела рабіці.

1443. Як вылятаў салоўюшка су цёмнага бору,
Як вывеў жа зазюленькі з зялёнага саду,
Чапаў голуб галубанькі з сабой гаркаваці:
— Галубанька, ты сізая, што ты не гаргуеш?
— Галубочак, ты сізенькі, я цябе не знаю,
Злятаемся, спазнаемся — тады пагаркуем.
Як выехаў Якушка з багатага дому,
Як вывеў жа Арынушку з разумнага роду:
— Арынінка Сямёнаўна, што ты не гаворыш?
— Якушка Якімавіч, я цябе не знаю,
Як сыйдземся, спазнаемся — тады пагаворым.

1444. Як свіснулі селязні,
Да па сінім моры плывучы:
— Ці ўся ж наша чароданька
Да за намі паплывае?

Ой, адна ж вутка засталася,
Да з селязнямі да купалася.
Да гукнула сватове
З цесцева двара з'язджаючы:
— Ці ўся ж наша грамаданька
Да з намі ад'язджае?
Да й адазвалася Алёнка,
Па садочку да ідучы:
— Вось я тут засталася,
З маткаю распрашчалася.

1445. Высвіснуў саколік, чэраз мора плывучы:
— Чы ўсе ж мае ўцянятачка выплываюць?
Адазвалась утаўка:— Ой, шча ж бо я асталась.
Ой, шча ж бо я асталась — уцянятка збірала.
Ой, выўкнуў жанішок, чэраз сяло ідучы:
— Чы ўся ж мая радзінка за мною выязджае?
Адазвалась дзеванька: — Ой, шча ж бо я асталась,
Ой, шча ж бо я асталась, бацeньку кланялась.

# МУЗЫЧНЫ ДАДАТАК

Застолле ў маладой і развітанне з бацькоўскім домам — яшчэ адзін кульмінацыйны момант разгорнутага вясельнага рытуалу. Як і ў абрадзе пасада, тут перакрыжоўваюцца і нітуюцца напевы розных вобразна-эмацыянальных сфер: абагульненыя тыпавыя, якія адлюстроўваюць сферу святочна прыўзнятую (па народнаму вызначэнню «вясёлыя»); больш спецыфічныя драматычнага або журботнага характару (па народнаму вызначэнню «абідлівыя»).

Першыя з гэтых напеваў * аб'ядноўваюць паэтычныя тэксты розных этапаў вяселля, другім уласціва пэўная індывідуалізацыя. У цэнтры апошніх — вясельныя галашэнні (№ 24—28). Цікава пры гэтым адзначыць, што ў традыцыі ўсходніх раёнаў Паазер'я ў момант ад'езду маладой з бацькоўскага дому галосіць не толькі яна сама, але часам і яе маці.

Разнастайныя варыянты тыпавых абагульненых напеваў і вясельных галашэнняў мяркуецца падаць у асобным томе. У гэтай жа кнізе прыведзены асобныя іх узоры, якія, паводле сістэматызацыі іх па музычных прыкметах, складаюць восем тыпалагічных груп: I—1—8; II—9—11; III—12—15; IV—16; V—17; VI—18—22; VII—23; VIII—24—28.

*З. Я. МАЖЭЙКА*

---

* Парадкавыя нумары напеваў пададзены з левага боку нотнага прыкладу, нумары ж паэтычных тэкстаў да напеваў — з правага.

1 171


♩=76
1. Не яр_ ка га_ рыш, лу_ чы_ на,


не яр_ ка га_ рыш, лу_ чы_ на.


2. Не жа_ лка пла_ чаш, На_дзень_ ка,


не жа_ лка пла_ чаш, На_ дзень_ка.

2 435


♩=92
1. Ля_ таў га_ лу_ бец па_ ста_ лу,


ля_ таў га_ лу_ бец па ста_ лу.


2. Па_ма_чыў кры_ лы_шкі у піў_ цо,


па_ма_чыў кры_ лы_ шкі у піў_ цо.

3

♩=76



1.Ля_ таў га_ лу_ бец па ста_ лу,



ля_ таў га_ лу_ бец па ста_ лу.



2.Па_ ма_ чыў крыль_цо у піў_ цо,



па_ ма_ чыў крыль_ цо у піў_ цо.

4 1157

♩=80



1.А па_ е_ дзем мы да_ моў, па_ е_ дзем,



па_ е_ дзем мы да_ моў, па_ е_ дзем.



2.Ай, тут чу_ жа_ я ста_ ра_ на,



ай, тут чу_ жа_ я ста_ ра_ на.



3.Нам вя_ чэ_ ра_ ці не да_ ла,



нам вя_ чэ_ ра_ ці не да_ ла.

5

888

♩=69

1.А ў бар_ ку, ў бар_ку, пры бор_ ку,

а ў бар_ ку,ў бар_ ку, пры бор_ ку.

2.А ру_ біў Пе_ цень_ ка ка_ мо_ рку,

а ру_ біў Пе_ цень_ ка ка_ мо_ рку.

6

1094

♩=84

1.Гу_ ля_ла га_ лу_ бка па са_ ду,

гу_ля_ла га_ лу_ бка па са_ ду.

2.За ней га_ лу_ бец па_ за_ ду,

за ней га_ лу_ бец па_ за_ ду.

7 616

Andante







8 736

Moderato







9 863

♩=60












10 192

♩=80

6/4

1. Пла_ ка_ ла б Га_ лі_ нка, ды не хо_ чац_ца,

ра_ ня_ ла б слё_зань_кі, ды не ко_цяц_ ца.

2. Сха_ дзі_ тка, Га_ лі_ нка, у зя_лё_ ны сад,

на_ рві_тка, Га_ лі_ нка, го_ркай цы_буль_кі.

11 302

♩=69

6/4 3+6/4

1. На мо_ ры ву_та_ чка ку_па_ ла_ ся,

3+6/4 6/4

на мо_ ры ву_та_ чка ку_па_ ла_ ся.

6/4 3+6/4

2. Я_на з свай_го пер'_ей_ ка дзі_ва_ва_ ла_ся,

3+6/4

я_на з свай_го пер'_ей_ка дзі_ва_ва_ ла_ся.

12 1242

♩=84

1. За- гра- бай, мат- ка, жар - жар,

за- гра- бай, мат- ка, жар - жар,

бу- дзе та- бе до- чкі жаль - жаль.

2. За- мя- тай, мат- ка, по- пел,

за- мя- тай, мат- ка, по- пел,

мы тва- ю да- чку схо- пім.

13 672

♪ = 160

1. Ні- на-ччын ба-цень-ка, Ні- на-ччын ба-цень-ка

У-стаў па-зне-сень-ка.

2.У_ стаў па_зне_сень_ка, у_стаў па_зне_сень_ка,

ўмы_ўся ча_рне_сень_ка.

14 114

Moderato

1. А ўчо_ ра я ду_ ма_ ла,

а ўчо_ ра я ду_ ма_ ла

і ся_ гон_ ня ду_ ма_ ю,

і ся_ гон_ ня ду_ ма_ ю.

15 457

♩=112

1.Па_ слу_ хай, га_ лу_ бка,

па_ слу_ хай, га_ лўб_ ка,

як го_ луб гу_ рку_ ець,

як го_ луб(ы) гу_ рку_ ець.

2.Як го_ луб(ы) гу_ рку_ ець,

як го_ луб(ы) гу_ рку_ ець(ы),

на га_ луб_ніч_ку се_ дзя,

на га_ луб(ы)_ніч_ ку се_ дзя.

3.На га_ луб(ы)_ніч_ ку се_ дзя,

на га_ луб(ы)_ніч_ ку се_ дзя,

на га_ луб_ ку гле_ дзя,

на га_ луб(ы)_ ку гле_ дзя.

16

1088

♪ = 160

1.Са_ла_вей зя_ зю_ лю к са_бе на_ маў_ля_ е:


да ля_цім, зя_ зю_ ля, у мой са_ до... [чак].


2. Ў май_ му са_ до_ чку больш ла_ жы_ то_ чку:


я гад_кі ні-зень_ ка, ва_дзі_ ца блі_зень... [ка].

17 682

♩=72


1. Е_ л(ы)_ ка – са_ сон_ ка


як зі_ му – ле_ та зе_ля_не_ нька,


е_ л(ы)_ ка – са – сон_ ка


я_к(ы) зі_ му – ле_ та зе_ля_ не_ нька.


2. Ру_слань-ка_ ва ма_ мка


ўсю ня_ дзе_ ле_ чку ве_ся_ ле_ нька.


Ру_слань_ка_ ва ма_ м(ы)_ ка


ўсю ня_ дзе_ ле_ чку ве_ ся_ле_ нька.

18

236

♩=76


1.Ста_ іць яб_ лын_ ка, ліс_ цік аб_ вяў_ шы,


не_ ка_ му па_ лі_ ва... ці,


не_ ка_ му па_ лі_ ваць.


Ля_ жаць яб_ лач_ кі ад_ ка_ ціў_ шы_ ся,


не_ ка_ му па_ дбі_ ра... (а)_ ці,


не_ ка_ му па_ дбі_ ра_ [ці].

19 Andante 762

1. Ча_го ты,ло_ сю, ча_го ты,сі_ вы, да ся_

ла пры_ ля_ га_ еш?

20 974

Moderato

1.Ой, у сіт_ ніч_ ку, у ра_ кіт_ніч - ку,

там чо_ рны во_ ран кра_ ча,

там чо_ рны во_ ран кра_ ча.

21 758

♪≈ 134

1.Ча_ го, зя_ зю_ ля, ча_ го, шэ_ра_ я,

так ра_ на ку_ ку_ еш?



ча_ го, зя_ зю_ ля, ча_ го, шэ_ ра_ я



так ра_ на ку_ ку_ еш?



2. А ці ты чу_ еш, ці ты вяш_чу_ еш



зі_ ма_ чку ха_ ло_дну_ю?



Ці ты чу_ еш, ці ты вяш_чу_ еш



зі_ ма_ чку ха_ ло_дну_ ю?

22 721

♪ = 138



1. У па_ ня_ дзе_ лак ра_ на



сі_ ня_ е мо_ ра і_ гра... [ла].



2. Сі_ ня_ е мо_ ра йгра_ ла,



Ле_ на_ чка ва_ ду бра... [ла].

23

1014

♪ =96



1. Ша_ў(ы)_ко_ ва ні_ та_ ч(ы)_ ка



к сця_ не б(ы)_ е,



ма_ ла_ да Га_ ле_ ч(ы)_ ка



да_ бра_ нач да_ е.



2. Да_ бра_ нач, ма_ ман(і)_ ка,



да_ бра_ нач,



бо ужэ та да_ бра_ нач,



ох, не на нач.

24

1326

♪≈168










25

1322

♪≈158










26

1330

♪≈158












27 1320

♪≈144



1.Пя_ ту_ шок - пя_ ву_ нок, ты не пей ра_ не_[нька].



2.Ты не пей ра_ не_ нька, не бу_ дзі ма_ ма_ [чку].



3.Я ж са_ ма па_ ха_ джу, ма_ма_ чку па_ бу_ [джу].



4.Ма_ ма_ чка ро_ дна_ я, не кі_ дай жа мя_ [не].



5.Не кі_дай жа мя_ не, бла_сла_ ві ж ты мя_ [не].



6.Бла_ сла_ві ж ты мя_ не а і з ха_ ты сту[піць].

28 1327

♩≈168



1.Ма_муль_ ка ро_ дна_я, вы_ праў_ляй жа мя_ не,



вы_праў_ляй жа мя_ не, на_ ву_ чай жа мя_ не!



2.Па чу_ жых па_ро_ гах я не ўме_ ю ха_дзіць,



а чу_ жо_ му та_ тку я не ўме_ ю га_дзіць!

Мне гуляці нявольна.
А ў бацюхна дай не прашуся,
Гуляю, не баюся,
А ў свёкарка папрашуся,
Гуляю дай баюся;

Гілевіч, 1979, с. 30, в. Аношкі Вілейскага р.

### 761. Чаго ты, лосю, чаго, нябожа

ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 3, спр. 64, л. 17—18.
Вар.: РГТ, ф. 4, № 1, л. 3, № 6, в. Мацковічы Свянцянскага п.

### 762. Чаго ты, лосю, чаго ты, сівы

Шырма, с. 139, № 124. Зап. у 1947 г. у в. Калюга Смалявіцкага р.

### 763. Кавала зазулька ў садочку

Полес. сб., с. 270, № 18. Зап. у 1957 г. у в. Сіманавічы Драгічынскага р.

Вар.: Булгаковский, с. 109—110, № 49, Пінскі п. Дарогаю да маладога. Н. р.:

Добрая нявеста, добранька,
Спіць яна да ўсходу сонейка,
Да ўжо сонейка ў акно б'е,
Ужо мая нявеста з клеці ідзе;

Захарава, 1984, с. 165, № 422, в. Барэц Лоеўскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 21, сш. 2, л. 57, 1948, в. Гайкоўка Кобрынскага р. Як ад'язджае маладая.

### 764. Кукавала зязюля ў садочку

ГДУ. Зап. Л. Дзмітрыева ў 1982 г. у г. Рагачове ад А. Я. Лаўрэнавай, 72 г.

Вар.: Радченко, с. 91—92, № 95, Дзятлаўская вол. Гомельскага п.; Дембовецкий, с. 570, № 213, Рагачоўскі п. Пасля вянца ў доме нявесты; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 12, сш. 6, л. 19, 1967, в. Альшэва Мядзельскага р.; ф. 8, воп. 1, спр. 39, сш. 1, л. 49, 1956, в. Санюкі Ельскага р.; сш. 2, л. 1—2, 1956, в. Студзёная Гута Церахаўскага р. На пасадзе; спр. 92а, ч. 2, с. 597, 1960, в. Азершчына Рэчыцкага р.; воп. 77, спр. 133, сш. 2, № 40, 1977, в. Грабава Рагачоўскага р. Н. р.:

Да на хатнім парозе азірніся,
На сенешнім парозе вярніся:
— Да спасіба, мамачка, пагуляла,
Сенешняга парога, эй, не відала;

воп. 84, спр. 224, сш. 3, л. 48, № 108, 1984, в. Радуцін Жлобінскага р.

### 765. Ляталі гусанькі, да не грагалі

Дембовецкий, с. 558, № 108. Зап. у Сенненскім п. Напярэдадні вяселля.

Вар.: Сахараў, с. 84, № 222, 1930, в. Пугачы Лудзенскага п.;

с. 101, № 274, 1932, в. Рыўцаны Лудзенскага п. Падрыхтоўка да шлюбу; Фольклор, с. 131, № 156, 1966, в. Сакава Краслаўскага р.

### 766. Ляцелі гусанькі, да не гогалі

Шейн, с. 464, № 38. Зап. у Гарадоцкім п. У доме маладой за сталом.

Вар.: Шлюбскі, с. 141, № 286, 1914, в. Забулдычына Полацкага п. Маладая перад ад'ездам да маладога; Гілевіч, 1979, с. 29, в. Іванавічы Брэсцкай вобл.; Дембовецкий, с. 571, № 225, Магілёўскі п. Пасля шлюбу ў доме нявесты; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 5, л. 85, 1976, в. Зялёнка Полацкага р.

### 767. Ой, у лесе, лесе да мядзведзь рыкае

БДУ, папка 12, сш. 3, л. 4. Зап. у в. Астравок Слуцкага р.

Вар.: папка 5, сш. 25, л. 16, 1960, в. Далідавічы Івянецкага р.; папка 8, сш. 50, л. 1, в. Ячнае Стаўбцоўскага р.; Захарава, 1984, с. 269—270, в. Дружылавічы Іванаўскага р.; Захарава, с. 126, Брэсцкая вобл.; Гілевіч, 1979, с. 475, в. Хільчыцы Жыткавіцкага р.; Federowski, с. 412, № 870, в. Гацішча каля Сталовіч у Навагрудскім п. Панядзелак. Пераносіны; с. 452, № 1021, каля Раготны, Дварца, Моўчадзі ў Слонімскім п.; с. 371, № 724, в. Шчасновічы Слуцкага п. Дзявочы вечар; Саламевіч, с. 312—313, № 458, Пружанскі п. У дарозе — сванька; Малевич, с. 103, № 60, в. Малева Слуцкага п.; Карский, с. 276—277, № 45, в. Беразавец Навагрудскага п.; БВУ, ф. 441, IV, л. 240, 1880, Лідскі п. Запоіны; ГДУ, в. Тульчавічы Хойніцкага р.; Шырма, с. 307, № 296, в. Замошша Слуцкага р.; РГТ, ф. 4, воп. 1, № 13, л. 4, 1840—1850, м. Валожын Ашмянскага п.; АН СССР, ф. 134, воп. 2, адз. зах. 14, л. 29, № 122, 1914, в. Моладава Навагрудскага п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 4, л. 72—73, № 66, в. Рачэнь Любанскага р.; спр. 93, сш. 4, л. 87, № 71, 1975, в. Губіна Уздзенскага р.; спр. 96, сш. 3, л. 56, 1975, в. Магільнае Лагойскага р.; спр. 97, сш. 4, л. 36, в. Языль Старадарожскага р. Як адвозяць маладую да маладога; воп. 1, спр. 112, сш. 1, л. 5, 1967, в. Ланькаў Бялыніцкага р.; воп. 73, сш. 63, л. 35, 1973, в. Плешчыцы Шклоўскага р.; спр. 70, сш. 4, л. 32, 1973, в. Крынка Асіповіцкага р.; спр. 66, сш. 2, л. 1, 1973, в. Талька Пухавіцкага р. Як маладая едзе да маладога; воп. 74, спр. 80, сш. 1, л. 3, 1974, в. Белакорац Валожынскага р.; воп. 76, спр. 116, сш. 5, л. 11, 1976, в. Заастравечча Клецкага р.; воп. 84, спр. 213, сш. 2, л. 4, 1983, в. Залюцічы Жыткавіцкага р.; воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 71, в. Барбарова Глускага р.; воп. 78, спр. 156, сш. 2, л. 47, 1978, в. Козінава Іўеўскага р.; воп. 82, спр. 200, л. 11, в. Рабак Слуцкага р.; воп. 2, спр. 12, сш. 3, л. 105, № 68, в. Дзягільна Дзяржынскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 56, сш. 5, л. 5—6, в. Чучавічы Лунінецкага р.; спр. 81, сш. 36, л. 6, № 3, 1981, в. Пціч Мінскага р.; л. 7, в. Бор Бярэзінскага р.; спр. 73, сш. 3, л. 8, 1973, в. Дойнічава Бабруйскага р.; спр. 32, сш. 12, л. 19, в. Аннаўка Рагачоўскага р.; воп. 8, спр. 7, сш. 13, л. 1, 1949, в. Востраў Рудзенскага р.; спр. 4, сш. 8, л. 3, 1950, в. Васільчыцы Капыльскага р.

### 768. Борам, борам ды мядзведзь рыкае

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 1, сш. 13, л. 1. Зап. Т. Іванова ў 1948 г. у в. Гатава Мінскага р.

### 769. За лесам, лесам ды мядзведзь рыкае

БДУ, папка 6, сш. 37, л. 4. Зап. А. Турко ў в. Горкі Стаўбцоўскага р. ад Н. Міцюка.

Вар.: Захарава, 1984, с. 185, № 523, в. Веросніца Жыткавіцкага р.

**770. Кажуць людзі, кажуць**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92. Зап. С. Лобач у 1981 г. у в. Валеўка Навагрудскага р.

**771. Вячэрай, Галю, тую вячэру**

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 6. Зап. Т. Т. Жэбіт у 1979 г. у г. Хойнікі ад А. М. Кудана, 76 г.

Вар.: сш. 5, л. 2, 1979, Гомельская вобл. Н. р.:

І таму, што сядзіць на прыпечку
Ды грае ў скрыпачку;

БДУ, д. 1976, в. Хацюхова Крупскага р. Н. р.:

Вады кварта і хлеба кусочак, і сядзеш у куточак,

БДУ, папка 3, сш. 18, л. 6, 1970, в. Кімія Барысаўскага р.; Розенфельд, с. 61, № 4, в. Навасёлкі Мінскага п.; Косич, с. 246, в. Чорная Старадубскага п. Н. р.:

Збярэш ложачкі, сатрэш крошачкі,
Возьмуць цябе слёзачкі;

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 1, сш. 7, л. 2, 1948, в. Жодзіна Смалявіцкага р. Н. р.:

Старому ў каўшку, малому ў гаршку, Ванечку ў кубачку;

воп. 10, спр. 20, сш. 2, № 6, в. Асавец Мазырскага р. Н. р.:

Гара высока, вада далёка,
Там я замарылася,
Прынёсшы вады, 2
Загадаюць лыжкі мыці,
Памыўшы лыжкі, 2
Загадаюць пасцель слаці.
Паслала пасцель старому, малому
І свайму маладому;

ф. 8, воп. 1, спр. 92а, ч. 1, л. 63, № 60, 1960, в. Аверშчына Рэчыцкага р.; спр. 77, сш. 4, л. 17, 1962, в. Цяцерын Бялыніцкага р. Н. р.:

Падай старому дзеля старасці,
Малому — ля маласці.
Падай Рыгорку маладзенькаму
Дзеля яго маладосці;

л. 16, 1962, в. Дзятлавічы Гомельскага р.; Болотская, с. 22—23, в. Новааляксандраўка Татарскага р. Новасібірскай вобл.; Захарава, 1984, с. 170, № 441, в. Барэц Лоеўскага р.

### 772. Ой, да стаіць яблынька расхіліўшыся, некаму падрэзаць

ГДУ. Зап. Л. М. Сечка ў 1979 г. у в. Дудзічы Калінкавіцкага р. ад Г. І. Карнеевай, 78 г.

### 773. Чом ты, Ганначка, не вячэраеш

Гильтебрандт, с. 89. Зап. у в. Азяты Кобрынскага п.

### 774. Вячэрай, Манечка, вячэрай, малада

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, сш. 1, л. 11. Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. ад У. С. Івановай, 76 г.

### 775. Вячэрай, Вольгачка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 75, сш. 3, л. 10, № 107. Зап. П. П. Альхімовіч у 1973 г. у в. Абідавічы Быхаўскага р. ад Д. Мяньковай, 66 г., Т. Кісялёвай, 61 г.

Вар.: ГДУ, 1972, в. Любань Буда-Кашалёўскага р. Н. р.:

У свёкра з перцам печана,
З часнаком затоўчана;

в. Казярогі Лоеўскага р.

### 776. У церам Олечка вечарам бяжыць

БДУ, папка 6, сш. 4, л. 25. Зап. у Віцебскай вобл.

### 777. Чаму, Валечка, у мамкі вячэры не ясі?

Гілевіч, 1979, с. 306. Зап. у в. Сцешыцы Мядзельскага р.

Вар.: БДУ, папка 12, сш. 35, л. 4, в. Мікольцы Мядзельскага р. Н. р.:

Яна ж табе хлеб маслачкам памажыць...
Яна табе добрыя слоўцы пасуліць,
А выйшаўшы на вулачку, абсудзіць;

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 1, № 113, 1985, в. Вузла Мядзельскага р.; сш. 1, № 3, 1985, в. Харкі Пастаўскага р.; воп. 79, спр. 158, сш. 1, л. 23, № 43, 1979, в. Мільча Вілейскага р.; воп. 1, спр. 104, сш. 1, л. 48, 1966, в. Праходы Глыбоцкага р. Н. р.:

Матульчына вячэрка смачная,
Свякрусіна вячэрка горкая;

воп. 2, спр. 44, сш. 2, л. 16, 1971, в. Груздава Пастаўскага р. Н. р.:

Не будзе ў яе карытца памыцца,
Будзеш усім суседачкам карыцца,
Яна табе аднаго слоўца не скажыць;

ф. 13, воп. 10, спр. 23, сш. 9, л. 6, Н. р.:

Свякровачка нярадная матулька,
Як будзіць вячэру даваці,
Яна будзіць на цябе коса паглядаці.

### 778. Чаму, Манечка, не вячэраеш

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 71, сш. 2, л. 47. Зап. В. М. Іваноўская ў 1961 г. у в. Гарадзея Кобрынскага р. ад М. І. Цішэўскай.

Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 72, сш. 2, л. 3, в. Рудня Лельчыцкага р.; воп. 9, спр. 6, л. 56, 1960, в. Пешкі Бярозаўскага р. Н. р.:

Прынесла вады, падала піці,
Да й стала лыжкі мыці.
Лыжкі памыла, папаласкала,
Да й села, заплакала;

БДУ, 1977, в. Агароднікі Жабінкаўскага р. Н. р.:

А ключ высока, вада далёка,
Трудненька дастаці,
Я за ключаньку, ён за ручаньку,
Прынясём абое;

папка 1, сш. 47, в. Раўніны Ашмянскага р.

### 779. Да й ужо не рана, ужо змяркае

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 211, сш. 2, л. 15—16, № 16. Зап. Г. А. Барташэвіч у в. Колкі Петрыкаўскага р. ад Е. Ф. Рэвуцкай, 85 г.

### 780. Ужо [redacted] не рана, ужо [redacted] не позна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 8, л. 53—55, № 28. Зап. С. М. Гайцюкевіч у 1975 г. у в. Дарошкавічы Старадарожскага р. ад Я. С. Лапанік, 43 г.

Вар.: л. 29—30, 1975, в. Глядавічы Старадарожскага р. Н. р.:

Ой вы, зорачкі, ой вы, ясныя, свяціце нада мною,
Ой вы, ключыкі, ой вы, родныя, дастаньце вадзіцы;

сш. 4, л. 12—14, № 7, 1975, в. Крываносы Старадарожскага р. Н. р.:

Астанься, дзіця, астанься, роднае, павячэрай з намі,
Бо як пойдзеш к чужым, к чужой мацеры, там табе не вольненька;

ф. 13, воп. 8, спр. 2, сш. 6, л. 12, 1948, в. Кашэвічы Капаткевіцкага р.; воп. 10, спр. 81, сш. 33, л. 8, № 31, в. Чэрнін Светлагорскага р.; Радченко, с. 72, № 146, Дзятлаўская вол. Гомельскага п.

**781. А ўжо на дварэ ды не ранепька**

БДУ, папка 10, сш. 3, л. 11—12. Зап. Т. С. Сербантовіч у в. Ордаць Шклоўскага р. ад М. С. Сікорынай, 1912 г. н.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 16, сш. 1, л. 47, 1982, в. Еськаўка Горацкага р. Маладая едзе да маладога. Н. р.:

Сабірае Зіначка вузялочкі супроць цёмнай ночкі...

**782. Дай, мацi, павячэрацi**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 88, сш. 58, л. 5. Зап. Г. М. Шпудзейка ў 1970 г. у в. Гарадная Столінскага р. ад Г. Ф. Вяроха, 68 г.

**783. Злятайцеся усе, пташачкі, на полю**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 3, сш. 1, л. 5. Зап. А. А. Шчыт у 1964 г. у в. Лявонавічы Пастаўскага р.

**784. Ходзіць кунанька па сенажацi, гагочыць**

БДУ, папка 1, сш. 48. Зап. А. В. Брухан у в. Вулька Радавецкая Драгічынскага р.

**785. Хадзі, бацепька, павячэраем з табою**

Грод. губ. вед., 1895, № 1.

Вар.: Bykowski, с. 278, № 32, в. Віткаўка Пінскага п.; ГДУ, 1982, в. Вылева Веткаўскага р.; в. Засінцы Ельскага р.; ВПІ, в. Старыя Вайханы Гарадоцкага р.; в. Узмёны Міёрскага р.; АН СССР, ф. 104, воп. 1, адз. зах. 39, 1887, Віцебская губ.; адз. зах. 104, Турнянская вол. Брэсцкага п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 10, л. 19, 1960, в. Будзенічы Барысаўскага р. За сталом перад ад'ездам маладой; спр. 13, сш. 12, л. 3, 1969, г. п. Пухавічы. Н. р.:

А на дварэ дробны дождждык сцелецца;

ф. 8, воп. 73, спр. 66, сш. 2, л. 3—4, 1973, в. Талькі Пухавіцкага р. Н. р.:

На гэтым дварочку ды мурожнічык сцелецца;

БДУ, д., 1976, л. 86, 1976, в. Суднікі Вілейскага р.; БДУ, папка 3, сш. 48, л. 4, в. Пышна Лепельскага р.; Захарава, 1984, с. 269, в. Дружылавічы Іванаўскага р.

**786. Сядзіць Валечка за белым сталом, лялее**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 164, сш. 3, л. 37. Зап. А. С. Ліс у 1979 г. у в. Вязынь Вілейскага р. ад М. Нарэйка, 61 г.

Вар.: воп. 85, спр. 231, сш. 1, № 4, 1985, в. Папшычы Глыбоцкага р.; спр. 211, сш. 3, л. 31, № 19, 1985, в. Дуброва Петрыкаўскага р.; Захарава, 1984, с. 174, № 463, в. Махновічы Мазырскага р.; Гілевіч, 1979, с. 413, в. Ладасна Лепельскага р.; с. 413—414, в. Убярцы Лепельскага р.; Мажэйка, с. 348, в. Аношкі Лепельскага р.

### 787. Ходзіць малада па новых сенях

Саламевіч, с. 308, № 443. Зап. у Пружанскім п. Спяваюць сяброўкі на прыданскай вячэры.

### 788. Сядзьмо, мамка, павячэраймо

ГДУ. Зап. В. Б. Кукубава ў 1980 г. у г. п. Тураў Жыткавіцкага р. ад Г. М. Балбуцкай, 67 г.
Вар.: 1982, в. Вільча Жыткавіцкага р. Н. р.:

Прапіў бацька карованьку
Ды на маю бедну галованьку;

ІРЛІ, к. 30, папка 2, л. 10, 1932, м. Тураў; Захарченко, с. 180, № 157, Обска-Іртышскае міжрэчча; Шейн, 3, с. 437, № 88, в. Верасніца Мазырскага п. У час вячэры ў маладой. Перад ад'ездам да маладога; АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 14, сш. 6, л. 2, 1976, в. Кострычы Кіраўскага р.; ф. 8, воп. 77, спр. 134, сш. 2, л. 39, 1977, в. Зелянковічы Глускага р.; воп. 80, спр. 178, сш. 5, л. 80, 1980, в. Якімава Слабада Светлагорскага р.; Захарава, 1984, в. Верхні Церабяжоў Столінскага р.; АН СССР, ф. 104, воп. 1, адз. зах. 269, л. 4, № 4, Палессе. Н. р.:

Да давай, матка, торбу конікам на морду,
Да давай, матка, радно, каб было ў хаце ладно.

### 789. Сядзьмо, матка, павячэраймо

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 16, сш. 4, л. 31—32. Зап. Л. Г. Альтшулер у 1946 г. у в. Ляхавічы Жыткавіцкага р. ад А. А. Акунец.
Вар.: воп. 77, спр. 141, сш. 1, л. 41, 1977, в. Хорастава Салігорскага р. Калі дарацъ каравай у маладой; воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 18, 1983, в. Замоцічы Жыткавіцкага р.; воп. 85, спр. 230, сш. 3, л. 55, № 70, 1985, в. Махро Іванаўскага р. Н. р.:

Табе, матка, ветка, паветка, камора,
А для мяне да кухар сугою, карова;

ф. 13, воп. 9, спр. 4, сш. 2, л. 183, 1960, в. Цна Лунінецкага р.; воп. 10, спр. 87, сш. 50, л. 2, в. Серабрышча Баранавіцкага р.; спр. 56, сш. 14, л. 5, 1953, в. Закальное Любанскага р.; ГДУ, в. Казлы Ельскага р., в. Тульгавічы Хойніцкага р.; Гілевіч, 1979, с. 413, в. Убярцы Лепельскага р.; Шейн, 3, с. 418—419, № 49, 1889, в. Дзякавічы Мазырскага п. У час падзелу каравая.

### 790. Нуце, мацi, да вячэрацi

Радченко, с. 85, № 61. Зап. у Дзятлаўскай вол. Гомельскага п.
Вар.: ГДУ, в. Глінішча Хойніцкага р. Малады прывозіць чобаты і абувае цешчу перад ад'ездам дадому. Цешча павінна ў іх патопаць. На дварэ перад ад'ездам; БДУ, папка 9, сш. 39, л. 8, в. Несцяравічы Стаўбцоўскага р. Н. р.:

А мне, матка, скрынкі, пярынкі і свечка,
Табе, матка, кубельчык без вечка;

папка 5, сш. 33, л. 22, в. Івана-Агароднікі Слуцкага р.; Захарава, 1984, с. 175, № 465, в. Барыскавічы Мазырскага р.; Запольский, с. 29, № 4, Мазырскі п.; Романов, 8, с. 469, Гомельскі п. У маладой. Н. р.:

Табе, мамачка, даёнка,
А мне, маладзенькай, кароўка;

Романов, 8, с. 484, Быхаўскі п. У час вячэры ў маладой маладыя сядзяць на куце; АІМЭФ, ф. 8, воп. 81, спр. 187, сш. 2, л. 4, 1981, в. Пятраш Хойніцкага р. Н. р.:

Табе, мамка, пасталы, аборы,
А мне, мамка, усе прыборы;

воп. 82, спр. 197, сш. 1, л. 209, № 90, 1982, в. Ясен Брагінскага р.; воп. 77, спр. 133, сш. 3, л. 51—52, 1977, в. Лучын Рагачоўскага р.; воп. 75, спр. 98, л. 64, 1975, в. Дзяражычы Лоеўскага р. Н. р.:

Табе, мамка, хлявы да каморы,
А мне, мамка, валы да каровы;

воп. 1, спр. 92а, ч. 1, л. 73, № 70, 1960, в. Азершчына Рэчыцкага р.; воп. 73, спр. 67, сш. 1, л. 27, 1973, в. Цялуша Бабруйскага р.; спр. 73, сш. 1, л. 12, 1973, калгас «Рассвет» Кіраўскага р. Як выпраўляюць маладую да маладога; спр. 72, сш. 5, л. 32—33, 1973, в. Бацэвічы Клічаўскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 27, л. 8, 1974, в. Знаменка Крупскага р. П. р.:

Стань, мая мамачка, у канец стала,
Мы з табой нагледзімся,
Бо ўжо позна, мы з табой раз'едзімся.

### 791. Давай, мамка, павячэраем

ГДУ. Зап. у в. Чарнейкі Рэчыцкага р. ад Я. Я. Шавяленка.

Вар.: АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 22, л. 1, 1979, в. Скенне Жлобінскага р.; Гілевіч, 1979, с. 413, в. Кабанаўка Жлобінскага р.; Сахараў, с. 110, в. Баравыя Лудзенскага п. Пасля пачастунку пачынаюць скакаць.

### 792. Сядзьмо, мамка, павячэраймо

Можейко, с. 147. Зап. у в. Тонеж Лельчыцкага р.

Вар.: АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 12, л. 10, 1979, в. Каплічы Калінкавіцкага р. Н. р.:

Табе, мамка, сустаўчыкі,
А мне твае пастаўчыкі;

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 62, сш. 12, л. 4, 1969, в. Тонеж Мазырскага р. Н. р.:

Табе, мамка, усе харомачкі,
А мне, мамка, усе каровачкі;

ф. 8, воп. 80, спр. 178, сш. 6, л. 96, № 80, 1980, в. Пярэдзелка Лоеўскага р.; в. Хутар Светлагорскага р.; спр. 180, л. 25, 1980, в. Каменка Рэпкінскага р. Чарнігаўскай вобл.; воп. 81, спр. 186, сш. 2, л. 28, 1981, в. Амелькаўшчына Хойніцкага р.; воп. 77, спр. 134, сш. 2, л. 39, 1977, в. Зеланковічы Глускага р.; воп. 85, спр. 229, л. 20, 1985, в. Радзівілавічы Лельчыцкага р.; ІРЛІ, к. XXX, папка 2, л. 23, № 23, 1932, в. Тонеж Тураўскага р.; ГДУ, сш. 54, л. 3, 1981, в. Ванюжычы Петрыкаўскага р. Н. р.:

Кладзі, матка, мне а свойчыкі,
А табе, матка, усе незакройчыкі;

сш. 51, л. 2, 1981, в. Хоўхла Буда-Кашалёўскага р.; 1978, Мілашэвічы Лельчыцкага р. Н. р.:

Табе, матка, дубовая бодня,
А мне тая, што шмаццейка поўна;

Довнар-Запольский, с. 31, № 239, в. Крае Пінскага п. Н. р.:

Табе ж, матка, новы двор і хлявец,
А мне, матка, новы кубел плацця і жарабец.

### 793. Нуша, мамачка, вячэраць

АІМЭФ, ф. 8, воп. 3, спр. 24, л. 1. Зап. у Кармянскай вол. Рагачоўскага п.

Вар.: воп. 78, спр. 144, сш. 1, л. 83, 1978, в. Барсукі Кармянскага р.; воп. 76, спр. 123, сш. 1, л. 69, 1976, в. Чаросава Лепельскага р.; Доброво льский, с. 140, № 324, в. Данькава Смаленскага п. Збіраюцца да жаніха; Эвальд, 1979, с. 61, в. Тураў Тураўскага р.; Дембовецкий, с. 377, л. 279, Магілёўскі п. Пасля заканчэння свадзебнага вечара. У час ад'езду маладых у дом жаніха; ГДУ, сш. 65, л. 2, 1981, в. Малькава Лёзненскага р.; Шейн, 1, с. 20, № 10, в. Мадзеліна, Воранава Віцебскага п. Н. р.: Пасля шлюбу ў доме маладой абед. (Некалькі песень пад адным нумарам.)

Табе, маманька, кручкі,
А мне, маманька, ручнічкі;

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 80, спр. 2, сш. 2, л. 30, 1980, в. Судкова Хойніцкага р.; Чубинский, с. 407, № 1156, в. Міхалкова Мазырскага п. Выезд маладых з дома бацькоў нявесты. Н. р.:

Выйдзі, матка, з-за вугла,
Да падзелім дабро з кубла;

Шлюбскі, с. 147, № 306, 1923, в. Таўсцюкі Віцебскага п.

### 794. Да пад барочкам зямелька-чарназём

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 97, сш. 8, л. 24. Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад А. С. Кажара, 67 г.

Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 47, сш. 2, л. 5, в. Зябкі Пліскага р.; спр. 14, сш. 4, л. 25, 1967, в. Саўскі Бор Лепельскага р. Н. р.:

А мне, мамулька, дужа доўгая дарога.
Заўтра, мамулька, я паеду вечарком,
Ты будзеш ліці дробны слёзкі ручайком;

Гілевіч, 1979, с. 413, в. Ладасна Лепельскага р.; с. 414, в. Гарадзішча.

### 795. Шаўковая нітачка сцелецца

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 49, сш. 2, л. 2. Зап. І. К. Цішчанка ў 1960 г. у в. Задоры Сіроцінскага р. ад Т. В. Волкавай.

### 796. Па полю туман сцелецца

АІМЭФ, ф. 8, воп. 81, спр. 187, сш. 1, л. 80. Зап. В. І. Скідан у 1981 г. у в. Сватаўка Бешанковіцкага р. ад Г. Я. Пляхневіч.

### 797. У гародзе ды палын з травой сцелецца

БДУ, папка 6, сш. 26, л. 2. Зап. Л. Каленік у в. Зялёны Бор Смалявіцкага р. ад Х. Кавалеўскай.

### 798. Сядзьмо, матка, павячэраймо са мною

ЦНБ АН БССР, ф. Логіна, № 193, л. 2, № 163. Зап. В. і А. Логіны ў 1913—1914 гг. у в. Моладава Навагрудскага п.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 3, сш. 2, л. 2, в. Любішчыцы Івацэвіцкага р. Н. р.:

Пашырае майму бацюшку падвор'е,
А павужае майму свякратку застолле.

### 799. Сядзьмо, мамачка, павячэраймо з табою

Гілевіч, 1974, с. 384. Зап. у в. Вулька Лунінецкага р.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 52, сш. 9, л. 8, 1952, в. Касцюкі Любанскага р. Н. р.:

І мяне вязуць і кароўку вядуць на падолле,
А табе, мамка, астаецца прасторнае падвор'е.

### 800. Сядзьмо, мамка, павячэраймо

БДУ, папка 6, сш. 20, л. 1. Зап. Канопліч у в. Стайкі Лепельскага р. ад К. Белькавец, 1903 г. н. Свахі, якія ўбіраюць маладую.

### 801. Сядземо, матка, павячэраймо са мною

ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 203, л. 277—278, № 7. Зап. у 1973 г. у Навагрудскім п.

Вар.: АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 81, Пухавіцкі р.

### 802. Сядзьмо, матка, павячэрай са мною

АІМЭФ, ф. 13, воп. 1, спр. 11, л. 51. Зап. вучні СШ у 1975 г. у Івацэвіцкім р. ад А. Р. Сера, 98 г.
Вар.: воп. 10, спр. 52, сш. 10, л. 11, 1972, в. Мінчакі Мядзельскага р.

### 803. Нуця, матка, вячэраць

Мезерницкий, с. 100, № 1. Зап. у г. Старадуб Чарнігаўскага п.

### 804. А ўжо ж не позна, а ўжо ж не рана, зарыцца

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 52, сш. 1, л. 57—58, № 57. Зап. Л. М. Салавей у 1972 г. у в. Каханавічы Верхнядзвінскага р. ад Н. В. Махоцкай, 62 г.

### 805. Сядзем, сястрыца, павячэраем з зарою

Гілевіч, 1979, с. 413. Зап. у в. Скупліно Барысаўскага р. Развітанне маладой з домам і ад'езд.
Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 67, сш. 18, л. 6, 1963, в. Падкраічы Бярозаўскага р. Н. р.:

Табе, сястроначка, адна частачка, а мне даве,
Бо табе ў сваёй мацёнкі рабіці,
А я пайду ліхой свякроўцы гадзіці.

### 806. Да столу, маё дзіцяця, да столу

ВПІ. Зап. у в. Калечча-Поле Глыбоцкага р. ад М. Н. Гіль, 1912 г. н.

### 807. Хадзі, мамачка, павячэраем з табою

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 78, сш. 4, л. 37. Зап. Н. П. Гваздзёў у 1963 г. у в. Лоск Смаргонскага р. ад А. Буракоўскай, 63 г.
Вар.: спр. 42, сш. 2, л. 36, 1959, в. Дзягілі Мядзельскага р. Н. р.:

Табе, мамачка, памытая судзінка,
А мне, мамка, авечка і свінка;

воп. 2, спр. 39, сш. 1, л. 65, № 87, 1976, в. Груздава Пастаўскага р. Апошні раз за сталом у маладой; спр. 52, сш. 2, л. 62, № 88, 1972, в. Якубоўшчына Міёрскага р.; воп. 75, спр. 105, сш. 1, л. 90, 1975, в. Прысынак Уздзенскага р.; воп. 76, спр. 117, сш. 1, л. 96, 1976, в. Навіны Лепельскага р.; спр. 123, сш. 2, л. 26, 1976, в. Карпінічы Полацкага р.; воп. 77, спр. 142, сш. 1, № 68, 1977, в. Чаланец Салігорскага р.; воп. 73, спр. 67, сш. 3, л. 6, 1973, в. Талька Пухавіцкага р.; воп. 81, спр. 191, сш. 2, л. 8, 1981, в. Вярхоўе Бешанковіцкага р. Маладая ад'язджае да маладога; ф. 13, воп. 10, спр. 37, сш. 1, л. 37, 1971, в. Маркава Маладзечанскага р. Н. р.:

У чужыя людзі, у чужую старану,
Каб не было мне, маладой, сораму;

спр. 44, сш. 11, л. 7, 1971, в. Смалічы Клецкага р.; спр. 89, сш. 87, 1968, в. Грыбоўшчына Шаркоўшчынскага р.; спр. 61, сш. 26, л. 2, 1963, в. Дзяткавічы Драгічынскага р. Н. р.:

Ходзіць курачка та па сметнічку, сакочыць,
Ходзіць дзевачка па новых сеня, гаворыць;

спр. 47, сш. 25, л. 7, 1953, в. Адвалкі Пліскага р.; спр. 68, л. 143, Беласточчына; спр. 40, сш. 68, л. 4, № 8, в. Мазуля Ушацкага р. Н. р.:

Села Машачка вячэрацi зарою,
А пасадзіла свайго татульку з сабою;

спр. 52, сш. 2, л. 4, 1972, в. Відокі Верхнядзвінскага р.; спр. 77, сш. 26, л. 7, 1974, в. Бярозаўцы Маладзечанскага р. Н. р.:

Табе мамачка, адна трубачка, а мне дзве...
Табе, мамачка, хата з вугламі,
А мне, маладой, скрыня з трубамі;

спр. 79, сш. 7, л. 19, в. Перамножац Вілейскага р. Н. р.:

Табе, мамачка, ардынькі, прыпунькі і тачок
А мне, маладзе, куфар адзежы і бычок;

спр. 21, сш. 3, л. 1, 1967, в. Іванава Нясвіжскага р.; воп. 9, спр. 6, л. 58, в. Стрыганец Жабінкаўскага р.; ф. 9, воп. 3, спр. 33, сш. 6, л. 14, 1930, в. Стаўрова Відзаўскага р.; спр. 7, л. 168, 1888, в. Харава Пружанскага п.; БДУ, папка 10, сш. 8, л. 11, в. Жардзяжжа Лагойскага р.; папка 5, сш. 1, л. 5, в. Новыя Туркі Докшыцкага р. Н. р.:

Табе, мамачка, лугі, берагі і ніўкі,
А мне, мамачка, авечкі ды свінкі;

сш. 10, л. 7, в. Чарэшня Навагрудскага р. А. р.:

А мне, маладой, ліхая свякроў, залвіца;

папка 3, сш. 17, л. 1, в. Атрубак Докшыцкага р. Н. р.:

Табе, мамачка, уся твая скацінка,
А мне, мамачка, адна авечка і свінка;

сш. 18, л. 14, в. Пячное Лагойскага р.; БДУ, д., 1980, л. 41, в. Мансеева Лунінецкага р. Перад ад'ездам да маладога; АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 111, в. Двор Жэрчаніцы Ушацкага р.; Материалы, 2, с. 4, Слонімскі п.; с. 27, Кобрынскі п. За вячэраю. Н. р.:

Табе, матанька, пачыначкі, клубочкі,
А мне, матачка, сарочкі, платочкі;

ГДУ, 1960, в. Засінцы Ельскага р.; Пашкова, с. 65, в. Хомск Драгічынскага р.; Гілевіч, 1973, с. 79, в. Альсевічы Мядзельскага р.; Захарава, 162, 1967, в. Пелішча Камянецкага р. Развітанне нявесты з бацькамі; Шейн, 1, с. 143, № 1, в. Латыголічы Барысаўскага п. Калі п'юць барыш у маладой.

### 808. Ой, клён-ліпа па дарозе сцелецца

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 64, сш. 12, л. 6, № 10. Зап. А. А. Васілеўская ў в. Ігрушка Крупскага р. ад В. П. Феськавай, 1903 г. н.

Вар.: спр. 78, сш. 43, л. 7, 1974 г., в. Замасточча Докшыцкага р.; спр. 109, сш. 1, л. 3, 1967, в. Ланькава Бялыніцкага р.; спр. 96, л. 9, 1965, в. Глыбокае Шклоўскага р.; л. 9, № 2, 1965, г. п. Талачын Аршанскага р.; воп. 2, спр. 38, сш. 2, л. 19, 1970, в. Падольцы Астравецкага р. П. р.:

Кляновы лісточак па новых сенях сцелецца;

ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, спр. 6, л. 5, № 139, 1936, в. Забашавічы Барысаўскага р. Н. р.:

На дварэ трава-мурава сцеліцца...
А мяне будуць людзі судзіці, а цябе не.

### 809. Сцелецца зялёна рута, сцелецца

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 3, сш. 1, л. 8. Зап. А. А. Шчыт у 1964 г. у в. Масленкі Пастаўскага р. ад Я. У. Якубцэвіч, 48 г.

Вар.: ф. 8, воп. 79, спр. 164, сш. 2, л. 43, 1979, в. Мільча Вілейскага р.; РГТ, р. 5, № 9, л. 25, 1889, ваколіцы Віцебска; Гілевіч, 1979, с. 416, Докшыцкі р.

### 810. Пры дарозе белы рамон сцелецца

Гілевіч, 1979, с. 412—413, в. Гурнавічы Маладзечанскага р. Развітанне маладой з домам і ад'езд.

Вар.: Гілевіч, 1973, с. 281, в. Лебедзева Маладзечанскага р.; Гілевіч, 1974, с. 384, в. Крэва Смаргонскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 83, сш. 6, л. 3, 1963, в. Дахны Смаргонскага р.; воп. 2, спр. 37, сш. 1, л. 93, 1970, в. Сямёны Ашмянскага р.; воп. 73, спр. 63, л. 29—30, 1973, в. Плашчацы Шклоўскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 6, л. 43, 1967, в. Вербаўцы Валожынскага р.; спр. 30, сш. 14, л. 10, 1967, в. Кеждуны Астравецкага р.; БДУ, папка 1, сш. 6, в. Паляны Радунскія Гродзенскага р.; папка 2, л. 3, в. Кімія Барысаўскага р. Н. р.:

На дварэ палын з травой сцелецца;

Захарава, 1984, с. 175, № 466, в. Новая Рудня Ельскага р.

### 811. Маё нізкае падвор'е

Гілевіч, 1979, с. 285—286. Зап. у в. Сяледчыкі Маладзечанскага р. Маладой у застоллі.

### 812. Захацела красна Волечка замуж маладая

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 145, сш. 5, л. 36, № 106. Зап. Л. А. Малаш у 1975 г. у в. Морына Іўеўскага р. ад Я. М. Ліхарад, 71 г.

**813. Пераплыла рыбка з возера ў мора**

БДУ, папка 6, сш. 5, л. 1. Зап. у 1975 г. у в. Пугачы Валожынскага р. ад З. А. Чэрнік, 75 г.

**814. Ці табе, Мар'ечка, роскаш надаела**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40, сш. 70, л. 2. Зап. А. Н. Дзешчыц у 1953 г. у в. Стымоні Смаргонскага р. ад Ф. К. Серпутовіч.
Вар.: спр. 45, 1967, в. Агароднікі Валожынскага р. Н. р.:

Не ўмыешся вадзіцай, не ўтрэшся ручнічком,
Умыешся слёзкамі, абатрэшся рукаўцом.

**815. Маладая Марыйка**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 81, сш. 43, л. 11. Зап. Т. У. Гудзень у 1975 г. у в. Каўшары Іўеўскага р. ад Л. Я. Кавалеўскай, 62 г.

**816. Да ці табе, Манечка, роскаш надаела**

БДУ, папка 8, сш. 46, л. 6. Зап. А. Ф. Плявака ў в. Макраны Капыльскага р. ад М. І. Лазук, 1907 г. н.
Вар.: папка 8, сш. 50, л. 9, в. Ячнае Стаўбцоўскага р.; Гілевіч, 1979, с. 307. Маладой у застоллі.

**817. Табе, дзевачка, роскаш дадзела**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 105, сш. 2, л. 1—2, № 72. Зап. А. М. Пахомава ў в. Прысынак Уздзенскага р. ад А. Р. Жымоўскай.

**818. Ці ты, Сонечка, з розуму сышла, з сваіх лет**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 14, сш. 4, л. 26, № 28. Зап. М. М. Кляшчонак у 1967 г. у в. Саўскі Бор Лепельскага р. ад Я. М. Аўташко, 60 г.

**819. Каялася ластачка**

Довнар-Запольский, с. 34, № 259. Зап. у в. Выганашты Пінскага п.

**820. Ластаванька чорнанька**

Материалы, 2, с. 59. Зап. у в. Опаль Кобрынскага п.

**821. А зіма, зіма, чаго сцюдзёна**

Романов, 8, с. 425. Зап. у в. Казяны Гарадоцкага п.
Вар.: Романов, 1—2, с. 359, № 97, Клімавіцкі п.; ДГМ, ф. 56, папка 1, л. 458, № 10, 1839, Ігуменскі і Барысаўскі п. Н. р.:

Рэкі пасталі, пазамярзалі, то ж мая другая,
Снягі напалі, дарогі сталі, то ж мая трэцяя;

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 35, сш. 12, л. 5, 1971, в. Рабунь Вілейскага р. Н. р.:

Дробны дождж ідзець, белы снег падзець,
А марозік пацiскае;

спр. 48, сш. 11, л. 18, 1952, в. Фалькі Ушацкага р.; Шейн, с. 746, № 33, Гарадоцкі п.

**822. Чом ты, зімачка, чом, халодная, раненька наступаеш?**

Радченко, с. 75, № 22. Зап. у Гомельскім п.

**823. Ты, баравая зязюля**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 16, сш. 1, л. 57. Зап. І. М. Макарэвіч у 1982 г. у в. Еськаўка Горацкага р.

Вар.: воп. 10, спр. 83, сш. 65, л. 6, № 10, 1974, в. Ляшчынск Мядзельскага р.; спр. 82, сш. 56а, 1974, в. Новы Гарадзец Талачынскага р.; спр. 47, сш. 18, л. 4, 1952, в. Суднікі Ільянскага р.; ВПІ, г. п. Барковічы Верхнядзвінскага р.; в. Ласкаўшчына Глыбоцкага р.; Родзяловская, с. 223, Радашковіцкая вол. Вілейскага п.; БДУ, д., 1976, в. Хацюхова Крупскага р.; БДУ, папка 1, сш. 28, 1968, Вілейскі р.; папка 9, сш. 28, л. 6, в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р.; папка 5, сш. 18, л. 7, в. Пячное Лагойскага р.

**824. Лугавая зязюля, чаго ты ў бор ляцела?**

ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 9, л. 57, № 278. Зап. А. Валевіч у 1936 г. у в. Уша Бярэзінскага р. ад М. А. Пласт, 25 г.

**825. Чаго ты, цяцера**

Добровольский, с. 177, № 425. Зап. у в. Холашава Краснінскага п.

**826. Ой, дурна, дурна цяцера**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 83, сш. 6, л. 16. Зап. В. М. Іваноўская ў 1963 г. у в. Дахны Смаргонскага р.

Вар.: воп. 2, спр. 41, сш. 1, л. 22, 1971, в. Рымкі Пастаўскага р.

**827. У цябе, Ганулька, розуму мала**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92, сш. 1а, л. 4. Зап. Р. Е. Амельяновіч у 1972 г. у в. Няверы Мядзельскага р. ад В. М. Скурко.

Вар.: спр. 55, сш. 4, л. 2, 1963, в. Ліпава Мядзельскага р. Н. р.:

Русу касіцу ты й расчасала,
Твая маладасць ужо прапала.

**828. Куды, куды, маладая Галечка, паедзеш?**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 85, сш. 3, л. 9. Зап. А. І. Гурскі ў 1974 г. у в. Гародзькі Валожынскага р. ад М. Р. Станкевіч, 67 г. Як ад'язджае маладая.

**829. У нядзелю рана сіне мора грала**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 146, сш. 1, л. 13, № 14. Зап. В. І. Скідан у 1978 г. у в. Хадасы Навагрудскага р. ад Л. А. Ціхановіч. Маладой.

Вар.: Захарава, 1984, с. 165, № 420, в. Рудня Каменевая Лоеўскага р.

### 830. У нядзельку рана скрыпачка іграла

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40в, сш. 71, л. 3, № 4. Зап. Т. В. Булан у калгасе «Пабеда» Шаркоўшчынскага р. ад В. І. Машара, 59 г.

### 831. Ой, аддае маці дачку

Federowski, с. 337, № 631. Зап. каля Свіслачы Ваўкавыскага п. Вар.: с. 325, № 594, каля Свіслачы Ваўкавыскага п.

### 832. Паедзеш, Гэлечка, ў чужыя людзі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 78, л. 3. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Заэерка Пухавіцкага р. ад Е. Ф. Коўзель, 81 г. Як забіраюць маладую.

Вар.: спр. 81, сш. 4, л. 39, 1974, в. Стайкі Валожынскага р. Н. р.:

Па вуліцы пойдзем да разам абое.
Ён сваё занясе, па маё падыйдзе,
Ён мяне маладую шкадаваці будзе;

воп. 73, спр. 67, сш. 2, л. 34, 1973, в. Майсеевічы Асіповіцкага р.; воп. 75, спр. 96, сш. 2, л. 41, № 34, 1975, в. Клінок Чэрвеньскага р. Як адвозяць маладую; спр. 97, сш. 2, л. 81, № 70, 1975, в. Рачэнь Любанскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 37, сш. 1, л. 37, № 5, 1971, в. Маркава Маладзечанскага р.; спр. 60, сш. 10, л. 4, в. Макраны Капыльскага р.; спр. 27, сш. 1, л. 13, 1957, в. Шаўялі Ляхавіцкага р.; спр. 52, л. 7, 1972, в. Краснае Барысаўскага р.; спр. 79, сш. 16, л. 29, в. Лазавічы Клецкага р.; воп. 9, спр. 13, сш. 18, л. 4, 1960, в. Воронічы Рудзенскага р. Н. р.:

Я па ваду іду, трысцінку гіблю.
Трысцінку гіблю, пярсцёнкі нішу.
Мая мамка чуе, па мне бядуе;

воп. 8, спр. 4, сш. 5, л. 8, 1951, в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р.

### 833. Паедзеш, Галюхна, у чужыя людзі

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 5, л. 12. Зап. у 1979 г. у Гомельскай вобл.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 35, сш. 3, л. 4, № 9, 1971, в. Боркі Ганцавіцкага р.; ф. 8, воп. 76, спр. 116, сш. 5, л. 19, 1976, в. Заастравечча Клецкага р. Як ад'язджае маладая да маладога; Захарава, 1984, с. 186, № 525, в. Рамязы Ельскага р.

### 834. Да паедзеш, Марылька, ў чужыя людзі

Шырма, с. 270, № 258. Зап. у в. Мікалаеўшчына Мінскага р.

### 835. Да ты, ўточка да рабенькая

Federowski, с. 477, № 1131. Зап. каля Моўчадзі ў Навагрудскім п. Ад маткі выязджаюць.

**836. Хіба табе, Валечка, роскаш дадзела**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 4, сш. 8, л. 2. Зап. В. Эпштэйн у 1951 г. у в. Васільчыцы Капыльскага р. ад В. А. Саковіч, 33 г.

Вар.: спр. 58, сш. 28, л. 5, 1968, Шчучынскі р.; БДУ, папка 6, сш. 47, л. 3, в. Старына Ушацкага р.

**837. Як пайду я ў лес па дровы**

Захарава, 1984, с. 186, № 524, в. Антонаўка Буда-Кашалёўскага р.

**838. Ой, ты рыбачка-краснапёрачка**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40в, сш. 70, л. 2, № 3. Зап. А. Н. Дзешчыц у в. Талмуцішкі Смаргонскага р. ад А. І. Лукоўскай.

Вар.: спр. 79, сш. 7, л. 29, 1974, в. Пераможац Вілейскага р. Н. р.:

Адну ручачку пад галовачку,
Вот твая пасцелечка;

Tyszkiewicz, с. 333—334, в. Данішава Свянцянскага п. Н. р.:

Як старому, так і малому,
Так свайму дзевяратку ліхому.
Падаўшы ж піць — памыці лыжкі,
Мыючы лыжкі, ліючы слёзкі, некалі іх уціраці.

**839. Ты гуляй, гуляй, рыбка-плаціца**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 34, сш. 11, л. 5—6, № 4. Зап. І. І. Кайко ў 1951 г. у калгасе «Пераможац» Мядзельскага р. ад Л. Зваруга.

**840. Гуляй-пагуляй, шчука-плаціца**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 45, сш. 1, л. 27. Зап. С. В. Барыс у 1971 г. у в. Разлуцішкі Пастаўскага р. ад С. Я. Лапчонак, 60 г. Як ад'язджае маладая да маладога.

Вар.: спр. 43а, сш. 2, л. 2—3, в. Жукоўшчына Шаркоўшчынскага р.; воп. 75, спр. 231, сш. 1, № 110, 1985, в. Лапішкі Глыбоцкага р.; ф. 13, воп. 9, спр. 5, л. 33, 1960, в. Іказнь Браслаўскага р.; воп. 10, спр. 67, сш. 29, л. 4, № 8, 1967, в. Нарач Мядзельскага р.; БДУ, папка 3, сш. 30, л. 3—4, в. Жардзяжжа Лагойскага р. Н. р.:

Рэкі, азёры павысыхаюць, недзе гуляць будзе...
Стары не бярэ, малы не знае,
Кожны свой гонар мае;

Гілевіч, 1979, с. 289, в. Скупліно Барысаўскага р.

**841. Плыві, рыбачка, плыві, плотачка**

БДУ, папка 1, сш. 1, л. 2. Зап. М. Жоль і І. Затрымайлава ў в. Повязынь Маладзечанскага р. ад М. Р. Вашкевіч, 84 г.

### 842. Ты гуляй, гуляй, рыба-плаціца

Добровольский, с. 171—172, № 415. Зап. у в. Данькава Смаленскага п. Пасля вяселля перагосткі.

Вар.: Шейн, 1, с. 356, № 2, в. Манастыршчына Мсціслаўскага п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 32, сш. 19, л. 9, № 11, в. Балотца Любчанскага р.

### 843. Ай, гуляй, гуляй, белая рыба

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 166, сш. 2, л. 71—72. Зап. І. І. Крук у 1979 г. у в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. ад М. А. Кавалёвай.

### 844. А гуляй, гуляй, шчука-рыбачка

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 10, л. 13. Зап. Р. Чыстая, Л. Івалова ў 1960 г. у в. Брылі Барысаўскага р. ад Г. К. Мінінай, 55 г.

Вар.: ф. 8, воп. 2, спр. 27, сш. 2, л. 37—38, 1970, в. Жупраны Ашмянскага р. Н. р.:

А як ты была, рыба-плотачка, ты ж была ў возеры,
А цяпер пойдзеш, рыба-плотачка, у быструю рэчку.

### 845. Разлівалась сіне мора, разлівалась

ІРЛІ, к. 40, папка 1, л. 32, № 33. Зап. М. Ю. Зубаў у 1906 г. у в. Мікулічы Клімавіцкага п.

### 846. Ой, гуляй, рыбка, гуляй

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 93. Зап. у в. Раздзялавічы Ганцавіцкага р. ад М. М. Рабцэвіч, 1908 г. н.

Вар.: спр. 55, сш. 32, л. 3, 1952, в. Слаўкава Нясвіжскага р.

### 847. Ой, гуляй, гуляй, шчука-рыба

Материалы, 2, с. 3. Зап. у Кобрынскім п.

Вар.: Чубинский, с. 618, Кобрынскі п. Н. р.:

Бо хутка заплывеш ужо ў чужыя краі.
Там будзеш злаўлёна, з лушчыцы злуплёна
І маладцові на абед зварона.

### 848. Гуляй, рыбка, гуляй

Бессараба, с. 251, № 105. Зап. у 1902 г. у в. Любенка Бельскага п.

Вар.: Чубинский, с. 369, № 1021, в. Макраны Кобрынскага п. Расплятаюць косы і пакрываюць галаву маладой. Н. р.:

Ой, гуляй, гуляй, бела рыба, па ціхаму Дунаю,
Бо як пойдзеш на быстры рэкі, не будзеш гуляці.

### 849. Ой, калапенька зялёненька

БДУ, д. Зап. В. А. Яновіч у 1976 г. у в. Кузьмічы Мядзельскага р. ад Ю. Дзікой, 74 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 3, л. 7, 1964, Пузырэўскі с/с Крывіцкага р.

### 850. Мамачка мая, родная мая

Гілевіч, 1973, с. 430. Зап. у в. Лішчыцы Лагойскага р.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 1, сш. 28, л. 1, 1978, в. Гатава Мінскага р.

### 851. На сіняму на Дунайку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 21, сш. 1, л. 40, № 42. Зап. В. І. Скідан у 1969 г. у в. Ставок Пінскага р. ад Е. С. Гарбацэвіч.

Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 72, сш. 1, л. 15, в. Людзяневічы Жыткавіцкага р. Н. р.:

Каля новага млына, там шэрая вутка плыла,
А Танечка дзівавалася, слёзкамі абліваліся...
Пакуль вадзіцы дастала, дык вячэра ўжо пахаладала.

### 852. Куды паляціш, сівая зязюля

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 1, сш. 14, л. 4—5, № 5. Зап. А. Н. Андрэева ў 1962 г. у в. Рэцімля Навагрудскага р. ад В. М. Бузюк, 72 г.

### 853. Як табе, Тамарачка

ГДУ. Зап. С. У. Пяткявічус у 1978 г. у г. Добрушы ад М. С. Гардачэнка, 59 г.

### 854. Паеду, братка, я із свайго дому

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 45, сш. 2, л. 18. Зап. Л. М. Салавей у 1966 г. у в. Агароднікі Валожынскага р. ад А. Ф. Салавей, 71 г.

### 855. Чаго ж ты, Галечка, сядзіш, бядуеш?

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 65, сш. 17, л. 3, № 5. Зап. Г. Л. Сыраватка у в. Вязынь Вілейскага р.

Вар.: спр. 83, сш. 61, л. 4, № 8, 1974, в. Закрынічча Лагойскага р. Н. р.:

Пейце-не пейце, плакаць не буду...
А свякроўка казала, што я ей не трэба.

### 856. Пайду я замуж ды даведаюся

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92. Зап. у в. Леніна Слуцкага р. ад В. М. Аўрамчык, 73 г.

Вар.: спр. 13, сш. 15, л. 17, № 3, Слуцкі р. Н. р.:

А мамачка скажа:— Ты ў нас без дзела,
Ідзі, маё дзіцятка, куды сама захацела; 2

спр. 25, л. 13, № 17, 1967, в. Мілеўцы Навагрудскага р.; спр. 23, сш. 6, л. 6, № 11, в. Лявонавічы Нясвіжскага р.; спр. 35а, сш. 10, л. 20, № 26, 1965, в. Уланава Слуцкага р. Н. р.:

А сястра скажа:— Загадаю дзела і так доўга сядзела;

спр. 64, сш. 10, л. 5, № 13, 1964, в. Лапаравічы Мінскага р.; спр. 59, сш. 20, л. 3, 1965, в. Лазоўка Лагойскага р. Н. р.:

Сяду, сяду наабедаюся...
У цябе, мамка, печку вытаплю...
За цябе, мой татка, каня напаю...
За цябе, мая сястрычка, хатку падмяту;

спр. 61, сш. 31, л. 3, 1953, в. Русакі Капыльскага р.; спр. 79, сш. 16, л. 3, в. Лазавічы Клецкага р. Н. р.:

Мамачка скажа:— Загадаю дзела,
Яшчэ маё дзіцятка ды й мне не дадзела;

воп. 8, спр. 14, л. 5, № 9, 1950, в. Галавенчыцы Стаўбцоўскага р. Н. р.:

Ой, люду, люду, да ■ тут не буду,
Пайду я ў людзі, ці не лепей будзе...
Прымі мяне, татачка, з хлеба, з солі,
З хлеба, з солі, з усяго даволі;

ф. 8, воп. 79, спр. 159, сш. 1, № 30, 1979, в. Вітунічы Докшыцкага р. Калі падоруць і маладая ад'язджае. Н. р.:

Дамоў вярнуся — з хлеба згаджуся;

воп. 84, спр. 1, л. 54, 1984, в. Першамайск Салігорскага р. Н. р.:

А сястрыца скажа:— Толькі не бурчаці,
Да прашу цябе выйсці із хаты;

воп. 73, спр. 71, сш. 1, л. 82, 1973, в. Талька Пухавіцкага р.; воп. 1, спр. 61, сш. 2, л. 42, 1961, в. Шыпяны Смалявіцкага р.; воп. 75, спр. 96, сш. 4, л. 54, № 44, 1975, в. Языль Старадарожскага р.; БДУ, папка 6, сш. 47, л. 3, в. Старына Ушацкага р.; папка 8, сш. 50, л. 7, в. Ячнае Стаўбцоўскага р. Н. р.:

Ды вышла дзевачка за новыя вароты,
Ручкамі спляснула, цяжанька ўздыхнула:
— Да божа ж, мой божа, чаго ж я прыждала,
Свайму роднаму татку ды няміла стала;

папка 2, сш. 45а, л. 7, в. Ільля Вілейскага р.; папка 12а, сш. 12, л. 3, Докшыцкі р. Н. р.:

Мае кусочкі ўсё падзялёны,
Дзіцятка маё, ты ж адлучона;

ГДУ, в. Тульгавічы Хойніцкага р.; Янчук, с. 53, № 23, в. Языль Бабруйскага п.; Гілевіч, 1973, с. 438, в. Слабада Лагойскага р.; Гіле-

віч, 1974, с. 381, в. Садкаўшчына Дзяржынскага р.; Federowski, с. 368, № 716, каля Ляхавіч у Слуцкім п.

### 857. Дай пайду я замуж да даведаюся

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 107, л. 49. Зап. А. А. Шамак у 1975 г. у в. Явішчы Уздзенскага р. ад М. І. Чыгір.

Вар.: БДУ, папка 12а, сш. 17, л. 5, в. Лоша Дзяржынскага р.

### 858. Пайду замуж хоць за вецера

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 22, л. 17. Зап. А. Я. Дылейка ў 1974 г. у в. Замошша Талачынскага р. ад А. В. Леановіч, 60 г.

Вар.: Гілевіч, 1974, с. 390, в. Дунавік Талачынскага р.; Гілевіч, 1979, с. 301, в. Гальцэва Талачынскага р.

### 859. Ішлі дзевачкі з вішання

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 77, сш. 2, л. 6. Зап. К. А. Цвірка ў 1973 г. у в. Старое Сяло Віцебскага р. ад А. Я. Шпунтавай, 65 г.

Вар.: воп. 1, спр. 90, сш. 1, л. 47, в. Ходцы Сенненскага р.

### 860. Ты, калапенька, ты, зеляненька

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 78, сш. 6, л. 39. Зап. у 1963 г. у в. Сырмеж Мядзельскага р.

Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 20, № 17, 1974, в. Залессе Гродзенскай вобл.; Гілевіч, 1979, с. 275—276, в. Лейцы Мядзельскага р.; Шырма, с. 103, № 88, Мерзлякова Лёзненскага р.

### 861. Аддала мама дачушку

БДУ, папка 6, сш. 5, л. 1. Зап. у 1975 г. у в. Пугачы Валожынскага р. ад З. А. Чэрнік, 75 г.

### 862. Ты казала, мамка

Захарава, 1984, с. 171, № 446, в. Кавалі Ельскага р.

### 863. Іскарка-прыгаўка наша Валечка

БДУ, папка 6, сш. 27, л. 6. Зап. Т. І. Пруская ў Талачынскім р.

Вар.: АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 10, л. 18, 1964, в. Козінава Гарадоцкага р. Н. р.:

Скокаўка-прыгаўка сарока на дварэ,
Скокнула-прыгнула з куста на куст;

ф. 8, воп. 2, спр. 18, сш. 2, л. 30, 1969, в. Сінкевічы Лунінецкага р.; воп. 73, спр. 72, сш. 1, л. 67, 1973, в. Уюн Быхаўскага р. Н. р.:

Жалею, дзіцятка, жалею,
Толькі волечкі не даю;

воп. 74, спр. 92, сш. 2, л. 35, 1974, в. Абчуга Крупскага р. Н. р.:

Я ж у цябе ночку пасле́днюю начаваць буду,
А заўтра раненька выязджаць буду;

воп. 78, спр. 151, сш. 1, л. 38, 1978, в. Ляле́ўшчына Гарадоцкага р. Н. р.:

Хоць гукай — не гукай — не адгукнуся
Ды к свайму міламу прыгарнуся;

воп. 77, спр. 128, сш. 3, № 55, 1977, в. Курганне Рагачоўскага р.; ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 5, л. 3, 1964, в. Панкратаўка Горацкага р.; воп. 10, спр. 52, сш. 13, л. 10, 1972, в. Зарудаўе Мастоўскага р.; Шейн, 1, с. 21, № 11, в. Мадзеліна Віцебскага п.; Дембовецкий, с. 561, № 138, Магілёўскі п.; с. 554, № 73, Аршанскі п.; Добровольский, с. 96, № 194, в. Данькава Смаленскага п.; Прозвицкая, с. 149, Сібір; Мажэйка, с. 291, в. Пушкі Лёзненскага р. Мел. на вар. З. Я. Мажэйка.

### 864. Мая матка родна

Zienkiewicz, с. 115—116, № 93. Зап. у Пінскім п.

### 865. На гарэ, на гораньца

Микуцкий, с. 239—240. Зап. у в. Зябкі Дрысенскага п.

### 866. Татачка родненькі

АН СССР, ф. 104, воп. адз. зах. 251, л. 4, № 2. Зап. у Глівінскай вол. Барысаўскага п.

### 867. Мая мамачка

Киркор, с. 148. Зап. у Віленскай губ.

### 868. Пыталася млада Волечка ў мамулечкі

Гілевіч, 1979, с. 287. Зап. у в. Вацьковічы Ушацкага р.

### 869. Кукавала зязюлечка ў садочку

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 82, сш. 55, л. 15. Зап. Н. Канус у 1974 г. у в. Рыбалава Дзятлаўскага р. ад М. С. Малік.

Вар.: Захарава, 1984, с. 165, № 423, в. Барыскавічы Мазырскага р.

### 870. Закукавала шэра зязюля ў садочку

АІМЭФ, ф. 13, воп. 2, спр. 11, сш. 1, л. 12—13. Зап. І. Ю. Януш у 1972 г. у в. Новы Пагост Мсціслаўскага р. ад Т. С. Януш, 62 г.

Вар.: ф. 8, воп. 2, спр. 47, сш. 2, л. 21, 1971, в. Лабуцеўцы Браслаўскага р.; воп. 1, спр. 47, сш. 3, л. 40—41, 1960, в. Глушыца Сіроцінскага р.; воп. 74, спр. 84, сш. 2, л. 30, № 36, 1974, в. Вялікія Хальнявічы Крупскага р.; БДУ, папка 10, сш. 22, л. 19, в. Андрэйчыкі Ушацкага р.; Шлюбскі, с. 140, № 283, 1914, в. Забулдычына Полацкага п. Княгіня перад ад'ездам да маладога.

### 871. Да вумная-разумная Волечка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 85, спр. 1, № 91. Зап. А. С. Ліс у 1985 г. у в. Вайшкуны Пастаўскага р. ад І. Чакага, 89 г.

**872. Хадзіла Маруся па навіне**

Шейн, 1, с. 355, № 12. Зап. у в. Ігрушка Сенненскага п. Маладая ад'язджае да маладога.

**873. А ў панядзелак ясна соўнейка ўсхадзіла**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 2, л. 45, № 29. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. ад Г. В. Клімовіч, М. Т. Галанькова. Як маладуха ад'язджае.

**874. Мамачка мая, я госця твая**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 37, сш. 1, л. 38. Зап. Н. М. Шнаркевіч у 1971 г. у в. Маркава Маладзечанскага р. ад К. Асіповіч.

**875. Абыходная зорачка**

Гілевіч, 1979, с. 273. Зап. у в. Паўстынь Слуцкага р.

**876. Ой, гарэшкі, гарэшкі**

БДУ, папка 3, сш. 14, л. 7. Зап. В. В. Іўчанка ў в. Гурнавічы Маладзечанскага р. ад А. Д. Кентра.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 80, сш. 1, л. 25, 1974, в. Белакорац Валожынскага р. На ад'езд маладой.

**877. Ты ж кляніна, кляніна**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 44, сш. 5, л. 8, № 6. Зап. З. М. Шляхціна ў 1971 г. у в. Дражна Старадарожскага р. ад М. Гершанчук, 83 г.

Вар.: воп. 9, спр. 3, сш. 1, л. 39, 1959, в. Веснаў Глускага р.; ф. 8, воп. 83, спр. 212, сш. 2, л. 181, 1983, г. п. Тураў; БДУ, папка 8, сш. 1, л. 2, в. Міхайлы Свіслацкага р.; Гілевіч, 1979, с. 283, там жа; Довнар-Запольский, с. 36, № 276, в. Святая Воля Пінскага п. Н. р.:

Тваю хаду пераходжывацьмуць,
Тваё дзела пералажывацьмуць.

**878. Ты, зялёны барвінцу**

Материалы, 2, с. 55—56. Зап. у в. Опаль Кобрынскага п.

**879. Кляновая да лісціначка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 22. Зап. Л. М. Салавей у 1983 г. у в. Залюцічы Жыткавіцкага р.

Вар.: воп. 85, спр. 229, № 60, в. Дзякавічы Жыткавіцкага р. Н. р.:

Усёй век на паншчыну.
Торбачку пачапіла,
Слёзачку пусціла.
Ох, слёзачку вытраш,
На паншчыну пойдзеш;

ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 19, л. 3, 1974, в. Ананчыцы Салігорскага р.; БДУ, д., 1980, л. 51, в. Мансеева Лунінецкага р. Н. р.:

А як пойдзеш жыта жаці,
То і забудзеш хлеба ўзяці;

Federowski, с. 404, № 844, каля Ляхавіч і Клецка Слуцкага п. Як павіваюць маладую.

### 880. Кляновая лісціначка

Czeczot, 1844, с. 68—69. Зап. над Дзвіной.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 52а, сш. 4, л. 10, № 13, 1972, в. Таўкачэвічы Уздзенскага р.; воп. 77, спр. 134, сш. 1, л. 9, 1977, в. Дзербін Акцябрскага р.; воп. 85, спр. 231, сш. 1, № 79, 1985, в. Лапішкі Глыбоцкага р.; ф. 13, воп. 8, спр. 3, сш. 2, л. 3, № 15, в. Любішчыцы Івацэвіцкага р.; воп. 10, спр. 35а, сш. 19, л. 4, 1965, в. Забалаць Нясвіжскага р.; БДУ, папка 6, сш. 43, л. 5, в. Далёкія Браслаўскага р.; Дембовецкий, с. 560, № 130, Гомельскі п.; Радченко, с. 87, № 74, Дзятлаўская вол. Гомельскага п.; Federowski, с. 495, № 1200, каля Моўчадзі Навагрудскага п. Як маладая выязджае ў панядзелак да свякрові; Захарава, 1984, с. 184, № 517, в. Барэц Лоеўскага р.; с. 230, № 720, в. Парэчча Пінскага р.; Гілевіч, 1973, с. 380, в. Паляны Барысаўскага р.

### 881. Кляновая лісціначка

Мажэйка, с. 318. Зап. у в. Шпакоўшчына Полацкага р.

Вар.: Гілевіч, 1979, с. 261, в. Старына Ушацкага р.; БДУ, папка 12, сш 24, л. 2—3, в. Старына Ушацкага р.; папка 6, сш. 16а, л. 7, в. Баяры каля калгаса «Бягомльскі» Докшыцкага р. Н. р.:

Ці замуж, ці служыць, ці на век добра жыць;

Шлюбскі, с. 138, № 276, 1915, в. Арлоўка Полацкага п. Малады бярэ княгіню; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 2, л. 17, 1976, в. Крыўкі Лепельскага р.; воп. 74, спр. 80, сш. 2, л. 23, 1974, в. Налібакі Стаўбцоўскага р. Калі маладая выбіраецца да маладога. Н. р.:

— Куды выбіраешся проці цёмнай ночкі,
Проці яснай зорачкі;
— Я й сама да не ведаю,
Куды мяне мамка выпраўляе
Проці цёмнай ночкі,
Проці яснай зорачкі;

ф. 13, воп. 2, спр. 11, сш. 1, л. 6, в. Новы Пагост Міёрскага р.

### 882. Кляновае лісцінёнка, куды, куды цябе ветры веюць?

Сахараў, с. 111, № 309. Зап. у 1939 г. у в. Шушкі Лудзенскага п. Пры развітанні маладой з родным домам.

### 883. А туча, туча грозная

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 10, сш. 4, л. 16. Зап. Л. М. Салавей у 1968 г. у в. Хатавіж Клімавіцкага р. ад М. С. Аляксеенкі, 62 г.

### 884. У борку, у борку, у пры борку

Шейн, с. 206, № 350. Зап. у в. Дуброўка Лепельскага п.
Вар.: Шейн, 1, с. 444, № 20, в. Прудкі Смаленскага п. Н. р.:

Кросны ткала — ірвала,
Мая ж дачушка дасужка.
Бел кужаль прала — звінела,
Кросны ткала — грымела;

Дембовецкий, с. 550, № 36, Клімавіцкі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 74, сш. 1, л. 40, № 22, 1973, в. Баркалабава Быхаўскага р. Н. р.:

Драмліва нявехна, драмліва,
Да яркага сонейка драмала,
Ніякага дзелачка не знала..
Па дроўцы пойдзе — заб'ецца;

БАН, ф. 45. 8. 235; ВПІ, 1980, в. Біцялёва Віцебскага р.

### 885. Ой, борку, борку, пры борку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 10, спр. 12, сш. 8, л. 38. Зап. Г. Маслёнік у 1967 г. у в. Вербаўцы Валожынскага р. ад М. І. Маслёнік.
Вар.: воп. 83, спр. 207, л. 28, 1983, в. Ігнаткаўцы Лідскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 40в, сш. 65, л. 1, № 4, Пранчэўскі с/с Маладзечанскага р. Н. р.:

Ліхая свякроўка, ліхая,
Бо долі нашай не спагадае.

### 886. Ой, у бары, бары, пры борку

АН СССР, ф. 134, воп. 2, № 14, л. 29, № 126. Зап. В. К. Логін у 1913—1914 гг. у в. Моладава Навагрудскага п.
Вар.: воп. 1, спр. 83, сш. 3, л. 26, 1963, г. Мінск. Н. р.:

А ідуць кароўкі з дуброўкі,
Тады мая нявестка — з каморкі.
Як у полі свіння рыецца,
Тады мая нявестка мыецца;

спр. 53, л. 44, № 36, 1960, в. Пясочнае Капыльскага р. Н. р.:

Рабіў, рабіў ды лёг спаць,
Прыйшла яго мілая абуджаць:
— Устань, мой міленькі, не ляжы;

спр. 104, сш. 1, л. 29, 1966, в. Праходы Глыбоцкага р.; спр. 30, сш. 3, л. 48, 1949, в. Курын Акцябрскага р.; воп. 75, спр. 110, сш. 1, л. 13, № 7, 1975, в. Рэдкавічы Любанскага р. Н. р.:

Да ўжо пастушкі ў сенажаці, у сенажаці,
Спіць мая нявехна ў краваці, у краваці,
Да ўжо пастушкі на даліне, на даліне,
Спіць мая нявехна ў пярыне;

